*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ*
*ЧАСОПІС*



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *



**4**

**КРАСАВІК**

Мінск, 1973



Вокладка **М. Пракапенкі.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) і **В. Ждановіча** (стар. 115).



# ПАЭЗІЯ

- Пятрусь МАКАЛЬ
- Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
- Васіль ХОМЧАНКА
- Васіль ЗУЁНАК



- Уладзімір ДУБОВІК
- Яўген ГУЦАЛА
- Іван ЛАШУТКА
- Алесь НІКАЛАЙЧАНКА

# ПРОЗА





**пятрусь макаль**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Я з вёскі

Вуголлем у мае страляе сны
Касцёр вясны, што не паспеў ачахнуць.
Я выйшаў з вёскі, выйшаў з баразны,—
I ворывам мае далоні пахнуць.
Смыляць дасюль на пальцах мазалі,
Набраклыя цяжкой п'янлівай стомай,
Майму нашчадку сёння невядомай...
Паўстаў я жытам да святла з зямлі!
На вішнях цвет падвечар закіпаў,
Духмяны, нібы пена сырадою,
Калі я рукі ў баразне купаў,
Перш, як абмыць крынічнаю вадою.
Я, аратай, абуджаны вясной,
За плугам дыбаў цяжка і бясконца,
Нібы з канём у вупражы адной
Выцягваў з цемры воз зямны да сонца...
Я спасцігаў навуку вышыні,
У цёплай глебе грузнучы па пояс.
Працягваю і ў сённяшнія дні
Жыцця майго жытнёвую аповесць.
Стаяць нябёсы на маім плячы.
Калі б, зямля, ты не дала мне хлеба,
Ці змог бы дацягнуцца я да неба,
Аб зорны келіх губы апячы?

■

Да раніцы з дум упарта
Белую пражу высноўваю,
Узяты пад зорную варту
Бяссоніцаю вясновaю...
Чую —
Шукаючы выйсця,
Бунтуе прыглушана лісце,
Палоненае ў пупышцы,
Упіраецца ножкамі ў донца,
Каб у зялёнай успышцы
Вытыркнуцца на сонца.
Чую
    хор безыменны
Тых, што з вайны не прыйшлі,
Помніка крык каменны
Вырас да неба з зямлі.
Камусьці спакойна спіцца
За гарызонтам крыку.
. . . . . . . . . . . . .
Спрабую ў трамвай прабіцца,
Быццам патрон у скрынку.
Загнанае, трапяткое,
Выскоквае сэрца з грудзей...
Як расказаць пра тое
Для ўсіх людзей?

## Абедзенны перапынак

Службе сваёй кажу:
— Стой!
Пара за стол,
За абедзенны стол.
Час перапынку.
Гадзіна спачыну.
Нервы свае адключу ад турбот.
Заказваю ўсё, што належыць па чыну:
Боршч падагрэты,
Гуляш
I кампот...
Чакаю, пакуль апетыт не загіне,
Афіцыянтку, нібы багіню.
Чакаю, пакуль...
Посвістам куль
Далеч раптоўна мяне абдала.
Выбух і грукат.
Спачын укралі.
У пяці кроках ад стала
Падае бомба —
На тэлеэкране...
Рупліўцы бяссонныя і непаседы,
З сябрамі далёкімі нездарма
Мы дзелім беды і дзелім абеды.
Сценаў няма.
Сховішч няма.

■

Ракеты і аўтамабілі
У нас адлегласць узялі,
А мы, здаецца, разлюбілі
Хадзіць нагамі па зямлі.
А мы забылі, як у полі,
Калі ступаеш басанож,
Ласкава дражніцца і коле
Травінка вострая, як нож.
Усё, што робіць незалежным,
Усё, чым дыхаем усе,
Сваім намеснікам жалезным
Перадаём мы пакрысе.

Яны за нас глядзяць і ходзяць
Па роўнядзі бетонных трас,
За нас шукаюць і знаходзяць
І нават думаюць за нас.
Ах, як нам быць з заўчасным раем?
Душа чарсцвее, як калач,
І чуецца за небакраем
Жалезны смех, жалезны плач.
У непазбыўнай паняверцы,
Стаіўшы подых, ловіць час,
Як перасаджаныя сэрцы
Стукочуць у грудзях у нас.
І ў нейкім утрапенні сінім
Жалезны сум нутро скрабе:
А што мы ўрэшце-рэшт пакінем
Самім сабе,
Самім сабе?

## Куля і чалавек

Абапал палі трымцелі,
Вецер па твары сек.
Навыперадкі ляцелі —
Куля і чалавек.

Ён уцякаў з палону,
Ён уцякаў з вайны.
Свабодны напалову,
Скокнуў з глухой сцяны.

Цягнулася міг кароткі
Шалёная крутаверць.
Першынства кулі ўсё-ткі
Засведчыла ў фінішы смерць.

Жалобна маўчыць узвышша,
Дзе ён упаў навек.
Хто ж пераможцам выйшаў —
Куля ці чалавек?

Сёння маячаць кроквы
Там, дзе гулі баі.
...Яго апошнія крокі
Крокамі волі былі.

■

Ураджай, ураджай —
Ходзіць ніва пад ветрам ходырам.
— Пры-яз-джай!..
Так і цягне п'янлівым водарам.
І расступяцца ўраз жыты
Перад тымі, каго паклічуць.
Тут губляемся
Я і ты,
Губы нам каласы казычуць.
Хваляй шум набягае здаля...
А ці знаеш, якім насеннем
Засявалася гэта зямля
Днём вясеннім і днём асеннім?
Не іду, а кудысьці плыву,
Анямеў — пераймае голас.



Трапяткою рукой сарву
І скамячу даспелы колас.
На далоні — зярнят янтар...
Але ведама толькі полю,
Колькі тут на кожны гектар
І крыві, і стогну, і болю.
Неспакойная мітусня
Каласоў, што схавалі сцежку...
Дзе вы, сейбіты?
Ці-
шы-
ня.
Дот размыты маўчыць на ўзмежку.

■

Я думаў, ты — мая турбота
Лятучая, як ранкам дым.
А ты — высокая работа,
Маёй душы пакутны ўздым.
Я думаў, ты — глыток паветра,
Гаючае святло расы.
А ты — гарачы подых ветру,
Якому рухаць парусы.
Я ўпотай думаў, ты — ў прыполе
Адданы мне румяны хлеб.
А ты — няўзоранае поле,
Ты — некрануты плугам стэп.
Я думаў, ты — цяпло кватэры,
Дзе нас люляе цішыня.
А ты — зачыненыя дзверы,
Якія адмыкаць штодня.
Ты — нібы скарб, любоў мая,
За сургучом сямі пячатак...
Ах, як наіўна думаў я,
Што ты — вянец. А ты — пачатак.

■

То шоўкам касынак касых,
То бляхай плашчоў лапочаце.
Вецер — адзін для ўсіх,
Хочаце вы ці не хочаце!

Зялёныя астраўкі,
Чаромхавая каранацыя...
Лагодна рука да рукі
Так незнарок дакранаецца...

І не ўмяшчаюць сады
Спозненых пастаяльцаў.
Спеляцца вішняў плады
У завязі цёплых пальцаў.

Хоць ноч па зямлі ідзе,
Ад квецені светла да раніцы.
Не могуць схавацца нідзе
Абраннікі і абранніцы...

Іх, як сябе саміх,
Спаткаеце вы і збочыце.

Вецер — адзін для ўсіх,
Хочаце вы ці не хочаце.

Шчоўкаю ў лад салаўю:
Песняю сэрца заселена...
Сонца прыгоршчамі п'ю!
Ветрана. Молада. Зелена.

## Хлопец з усмешкай

Усмешкаю белазубай
Твар азараўся плыткі,
Быццам ягоныя губы
Торгаў нехта за ніткі.
І да сустрэчы любое
Усмешку сваю, вядома,
Браў ён заўжды з сабою,
Не пакідаў дома.
Калі ў галаву кастэтам
Білі яго сябра,
Гвалтоўнікам адпетым
Ён так усміхаўся храбра!
Той самай усмешкай, дарэчы,
Прыклеенаю старанна,
Ён пры наступнай сустрэчы
Гаіў пакутніку рану...
Усмешка рабіла цуды,
Здзяйсняла яго намеры,
Яна, як пропуск, усюды
Яму адкрывала дзверы.
Ды па-зладзейску аднойчы
Украла бяда-пачвара
Усмешку, якую ўночы
Хлопец здымаў з твару.
Счарнелы, падобны на сажу
(Іскры ў вачах кішэлі),
Ён доўга шукаў прапажу,
Парожнія трос кішэні.
І трэсла яго ліхаманка:
З чым жа ён заўтра ўранку
Выйдзе ізноўку ў людзі?
Што з ім цяпер будзе?



**галіна каржанеўская**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Прывал

Салдатам пасля маршу,
                на прывале,
Нібыта ў дні ваенныя, ў сяле
Жанкі з усмешкай ветлай падавалі
І малако, і яблыкі, і хлеб.

Глядзелі спачувальна —
                і адразу
Святлелі твары хлопцаў баявых,
Хаця ад пылу і процівагазаў
Мурзатыя былі, як у дзятвы.

Старэнькая бабуля запрасіла:
«Заходзьце ў двор, памыйцеся, сынкі!»
Грузін сказаў з усмешкаю:
                «Спасибо!»
Як пісьмы, забялелі ручнікі.

Але яшчэ
    памыцца не паспелі,—
Як зноў загад — і рушылі яны...
Шчаслівыя ішлі, нібы з вяселля,
Салдаты,
    што не ведалі вайны.

■

Не паўтараецца вясна,
Цяпло збіраючы па кроплі.
Аблокі лютаўскага крою
Снуюць ад ночы
        да відна.

А ранне у прыжмур вачэй
Праменні жменямі кідае...
Не паўтараюся яшчэ
У пачуцці неразгаданым
Да той зямлі,
што ў цеплыні
Ляжыць разморана і млява;
Да сябра, што ў далечыні...
І пачуцця таго праявы
Мяне складаюць.
Я без іх
Ненатуральная, не тая.
А наваколле
зрок і слых
Вясной да краю напаўняе.

## Прадчуванне

Я ў прадчуванні навізны,
Такой пары, такой зары,
Калі кастрычнік дагарыць
У зыркім вогнішчы лясным.

Стаў асцярожным зранку
крок.
Я ў прадчуванні дня таго,
Калі здрыгнецца пад нагой
І хрусне жаласна лядок,

Калі за ноч табун вятроў
Паскорыць ярасны разбег
І восень выкажа сябе
Да рэшты
шэпатам лістоў.

## Крыўда

Страсалі яблыкі не ў час,
Таптaлі лісце незжаўцелае.
І яблыні старое цела
Прасіла літасці у нас.

А мы забыліся аб цудзе,
А мы не думалі тады,
Што зацвітуць вясной сады,
А яблыня... цвісці не будзе.









*васіль хомчанка*

# ТРЫ АПАВЯДАННІ

Мал. Л. Шукалюкава

## КЛІМ ІВАНАВІЧ

I

На старой елцы, недалёка ад партызанскага лагера, звіла гняздо пара чорных крумкачоў. Самка сядзела ў гняздзе дзень і ноч, не пакідаючы яго ні на хвіліну. Карміў яе самец, прыносячы разы са два нешта ў сваёй дзюбе.

Быў сакавік. Зляжалы снег аплываў, на санцапёках паявіліся праталіны, аблыселі пагоркі, валуны і пні паздымалі свае белыя шапкі-папахі. У лесе пад гурбамі снегу, калі прыгнуцца долу, чуваць быў малінавы звон ручаінак. Там-сям сцюдзёныя струменьчыкі выбіваліся з-пад гурбы, крынічна-чыстыя і сінія, як само веснавое неба.

Славік сядзеў на сасне, вярхом на тоўстым суку, абшчапіўшы абедзвюма рукамі ствол. Адтуль, з сасны, ён добра бачыў крумкачынае гняздо, складзенае з голля, якое тырчала ва ўсе бакі. Гняздо нагадвала вялізнага вожыка, у якога абы-як натапырыліся іголкі. Крумкачыха ў сваю чаргу глядзела на Славіка, спакойная, упэўненая ў сваёй непадступнасці. Пёры яе былі бліскуча-чорныя, з сінявaтым адлівам.

«Цікава, колькі там яек?» — падумаў Славік. Ён пагражальна пстрыкнуў у яе бок пальцамі, пацокаў языком, так як ляскае курок у нагане, а крумкачыха толькі міргнула вокам і крутанула галавой. «Наган жа ў кабуры носіш,— нібы папракнула яна,— а дзяцінішся».

Славік і сам зразумеў, што робіць глупства: сядзіць у гняздзе птушка — і няхай сядзіць, сагнаць яе — гэта тое ж самае, што выкінуць з хаты на мароз жанчыну з дзецьмі. Так толькі фашысты робяць...

Ён адвярнуўся ад гнязда і пачаў глядзець удалячынь. Там, адразу за лесам, блішчэла рэчка — снегавіца заліла лёд ад берага да берага. Далей было поле, як белая коўдра з чорнымі прапалінамі — агаленымі ад снегу месцамі. А яшчэ далей, за ляском — яго вёска. Была, да леташняй восені. Цяпер няма, спалена карнікамі. З сасны Славіку таго месца не відаць. І добра, што не відаць, цяжка глядзець на голыя коміны і чорныя груды галавешак.

Перапоўненая вадой рэчка хутка ўзарвецца, паплывуць крыгі, крышачы адна адну, паўстаючы, як коні, на дыбкі. Паводка захопіць увесь поплаў. А пасля, калі схлыне вада, застануцца на поплаве азярыны і лужыны, куды плынь наганяе рыбу. Аж да самага гарачага лета, пакуль сонца не высушыць большасць азярын, вясковая дзятва будзе лавіць у іх шчупакоў і акунёў: нератам, пасцілкамі, кашамі. Або ўзбоўтаюць, ускаламуцяць лужыну, і рыба, каб не задыхнуцца, сама ўсплывае наверх. Вось тады і хапай яе, паказвай спрыт. Так было кожную вясну, колькі помніць сябе Славік. А вось як будзе гэтай вясной і летам, ці дачакаецца ён таго лета, зялёнай травы, гарачага сонца?

Славік перанёс нагу на другі, ніжэйшы сук. На развітанне ён сказаў крумкачысе:

— Не бойся, я ж свой. Я залез не цябе пужаць, на вёску сваю зірнуць.

І пачаў спускацца долу.

Правальваючыся ў снезе, Славік вяртаўся ў лагер. Снежнае покрыва, усыпанае жоўтым шыпуллем і меднымі лускаўкамі ад кары сосен, усё ў стракатых плямах сонечнага святла і ценяў. Вакол кожнага дрэва — лункі-растайкі, з поўдня яны большыя. Славік прайшоў маленькую круглую паляну з бярозавай апаяскай вакол, улез у ельнік. Дробная птушка, з чырвонай, як ранка, плямкай на грудзях, моўчкі, не падаючы ніводнага гуку, пералётвала з дрэўца на дрэўца, нібы паказваючы дарогу.

Выбраўшыся на сцяжынку, Славік атрос боты ад снегу, ссунуў назад кабуру з наганам і спыніўся, думаючы, куды зараз падацца: у зямлянку або да школы. Побач са сцяжынкай блішчэла лужынка з чорным тарфяным дном. Ад парываў ветрыку вада бруілася і адбівала промні сонца рассеяна і іскрыста. Славік зірнуў у лужыну і ўбачыў сябе. Бледны твар скуласты, падбародак востры, каля рота, як у якога дарослага,— дзве маршчынкі-дужкі. З-пад аўчыннай шапкі-кучомкі вылезлі пасмы валасоў, такія ж белыя, як і воўна на шапцы. Сам сабе Славік не спадабаўся і не стаў больш глядзець у лужыну.

Яго паклікаў Клім Іванавіч. Прыхіліўшыся спіной да бярозы, без шапкі, расхрыстаны да голых грудзей, ён грэўся на сонейку. На Кліму Іванавічу не было ні аўтамата, ні новенькага зайздроснага ўсяму лагеру рэменя з латуневай спражкай-зоркай. Толькі вісела цераз пляччо планшэтка.

Славік хацеў быў падражніць яго, крыкнуць: «Клім — падгарэлы блін!», ды ў час устрымаўся. Хлопец цяпер быў не проста старэйшы дружбак, а трэці дзень як настаўнік. Выкладае ў лясной школе ўсе прадметы — ад арыфметыкі да ваеннай справы. З сённяшняга дня ён будзе яшчэ і важаты атрада.



Сказаць па праўдзе, дык Клім Іванавіч зусім не падобны на настаўніка. І па ўзросце — семнаццаць толькі яшчэ, і ніякай сур'ёзнасці: віхрасты, вяртлявы, і часта, калі з табой размаўляе, смешна падміргвае. І яшчэ ў яго над левым вухам у рыжаватых валасах цёмная пляма-кружок, цямнейшая, чым уся галава. Кажа, што ўрадзіўся з такой меткай. За гэты лапік дзятва называла хлопца «Клім — падгарэлы блін». Дагэтуль Клім разам з дзецьмі ганяў мяч, ляпіў са снегу бабу, гуляў у хованкі — вадзіў, як і ўсе, спрачаўся на ўсё горла, калі хто гуляў не так, не па правілах. Праўда, ён быў разумны — ну што ні спытай, ведаў. Пісьменны чалавек, у тэхнікуме вучыўся...

— А чаму планшэт з сабой носіш... носіце? — хітра спытаўся Славік. Ён ведаў, што ў планшэце класны журнал.

— А дзе ж мне яго трымаць?

— У зямлянцы.

— Не-е! — Клім Іванавіч паківаў пальцам, забінтаваным зялёным шматком анучкі.— Каб усе свае двойкі павыцерлі?

Славік засмяяўся, маршчынкі каля рота зламаліся напалам.

— Куды хадзіў? — пацікавіўся Клім Іванавіч.

— Гняздо глядзеў.

— Крумкачынае? Я таксама лазіў туды. Гордая птушка... Ану раскажы, што ты ведаеш пра крумкачоў? — спытаўся ён, ужо як на ўроках.

Славіку такое не вельмі падабалася — не ў школе, каб ламаць галаву, думаць. Ён стаяў нейкі час, гледзячы ў зямлю.

— Што губы надзьмуў? Не падабаецца?

— Я не надзьмуў, яны ў мяне такія.

— Ну дык што за птушкі крумкачы?

— А што пра іх ведаць? Дзе вайна, туды і яны злятаюцца.

Клім Іванавіч адступіў ад бярозы.

— Правільна,— сказаў ён у здзіўленні.— Раней іх ніколі не бачыў. А цяпер вунь колькі развялося.

І адразу ж без перадыху пераскочыў на іншае:

— Вось гэту бярозу бачыш? Чаму мохам з таго боку абрасла?

— Ведаю,— абрадаваўся Славік лёгкасці пытання.— Там, дзе мох,— поўнач.

— Перад сухім надвор'ем дым не ўгору ідзе, а сцелецца па зямлі. Правільна?

— Правільна,— няўпэўнена паціснуў плячыма Славік.

— А вось і не ўгадаў,— ляпнуў у далоні Клім Іванавіч.— Усё наадварот. Запомні.

І ўміг, нібы адключыўся ад усяго свету, заплюшчыў вочы, аціх, расслаблены пад цёплымі сонечнымі промнямі. Стаяў, не варухнуўшы ніводнай цяглінай на твары. На яго суконны пінжак з вышмуленымі на локцях рукавамі ссыпаліся, як дробненькія сняжынкі, берасцяныя лускаўкі. Славік рашыў, што Клім Іванавіч задрамаў, амаль на дыбачках пайшоў па сцежцы.

— На піянерскую лінейку не спазніся! — крыкнуў яму Клім Іванавіч.

## II

Школа-зямлянка выкапана ў самым цэнтры лагера, між дзвюх старых елак, якія шчыльна асланялі яе страху, паднятую над зямлёй толькі на якія паўметра. Снег на страсе растаў, сышоў вадой, і на дзірване зеленелі лісцікі мудранкі і кісліцы.

Уся дзятва сабралася каля зямлянкі. Славіка сустрэлі сцішанай гаманой, без крыку і смеху — адчувалася чаканне нечага важнага. Не будзеш жа блазнаваць, калі ўжо для цябе пашыты піянерскі гальштук, ёсць атрадны сцяг, горн, барабан. Выбрана і назва атрада, такая ж, як і партызанскага: «Смерць фашысцкім акупантам!» А важаты атрада — Клім Іванавіч.

Славік вынес з зямлянкі горн і барабан — звычайны бубен з бразготкамі. Барабан аддаў Веры, цыбатай дзяўчынцы ў зялёнай салдацкай ватоўцы. Да барабана, як і да сапраўднага піянерскага, быў падвязан раменьчык, і Вера надзела яго на шыю.

Піянерскую клятву павінны прыняць камісар партызанскага атрада і Клім Іванавіч. Вось іх і чакала дзятва. У лагеры было паранейшаму ціха і бязлюдна. Больш паловы атрада знаходзілася на заданні, астатнія пасля начной аперацыі спалі. Вера паціхеньку, для трэніроўкі, выбівала палачкамі на барабане марш: тра-та-та, тра-тата... Хлопчыкі глядзелі цяпер на Веру, зайздросцячы і яе пасадзе барабаншчыцы, і вайсковай ватоўцы з бліщчастымі гузікамі. Такія ватоўкі нядаўна прывезлі з Вялікай зямлі на самалёце — адна з іх, самая маленькая, і дасталася Веры.

— Схадзіць бы па камісара,— сказала Вера.— Мы ж гатовы.

Але тут нехта крыкнуў:

— Ідуць!

На дарозе паказаўся адзін Клім Іванавіч. Ён аддаліўся ад штабной зямлянкі метраў на дзесяць, а больш ніхто адтуль не выходзіў. І дзеці не ведалі, строіцца ім ці чакаць, калі падыдзе настаўнік. Усё ж Славік скамандаваў:

— Станавіся!

Строіцца ім прыходзілася кожны дзень, і таму ўсе ведалі свае месцы ў страі. Сталі хутка.

— Раўняйся! Смірна! Раўненне на-ле-ва! — крыкнуў Славік.

— Вольна! — яшчэ здалёк падаў каманду Клім Іванавіч.

Быў ён сабраны, як на заданне. Аўтамат на грудзях. Сумка з запасным дыскам, на поясе граната-лімонка, побач з планшэткай. Чорная смушковая кубанка ссунута на самы лоб. Клім Іванавіч моўчкі паходжваў каля строю і пальцам, забінтаваным зялёнай анучкай, цёр пераносіцу, каб не чмыхнуць — гэта вядомы ўсім партызанам прыём. Абвёўшы позіркам кожнага вучня ў страі, нахмурыўся — нешта яму не зусім спадабалася, а можа так, для самавітасці, спытаўся:

— Да прыёму ў піянеры гатовы?

— Гатовы! Даўно ўжо.

— Вось я і прыму вас. Камісара няма. Смірна! — і паднёс руку да кубанкі.

Славік ускінуў горн, і ўзнёсла-трывожнае: тру-ту-ту! — «Слухайце ўсе!» — абудзіла лагер, аддалося гулкім водгуллем. Сухі барабанны пошчак з металічным бразгатам узмацніў гучанне горна, надаў яму яшчэ большай трывогі і ўрачыстасці.

— Даём клятву,— ціха прамовіў Клім Іванавіч, і ўсе заўважылі, што ён хвалюецца.

— Даём,— сказаў Славік. У яго гэта само вырвалася, таксама ад хвалявання.

— Я — юны партызан атрада «Смерць фашысцкім акупантам!» — ускрыкнуў важаты,— уступаючы ў піянеры, урачыста клянуся!

— ...урачыста клянуся! — паўтарылі за ім строй і лясное рэха.

— Любіць сваю Радзіму!





— Любіць сваю Радзіму!
— Бязлітасна знішчаць фашысцкіх акупантаў!
— ...знішчаць фашысцкіх акупантаў!
— Смерць фашысцкім акупантам! — апошняе крыкнулі ў адзін голас і важаты, і піянеры.

Клім Іванавіч апусціў руку, скамандаваў: «Вольна!» — і дазволіў завязаць піянерскія гальштукі. Яны меліся ў кожнага, і палова дзяцей іх ужо завязала. Важаты памог завязаць гальштук толькі Ганначцы — самай маленькай дзяўчынцы. Потым прайшоў каля строю, падняў руку ў піянерскім салюце.

— Піянеры, помсціць ворагу за забітых бацькоў, спаленыя хаты, будзьце гатовы!

— Заўжды гатовы! — шаснаццаць рук прасалютавалі ў адказ.

— А цяпер марш на ўрок...

Строй павярнуўся направа, вучні пачалі заходзіць у школу-зямлянку. Там рассаджваліся на лаўках, цікаўна разглядаючы адзін аднаго. Гальштукі, падвязаныя зверху кажушкоў і світак, падчырвоньвалі твары дзяцей, нібы тыя сядзелі каля вогнішча. Клім Іванавіч зняў з шыі і паклаў на стол аўтамат, зняў і кубанку. Плюнуў на далонь, прыгладзіў ёю валасы. Зялёная павязка спаўзла з пальца. Настаўнік папрасіў Веру, і яна перавязала яму палец нанова.

— Коханаў,— паказаў ён гэтым пальцам на чарнявага хлопчыка,— ты адкуль?

— Я? З Жабык.

— Цяпер я ведаю, чаму ў Жабыках усе лысыя. Яны ж там ніколі шапак не здымаюць, як і ты. Нават у хаце.

Коханаў порстка схапіў з галавы кучомку, а ў зямлянцы зарагаталі. Мацней за усіх смяяўся сам настаўнік. Пасмяяўшыся, сказаў:

— Сёння будзе ўрок гісторыі. Зразумелі? Грунвальдская бітва.

— Арыфметыка, гісторыя,— заныла Вера,— а я хачу вучыцца з кулямёта страляць.

Сонечныя промні, якія ўліваліся ў зямлянку праз акенца, падалі на сцяну жоўтым квадратам. У цэнтры гэтага квадрата і сядзела Вера, уся як залатая: ззялі латунныя гузікі на яе зялёнай новенькай ватоўцы, палымнеў гальштук, залаціліся валасы і блішчэлі вочы сінім звонкім колерам.

— Бітва з нямецкімі псамі-рыцарамі...— Настаўнік, намагаючыся засяродзіць на сабе ўвагу, цярпліва чакаў, пакуль усе ўгамоняцца. Нарэшце ў зямлянцы стала так ціха, што, здавалася, было чуваць, як трымцяць сонечныя промні, пранізваючы шыбы. І вось у гэтую ціхую паўзу ўварваўся бразгат нечага металічнага — відаць, упаў казанец і каціўся па зямлі. Адразу ж за ім пачулі паспешлівы тупат ног.

— Нямецкія псы-рыцары ішлі вайною на нашы землі,— прадоўжыў Клім Іванавіч, прыслухоўваючыся да тупату, які набліжаўся да зямлянкі.— І вось пяцьсот трыццаць тры гады назад сабраліся рускія, палякі, беларусы, літоўцы, і адбылася бітва з псамі...

Нехта ўжо бег за сцяной. Яго ногі мільганулі ў акне, кінуўшы на момант цень у зямлянку. Дзверы расчыніліся рыўком, і з парога ступіў веставы камандзір атрада Ваня Голік.

— Клім! — паклікаў ён.— Бягом у штаб.— І шмыгнуў назад, не зачыніўшы дзвярэй.

Настаўнік схапіў са стала аўтамат, пляснуў на галаву кубанку, сказаў:

— Урок прадоўжым пасля. А цяпер займіцеся самі арыфметыкай. За мяне застанецца... Вера.— І выскачыў з зямлянкі.



Ніхто нічога не сказаў, сядзелі і маўчалі, слухалі, як стукаюць боты Голіка ўперадзе і Кліма Іванавіча — ззаду, і ва ўсіх чамусьці трывожна шчымела сэрца. Вера выйшла з сонечнага квадрата, нібы з рамкі, стала каля стала. Але ўвага яе, як і ўсіх, была скіравана туды, куды так паспешліва паклікалі іх важатага. Яна стаяла і не ведала, што рабіць, застаўшыся за настаўніка.

— На заданне выклікалі,— азваўся Славік. Ён першы і падняўся з лаўкі. Гальштук запіхаў пад каўнер кажушка, кабуру з наганам перасунуў з боку на жывот. Тое ж самае зрабіў і Коханаў Хведзя і астатнія, хто меў рэвальверы. Гэтымі жэстамі яны як бы падкрэслівалі сваю гатоўнасць бараніць сябе, быць разам у цесным гурце, якая б бяда на іх ні зрынулася.

А бяду гэту лясныя салдаты чакалі заўсёды. Яна не абмінала іх нікога. То бацьку заб'юць, брата... Праўда, большасць дзяцей прыйшла сюды, ужо пахаваўшы радню. На белым свеце нікога не засталося з родных у Славіка, Веры, Хведзі Коханава...

Выйшлі з зямлянкі і пайшлі да штаба. Там тупаў вартавы лагера, паранены ў шыю партызан — яна была тоўста абматана бінтамі.

— Ну, што вам не сядзіцца? — папракнуў ён.— Усе на чыгунку пайшлі. Вернуцца хутка.— Патупаў вакол шырокай лужыны, што нацякла са страхі штабной зямлянкі.— І важаты вернецца, ваш Клім Іванавіч.

— Дзядзька, а што там, на чыгунцы? — спыталася Ганначка. Падняты тырчком каўнерык яе белага кажушка закрываў усю шыю і палову тварыка.

— А я адкуль ведаю? Аперацыя. Можа, і бой з карнікамі.— Вартавы не мог варухнуць шыяй і паварочваўся, як воўк, усім целам.

Вера падставіла далоні да вушэй, пачала прыслухоўвацца.

— Адсюль стрэлы не пачуеш, далёка,— сказаў вартавы.— Вось толькі калі выбух.

Адыходзіць далёка ад лагера ён забараніў, пасылаў назад у школу, але ж не настойваў, яму самому было ўтульней з дзецьмі. Ён таксама, як бы ўпотай, прыслухоўваўся да лясной цішыні, спадзеючыся пачуць нешта такое, што магло б усцешыць і яго, і дзяцей.

Дзеці так і сталі каля вартавога. Выбілі абцасамі ў снезе равочак, спусцілі лужынку ў нізіну. Вада забулькала, водблеск пранізанага сонцам струменя затрымцеў на камлі сасны. Гэты гуртавы занятак на нейкі час прытупіў вастрыню іх трывогі, расслабіў напружанне, з якім яны дагэтуль слухалі цішыню. Славік калупаў з сасны смалу і скочваў яе ў шарыкі. Хведзя Коханаў выразаў складанчыкам, не да жывога, на той жа сасне зоркі. Астатнія, згурціўшыся на цесным пятачку вакол, сачылі за імі ўважліва, нібы тое, што рабілі Славік і Хведзя, было цяпер самым важным.

— Не чуваць нічога,— з палёгкай прамовіла Вера, і сінія вочы яе павузелі ва ўсмешцы.

— Не чуваць. Ціха,— весела падхапіў вартавы.— Можа, і бою ніякага не будзе.

Ганначка заўсміхалася, адгарнула ад шыі каўнерык. Яе бацька быў там, на чыгунцы.

Гэтая іскра надзеі на ціхае вяртанне атрада адразу ажывіла дзяцей, адкінула прэч тую зацятую трывогу, якой яны поўніліся, раскавала іх.

— Вернецца Клім Іванавіч, будзе ўрок гісторыі,— напомніла на правах старэйшай Вера.

Славік сказаў:

— Я чуў пра бітву з псамі-рыцарамі. Але вам не раскажу. Клім Іванавіч раскажа, бо нецікава будзе слухаць.

— Я і без цябе ведаю,— перапыніў яго Хведзя.— Нашы тых рыцараў-фашыстаў усіх знішчылі.— І ён засмяяўся, паказваючы рэдкія, вострыя, як у вавёркі, зубы.— Немцы былі такія рагатыя. На касках два рагі, а на грудзях крыжы.

— Як на іх самалётах і танках,— сказала Вера.

— Правільна,— пацвердзіў Славік.

Ён заўважыў у небе крумкача. Ляцеў той над самым лагерам, не прама, а кружыў, як самалёт, якому трэба нешта разведаць. Палёт яго ўпэўнены, палёт птушкі, якая ўладарыць у той вышыні і якой нічога не трэба баяцца. Крумкач махаў крыламі, як чорнымі сцяжкамі, то лёгка, часта, то быццам яны раптам цяжэлі — узмахі рабіліся нейкія нязграбныя, марудныя, лянівыя. Абляцеўшы над лагерам два кругі, крумкач, як паранены, рынуўся ўніз і знік за дрэвамі.

## III

Рэха далёкага выбуху громам пракацілася па лесе. Ад яго, здавалася, уздрыгнулі хвоі, варухнуліся сваімі вяршалінамі, асыпаўшы на снег залатыя лускаўкі. Пракацілася рэха, згасла, растала ў цішы.... І ніводнага больш гуку не даляцела ў лагер.

— Мост, значыць, рванулі,— сказаў вартавы.— Удалося, значыць.— Ён паклаў руку на галаву Ганначкі, якая ўсхліпвала, уткнуўшыся галавой у грудзі Веры.— Не плач, вырасцеш вялікай. Ды і ўсе вы вырасцеце.

— Вырасцем! — не ўзлюбіў гэта падлашчванне Славік.— А ты сам вырасцеш?

— Я? — вартавы сумеўся.— Я ўжо вырас, а ўвесь свой век толькі рыба расце.

Ён адзін з усіх зразумеў нейкае мармытанне, што раптам парушыла лясную цішыню, усміхнуўся, павярнуўся ў той бок, адкуль чулася гэта мармытанне.

— Чуеце? Глушэц!.. У вас тут глушцоў мала. А ў нас, у Сібіры — ого колькі! Вось табе я раскажу адзін выпадак,— паказаў ён на Славіка, які сцяў да белі свае пульхныя губы — маршчынкі вакол рота прарэзаліся яшчэ глыбей.— Застрэліў я глушца ў тайзе, растрыбушыў, а ў ім залаты самародак. Вось такі, як пазногаць.

Ён яшчэ гаварыў пра сваю Сібір, тайгу, паляванне на пясцоў, мядзведзяў, як начаваў у снезе... Гаварыў без перапынку, каб толькі слухалі і не глядзелі туды, на захад, адкуль данёсся гул выбуху.

— А вунь дзяцел на бярозе,— ускрыкнуў з радасцю малога вартавы.— Бярозавік п'е. Во, зірніце! Прадзёўб дзірачку і цэдзіць, цэдзіць. Сёлета бярозавік дружна цячэ. Значыць, лета будзе з дажджом. А калі дождж, тады і ўраджай...

Сапраўды, на тоўстым бярозавым суку, упёршыся ў яго хвастом, сядзеў стракаты дзяцел. Галава птушкі то прыгіналася да дрэва, то закідвалася назад, як бы птушка паласкала горла.

Прайшло яшчэ паўгадзіны, гадзіна, калі пачулі галасы і здалёк, у лясным прагале, убачылі партызанаў. Яны ішлі, як заўсёды, калі вярталіся ў лагер, ланцужком па адным, як дазваляла сцяжынка, пратаптаная за зіму.

Дзеці прабеглі крыху ўперад, насустрач партызанам, спыніліся, пастаўшы ўздоўж сцежкі шарэнгай. Партызаны брылі павольна, апусціўшы галовы, стомлена валаклі ногі. Набліжаліся доўга, і калі падышлі, Ганначка першая рванулася насустрач ім, закрычала: «Татачка!» Той першы і падхапіў яе на рукі і панёс, горнучы да грудзей. А астатнія пятнаццаць стаялі ў шарэнзе, цягнучы шыі, узіраліся туды, у хвост гэтай доўгай, бясконцай калоны, у лясны прагал, адкуль, нібы з вечнасці, выходзілі і выходзілі партызаны.

Насілкі ўбачылі здалёк. Двое неслі трэцяга. Пад цяжарам гэтага трэцяга яны ссутуліліся і ледзь перастаўлялі ногі. Калі падышлі бліжэй, то дзеці ўбачылі, што той, каго неслі, укрыты з тварам плашчом, толькі рука, вытыркнутая з-пад покрыва, гайдалася ў такт крокаў. А на той руцэ палец абвязаны зялёнай анучкай... Насілкі плылі міма і міма шарэнгі, вось яны ўжо даплылі да самага правага канца яе, і тады Славік сарваў з галавы шапку. За ім і астатнія, нават Вера. Яна, як ад страху, падняла рукі, пыталася шэптам: «Гэта ён? Ён?» Ёй не адказвалі.

— Клім! Клім! — пачаў клікаць Славік. Ён пайшоў побач з насілкамі. Збеглася да яго і ўся дзятва. Ішлі, тоўпячыся з двух бакоў, правальваючыся па пояс у снег. Ішла група злева і група справа, быццам то былі распластаныя крылы таго, каго неслі...

Пад самы вечар, калі зноў сабраліся ў школьнай зямлянцы і чакалі камісара, Славік рашуча ступіў да настаўніцкага століка і сказаў:

— Прадоўжым урок. Той, які пачаў сёння Клім Іванавіч. Бітва з псамі-рыцарамі. Я ведаю пра яе...

# НЕЗНАЁМАЯ ПЕСНЯ

Было свята, якое супала з нядзеляй, і барак прачынаўся позна, усе стараліся адаспацца за ўвесь тыдзень. Нават не было чуваць дзіцячага піску — школьнікі і дашкольнікі спалі без задніх ног. Такія ціхія ранкі ў бараку бываюць у свята, не ў суботу ці ў нядзелю, а толькі ў свята.

Іван Панасюк прачнуўся рана — разбудзіў будзільнік. Жонка ўвечары, забыўшыся, што заўтра нядзеля, завяла гадзіннік, вось роўна ў сем ён і ўзарваўся звонкім трэскам, нібы дыркнулі з аўтамата па шкляной вітрыне.

З сямі і аж да дзевяці ляжаў Панасюк з расплюшчанымі вачыма. Заснуць не стараўся, ведаў, што гэта марныя намаганні. Варочаўся, глядзеў на суседні дзевяціпавярховы дом, у вокнах якога трымцеў водблеск сонца, радаваўся, што дзень будзе сонечны, з марозікам. У агародчыку на сліве шмыгала сініца, ценькала, шукала нешта перахапіць, і Панасюк падумаў, што трэба павесіць для птушкі скібачку сала, памагчы гэтаму жывому камячку. Сініца скокнула на раму, лёгка стукнуўшы сухімі ножкамі, крутнула туды-сюды галоўкай. Убачыла Панасюка, плюснула вокам, нібы падміргнула, павіталася. «Здароў, здароў»,— сказаў ёй Панасюк. Сініца паляцела.

Варка, Іванава жонка, мажная, як капа, спала на другім ложку. Спаць яна любіць, дзе толькі можна галаву прытуліць — і засне. У тралейбусе на адну астаноўку і то паспее задрамаць.

Ціха было за сцяной і ў суседа Суботкі. Учора вечарам ён доўга не мог угаманіцца, ганяўся, ахламон, за сваёй жонкай, крычаў, лаяўся. А калі жонка недзе схавалася, колькі часу горла драў у

сваім пакоі, аж брыдка ўспомніць. Праўда, каб людская сцяна, дык не чуваць было б. А то ж так, дзве кардонкі — тыцні кулаком, і суседу кукіш пакажаш.

Гэты Субботка не раз рабіў такія спектаклі. Нап'ецца і давай ганяць дзяцей і жонку. Разгоніць, а тады разгульвае па калідоры, пяе. Дурань... «Трэба неяк сабрацца і ўсёй грамадой з ім пагаварыць»,— падумаў Панасюк.

У дзесятай гадзіне Панасюк падняўся з ложка, надзеў на нагу пратэз, пачаў тупаць па пакоі: то галіўся электрычнай брытвай, то мыўся халоднай, як з палонкі, вадой. А потым дастаў з карабка свае чатыры медалі і ордэн Айчыннай вайны другой ступені, доўга, старанна, каб выйшла роўненька, прышпільваў іх да пінжака.

Варка павярнулася, ложак зарыпеў спружынамі, дзынкнуў усімі сваімі нікеляванымі шарыкамі.

— Уставай,— сказаў Іван,— днём выспішся.

Сам ён быў гатовы ў дарогу. Паголены, у чыстай белай кашулі, новым выхадным гарнітуры, пры ўсіх узнагародах. Медалі звінелі, і звон іх радаваў, прыемна аддаваўся ў душы казытлівым шчымленнем. Цяпер ужо не зніме пінжак аж да ночы, так і будзе званіць медалямі і касіць вочы на іх, як даўным-даўно, у маладосці, калі іх толькі што атрымаў. Гэтыя ўзнагароды былі для Панасюка нешта большае, чым адзнакі яго храбрасці ў баях. Яны — памяць, зарубкі ў жыцці, мосцікі, якія злучаюць Панасюка з маладосцю, з той шчаслівай цяжкай парой, калі ён яшчэ бегаў на дзвюх нястомных нагах.

Ён стаяў перад люстэркам і аглядваў сябе. Кашчаваты, рыжаваты, з апушчанымі плячыма. Але мужчына яшчэ ў сіле. Далоняй правёў па медалях, прыемна адчуўшы халодны дотык металу, пальцамі памацаў пад падкладкай складзеную ў чатыры столкі, прыхаваную ад Варкі пяцёрку, пахрабусцеў ёю.

А Варка ўсё спала. Ён рашуча прытупаў да яе ложка, тузануў за плячо.

— Ты ўстанеш нарэшце?

Варка расплюшчыла павекі, шчасна ўсміхнулася.

— Ванечка! Прачнуўся,— сказала яна, прыўзняўшы сваю галаву. («І чаго яна пасівела? — падумаў у гэты момант Іван.— На вайне ж не была»).— А я, Ванечка, такі сон бачыла. Ох, што за сон! Нібыта я ляжу ў траве, там, на нашай Бесядзі... Птушкі пяюць, конікі скачуць. А ты падышоў да мяне, маладзенькі такі, з хлудзінай і крычыш: «Дай траяк, а то як сцёбну!»

— Ну і не дала ж, канечна? — зацікавіўся Панасюк.

— Не дала, Ванечка, не дала.

— Жмоціха,— шчыра выказаў сваю крыўду Панасюк.— У цябе вырваць траяк... Ну вось што, снедаць давай.

Варка ссунулася з ложка, стала босая на падлогу, соладка пазяхнула і пачала адзяваць халат, усё не трапляючы рукой у рукаў. Нарэшце апранулася і паплыла да дзвярэй, ляпаючы заднікамі тапак і на хаду зашпільваючы гузікі.

— Варка, і чаму ты ў мяне такая бомба? — крутнуў галавой Іван.

— А ці ж я вінаватая? — спынілася яна на парозе.— Адны харчы ядзім. Гэта цябе корміш, корміш...

Жонка выйшла ў калідор гатаваць снядана, а Іван зноў падступіўся да люстэрка. І сапраўды, чаму ён такі худы? Не курыць, п'е не так часта, у санаторыях бывае і не цяжэе. Праўда, і не худзее. Як жалеза — ні ўсушкі, ні прыбаўкі.



Барак ажыў, напоўніўся крыкам, гоманам, тупатам, зарыпеў маснічынамі, загрукаў дзвярыма. У Суботкі пачалася сварка, папала малому, і той плакаў у калідоры, захліпаючыся. Жанкі перагукваліся адна з адною, як сарокі.

Выйшаў у калідор і Панасюк, прастукаў пратэзам з аднаго канца ў другі, павітаўся з суседкамі, паспагадаў малому Суботку, які ўсё яшчэ ўсхліпваў. І ўвесь час касіў вочы на свае медалі і ордэн, якія ў святле калідорных лямпаў не проста блішчэлі, а ззялі. Каля дзвярэй кухні ён ледзь не сутыкнуўся з суседкай Валяй. Паставіўшы на газніцу патэльню, яна пляснула ў далоні:

— Іван Васільевіч, са святам вас! З Днём артылерыі!

— Дзякуй, дачушка, і цябе таксама.

— А медалі якія бліскучыя!

— Я іх трохі надраіў.

— Іван Васільевіч,— Валя смыкнула сябе за кончык вуха,— палагаецца. Вып'ем?

— Абавязкова, Валюша! З франтавікамі вып'ю. Сябар у мяне ёсць, Мікола Краўчанка.

Панасюк пачаставаў бы Валю, выпіў бы з ёю, дык яна зусім не піла праз свае хваробы, якіх у яе сабралася не дай бог каму. Ды і з замужжам ёй не пашэнціла. З мужам яны не ўжыліся, і цяпер засталася адна з дачушкай Людай.

Малады Суботка перастаў раўсці і цяпер вучыў з Людай песню: «Сяджу я за рашоткай, гляджу на параход...» Панасюк не вытрымаў, тузануў за руку Суботкавага нашчадка:

— Ану сціхні, мала цябе бацька лупіць. Хочаш, каб і я адлупцаваў?

— Ты не маеш права,— адказаў той з поўным разуменнем сваёй ад яго незалежнасці.— Толькі бацьку роднаму біць можна.

Выйшаў і сам Суботка, кінуў усяму калідору «прывецік» і хоць бы вочы ад сораму апусціў, быццам учора не ён бегаў за жонкай і дзецьмі, спаць бараку не даваў. Зыркаў на ўсіх нахабна, стараўся жартаваць. Валасы прылізаў на два бакі, з праборам, недарослы, дробны, з вялікай, як у апалоніка, галавой. Бог ні сілы, ні розуму не даў, а глядзі ж ты, буйны.

— Івану Васільевічу маё з кістачкай,— падклыпаў ён да Панасюка, падаючы яму сваю худую руку. Ён заўважыў узнагароды, здагадаўся, дзеля чаго Панасюк надзеў іх.— Са святам цябе, гвардыі яфрэйтар запасу. Смірна! — тупнуў ён нагою.

Больш ніякіх каманд ён, канечне, не ведаў, таму, як ні моршчыў лоб, нічога не ўспомніў.

— Гэта самае... Я хоць і белы білет маю, але ж і маё свята. Мужчынскае. Адзначыць трэба.

— Адзначым,— нехаця сказаў Іван.— А ты сваё ўчора адсвяткаваў,— Панасюк не мог дараваць яму ўчарашнюю калатню.

— З паленам бегаючы за жонкай,— засмяялася Валя, і чорная грыўка яе затрэслася.

Панасюк, каб як адчапіцца ад Суботкі, зайшоў у пакой.

Варка нарэшце разагрэла ўчарашні рыс, падсмажыла сардэлек і прынесла шыпучую патэльню ў пакой. Панасюк сеў за стол, але пачынаць есці не спяшаўся, уважліва, засяроджана глядзеў у талерку, дзынкаў відэльцам па сіняй яе аблямоўцы.

— Чаму не ясі? — выціснула з сябе Варка.

— А ты не ведаеш, чаму?

Варка толькі цікаўна зірнула, позіркам як бы спыталася.

— І спытацца не хочаш?

— Ну чаму ж? — нарэшце асіліла сябе Варка.

— Лыжка сухая, рот дзярэ. Ці ж не ведаеш, свята сягоння,— ціхенька стукаў ён па талерцы.— А ў цябе ж учора палучка была.

Варка моўчкі заскрэбла відэльцам па патэльні з такім выглядам, нібы ў пакоі, акрамя яе, нікога больш і не было. «Ну і маўчы,— злосна зыркнуў на яе Іван.— Маўчы, каб ты яшчэ на пуд патаўсцела. Маўчы...» Але асабліва Іван не ўзрываўся — пругкі квадрацік пяцёркі ў кішэньцы супакойваў. Няхай маўчыць...

Варка загаварыла зусім пра іншае. Пра кватэру, тое балючае, што — як рана, калі на яе солі насыпаць. Ужо гады са два ходзіць Панасюк у райсавет, просіць асобную кватэру з выгодамі, каб з ваннай ды газам была. Спачатку абяцалі барак знесці, і вось-вось чакалі высялення. Потым сказалі, што не будуць зносіць, сцены капітальныя — пераплануююць, другі паверх надбудуюць. І пасля гэтага ўжо ўзялі на чаргу. Чарга спецыяльная — інвалідаў вайны. Пасоўваецца хутчэй, чым звычайная.

— Ну дык што з кватэрай? — спыталася яшчэ раз Варка.

— Што, што... Чаго прыцягнула мяне сюды з Касцюковіч? Скажаш, кватэра ў нас там была дрэнная?

— Дачка ж тут наша. Хто б яе дзяцей даглядаў, каб не я?

— Ну і даглядай.

— Я даглядаю, а ты вось... Іншыя вунь умеюць без чаргі палучаць.

— А ты ўмееш? Ну дык ідзі і палучы.

— І пайшла б, каб у мяне нагі, як у цябе, не было.

Гаварыць яму з жонкай зусім не хацелася. Адна нудота з ёю гаварыць. Нібыта ў яго самога душа не баліць за кватэру. Ён не даеў сардэльку, кінуў на стол відэлец і падышоў да вешалкі. Варка яго не чапала, баялася, што раззлуе. Апрануў паліто, надзеў шапку-папаху са штучнага каракулю і выйшаў з пакоя, не зашпіліўшы крыссе.

Суботка, відаць, чакаў Панасюка, бо выскачыў са свайго пакоя проста з-за стала, як толькі пачуў стук Іванавых дзвярэй. Усё ў той жа майцы, з вялікімі, да самага пояса выразамі для рук.

— Ваня, у мяне рубель ёсць.

— Я да франтавіка іду.— Панасюк, хаваючы вочы, абмінуў суседа і шпарчэй, чым трэба, пайшоў па калідоры.

Горад жыў звычайным дзённым жыццём. Людская мітусня, шум аўтамабіляў, хрыплы гук транзістараў у руках даўгавалосых дзецюкоў... Нядзеля, дзень вольны, а людзі некуды спяшаюцца, бягуць, нецярпліва тоўпяцца ў чэргах каля кіёскаў і латкоў, уціскаюцца ў дзверы магазінаў...

Зіма сёлета легла дужа рана, прымарозіла, насыпала снегу, горад ад яго белы. Дворнікі і машыны чысцяць ад снегу маставыя і ходнікі. А дзецям і лыжнікам снег — радасць. На горках іх поўна. Лыжнікі стаяць і на прыпынку тралейбуса, спрачаюцца з вадзіцелем, які не пускае іх з лыжамі ў вагон. Хлопец, уціскаючыся ў перапоўнены тралейбус, крычыць: «Эй, пасуньцеся на чатыры капейкі!» Едуць грузавікі з салдатамі ў кузаве — іх вязуць на экскурсіі, да шэфаў у клубы...



Панасюк ішоў па тратуары павольна, стукаў сваёй пратэзнай нагой, спакойна радаваўся сонцу, якое блішчэла на вокнах дамоў, аўтамабілях, акулярах людзей, надраеных да золата спражках у салдатаў і на яго, Панасюка, медалях, калі ад хады адхіналася расшпіленае на два верхнія гузікі крыссе паліто.

«Эх Мікола, Мікола!» — шчасліва ўсміхнуўся ён, успомніўшы пра сябра.— Колькі гаворкі зараз будзе, успамінаў. І слёзы будуць, і рогат, і чарка...» У прадчуванні сустрэчы радасна-хвалююча шчымела ў грудзях.

Іван прайшоў пехатою ажно тры прыпынкі. Потым скіраваў у гастраном, стаў у чаргу. Выцягнуў з кішэнькі пяцёрку, кінуў яе на прылавак такім жэстам, як кідаюць у картачнай гульні самага вялікага козыра.

— Дзвесце доктарскай.

— Парэзаць? — не глянуўшы на Панасюка, спыталася прадаўшчыца.

— Не трэба.— Ён старанна засунуў пакунак у кішэню паліто.— Дзвесце сыру.

— Парэзаць?

— Не.

Схаваў і сыр.

— Паўлітра «расійскай». Рэзаць не трэба.

На гэты раз прадаўшчыца на яго зірнула, хацела нешта сказаць, ды паленавалася.

«Рыхтык Варка,— усміхнуўся Іван,— што з выгляду, што характар».

А потым ён доўга гойдаўся ў тралейбусе, трэсся ў аўтобусе і калі нарэшце дабраўся да вуліцы, дзе жыў Мікола Краўчанка, то нічога там не пазнаў. На месцы колішніх аднапавярховых дамоў, збудаваных адразу пасля вайны «саматугам», узвышаліся тры вялікія гмахі. Іх яшчэ не засялілі, але на днях шчаслівчыкі справяць улазіны — дамы былі гатовенькія.

Дом Краўчанкі стаяў, як пасля бамбёжкі: шыфер са страхі садраны, вокны пустыя, вырваны з вушакамі дзверы. Іван разгублена глядзеў на гэты шкілет, ён нібы трапіў назад у вайну, і пахла вайной: цагляным пылам, вапнай, гнілым і гарэлым дрэвам...

— Вось і сустрэліся,— сказаў ён.— І трэба ж такое...

Міма паламаных і абдзёртых ліп ён падышоў да дзвярнога праёму, зірнуў у сярэдзіну. Адарваныя рудыя масніцы былі складзены ў штабель і перавязаны дротам. Разабрана печ, кафлю і цэглу ўжо вывезлі. Нават адпілавалі лагі. «Відаць, дачнікі для дачы ўсё пахапалі»,— рашыў ён і быў упэўнены, што так і ёсць.

— З наваселлем цябе, Міколка!— уголас павіншаваў Панасюк сябра.— Толькі дзе шукаць цябе?

Ён паехаў на вакзал — там ёсць даведачнае бюро, заплаціў і назваў прозвішча Краўчанкі. Патупаў побач, пакуль жанчына некуды званіла, і неўзабаве атрымаў паперку. Прачытаў, ляпнуў сябе па баках.

— Гэта ж стары адрас, вы мне новы дайце.

— Толькі такі маем. Значыць, ваш сябра не выпісаўся.

Вось і ўсё. Цяпер ужо шукаць нечага. Сядзі і чакай, пакуль сам не адгукнецца. Настрой сапсаваўся. А тут яшчэ забрынчэла нейкая паганая струна ў душы, па-здрадніцку варухнуўся недавер да сябра: не зайшоў, не сказаў, пераехаў і маўчыць. Нос задзёр?..

Адчуў, як золка стала спіне, як сшэрхнулі ад холаду пальцы на жывой назе. Пацепнуў плячыма, пастукаў па баках локцямі.

Панасюк зайшоў на вакзал, выбраў месца ў зале для вайскоўцаў. Людзей было не дужа багата, у большасці салдаты. Іван прысеў на лаўцы каля маладзенькага авіятара, з доўгімі дзявочымі вейкамі. Салдат быў чысценькі, акуратненькі, шынель без адзінай складачкі, фуражка новенькая, з блакітным аколышкам. Аблёгшыся на вялікі модны партфель, салдат чытаў кніжку. Час ад часу ён адрываўся ад кніжкі, пульхныя губы яго варушыліся, шэптам паўтаралі прачытанае.

«Статут зубрыць»,— падумаў Панасюк і спытаўся:

— Напамяць завучваеш?

— Вершы,— паказаў салдат на вокладку з партрэтам паэта.

— Цікавыя?

— Як каторыя. Лірыка за душу хапае. А большасць сухія, нецікавыя. Не ад сэрца напісаны, ад розуму.

— Вершы і я ў школе вучыў,— уважліва даслухаўшы салдата, сказаў Панасюк.— І ўсе забыў. А ваенныя песні памятаю. «У зямлянцы», «Ідзе вайна народная...» У водпуск? — спытаўся ён, калі салдат зноў паглыбіўся ў кнігу.

— На тры дні.

— Служыш першы год ?

— Восьмы месяц.

— Цяпер служыць можна. Лепшай службы і не прыдумаеш. Кажуць, і кампот цяпер у абед даюць?

— Даюць.

— Во, бачыш. Гэта не ў вайну. А на свята не даюць?— Панасюк пальцам шчоўкнуў сябе па шыі.

— Што вы, а для чаго?

— Як для чаго? Свята ж. На вайне кожны дзень давалі.

Салдат заплюскаў вейкамі і зноў унурыўся ў сваю кніжку. «Не, са мной не вып'е,— падумаў Панасюк.— Яму лірыку давай, а не паўлітра». І ўсё ж сказаў:

— Са святам цябе, салдат.

— Дзякую, і вас таксама.

— Дык, можа, адзначым?— Панасюк адхінуў крысо паліто, паказваючы рыльца бутэлькі.

— Не, бацька, не буду.

— Нельга?

— І нельга, і не хачу.

Правільна ўгадаў Панасюк — з гэтым дзіцём, якое вершыкі чытае і напамяць вучыць, душу не расхрыстаеш. Не разумее цябе. Гэта не франтавік. Што ж, кожнаму сваё. І не дай бог, каб і яму давялося стаць франтавіком. Няхай чытае вершыкі, няхай адслужыць, ажэніцца, дзяцей выгадуе. Няхай...

А ўжо была чацвёртая гадзіна. Стрэлка па гадзінніку, што вісеў на сцяне, насупроць, скакала і скакала, адлічваючы час, імчалася неадольна і нястрымна. Для яе аднолькава, што свята, што будні дзень, спраўна працуе, без стомы.

Захацелася есці. Панасюк дастаў з кішэні сыр, каўбасу, хлеб, расклаў на газеце. Паўлітэрку выстаўляць раздумаў, яшчэ міліцыянер прычэпіцца.

— Вазьмі ўкусі,— прапанаваў ён салдату.

— Дзякуй, бацька, я толькі што ў рэстаране абедаў.



Усё ж узяў скрылёк сыру, з'еў. Панасюк зразумеў — гэта, каб не крыўдзіць яго.

І вось у гэты самы час побач сеў падпалкоўнік. Панасюк і не заўважыў, калі той зайшоў у залу. Падпалкоўнік немалады, можа аднаго веку з Панасюком, чырванатвары, шырокі ў плячах і трохі таўставаты для ваеннага. Калі той зняў шапку, то Панасюк заўважыў у яго вышэй вуха пісяг — вядома ж, знак вайны. Валасы ў падпалкоўніка сіваватыя, а на макаўцы — скразнячком.

«Гэты на вайне быў»,— узрадаваўся Панасюк новаму суседу.

— З Днём артылерыі, таварыш падпалкоўнік,— павіншаваў яго Панасюк.

— Узаемна,— падпалкоўнік паціснуў Івану руку.

— Я ж таксама былы салдат. Во,— ляпнуў ён сябе па пратэзе.

Падпалкоўнік яшчэ раз паціснуў яму руку, а потым нейкі час яны маўчалі, гледзячы адзін на аднаго, з крыху разгубленымі няёмкімі ўсмешкамі. Але гэта стрыманасць была кароткай. Адразу ж усчалася гаворка і, канечне ж, пра вайну, пайшлі ўспаміны, кожны стараўся нешта расказаць, нагадаць сваё, называліся гарады, сёлы, рэкі, прозвішчы генералаў і славутых разведчыкаў, снайпераў, нумары карпусоў і дывізій... Нехта з іх першы называў, а другі аж радаваўся, калі і ён быў сведкам ці ўдзельнікам тых падзей. Выявілася, што адзін час, у канцы вайны, яны ваявалі ў адной арміі. Тут жа зноў схапіліся за рукі, ціснулі, ціснулі іх — як жа, амаль аднапалчане.

— Ты горад Се-кеш-фефер-вар помніш?— спытаўся Панасюк і засмяяўся, што ўпершыню хоць і па складах, але справіўся з гэтым цяжкім словам.

— А як жа, прыйшлося ўцякаць адтуль.

— Во, во, а потым нам жа і браць давялося.

Успомнілі абодва яфрэйтара Кацю — славутую рэгуліроўшчыцу на Самбатхельскай шашы. «Во, во, такая белая лебядзіначка».— «У газетах яе фатаграфія была».— «Мы каля яе сваю самаходку спынілі, і Коля Краўчанка лялька ёй падарыў».

І так яны захапіліся сваёй гаворкай, што проста забыліся спытацца адзін у аднаго прозвішчы, адрасы, як забыўся Панасюк пра сваю паўлітэрку, падпалкоўнік — пра поезд. Салдат-авіятар напомніў яму пра цягнік, і падпалкоўнік схапіў чамаданчык і, ляпнуўшы Панасюка па плячах на развітанне, амаль бягом заспяшаўся на перон.

Вось і ўся сустрэча. Панасюк ад прыкрасці, што так неспадзявана яна абарвалася, тыцнуўся да аднаго вагона, другога вагона, пытаўся ў праваднiц, ці бачылі падпалкоўніка з чырвонымі пятліцамі. Ніхто не прыкмеціў. А тут поезд без гудка стукнуў буферамі і паплыў, памчаўся паўз перон усё хутчэй і хутчэй...

Паабедаў ён у станцыйным буфеце: з'еў халодную смажаную рыбу, даеў свой сыр і каўбасу, выпіў дзве шклянкі чаю. Купіў вячэрнюю газету, прачытаў усю, нават аб'явы.

Ужо добра сцямнела, гарэлі на вуліцах ліхтары, успыхвалі фары ў машынах, прыбавілася народу ў вакзале, пераважна моладзь — парачкі заходзілі пагрэцца. Дамоў цяпер ісці не было сэнсу, рашыў дачакацца святочнага салюту, пахадзіць па вячэрніх вуліцах, паштурхацца сярод людзей. Ён ведаў, што на вуліцы выйдзе багата франтавікоў. Можа каго і знаёмага сустрэне.

— Ах, шкада, што няма Краўчанкі,— зноў ужо каторы раз уздыхнуў ён.— Шкада.

У цёплай сцішанай зале, утульна прыціснуўшыся да лаўкі спіной,

ён падрамаў, час ад часу пазіраючы на гадзіннік. Вось ужо і восьмая гадзіна пачалася. Можна ехаць у цэнтр.

Даехаў ён туды на тралейбусе. Прайшоў да моста, дзе стоўпіліся людзі. Гулі транзістары, магнітафоны, брынкала гітара. Дзве дзяўчыны, амаль яшчэ дзяўчынкі, дурэлі, кідалі адна ў адну снежкі, вішчэлі. Стаялі і самавітыя пажылыя пары, мужы трымалі сваіх жонак пад рукі.

Іван прашыўся да парэнчаў моста. Унізе паўз бераг выстраілася каманда салдатаў з ракетніцамі. Хацелася пагаварыць з кім, ды вакол адно молада-зелена — дзяўчаты, хлопцы без шапак. І вушы не мерзнуць у хлопцаў — дзіва што, пахавалі іх пад доўгія патлы. Падышлі тры ваенныя курсанты, будучыя афіцэры, пачалі загаворваць да дзяўчат, што кідаліся снегам. Хлопцы з гітарай пачалі спяваць. У арміі яны яшчэ не служылі, маладыя. Спяваў адзін з іх, нястомна, безупынку, і ўсё нейкія песенькі-дрындушкі. То пра Ваньку, які цыркачку палюбіў, а яму б трэба дзеўку прасцей. А то проста крычаў бязглуздзіцу пра таракана, якому добра жыць і аліментаў не трэба плаціць. Людзі слухалі, рагаталі. Панасюк не вытрымаў, сказаў тым гітарыстам:

— Хлопчыкі, вы нешта хуліганіце. Сёння ж свята. Вы ваенную песню заспявалі б.

Хлопцы замоўклі, а потым самы даўгавалосы дзяцюк узяў у спевака гітару і запеў знаёмую з часоў вайны песню пра сад і вясеннюю зару. Песня гэта Панасюку не падабалася нават і тады, у вайну — дужа яна бадзёрая, легкаважная. Спявак, відаць, сам зразумеў гэта і абарваў яе на паўслове.

Другі хлапец падказаў:

— Славік, ты тую...

І хлопец з белай, як кужаль, галавой заспяваў. Не чуў Панасюк гэту песню ні ў вайну, ні пасля. Прыслухаўся, стаіўся, бо ўзяла адразу за душу з першых слоў. У той песні салдат гаварыў сваёй каханай, каб не чакала яго, бо ён не прыйдзе ні сёння, ні заўтра. І ніколі да яе не вернецца. «Не чакай і замуж выходзь, дзяцей раджай,— гаворыць салдат.— І калі ты сапраўды любіш мяне і помніш мяне, то назаві сына імем маім... Да цябе не прыйду ні вясною, калі чаромху дораць любімым, ні ўвосень, калі горка плача неба... Я не прыйду, не чакай мяне. Я прыйсці не магу, каб і хацеў. Я забіты вясной сорак пятага ў Альпах...»

У Панасюка падкаціўся да горла камяк, сэрца сціснулася — кранула яго песня. Таму, што яна была пра сяброў яго, артылерыстаў-самаходчыкаў: Сяргея Іванава, Стася Васільчука, Кірыла Манасяна... Гэта ж яны згарэлі вясной сорак пятага ў аўстрыйскіх Альпах. Нявеста Сяргея і цяпер чакае яго, замуж так і не выйшла...

Хоць Панасюк і стрымліваў сябе, каб не заплакаць — сорамна перад людзьмі мужчынам плакаць, скажуць, п'яны,— слёзы самі наплывалі на вочы. Ён налёгся грудзямі на парэнчу моста, паклаў на сашчэпленыя рукі галаву, так і стаяў, хаваўся ад людзей. Але ўсё адно заўважылі, нехта нахіліўся да твару, спытаўся ціхенька:

— Вам блага?

Панасюк крутнуў галавой, пальцам выцер слёзы. Агледзеўся, убачыўшы каля сябе ўжо сталага мажнога мужчыну, з жонкай пад руку.

— Ды вось песня... Дружкоў забітых успомніў.

— Харо-о-шая песня,— згадзіўся мужчына.

Панасюк узрадаваўся, што ёсць, нарэшце, з кім пагаварыць, падзяліцца сваім, і пачаў расказваць пра апошні свой бой там, у Аль-





пах. Расказаў, як іх самаходкі напароліся на засаду і адразу ўспыхнулі факеламі. Тры экіпажы згарэлі поўнасцю. А ён, Панасюк, вылез, ды яшчэ здолеў выцягнуць Колю Краўчанку з машыны.

— Гарым, па зямлі качаемся, каб агонь з сябе збіць. А ногі — страшна глядзець, палаюць, як смалякі.

Вуліца раптам сцішылася, чакалі салюта. «Як перад атакай»,— успомнілася Панасюку. Яму зноў захацелася пачуць песню пра забітага ў Альпах салдата.

— Слухай, сынок,— смыкнуў ён белага хлопца за рукаво,— заспявай яшчэ. Разумееш, гэта ты пра маіх сяброў-самаходчыкаў спяваў. Я з імі гарэў у Альпах.

На яго з цікаўнасцю і, як здалося Панасюку, з недаверам паглядзела ўся кампанія.

— Вы што, не верыце?— ускрыкнуў Панасюк.— Артылерыст я, самаходчык.

Ён расхрыстаў паліто, паказаў ім узнагароды.

— Верым, баця,— адказаў той, з белай галавой.— У другі раз, зараз салют.

І грымнуў залп, роўны, сугучны, як адно дыханне, адзін крык:

— Трах!

У неба пырснулі тысячы каляровых іскраў, асвяцілі горад, мост, парк, твары людзей.

Дамоў Іван дацягнуўся каля адзінаццаці. Барак спаў, спала і Варка. Ён уключыў святло, ведаў, што жонку гэта не разбудзіць. Убачыў сабраны стол, напалову выпітую бутэльку каньяку, розную, не Варкай купленую закусь: вэнджаны палтус, шынку, зялёныя гуркі, бутэлькі з нарзанам.

— Варка, хто прыходзіў?— штурхнуў ён жонку.

Варка падхапілася адразу, села, вясёлая.

— Коля Краўчанка з жонкай. Чакалі-чакалі цябе... Адрас у іх цяпер новы.

І ўсміхалася, прыжмурыўшы адно вока,— значыць яшчэ нешта мелася сказаць.

— Так, а яшчэ што?

— А яшчэ, Ванечка, радасць і нам. Пісьмо вунь з райвыканкома прыслалі. Кватэру даюць...

Панасюк паставіў сваю так і не пачатую паўлітэрку на стол, сеў. Але ні піць, ні есці не хацелася. «Тых бы самаходчыкаў сюды,— успомнілася яму песня.— Няхай бы адбыўся цуд — узялі б ды прыйшлі. У гэты вечар. Тыя дзесяць чалавек, што згарэлі ў Альпах».

# ДА ЦЯГНІКА ДЗВЕ ГАДЗІНЫ

## I

«Зялёная трава... На траве маці сядзіць,— здзіўляўся ён.— Што б гэта азначала?...»

Бакавое шкло было апушчана, і вецер прадзімаў кабіну наскрозь. Міхайлоўскі хацеў падняць шкло, каб прыглушыць гэты пругкі і золкі струмень, што абдаваў холадам плечы, але рука так і засталася на ручцы... Не хацелася адгароджвацца хоць і тонкай, але ж такі сценкай ад наваколля, з якім ён зараз расстаецца: з дарогай, што пахне



гарачым асфальтам, пажоўклымі палеткамі, бярозавымі гаямі, з якіх яшчэ не абабілі лістоту халодныя вятры, з усім тым звыклым, знаёмым, вывучаным да драбніц за два гады паездак.

Ухванаў, які вёў машыну, быў негаваркі, першым размову не пачынаў, а калі нешта і гаварыў, то нават на міг не адводзіў вачэй ад дарогі.

«Стараецца»,— думаў Міхайлоўскі аб гэтай пунктуальнай дысцыплінаванасці Ухванава за рулём і быў задаволены, што менавіта яму ён перадасць свой аўтамабіль, і сённяшні рэйс — экзамен для Ухванава. Сягоння Ухванаў — стажор-вадзіцель, а Міхайлоўскі — старшы машыны, яго настаўнік. Едуць з часці ў батарэю — на «точку», і ехаць ім добрых кіламетраў шэсцьдзесят.

Міхайлоўскі маўчаў, пакуль выбіраліся з горада, пакуль ехалі па звужаным адрэзку шашы, які рамантаваўся, і толькі на шырокай свабоднай магістралі спытаўся пра тое, што яго так нязвыкла турбавала сёння ўсю раніцу.

— Слухай, Ухванаў, ты можаш сны адгадваць?

— Магу... Сны, таварыш малодшы сержант, гэта сігнал, што з чалавекам абавязкова нешта павінна адбыцца.

— Глупства,— не паверыў Міхайлоўскі.

— Праўда.— Ухванаў звузіў свае чорныя, з доўгімі вейкамі вочы.— Не верыш? Сам чытаў у часопісе: па снах вызначаюць нават, якая хвароба чалавека схопіць. Чэснае слова, чытаў.

Ён цікаўна, усяго на міг зірнуў на малодшага сержанта прыжмуранымі вачыма, і Міхайлоўскі не ведаў — верыць ці не гэтаму хітраватаму чувашу.

— Можа быць,— сказаў абыякава Міхайлоўскі.— Можа і так.

— А што табе снілася?

Міхайлоўскі крыху памуляўся і пачаў расказваць:

— Разумееш, быццам я ў нейкую глыбокую-глыбокую яму ўпаў. І вось сяджу там, нібы ў студні. Бачу толькі круг сіняга неба. Хачу вылезці, а не магу. Цябе клічу, крычу, а ты маўчыш.

— Вылез?

— Вылез, а на зялёнай траве маці мая сядзіць. Убачыла мяне, а чамусьці не зарадавалася. І ўсё.

Ухванаў насупіўся, падумаў, сказаў, расцягваючы словы:

— М-да. Будзеш лятаць. Ці зверху ўніз, ці знізу ўверх.

— Я не лётчык,— пакрыўдзіўся Міхайлоўскі.— А дамоў паеду цягніком.

Ухванаў засмяяўся:

— Дзівак. Усё гэта так сабе. Ну, пустата. Твая апошняя ноч у арміі, вось ты і спаў дрэнна, хваляваўся. Розныя думкі лезлі ў галаву. Калі твой поезд?

— У семнаццаць нуль пяць.

— Паспеем. А Баяраў з Мамедавым сёння паехалі.

Яны дагналі грузавік, «Зіл», афарбаваны ў жоўта-іржавы колер. У кузаве на мяхах з зернем, прытуліўшыся спіной да пярэдняга борта, сядзела дзяўчына ў яркай сіняй кофтачцы і штанах-джынсах. Рукі яна трымала ў кішэнях штаноў.

Ухванаў не стаў абганяць той грузавік, а, запаволіўшы ход, ехаў услед за ім на блізкай адлегласці. Дзяўчына, зразумеўшы, што праз яе яны так едуць, гарэзліва заўсміхалася.

— Пералазь да нас, незабудка! — высунуўшы галаву з кабіны, крыкнуў ёй Ухванаў.

Дзяўчына па мяхах падпаўзла да самага задняга борта, лягла на жывот і, падпёршы рукамі падбародак, замахала нагамі.

— Паехалі вы да нас,— сказала яна,— а то хлопцаў у нас мала.

Сказала «вы», а сама глядзела на аднаго Ухванава. І той задаволены, што выбар прыйшоўся на яго, расплыўся ва ўсмешцы.

— Не магу,— паспачуваў ён сабе і развёў рукамі, выпусціўшы руль.— Служу. А вось сержант,— кіўнуў ён на Міхайлоўскага,— вольны ўжо. Яго вярбуй. Адкуль ты?

— З Падліпаўкі. Не чулі?

— Чулі! — крыкнулі Ухванаў і Міхайлоўскі разам, і абодва засмяяліся.

Шафёр грузавіка раптам збочыў улева і пачаў прытармажваць. Пашкадаваўшы, што расстаюцца з дзяўчынай, яны абмінулі яго. Дзяўчына, пералезшы да левага борта, махала ім услед рукой. Памахаў і шафёр, рыжы мужчына, спытаўшыся наўздагон:

— Як жывяце, ваякі?

— Па статуце,— адказаў Міхайлоўскі.

Далей яны ехалі моўчкі. Паказалася Падліпаўка — вялікая, у садах, пры самым возеры вёска. Недалёка ад берага стаяла белая цэркаўка. У ціхай, па-восеньскаму празрыстай вадзе цэркаўка адбівалася так выразна, што, здавалася, іх было дзве: адна на беразе, другая ў возеры. Міхайлоўскі за два гады паездак бачыў не раз і гэта возера, і цэркаўку, і дагледжаныя, у садках, падліпаўскія хаты. І не раз шкадаваў, што яго родная вёска Капалічы не такая ўтульная і прыгожая, як Падліпаўка, і няма там ні возера, ні багатых садоў.

Ухванаў жа думаў пра сваё. Прыгажосць наваколля яго не вельмі захапляла. Па тым, як ён сам сабе ўсміхаўся, відаць было, што ён усё яшчэ знаходзіўся пад уражаннем сустрэчы з дзяўчынай і цяпер думаў пра яе.

— А вось вазьму і пасля службы застануся ў Падліпаўцы,— выпаліў ён, як нешта даўно наспелае, і скалануўся ад кароткага і гучнага рогату, адкінуўшы назад галаву.

— І да яе пасватаешся,— у тон яму дадаў Міхайлоўскі.

Дарога, размова, гуллівае заляцанне да дзяўчыны-спадарожніцы адцягнула на час увагу ад той шчымлівай турботы і трывогі, якія непакоілі яго зранку. А цяпер зноў успомніўся сон і зноў заскрабло на сэрцы. Ён стараўся пераконваць сябе, што сніў жа ён і дагэтуль, і нават страшнае, але нічога не адбывалася, ён адразу ж забываў і нікому тое не расказваў. А тут нейкія дзіўныя прымхі...

«Можа што з маці?» — спалохана падумаў ён. Пачаў прыпамінаць той самы перарваны сігналам пад'ёму, недабачаны да канца сон. Больш усяго яго ўразіла ў тым сне зялёная да рэзі ў вачах трава, на якую ён, вылезшы з ямы, як падбіты, паваліўся. І тужлівая абыякавасць маці. Сядзіць на траве ўся ў водсветах зялёнага святла і перабірае махры свайго чорна-чырвонага гаруса...

«Ат,— злосна крутнуўся на сядзенні Міхайлоўскі,— пустата, лухта ўсякая». Ён зняў пілотку, высунуў галаву ў акно насустрач ветру і адчуў, як прыемна ўсклычвае ён валасы, туга б'е ў вочы і шчокі. Каб адкараскацца ад думак пра сон, Міхайлоўскі прымушаў сябе засяроджвацца на тым, што бачыў, што пранасілася міма яго: на белых валунах ля дарогі, статку чорна-белых кароў, якіх пасвілі дзве жанчыны, на хмары галак над іржышчам... Забыўся, супакоіўся, думаў цяпер толькі пра дарогу дамоў, сустрэчу з блізкімі. Да родных Капаліч сем гадзін язды на цягніку. Апоўначы будзе дома...



## II

На батарэі яны затрымаліся не больш гадзіны. Здалі, што прывезлі: прадукты, бялізну, пошту... Атрымалі тое-сёе. Сябры зайдросцілі Міхайлоўскаму і жадалі на «гражданцы» шчасця.

Адразу, як выехалі на шашу, малодшы сержант памяняўся з Ухванавым месцамі. «Хачу з дарогай развітацца»,— сказаў ён. Ад хвалявання, якое раптам ахапіла яго, ён нейкі час сядзеў за рулём нерухома, не рашаючыся зрушыць машыну з месца. Яна ракатала прыглушана, матор працаваў роўна і надзейна. «Зіл», як верны таварыш, чакаў загаду на дарогу, на апошнюю для Міхайлоўскага дарогу. І Міхайлоўскі адчуваў, што расставацца з машынай яму нялёгка. Усю службу яна не падвяла, не здрадзіла. А ён, ад'язджаючы і перадаючы машыну ў чужыя рукі, як бы здраджваў ёй. У рокаце матора Міхайлоўскі пачуў асуджэнне, аўтамабіль, нібы жывы, дакараў яго за нявернасць.

«Нічога, нічога,— паляпаў Міхайлоўскі па рулявым коле, супакойваючы сябе.— Не крыўдуй, братка. Новы гаспадар у цябе добры».

Малодшы сержант націснуў на акселератар. Аўтамабіль фыркнуў і абрадаваўся, што ўсё ідзе, як ішло, што зноў на рулі тыя ж знаёмыя рукі, весела ўзяў ход.

— Добрая машына,— нібы ўгадаў думкі Міхайлоўскага Ухванаў.

— Расставацца шкада. Вось бы разам з ёю ды ў свой саўгас.

Было ўжо апоўдні, горача і суха, як і ўвесь гэты месяц. Дажджы даўно не ішлі, зямля сцвярдзела, пылілася, на ўзгорках высахла трава. І дрэвы няроўна зелянелі: адны, як летам — ярка, весела, на другіх лісце ўжо пабіла жаўцізною, нібы падкралася да іх ранняя старасць.

З рэвам, узмоцненым пры сустрэчах, пранасіліся міма машыны, хвалі ўскалыхнутага паветра ўрываліся ў кабіну, напаўняючы яе дарожным пылам, пахам бензіну...

— Вось і зноў Падліпаўка,— паказаў рукой у акно Ухванаў.

Вёску яшчэ не было ўсю відаць, толькі тры хаты на ўзвышшы. Возера і белую цэркаўку затуліў гай. Ён адсоўваўся і адсоўваўся ўлева, скупа адкрываючы адну сядзібу за другой. Усё паказалася адразу, як толькі дарога выкруцілася з гаю: вёска, засіненае небам возера, цэркаўка ў яго чыстай празрыстай глыбіні...

Шаша перасякала канец вясковай вуліцы. Каля перасячэння, на ўтрамбаванай машынамі і нагамі плошчы, у самым яе вострым куточку месцілася чайная. Сюды здарожваліся шафёры, бавілі ў ёй час вольныя ад работы падліпаўцы і розны прахожы люд. Там стукала помпа на бочцы з півам і горача шумеў вялікі медны — невядома колькі веку яму — самавар, а загадчыца, худзенькая, дробненькая, зусім не тыповая начальніца харчэўні, сустракала наведвальнікаў з мітуслівай шумнай гасціннасцю.

— Піць хочацца,— скасавурыў вочы на малодшага сержанта Ухванаў.— І цыгарэт бы купіць.

— Ты ж не курыш.

— Іванчыкаў прасіў, з фільтрам.

Міхайлоўскі ўключаў левы паварот. Машыну паставілі пад вярбу, каб не так награвалася на сонцы. Вылезлі з кабіны, ацягнулі гімнасцёркі, паправілі пілоткі і, змераўшы позіркамі адзін аднаго, скіравалі ў чайную. На плошчы стаяў усяго адзін грузавік, той самы жоўта-іржавы «Зіл». Праходзячы міма яго, яны, падскокнуўшы, зазірнулі ў кузаў — ён быў парожні.

— Яна там,— паказаў Ухванаў на чайную, ляснуў у далоні і першы ўзбег на ганак.

Зайшоўшы з сонечнага дня ў прыцемненую фіранкамі залу, яны нейкі час прывыкалі да гэтага прыцемку. У чайной было толькі двое наведвальнікаў: пад фікусам — дзяўчына, у куце — мужчына. Загадчыца падбегла да Міхайлоўскага і Ухванава, пацягнула іх за рукі да стала, накрытага бялюткім чыстым абрусам.

— Ведаю, ведаю, таварышы ваенныя, піва нельга, нічога іншага нельга, вам толькі чаю,— сакатала яна.— А што есці будзеце?

Яны сапраўды заказалі толькі чаю з булачкай, а калі загадчыца шмыгнула ў бакоўку, агледзеліся як след і ў той дзяўчыне, што сядзела пад фікусам, пазналі сваю знаёмую. Цяпер яна была ўжо не ў джынсах, а ў чорнай кароткай спадніцы. Дзяўчына закруцілася ў крэсле, а потым паднялася і перайшла за іх стол.

— У горад еду. А вы? — спыталася яна.

— І мы,— адказаў Ухванаў.— Паехалі з намі, падвязём.

Яна з паспешлівай радасцю заківала галавой.

І далей наступіла паўза, што звычайна бывае пры такіх знаёмствах, калі пасля першай смеласці і лёгкасці ў размове, якая нікога і ні да чаго не абавязвае, трэба ўжо ці хаваць свае сапраўдныя думкі і адносіны да таго, з кім пазнаёміўся, ці неяк весці сябе па-іншаму. Ухванаў, зразумеўшы, як горнецца да яго дзяўчына, засаромеўся, разгубіўся і замоўк.

— Незабудка,— сказаў ён, толькі каб не маўчаць, і яшчэ больш разгубіўся.

Дзяўчына раз-пораз нацягвала падол спадніцы на калені, дарэмна стараючыся сумясціць моду з дзявоцкай сціпласцю.

— Ахмураеце, ваякі,— пачулі яны раптам.

Гэта сказаў мужчына, які сядзеў у куце. Аблёгшыся на стол, ён, здавалася, зросся з ім і не адводзіў ад Ухванава і Міхайлоўскага тупога позірку. Ухванаў ускінуўся нешта сказаць, але загадчыца порстка, як мышка, падлящела да яго, схапіла за руку.

— Не зважайце, таварышы ваенныя. Гэта Ціхан, шафёр з саўгаса. У яго міліцыя правы забрала. За п'янку,— шапнула яна.— Люся, раскажы, ты ж ведаеш.

— Праўда,— пацвердзіла дзяўчына.— Вунь тая машына яго раней была.

П'яны Ціхан скрыгаў зубамі, некаму пагражаў і стукаў кулаком па стале, праўда, нямоцна. Міхайлоўскі і Ухванаў насцярожана прыслухоўваліся, баючыся, каб той не сказаў што абразлівае для дзяўчыны. Загадчыца чайной ужо перабегла да Ціхана, штосьці таропка гаварыла яму амаль у самае вуха. Ціхан рыўком адсунуў ад сябе стол, устаў і моўчкі выйшаў. Усе трое адразу аблегчана заўсміхаліся, загаманілі. Ухванаў зноўку стаў самім сабой — бойкім вясёлым хлопцам.

— Ну дык едзем, незабудка? — падняўся Міхайлоўскі.

— Ой, усе мяне так завуць,— засмяялася Люся і таксама паднялася.

— Хто яшчэ? — усхапіўся Ухванаў, падазрона гледзячы на Люсю.

— Ты,— тыцнула яна пальцам у гузік яго гімнасцёркі.

На вуліцы пад рабінай Люся спынілася, падцягнулася на дыбачках, каб сарваць гронку ягад, моцныя ногі яе прыгожа напружыніліся.

І ў гэты час як бы хвоснула па вушах:



— Угнаў! Машыну ўкраў!

Па плошчы да шашы бег рыжы шафёр грузавіка, размахваў рукамі.

— Ціхан украў! Памажыце!

Жоўта-іржавага «Зіла» на плошчы не было. Усе трое пабеглі за рыжым шафёрам на шашу. Грузавік, прыкметны сваёй афарбоўкай, імчаўся ў напрамку горада. Машыну кідала, як на ўхабінах, з краю на край дарогі. Сустрэчныя аўтамабілі ціснуліся да абочын. Паспрабавала з'ехаць на абочыну і падвода. Фурман тузаў лейцамі каня, сцягваў яго з дарогі, але, напужаўшыся, кінуў лейцы, саскочыў з калёс. Правым бортам грузавік ударыў у калёсы, скінуў іх у кювет.

— Іван Пятровіч! — крыкнула Люся рыжаму.— Як жа Ціхан машыну завёў?

— Ключ у яго другі застаўся. Ключ!

Шафёр быў такі разгублены, бледны, што рыжыя вяснушкі на твары нібы змыліся гэтай бледнасцю.

«Зіл» трохі выраўняў бег, але хуткасці не збавіў, і яны зразумелі, што ён вось так будзе імчацца да горада і ўляціць у горад з яго вуліцамі і дарогамі, поўнымі людзей і машын.

— Дагнаць! — сказаў Міхайлоўскі, ускочыў у кабіну свайго «Зіла», схапіўся за руль. Ухванаў сеў побач. Хацеў улезці і рыжы шафёр у кузаў, ды Міхайлоўскі не дазволіў, газануў, рэзка ірвануў з месца...

## III

Яны абмінулі перакуленыя калёсы, якія фурман пяўся паставіць на колы, і тры машыны, што стаялі на абочыне — вадзіцелі іх штосьці крычалі Міхайлоўскаму. Ён ні на што не зважаў, ён бачыў толькі ўперадзе той жоўта-іржавы грузавік, які нёсся пасярэдзіне шашы, прымушаючы прыціскацца да кювета стрэчныя машыны.

«Даганяй, братка, спяшайся!» — прасіў Міхайлоўскі свайго «Зіла». І ён, дагледжаны за службу, быццам разумеючы, якая важная рызыкоўная задача ўзлегла на яго цяпер, узяў тую самую апошнюю хуткасць, на якую дагэтуль ні аўтамабіль, ні сам гаспадар не адважваліся. Горача, напружана роў матор, машына дрыжэла ўсім целам, як нацягнутая струна.

— Павінен жа ён спыніцца! — крыкнуў Ухванаў.— Што ён, ідыёт?

Дыстанцыя паміж імі і жоўта-іржавым грузавіком скарачалася. Нарэшце яны дагналі яго і цяпер ішлі следам. Міхайлоўскі здзіўляўся, што той грузавік так падкідвала на роўным асфальце. На прамым участку, які праглядваўся далёка ўперад, Міхайлоўскі пайшоў на абгон. Ён ужо амаль падраўняўся з кабінай, убачыў Ціхана, які, учапіўшыся рукамі за баранку, як бы застыў над ёю, напружана выцягнуўшы ўперад тоўстую загарэлую шыю. На момант інстынктыўна і па прафесійна набытай звычцы той падаў грузавік крыху ўправа, і Міхайлоўскі ледзьве не паспеў яго апярэдзіць. Але Ціхан здагадаўся, для чаго яго збіраюцца абагнаць, кінуў машыну ўлева, не пусціўшы Міхайлоўскага выйсці ўперад. Цяпер ён зноў імчаўся ўперадзе, займаючы толькі сярэдзіну дарогі.

— Праз дзесяць кіламетраў горад,— сказаў Ухванаў.

А горад ужо быў відаць. Тырчалі ў небе радыё-тэлевізійныя выш-

кі, цэцаўскія шэрыя коміны з белымі грывамі дыму над імі, бялелі карпусы мікрараёна. І людзей, і машын ужо было больш на шашы, і часцей адбягалі ад яе ўбакі па жаўцізне прыгарадных лугоў і палёў дарожкі і сцяжынкі.

Ціхан не замаруджваў бег, ад яго аўтамабіля па-ранейшаму шараханіся стрэчныя машыны, вісчэлі тармазы. Абганяючы трактар, які цягнуў прычэп з сенам, грузавік ударыў у прычэп, адарваў яго, перакуліў. Сена рассыпалася, услала зялёным мяккім покрывам чорны асфальт.

Перад Ціханам да горада не было ніякой перашкоды — ні шлагбаума, ні паста ДАІ. А сустрэчныя не разумелі, што адбываецца.

— Ухванаў,— сказаў Міхайлоўскі.— Сядай за руль.

— А ты?

— Сядай! — ужо загадаў малодшы сяржант.

Памяняліся месцамі на хаду, толькі прытармазілі машыну. Міхайлоўскі адчыніў дзверцы, стаў на крыло, пералез у кузаў.

— Гані! — стукнуў ён кулаком па даху кабіны.

Міма мільгалі машыны, людзі, групы людзей, з мітуслівага дарожнага калейдаскопу позірк Міхайлоўскага выхапіў ланцужок дзяцей-дашкольнікаў, якія па двое, трымаючыся за рукі, цягнуліся да шашы. У першай пары хлопчык у сінім шлеме з зорачкай, што цяпер прадаюцца ў магазінах, заўважыў Міхайлоўскага і прывітаў яго, ваеннага, па-ваеннаму, прыставіўшы далоньку да шлема.

— Гані! — яшчэ раз грукнуў ён па кабіне.

Ухванаў міргаў фарамі, сігналіў — пагоня! Сустрэчныя яму давалі дарогу. Заходзячы злева, ён падабраўся амаль да кабіны Ціханавага «Зіла». Абодва аўтамабілі, аддаючы апошнія сілы, нібы застылі на самай высокай мяжы гэтага напружання. Ішлі роўна, не ўступаючы адзін аднаму і сантыметра.

«Яшчэ крышачку, яшчэ! — шаптаў Міхайлоўскі, учапіўшыся за барты.— Ну, адзін метр!»

«Зіл» сам наблізіўся на гэты метр. Ціхан, каб перашкодзіць абгону, крутнуў свой аўтамабіль улева. Скрыпнулі барты двух машын, затрасліся, счапіўшыся на момант, і гэтага было дастаткова, каб Міхайлоўскі паспеў пераскочыць з кузава ў кузаў.

Ухванаў адразу ж запаволіў ход, пайшоў ззаду. Ён не спускаў вачэй з Міхайлоўскага. Малодшы сяржант прымерваўся ўлезці ў кабіну. Зрабіць гэта можна: стаць на крыло, рвануць дзверцы. Але не на такім ходу і не тады, калі цябе будуць штурхаць пад колы. А скідваць ён будзе, гэты п'яны Ціхан.

«Да цягніка Міхайлоўскаму...— раптам прыгадаў Ухванаў і зірнуў на гадзіннік,— дзве гадзіны роўна».

«Да цягніка яшчэ многа.— Міхайлоўскі ссунуў рукаў гімнасцёркі з гадзінніка.— Дзве гадзіны. Паспею. Чамадан жа стаіць сабраны».

Ну, вось і горад пачынаецца... Хоць дамы сюды яшчэ не дайшлі, дыханне яго адчувалася — пах паветра, прапушчанага праз тысячы матораў, рухавікоў, печаў...

Міхайлоўскі перанёс нагу за борт. Пяць секунд, восем... Яшчэ пяць, тры. А можа, бензін скончыцца? Можа, камера лопне? Можа, урэшце, адумаецца той, хто ганіць машыну?..

Машына бегла.

На крыло ён ускочыў адной нагой, рвануўшы перад гэтым дзверцы. Усунуў у кабіну галаву і адразу ж уваліўся туды ўвесь.





Удар у твар быў моцны. Другі ўдар у грудзі — не ўдар, а штуршок, каб выкінуць з кабіны. Міхайлоўскі не адбіваўся, толькі локцем прыкрываў твар і цягнуўся да ключа запальвання. Лавіў залатую рыбку, якая была прывязана ланцужком да ключа. Рыбка гэта матлялася і не давалася ў рукі. Нарэшце ён схапіў яе.

Ён не паспеў зразумець, ці выцягнуў ключ. Тупы боль у скроню аглушыў яго. Чорным туманом, як пакрывалам, ахліснула ўсё цела, а ў вачах мільганула неба і штосьці варухліва-залатое. Ён паспеў яшчэ зразумець, што ўпаў на спіну, пачуў, як балюча вякнула ўнутры, паспеў убачыць жоўта-іржавы кузаў аўтамабіля, які, уваліўшыся левымі коламі ў кювет, рэзка замаруджваў бег...

...Ён доўга не асмельваўся расплюшчыць вочы. Шапацела над галавой лісце. Не мякка, як вясной ці летам, калі яно поўнае сокаў, а пасенняму суха-шархатліва. Гэта за расчыненым шпітальным акном варушыў вецер бярозу. «Лісце яшчэ не апала». Ён расплюшчыў вочы. У акне ўспыхнуў залаты квадрат бярозавай кроны. Дрэва трымала лісце моцна, як маці дзяцей сваіх перад далёкім выраем.

Міхайлоўскі прыўзняў галаву, падпёр яе далоняй. Вакол бярозы расла маладая атава, зялёная, як асака вясной, а на атаве, зусім нечакана, быццам гэта быў працяг мінулага сну, убачыў маці. Яна сядзела на траве, ахінуўшы плечы тым самым яе любімым чорна-чырвоным гарусам. Пальцамі правай рукі яна перабірала махры гаруса і сумна-адчужана глядзела на траву.

«Зялёная трава... На траве маці...— здзівіўся ён.— Што гэта?» — І не зводзіў вачэй з яе, чакаў, каб сустрэцца позіркамі.





**васіль зуёнак**



ПАЭЗІЯ



## *Хлопчык з помстай у сэрцы*

Шыкоўна паставіўшы ногі —
Нібыта пракос трымае —
З экрана — дзявочым богам —
Спявае
Муслім Магамаеў.
Спявае аб нейчым вяселлі,
Аб нейчым мядовым раі,
А побач — на тым жа тэле —
Ад кулі хлапчук паміраe.
Ідзе другая праграма
У гэтым свеце зларвесным.
Экрана блакітная рама
Чарнее ад чорных вестак.
Стаў кат «свабоды фарпостам»,
А маці — заходзіцца плачам,
І выспявае помста
Страшная
Ў сэрцы дзіцячым...
Помста таго, хто бязгрэшны,
Хто нават кузурку не скрыўдзіў,
Хто птушак карміў пад застрэшшам,—
Помста
Вялікая
Прыйдзе!
Вы гэта знаеце, каты,
Чуеце сэрцам звярыным.
Ці не таму з аўтаматаў
Агонь на дзяцей абрынут?
Ідзе гільяціна строем:
Забойцы — да вінціка вінцік.
А я разам з маці старою
Шапчу, як замову:
«Пакіньце,
Пакіньце, зямля і неба,
Пакіньце між чорных руінаў,
Пакіньце, як лусту хлеба,
Каб гэты свет не загінуў,
Як кроплю вады...
Пакіньце
Надзею ў злой паняверцы.
Пакіньце ў жывых,
Пакіньце
Хлопчыка з помстай у сэрцы».

## Настрой

Сакавік, сакавік
Цягне дзевак за язык...

Ходзіш і зайздросціш дваццацігадовым,
Слухаеш няўцямна іх вясёлы шчэбет.
Позірк сэрцабойны — цяжар шматпудовы,
Кеплівае слоўца — нібы горкі чэмер.
Ва ўспамінах вокліч круціцца назолай:
«Эх, як позна-позна і як рана-рана»...
І ў каго ж бы гэта папытаць дазволу,
Каб на дзень хоць збегчы ад гадоў-тыранаў?

Сакавік, сакавік,
Памажы мне, чараўнік!

Толькі ж ці паслухаў ласкатун дзявочы!..
Па лядку вясновым адзвінеў падковай,
Нават не спыніўся, ні на крок не збочыў,
Праляцеў, не глянуў — дзень сакавіковы.
Даганяй, як хочаш... А вярнуць — не ўдасца.
З тым, што прамінула, не чакай сустрэчы.
Некаму другому — па вясновай ласцы —
Цені летуценняў ахінаюць вечар.

Сакавік, сакавік
Не бярэ мяне на ўлік.

Што ж, яго не стану я трымаць за хлясцік —
Пралятай, імчыся, хмельнае насенне!
Хіба я не ведаў, што такое шчасце?
Мне вясна прысніцца на асеннім сене!..
Хіба ў гэтым свеце не чакае хтосьці?..
Са шпаком гамонім змоўным перасвістам:
Ці ў вясны бываў я не жаданым госцем
І ці толькі радасць — тая, з першым лістам?

Сакавік, сакавік —
Сум, як снег вясновы, знік.

## Летнія ямбы

1.

Нарэшце, горад расхліснуў каўнер,—
Здаецца, бег бы ў рэчку, як спрасонак!..
Пенсіянер перасяліўся ў сквер,
Персоны ходзяць з ценем парасонным.
Сплываюць потам мінскія «маржы»,
І шыльду — перажытак зімняй моды:
«Здароўе загартуй і зберажы» —
«Маржыны» клуб змяніў на «Піва-воды».
Самлелыя, стаяць мастоў быкі,
І горад азіраецца навокал:
Асфальт, асфальт — плыве ва ўсе бакі,
Ні Белавежы тут, ні Налібокаў...
Ссівела Баравое ад дымоў,
Над Вячай не відно дубоў вячыстых...
І ўсё ж туды з ячэістых дамоў
Ірвуцца аднадзёншчыкі-турысты.

2.

І хто там Крым расхвальвае яшчэ?!
Пад Мінскам сонца больш, чым на курортах:
За дзень так нашчадруе, напячэ —
Дамоў прыедзеш падгарэлым чортам!..
Вальней разнасцеж дзверы, электрычка!
На ўлонне цягне песіміст харчы,
У аптыміста — без размаху звычка:
Ён з вудай — дык і з юшкаю, лічы...
Ускочыш у вагон, як у агонь,
Куды б, глядзіш, нагу так-сяк паставіць.
Разлазіцца па швах электраконь...
На дол злязаеш — убакі хістае.
Падскокамі імчышся, каб паспець,
Каб адхапіць ля рэчкі лепшы ка́вал.
А на плячах рукзак, нібы мядзведзь,—
І што ён зараз думае, цікава?..

3.

Як толькі сонца абаб'е расу,
На пляжы — тлум ад вісусаў упрэлых:
Барадамі і грывамі трасуць
І трызняць міражамі дзікіх прэрый.
Заўсёднікі бульвараў і садоў
Да аўталавак цугам пруць шклатару.
Брунет — бабыль у трыццаць пяць гадоў,
Кумір юнцоў — гняце сваю гітару.
І як яны збягаюцца, адкуль?
Нібыта чуюць свойскі дух па нюху...
О век, прашу, з такімі не звякуй,
Паддай ім, браце, не такога духу!
Каб потам абліваліся яны
Ля домнаў, ля станкоў і на палетках.
Усё ж такі яны — твае сыны,
Тваёй сям'ёй ускормленыя дзеткі...

4.

Паўгорада прывабіў пругкім звонам
Маленькі мяч з пукатымі грудзьмі.
Вясновы плён: сланечнік стадыёна,
Як семкамі, запоўнены людзьмі.
Вясёлая раскручваецца драма:
«Відовішчаў і хлеба!» Ёсць усё...
На ваш алтар, «Тарпеда» і «Дынама»,
Запал свой і эмоцыі нясём.
Абводкай хітрай ашаломлен шэльма,
Чынуша — абаронаю глухой.
А на табло мігаюць сквапна бельмы:
Гульня без пераможцаў — па сухой.
Сезон нулямі зноў адкрыла лета...
Ідуць з азартам згаслым у вачах
Балельшчыкі — пакутнікі, паэты —
Пустога ўсё ж, па сутнасці, мяча...

5.

Мне ў леце люба сталасці пара:
Камбайнаў спелы і паважны рокат,
Ільноў купанне ў сонечных вірах,
А на таках — мяхі па-брацку ўпокат.
Трывожыць думы халадок начны
І дзень, калі па-жніўеньску сагрэты
І сенажаць, і ціхі плёс рачны,
І сцірты — залатыя вехі лета...
Ажыны дух блукае па ярах,
Баравікі праз мох ірвуцца ў поце.
І мухаморы ў ельніку гараць,
Дакладней, аж згараюць на рабоце...
Я заблуджуся ў жніўеньскіх лясах,
Махну зялёным крыллем ля аблокаў,—
І павуцінка ў чорных валасах,
І да адлёту жураўоў далёка.



*уладзімір дубовік*



ПАЭЗІЯ



**Бачу я той дзіўны бераг
Мараў, сонечных надзей,
Да якога з добрай верай
Я вяслую кожны дзень.**

**Праз кіпучыя парогі,
Прагавітыя віры
Без буксіра, без падмогі
Да яго плыву, сябры.**

**Чую: свежых сіл паводка
Хваляй б'е праз берагі...
І ляціць крылата лодка —
Разыходзяцца кругі...**





ПРОЗА

*яўген гуцала*

# СЕЛЬСКІЯ НАСТАЎНІКІ

З украінскай пераклаў **Леў САЛАВЕЙ**.

Мал. **В. Шрамякова**

Вуліца спускалася крыху ўніз, а тут, паўз гліняныя кар'еры, па грудку бегла да става. Ля кар'ера жыла Фіёна. Хата ў яе была доўгая, прысадзістая, з нізка навіслай страхой. Маленечкія вокны пазіралі на свет як бы спадылба, недаверліва. Халупа не абгароджаная, двор зусім пусты, на ім нават пустазелле не расло.

Фіёна знешне была даволі прыгожая жанчына, праўда, з твару не выйшла. Твар яе нагадваў бляклы бульбяны лісток, які вырас у цяню і не набыў свайго натуральнага колеру. Апрача таго, па яе абліччы былі раскіданы ледзь прыкметныя рудыя плямкі.

— Добрага вам дня,— прывіталася Алена Лявонаўна.— А мы да вас па справе.

— Хіба ў каго-небудзь можа быць якая справа да мяне?— буркнула Фіёна.

— Якая да ўсіх, такая і да вас.

Гаспадыня сядзела і чытала нейкае пісьмо. Панура глянула на гасцей, панура адказала на прывітанне — ды раптам, успомніўшы пра пісьмо, неяк уся пасвятлела, нават усміхнулася.

---

Заканчэнне. Пачатак у № 3 г.г.

— Ад старэйшага сына вестку маю, ад Міколы,— сказала.— Ён жа цяпер у мяне вучыцца ў ФЗН. Дзякуй вам, Алена Лявонаўна, давялі яго да розуму, цяпер, можа, чалавекам стане. Хоць і дурны быў, хоць і праганялі яго з урокаў, у кут ставілі, а ўсё ж неяк скончыў сем класаў, атрымаў атэстат.

Фіёна паглядзела на настаўнікаў пасвятлелымі, радаснымі вачамі і сказала:

— Іх у мяне двое, з абодвума як мае быць пакут нацярпелася. У вайну мучылася ды і потым. Тым, у каго іх па пяцёра ці па шасцёра, лягчэй, тады менш перажываеш.

— Дзе ж гэта ваш Васіль? — ветліва спыталася Алена Лявонаўна.

— Васіль? Дзесьці лётае, ніколі каля хаты не трымаецца. Ён у мяне хлопец неблагі, паслухмяны. Не тое, што Мікола, старэйшы. Мікола — гэта сарвігалава. Можа, яго той горад неяк пераробіць, калі сяло не змагло.

— Горад пэўна пераробіць! — весела выгукнуў Андрэй Кандратавіч і, здаецца, адразу ж пра пазыку хацеў завесці гаворку, але Фіёна зноў заткнула яму рот сваёю траскатнёю:

— Я ўжо да яго аднойчы прыязджала. І што вы думаеце? Худы зрабіўся, шчокі пазападалі. Здаецца, адны толькі вочы блішчаць на твары, больш нічога і няма. І ціхі, паслухмяны зрабіўся.

Яна яшчэ нешта расказвала пра свайго сына, які цяпер вучыўся ў горадзе, але выкладчык фізкультуры, хітравата зірнуўшы на Алену Лявонаўну, падышоў бліжэй да Фіёны і, павысіўшы голас, загаварыў:

— Гэта, вядома, добра, што сын ваш чалавекам стане, толькі вы нам зараз вось што скажыце! Скажыце, вы падпішацеся на пазыку ці не?

— А што там з мяне? — спыталася Фіёна.

Андрэй Кандратавіч выцягнуў з кішэні чарніліцу-невылівайку паставіў яе на стол перад Фіёнай. Дастаў спіс з прозвішчамі аднавяскоўцаў, разгарнуў яго.

— Вось...— толькі і вымавіў, паказваючы пальцам на прозвішча гаспадыні.

«Ох, і не ўмее ж ён размаўляць з Фіёнаю,— білася неспакойная думка ў галаве Алены Лявонаўны.— З ёю трэба было б спачатку пагаварыць пра вясковыя навіны, а потым ужо прыступаць да справы».

— Распісацца лёгка. Я распішуся,— спакойна згадзілася Фіёна. Распісалася. І тут жа зноў паглыбілася ў чытанне пісьма, нібы зусім забыўшыся на настаўнікаў.

Яны ціха пакінулі хату.

Панцялей Пекур сядзеў на прызбе і грэў свае старэчыя косці. Дзеду заўжды было холадна. Праз усю зіму ён не злазіў з печы, і калі здавалася, што ўжо астыла пад ім, дык, лежачы на чарэні, надзяваў яшчэ і валёнкі. Гэтак жа і ў спякотныя дні старому заўсёды не хапала цяпла. Яму здавалася, быццам вось-вось з яснай летняй хмаркі хлыне халодны дождж ці пойдзе снег.

— Дзядуля, добры дзень! — прывітаўся Андрэй Кандратавіч. Прывітаўся проста, шчыра. У душы ён, праўда, пасмейваўся з яго як з мерзляка, так і з яго дзівацтваў, пра якія да гэтага багата наслухаўся, хоць і жыў у самым канцы сяла.

— Добры дзень, калі не жартуеце,— адказаў Панцялей. Дзед меў паважны выгляд, насіў шырокую белую бараду з рудаватымі плямамі, трымаўся горда і незалежна.



— Грэецеся?

— Грэюся. Сонца грэе для ўсіх, то чаму б не пагрэцца?

— Вядома,— велікадушна згадзіўся Андрэй Кандратавіч. І ў сваю чаргу запанібрата пацікавіўся: — Паміраць не думаеш?

Алене Лявонаўне зрабілася так няёмка, што яна нават убок адступіла на крок,— маўляў, гэта не яна пытаецца, яна сама па сабе.

— Не, не думаю,— ужо больш гучным голасам адказаў Панцялей Пекур.— Можа, ты збіраешся?

— Я малады! — усклікнуў выкладчык фізкультуры.— Я яшчэ пажыць хачу.

— І я хачу.

— Хіба вам не надакучыла?

— Ані. Каб надакучыла, сам бы лёг у дамавіну і рукі на грудзях склаў.

— Ну і ну! — здзівіўся Андрэй Кандратавіч.— Выходзіць, трэба толькі рашыцца — і гатоў?

— А чаго там? — зноў спакойна адказаў Панцялей.— Чалавек часта памірае не ад таго, што пара прыйшла, а ад таго, што вырашыў памерці.

— А ці праўда, што старыя людзі ўжо і з розуму выжываюць?

— Я не стары,— з пачуццём уласнай годнасці запярэчыў Панцялей.— Ты біблію чытаў? У бібліі сказана, што раней жылі па дзвесце, па трыста гадоў. А калі і я хачу столькі ж, дык ці варта адмаўляцца?

— І вы ў гэта верыце?

— Веру, бо я веруючы.

— Хіба вам не надакучыла жыць? Ці вы лічыце, што яшчэ мала пажылі? На тым свеце адпачылі б ад усіх гэтых зямных турботаў.

— Я не хачу ўсяго гэтага пакідаць.

— Чаго пакідаць? — не зразумеў Андрэй Кандратавіч.

— Гэтага свету.

— І сяла Мядзвенца? — у настаўніцкім голасе загучэла непрыкрытая насмешка.

— Яно для мяне дужа дарагое.

— І для мяне таксама.

— Ты блазан,— спакойна адказаў Панцялей Пекур.— Але і табе не хацелася б...

Выкладчык фізкультуры заліўся чырванню, як дзяўчына. Ён, відаць, хацеў кінуць старому нейкае грубае слова ў адказ, але стрымаўся і, счакаўшы хвіліну, прамямліў:

— Так, так... Выходзіць, вялікі чалавек Аляксандр Македонскі памёр — і ўсё, а вы не хочаце — і не памрэце?

— Якая мне справа да таго, што ён памёр? Македонскі сам па сабе, і я сам па сабе, я не хачу.

— Не, вы толькі паслухайце,— павярнуўся настаўнік да Алены Лявонаўны.

— Вы сваё гаворыце, а ён сваё,— нарэшце падала голас і яна.

Мусіць, выкладчык фізкультуры пачуваў сябе ніякавата, бо старога Панцялея яўна не бралі ягоныя грубыя жарты, і той, відаць, разумеў сваю перавагу ў слоўнай перапалцы. Пераканаўшыся ў гэтым, настаўнік насупіўся і сказаў:

— Ну, вы сабе можаце грэцца, а ў нас справа больш важная. Бацюшка дома ці куды пайшоў?

— Дома,— падумаўшы, адказаў Панцялей і сцвярджальна кіўнуў маленькаю сівою галавою.

— Паклічце яго.

Дзедавы бровы здзіўлена папаўзлі ўгору.

— А вы зайдзіце ў хату.

Панцялей са сваёю дачкою Ярынаю, маладзіцаю гадоў пад сорак, пры напамінку аб якой у Мядзвенцы звычайна хітра пасміхаліся, здавалі палову свае хаты прыезджаму бацюшку. Бабы ўвесь час наракалі, што бацюшка мог бы пасяліцца і ў больш старэйшых і паважаных сяльчан, пра якіх бы не шапталіся за вочы, што, маўляў, адно дзіця ў Ярыны невядома ад каго. Няхай яна жыве так, як ёй хочацца, але ж бацюшку не варта было спыняцца ў яе хаце, а калі ён ужо і асеў там, дык Ярыне трэба было б розуму набрацца і не круціць хвастом, як раней... Да бацюшкі, вядома, усе гэтыя размовы даходзілі ад тых, хто давяраў яму ўласныя і вясковыя таямніцы і хто лічыў сябе самым прававерным і адданым богу. Але бацюшка чамусьці ні на што не звяртаў увагі... І, відаць, па адной прычыне: у Ярыны была вялікая чыстая хата і гаспадыня смачна карміла — нездарма яе запрашалі гатаваць і на вяселлі, і на хаўтуры.

Пачуўшы на двары размову, якая тычылася яго, бацюшка выйшаў з хаты. Павітаўся мяккім аксамітавым голасам і ледзь прыкметна схіліў галаву. Быў ён у чорнай сацінавай кашулі навыпуск, падпяразаны шаўковым пояском з кітайкаю, і ў ялавых, добра наваксаваных ботах. У яго быў круглы ружовы твар, на якім чырванелі тоўстыя сакавітыя губы.

— Вы да мяне? — спытаўся, пазіраючы кудысь вышэй галоў. У ягоным голасе адчувалася здзіўленне — што магло прывесці іх да яго?

Выкладчык фізкультуры ўлавіў бацюшкава здзіўленне і, каб затрымаць яго надалей, наўмысна павольным рухам палез у кішэню, наўмысна разгарнуў спіс.

— Елісей Ануфрыевіч Кушнярук,— прачытаў не спяшаючыся, паважна і зірнуў на бацюшку, нібыта вымагаў у таго пацвярджэння, і той такі нахіліў галаву.

Алена Лявонаўна, здаецца, упершыню гэтак блізка бачыла бацюшку. Сустракаючыся з ім на вуліцы, звычайна кідала на яго мімалётны позірк, бо няёмка ж было вылупліваць вочы, ды і ён праходзіў міма з паважным выглядам, з пачуццём уласнай годнасці, і толькі на нейкі кароткі момант касавурыў на яе сваім пукатым вокам, якое ўспыхвала нейкім злосным святлом. Цяпер ён таксама стаяў каля яе з непрыхаванай годнасцю і такім чынам нібы патрабаваў гэткай жа павагі да свае асобы і з іх боку.

— Так, Елісей Ануфрыевіч,— пацвердзіў бацюшка,— гэтак мяне завуць і ў грамадзе.

— Трэба, каб вы падпісаліся на пазыку,— сказаў Андрэй Кандратавіч.

Алене Лявонаўне здалося, нібы бацюшка на нейкае імгненне забыўся на сваю паважнасць, што ён на імгненне быццам бы апусціўся з неабсяжнае вышыні на зямлю, дзе стаялі яны, дзе сядзеў на прызбе стары Панцялей...

— На якую пазыку? — спытаўся бацюшка. На гэты раз ён пазіраў ужо на Алену Лявонаўну такімі вачамі, як быццам пытаўся ў яе самой.

Але выкладчык фізкультуры перахапіў яе адказ:

— На адбудову і развіццё народнай гаспадаркі!

Сказаў гэткім тонам, як быццам бацюшка ўжо спрабаваў ухіліцца, адмовіцца, а ён спрачаўся з ім.

— Колькі? — пацікавіўся бацюшка спакойным і роўным голасам.



Андрэй Кандратавіч ведаў усе лічбы напамяць, але для большай пэўнасці зазірнуў у спіс.

— Дзве тысячы рублёў,— з адкрытай злараднасцю адказаў выкладчык фізкультуры.

Дзед Панцялей, пачуўшы сказанае, неяк раптоўна падхапіўся з прызбы, пастаяў з хвіліну, потым зноў павольна сеў.

Бацюшка набраў у грудзі паветра, затрымаў там, нібы каштаваў яго, і цяжка выдыхнуў. Усім сваім выглядам настаўнік быццам казаў: «Толькі паспрабуй мне адмовіцца!»

— Дзе распісацца? — спытаўся бацюшка, не кратаючыся з месца.

Нейкая сіла сама павяла Андрэя Кандратавіча да бацюшкі, у ягоных рухах раптоўна з'явілася паслужлівасць — з'явілася без яго волі і жадання. Настаўнік дастаў з кішэні металічную вучнёўскую ручку, чарніліцу, сам тыцнуў у яе пяром. Нібы спалохаўся, што бацюшка вось-вось перадумае і адмовіцца паставіць свой подпіс.

— Толькі я хачу,— павольна вымавіў бацюшка, беручы заржавелую вучнёўскую ручку,— выправіць супроць свайго прозвішча лічбу.

— Як гэта выправіць? — не зразумеў Андрэй Кандратавіч.

— Я хачу падпісацца,— сказаў ён, узнімаючы голас,— на дзве з паловаю тысячы рублёў.

Настаўнік спалатнеў. Усяго чакаў ад бацюшкі, толькі не гэтага. Думаў, што той будзе адмаўляцца, што давядзецца з ім нямала папсаваць крыві, пускаючы ў ход стрэлы свайго красамоўства, а тут...

Бацюшка макануў пяро ў чарніліцу — на кончыку пяра зачапілася ці то нітка, ці то шматок паперы, ці то яшчэ якаясь непатрэбшчына. Андрэй Кандратавіч пачырванеў, пальцы ягоныя самі, міжвольна, скінулі з пяра тую брыдоту... Бацюшка ўзяў спіс, падумаў, на што б яго пакласці, потым прыклаў да сцяны і гэтак распісаўся. Паставіўшы подпіс, закрэсліў адну лічбу насупраць свайго прозвішча і паставіў другую і толькі тады аддаў ручку і чарніліцу Андрэю Кандратавічу.

— Дзякуй,— сказала Алена Лявонаўна.

Бацюшка пажаваў губамі і адказаў як не басам:

— Хвала богу.

І тады выкладчык фізкультуры рашыўся. Напэўна, нячысцік падбіў яго, не іначай.

— А, можа б, вы і на большую суму падпісаліся, бацюшка? — выпаліў ён.

Бацюшка, у грамадзе Елісей Ануфрыевіч Кушнярук, засунуў пальцы абедзвюх рук за шаўковы паясок з кітайкаю і, хітра гэтак усміхнуўшыся, сказаў:

— Грэх, сыне мой, грэх!

Ён назваў выкладчыка фізкультуры сынам — і гэта крыху абразіла таго, бо, як-ніяк, ён жа не парафіянін, ён прыйшоў сюды не каяцца, а падпісаць бацюшку на пазыку.

— Чаму? — спытаўся ён рэзка, нібы сваёю рэзкасцю аспрэчваў сказанае бацюшкам.

— А таму,— прагучэў адказ,— што больш — гэта ўжо гардыня, а гардыня і пыха ідзе ад нячысціка, ад яго, акаяннага.

Выкладчык фізкультуры часта заморгаў, намагаючыся нешта зразумець, але нічога не зразумеў.

— Так, так, збіваеце мяне з толку,— сказаў.

Бацюшка, не вымавіўшы больш ні слова, павярнуўся і знік у хаце гэтак жа раптоўна, як і паявіўся.

Закашляў на прызбе Панцялей.

— Ну як,— спытаўся,— падпісалі бацюшку на пазыку?

— Усіх падпісваем, дык чаму б і бацюшку не падпісаць,— сказала Алена Лявонаўна.— Можа б, ён і пакрыўдзіўся, каб да яго не звярнуліся, як вы думаеце?

— А чаго я павінен за яго думаць, няхай ён сам за сябе думае.

Андрэй Кандратавіч падышоў да дзеда, працягнуў яму свае прычындалы.

— Вы, дзед, збіраецеся вечна жыць на гэтым свеце, дык каму, як не вам, клапаціцца пра сваю дзяржаву? Калі бацюшка падпісаўся, дык вам і сам бог дазволіў... Вось тут, вось тут...

Панцялей доўга глядзеў у спіс — насупраць яго прозвішча стаяла невялічкая сума. Прыжмурыўшы вока і як не клююючы носам у паперу, паставіў подпіс.

Статак прыйшоў ужо з поля, а Зоркі ўсё не было. Міхал, які павінен быў загнаць карову ў хлеў, падумаў, што, можа, яна прыстала да іншага якога статку (у сяле быў не адзін статак) і што хутка сама прыйдзе дадому. Але час ішоў, сонца апускалася ўсё ніжэй, і хлопец пачаў трывожыцца не на жарт. У думках чамусьці палаяў Таісу, якая ўчора пайшла ў госці да бабкі Кіліны ў Новую Грэблю, нібы сястра была вінаватая ў тым, што карова не вярнулася ў час дадому... Паблукаўшы па двары, зірнуўшы колькі разоў на дарогу, замкнуў хату (маці з бацькам ужо другі дзень хадзілі па пазыцы), ключ паклаў пад камень ля сцяны і выкрашыў прабегчы тою дарогаю, якою скаціна вяртаецца з пашы.

Вячэрняе сяло курэла дымком, то з аднае, то з другое хаты смачна пахла куляшом ці юшкаю, і Міхал міжволі каўтаў сліну. Вось з адчыненых дзвярэй хлева даляцела шумнае цвырканне малака — тут ужо даілі карову. І незразумелая трывога зноўку сціснула хлапечыя грудзі.

Збочыўшы з бальшака, падаўся бакавой вулачкай да става. Вулачка была старая-старая, заўсёды гразкая, з абодвух бакоў над ёю сцяною стаялі бузіновыя кусты, узнімалася дзераза, блёкат, якімі нібыта абгароджаны былі людскія агароды. Ад усяго гэтага струменіў востры, дурнап'янавы пах. Ад яго моцна казытала ў носе, ён нібы выбіваў з Міхалкавай галавы думкі пра карову і разам з тым прымушаў думаць пра Марыйку Мельнік, з якою ён вучыўся ў адным класе і якой мінулай восенню, калі яны ўсім класам хадзілі зразаць калгасны сланечнік, крадком даў вялікі чырвоны яблык, прынесены маткаю з рынку. Марыйка тады весела засмяялася і чамусьці доўга не бралася есці той яблык, хавала пад кофтачкай, і Міхалка вельмі баяўся, каб яна часам не аддала яго каму-небудзь.

Цяпер былі летнія канікулы, і ён ужо з тыдзень не бачыў яе, а вельмі хацелася пабачыць. У думках ён уяўляў, як робіць крок-другі, і раптам перад вачамі паяўляецца Марыйка... Але вулачка была пустая, нікога не было відаць наперадзе, і Міхалкавы грудзі штосьць балюча сціскала, не давала вольна дыхаць.

Спадзяваўся адшукаць Зорку каля става — тут яна іншы раз адставала ад статку і яшчэ колькі часу скубла мураву,— але ні на лузе, ні ў лазовым зарасніку не знайшоў яе. Пытаўся ў людзей — можа яны дзе бачылі, але тыя казалі, што не, не бачылі... А можа, яна ўжо дома? Можа, заблукала дзе-небудзь і спазнілася ў час дадому, а цяпер вярнулася, сама зайшла ў хлеў і стаіць непрывязаная, чакае, калі ёй дадуць ахапак бурачніку і пачнуць даіць?.. І ён колькі было духу паляцеў дадому, паляцеў так, што аж ў галаве ўсё кругам пайшло.



Адчыніў дзверы ў хлеве — пуста. Яму не хацелася верыць уласным вачам, ён нават даланёю правёў па іх, нават бліжэй да загарадкі падышоў, нібы там стаяла Зорка і яе толькі трэба было ўбачыць...

На двары яго сустрэла маці.

— Дзе Зорка? — спыталася. Па голасе было чуваць, што яна ўжо хвалюецца, а таму ў Міхалкі на душы зрабілася цяжка і разам з тым крыўдна: хіба ж ён вінаваты!

Але нізка апусціў галаву.

— Я ў цябе пытаюся — дзе карова?

Матчын твар быў змрочны, стомлены, губы засмяглі, вочы зіхацелі глыбокім сухім бляскам. За колькі апошніх дзён яна, здаецца, нават схуднела, і голас стаў нейкі ціхі.

— Мама, я да става бегаў,— пачаў апраўдвацца Міхал,— скрозь шукаў, ды ўсё марна, нідзе не відаць.

— Дрэнна шукаў, калі каровы няма ў хлеве.

Матчыны словы ён успрыняў як загад і пабег з двара. Што ні кажы, а ў іхняй Зоркі нейкі дзікі нораў, пастухі адмаўляюцца яе пасвіць, а калі пасвяць, дык нямала перападае ёй ад іх. Гэткая яна ўжо благая, што калі надумаецца зайсці ў шкоду, дык рабі з ёю што хочаш, хоць забі, усё роўна не затрымаеш. Не затрымаеш і тады, калі раптам дзе-небудзь у полі закарціць ёй вады напіцца. Тады яна задзярэ дагары сваю рагатую галаву і як кінецца бегчы, ажно вецер засвішча, паспрабуй дагані. Нап'ецца вады — і як нічога не было, павольна сабе варочаецца ў статак.

Дзе ж яна можа быць? Міхалка бег па вуліцы, заглядаў у двары, у чужыя агароды. І чаму толькі ён не выйшаў сёння сустракаць статак, як не раз яму казала маці і як ён часам рабіў? Хоць Зорка ў іх і благая, непаслухмяная, але што яны будуць рабіць, калі раптам яна прападзе,— дзе тады ім узяць другую карову?

І Міхалку раптам гэтак стала шкада тае праклятае Зоркі, што слёзы самі паліліся з вачэй, і ён горка заплакаў. Зорка, дзе ты, хацелася яму крыкнуць у цемру, як быццам яна магла пачуць і даць адказ. Міхалка спыняў людзей, пытаўся, але тыя адказвалі, што нідзе не бачылі іх каровы. І хлопец бег далей. Цяпер ён ужо дакараў сябе за ўсё, што рабіў на працягу дня, за ўсё, пра што думаў,— трэба было думаць і клапаціцца пра адну толькі Зорку. І, дзівак, лаяў сябе, што падчас асмельваўся яшчэ думаць пра Марыйку Мельнік, што прыгадваў, як ёй падарыў яблык, а яна чамусьці доўга не ела яго.

Набегаўшыся да знямогі і ўволю паплакаўшы, Міхалка яшчэ пахадзіў каля млына, праверыў усе бліжэйшыя лагчыны, а потым з цяжкою галавою паклыпаў дадому. Што будзе, тое і будзе...

Падышоў у цемры к самай хаце і тут раптам згубіў усю сваю рашучасць. Хацеў ужо быў ступіць на панадворак, ды ногі чамусьці самі панеслі яго ў канаву, зарослую лопухам і крапівою, а ўжо адтуль за хлеў. Тут, сярод блёкату, што падступаў да самага твару, Міхалка прыхіліўся спіною да сцяны, яшчэ цёплай пасля дзённай спёкі, і заплюшчыў вочы.

Раптам пачуў, як рыпнулі дзверы ў сенцах, наставіў вуха, прыслухаўся.

— Міхалка,— гукнула маці.

«Хай сабе кліча, але не дакліча...» І раптоўна боль перахапіў яго горла, хлопец адчуў, як на вачах затрымцелі слёзы.

Чуваць было, як маці падалася цераз двор на вуліцу. Але неўзабаве вярнулася і, відаць, здагадаўшыся, што сын хаваецца дзесьці непадалёку, зноў паклікала:

— Міхалка, ідзі дадому, Зорка ўжо знайшлася. Сама прыйшла ў хлеў.

Гукала не дужа голасна, быццам ведала, што Міхалка стаіць дзесьці паблізу і добра чуе кожнае яе слова. Спярша хлопец хацеў быў выйсці на матчын голас, але пасля перадумаў — напэўна, маці хлусіць, Зорка не прыйшла дадому, ён бы ўбачыў яе, каб прыйшла. І на душы зрабілася яшчэ цяжэй. Не, ён не выйдзе...

Калі маці знікла ў хаце, Міхалка вырашыў усё ж заглянуць у хлеў. Няўжо Зорка гэтак ціха і непрыкметна магла зайсці ў хлеў? Трэба паглядзець... Ён азірнуўся і, прыгнуўшыся як не да самае зямлі, выбраўся са свае схованкі і падаўся да дзвярэй. Прыслухаўся, напружыў зрок, але нічога не пачуў і не ўбачыў. Тады, выставіўшы перад сабою рукі, накіраваўся ў той куток, дзе звычайна стаяла Зорка,— і раптам наткнуўся на яе. Карова ціха ляжала, і толькі калі да яе дакрануліся, цяжка засапла і ўстала.

Міхалка, не хаваючы свае радасці, пачаў гладзіць яе цёплую спіну, потым абдымаць за шыю, казытаць паміж рагамі, што асабліва любіла Зорка. Ён нават пацалаваў яе дзесьці ля вока. Карова прымала ягоныя пяшчоты вельмі спакойна, як належнае.

Потым выбег з хлева, кінуўся ў хату і яшчэ ў парозе радасна закрычаў:

— Мама, наша Зорка прыйшла!

Не маючы сілы схаваць свайго захаплення, ён нават забыўся ў тую хвіліну, што маці першая паведаміла яму пра гэта. Яна ж, пахмурая (мала ёй было перажыванняў праз карову, дык яшчэ і сын знік некуды), раптам пасвятлела з твару, ён зрабіўся такі добры і лагодны, якім, здаецца, ніколі і не быў. Зірнула на Міхалку вінаватымі вачамі, і ён ніяк не мог уцяміць — яму гэта вярзецца ці на самай справе маці адчувае сябе вінаватай?

— Мама,— лапатаў неслухмяным языком сын,— я зайшоў у хлеў, а яна ўжо там! Я паўсяла абабег, нідзе яе не бачыў, а потым, думаю, давай загляну ў хлеў...— Ён на тую хвіліну сапраўды не памятаў, як, засмучаны, туліўся да цёплай сцяны, баючыся паказацца на матчыны вочы, як яму ўвесь свет быў нямілы ад таго, што прапала Зорка — хоць і шалёная, ды ўсё ж карміцелька. І тут раптам змоўк, прыгадаўшы, як маці клікала, як сказала пра карову, а ён не паверыў. І ўжо ціхім голасам спытаў: — Дзе ж яна была?

— Цётка Фіёна прыгнала. Зорка на іх агародзе пасвілася.

— На якім агародзе? — ускрыкнуў Міхалка.— Дык жа я, здаецца, глядзеў і там...

— Кажу ж табе, што Фіёна прыгнала. Колькі тут было ляманту! Зорка ёй усё там збэйсала начыста...

І ўжо каторы раз за гэты вечар і ноч Міхалка зноў адчуў сваю віну. Маці, разумеючы душэўны стан сына, сказала:

— Ды яна гэта не ўпершыню, ты ж ведаеш. Думала неяк прадаць яе, але хто купіць такую? Ды і, кажучы па шчырасці, ці купіш лепшую? Добрых кароў нешта не відаць на кірмашы, не выводзяць.

— Мама,— урэшце адважыўся выказаць сваю патаемную думку Міхалка.— А што каб купіць цяля ад добрай каровы і пачакаць, пакуль яно падрасце...

— Можна і цяля... Толькі добрага кожны трымае для сябе ці для сваякоў... А што вы будзеце есці, пакуль яно пачне даіцца? Ды і што возьмеш ад каровы першым целем...

— Неяк жа абышліся б.



— Не, без каровы пакуль што не абыдзешся...— і ўжо другім тонам дадала: — Ну, хопіць пра скаціну, садзіся вячэраць...

Паставіла перад ім вялікі кубак сырадою, дала лусту хлеба. І такое ўсё было смачнае, што Міхалка ажно прыжмурыў вочы ад шчасця — апетытна жаваў жытні хлеб і запіваў маленькімі глыткамі малака...

Колькі вяскоўцаў яны падпісалі без усякае марокі, тут і расказваць няма патрэбы. Гэта былі актывісты, тыя, на кім заўжды калгас трымаўся і заўсёды трымацца будзе, тыя, хто грамадскае, калектыўнае ўспрымалі як сваё роднае, кроўнае. Гэтыя людзі падпісваліся не першы раз, і Алена Лявонаўна, ідучы да іх, ведала, што тут не давядзецца ні ўпрошваць, ні пераконваць.

— Вось каб усе гэтак,— казаў Андрэй Кандратавіч.

— Справа тут у свядомасці,— адказала яму Алена Лявонаўна.— Не ва ўсіх яна аднолькавая. Некаторых, можа, і пераканаць трэба. А калі чалавека пераканаеш, дык ён наўрад ці будзе горшы за актывіста, бо таксама пачне правільна разумець свой абавязак.

...Хата Пекураў стаяла наводшыбе, паміж гліннянымі кар'ерамі і калгасным садам, бліжэй да вады. Калгасны сад калісьці быў панскі, рос ён каля вялікага мураванага палаца, што ўзвышаўся над мядзвенецкімі пагоркамі, чырванеў цаглянымі сценамі, пабліскваў шырокімі вокнамі. У рэвалюцыю будынак спалілі, а потым паступова разабралі па цагліне, выкарыстоўваючы цэглу на розныя гаспадарчыя патрэбы. Асталіся адны толькі сутарэнні пад колішняю камяніцаю — тыя сутарэнні калгас прыстасаваў пад лядоўні, а таксама сховішчы гаручага для тэхнікі. Паасобныя сутарэнні разбурыліся і былі ўжо непрыдатныя для гаспадарчых мэт. У сяле хадзіла пагудка, што некалі яны былі злучаны са старадаўнімі пячорамі-норамі, якія нібыта пралягалі пад усім Мядзвенцам і ў якіх у старажытныя часы людзі ратаваліся ад татараў.

Хата Пекураў стаяла бліжэй за іншыя да колішняга панскага двара, і ў Мядзвенцы расказвалі, быццам бы Грыцко са свайго склепа адшукаў патаемны ход да тых старажытных падземных нораў, што ён мае доступ да золата, зачараванага і заклятага, якое, нібыта, там схавана. Некаторыя вяскоўцы, асабліва дзеці, верылі ў гэта, і пагалоска пра казачнае багацце надавала асобе Грыцка Пекура яшчэ больш таемнасці і незвычайнасці.

— А дзе гэта ваш гаспадар? — пацікавіўся Андрэй Кандратавіч, калі яны пераступілі парог і апынуліся ў якімсьці як бы бязладдзі, але такім, якое мела нейкую сваю дзіўную сістэму,— меншыя дзеці таўкліся на падлозе, старэйшыя — каля стала або сядзелі на тапчане. Кожны быў заняты сваёю справаю, і толькі некаторыя з іх звярнулі ўвагу на позніх гасцей.

Кацярына Пекур стаяла ля печы — не паспела ў час згатаваць вячэры. Гаспадыня адарвалася ад чапельніка і вачамі, якія раптам зрабіліся вялікія-вялікія, утаропілася на гасцей. Відаць, адразу здагадалася, што́ прывяло іх да яе, і прыкра сцяла вусны.

— Вы ж нядаўна прыходзілі ўжо,— сказала яна.

— Падабаецца нам у вашай хаце,— падала голас Алена Лявонаўна, якой і сапраўды прыйшліся да спадобы і гэты дамок, поўны дзіцячай гаманы, і сама гаспадыня, якая, ні на хвіліну не прысядаючы, мітусілася ў рабоце каля сваёй вялікай сям'і.

— Вы ведаеце,— шчыра прызналася Кацярына,— я на вас не па-



крыўдзілася б, каб перастала вам падабацца. Нават рада была б,— дадала яна, не хаваючы свайго настрою.

— Ой, ёй! — толькі і вымавіла Алена Лявонаўна. Але не ўгневалася на Кацярыну за яе словы, не — такою ўжо ведала яна гэтую жанчыну і не злавалася на яе, што б тая ні рабіла ці ні казала.

Выкладчык фізкультуры, відаць, пабойваўся яе — шчырай, непасрэднай; яна не магла змоўчаць нават тады, калі яе словы білі яе ж самую.

Але на гэты раз уся гэтая гамана, мусіць, пачала ўжо злаваць яго, ды ён і канца ёй не бачыў. Час быў позні, даўно пара было пераходзіць да справы.

— Так, відаць, вы і на самай справе хворая,— нібы згадзіўся ён з гаспадыняю.— Ды і Грыцко за дзесяцёх стараецца. Але чаго ж вы тады па рынках ды кірмашах гайсаеце, што вас усюды ведаюць — і ў Калінаўцы, і ў Вінніцы, і ў Данбас са сваімі клункамі наведваецеся, нават кажуць, што і ў Беларусь пратапталі сцежачку?

— Ну і што з таго? — не стала пярэчыць Кацярына.

— Як гэта што? — збянтэжыўся Андрэй Кандратавіч.

— Хіба гэтыя паходы ўмацоўваюць маё здароўе?

— Каб не было здароўя, дык на печы ляжалі б!

— Ого-го-го, чалавеча! — уздыхнула гаспадыня.— Такога нагаварыў, што ні ў якія вароты не ўлезе. Ды як жа мне ляжаць на печы, калі кожнага з іх,— яна кіўнула на дзіцячую чараду,— накарміць і апрануць трэба? Калі вы хочаце ведаць, дык, можа, уся гэтая сям'я на мне і трымаецца, на тым, што я ў Данбас часта наведваюся... Дужа мне хочацца ездзіць туды...

— А вам што, цётка, Грыцко патрэбен дзеля шырмы, каб хавацца за яго, ці як?

— Можа, і для шырмы, вам, напэўна, відаць лепш, для чаго ён мне патрэбен...

— Ну, вы па слова ў кішэню не лезеце,— буркнуў Андрэй Кандратавіч прымірэнчым тонам.

На нейкую хвілю ўсе сціхлі, нібы збіраліся з думкамі. «Можа, сказаць ёй пра бацюшку? — мільганула ў галаве ў настаўніка.— Ды толькі бацюшка для яе не закон, яна не верыць у бога, у царкву не ходзіць».

— Позна ўжо...— першая парушыла маўчанне Алена Лявонаўна, якая да гэтага стаяла ў парозе і добра разумела, што гэты іх прыход, як і папярэдні, нічога не дасць.

— Сапраўды, позна,— ахвотна згадзілася Кацярына.

— Што ж гэта атрымліваецца? — азваўся Андрэй Кандратавіч.— Выходзіць, мы павінны пайсці ад вас ні з чым, пагадзіцца з тым, што

вы не падпішацеся? Выходзіць, што мы пакрываем вас, як спекулянтку і сімулянтку?

— Як гэта вы мяне пакрываеце?

— Бо не дабіліся ад вас падпіскі!

— Супакойцеся, Андрэй Кандратавіч,— узяла яго за рукаў Алена Лявонаўна.— Не лайце Кацярыну, у хаце ж дзеці.

Але ён нібы і не чуў яе. Злосная ўхмылка скрывіла ягоныя губы, нядобрым агеньчыкам запаліла вочы.

— Падумаць толькі,— развёў ён рукамі,— усе людзі як людзі, у калгасе працуюць, на пазыку падпісваюцца, а наша Кацярына Пекур ведае толькі рынак, выбівае грошы, падпісвацца на пазыку не хоча, а мы яшчэ будзем пакрываць яе? Так, так... Не, пакрываць вас ніхто не будзе!

— Ну, цішэй вы, цішэй,— торгала яго за локаць Алена Лявонаўна.

— Дальбог, дзіўна атрымліваецца! — не супакойваўся выкладчык фізкультуры.— Ніякага сумлення няма ў людзей, ні крапелькі. Як гэта вы сваіх дзяцей выхоўваеце? Яны ж у вас ваўкамі павырастаюць, на ўсё спадылба пазіраць будуць...

Гаспадыня злосна адказала:

— Вы за маіх дзяцей не хвалюйцеся, я сама пра іх паклапачуся! Вы,— павярнулася Кацярына да настаўніцы,— добрая жанчына, растлумачце яму, што ён не мае рацыі...

— Чаго ж гэта ён не мае рацыі? — здзівілася Алена Лявонаўна, адчуваючы, як у яе неспадзявана закіпае ў сэрцы гнеў.— Не, не, гэта вы не маеце рацыі!

— Я?

— Вы!— амаль ускрыкнула настаўніца і сама спалохалася свайго рэзкага голасу.— Бо дбаеце толькі пра сябе.

— А пра каго ж мне яшчэ дбаць? — насядала Кацярына.

— Пра ўсіх!

— А вы пра ўсіх дбаеце?

— Я,— адольваючы хваляванне, што сціскала ёй горла,— пра ўсіх дбаю! І пра сваю сям'ю, і пра вашу! Усіх бы прытуліла да грудзей!

— Усю краіну?

— Усю! — кінула ёй у твар Алена Лявонаўна, адчуваючы, што кажа тую праўду, што вымаўляе тыя словы, якія ў сваім жыцці можа сказаць толькі раз, не болей.

— Кожнага? — ніяк не магла паверыць Кацярына.

— Кожнага!

Гаспадыня змоўкла, узрушаная, і доўга не спускала вачэй з Алены Лявонаўны. Здавалася, вось-вось кіне ў адказ штосьці вострае і злое, але так і не абазвалася. Нібыта ашаламіла яе гэтая людская шчырасць.

Алена Лявонаўна, бледная і ўсхваляваная, узялася за клямку дзвярэй.

— Дык вы падумайце,— сказаў гаспадыні Андрэй Кандратавіч.

Кацярына быццам бы і не чула выкладчыка фізкультуры, яна паранейшаму пільна глядзела на Алену Лявонаўну, якая пераступіла ўжо парог хаты...

Той вечар і тая ноч запомніліся Шкарубам на ўсё жыццё. Пазней яны не раз прыгадвалі падрабязнасці таго дня, кожная драбніца здавалася ім важнаю, кожнай яны надавалі значэнне...

Неяк адвячоркам вярнулася Таіса — з Новай Грэблі, дзе тыдзень



гасцявала ў бабкі. Бацька, маці і Міхалка якраз былі дома, сустрэлі яны Таісу так, нібы не бачылі яе прынамсі з месяц. Распытвалі пра Новую Грэблю, пра дзеда і бабку, пра іх жыццё, і на ўсе гэтыя пытанні Таіса адказвала аднолькава:

— А што, стаіць Новая Грэбля там, дзе і дагэтуль стаяла.

Або так:

— А што, жывуць дзед з бабкаю, чужых курэй ганяюць на агародзе, сварацца, як заўжды.

Алене Лявонаўне не цярпелася даведацца пра іх здароўе, але Таіса не ўмела задаволіць матчыну цікаўнасць.

— А што,— казала,— дзед хапаецца за грудзі, бабка за паясніцу ўвесь час трымаецца, а ранкам адно аднаму свае начныя сны ды страхі расказваюць. Гэтак, як і заўсёды, хіба вы не ведаеце...

За гэты кароткі тыдзень, пакуль Таісы не было дома, з ёю як бы штосьці адбылося, штосьці змянілася. Ці то ў паводзінах стала больш стрыманая, ці то выраз твару стаў больш сур'ёзны, ці то вочы засвяціліся таямніцаю пра тое, чаго яна раней не ведала, а вось цяпер спазнала... Таіса доўга не затрымалася ў хаце — хуценька дастала сукенку з куфра, адпрасавала, пакруцілася ў ёй перад люстэркам і пабегла да сяброўак.

Міхал узяўся быў за кніжку, але яму не чыталася — усё чамусьці думалася пра Таісу, пра яе нібыта звычайныя і ў той жа час нейкія дзіўныя паводзіны. Адклаўшы ўбок кніжку, пайшоў у агарод нарваць бурачніку, бо хутка павінна была прыйсці Зорка з выгану. Рваў больш сакавітае лісце або тое, што ўжо крыху пажоўкла па краях, схілілася да зямлі. Выполваў павітуху і лебяду, якія трапляліся ў бульбе, удыхаў сухі пах пылу, які моцна казытаў у носе, а сам неадступна думаў пра сястру.

Потым прыйшла Варка. Нібы пазычыць запалак, бо ў краме не было на той час. Далі ёй запалак, магла б ужо ісці, але не дужа спяшалася. Здавалася б, і гаварыць не было пра што, ды гэта яе не турбавала,— пераступала спакойна сабе з нагі на нагу і не спускала вачэй з гаспадароў.

— Маеце нешта сказаць цікавае, Вара? — спытаўся Нікан Іванавіч, і ў ягоным голасе прагучала непрыхаванае пакепліванне.

— Ды не, ды не,— пакруціла галавою Варка, а потым падміргнула адным вокам Алене Лявонаўне. Маўляў, выйдзем на вуліцу, скажу нешта, толькі адзін на адзін. І калі яны выйшлі ў сенцы, Варка выглянула на панадворак, нібы там мог хто-небудзь стаяць і падслухоўваць яе, і ціхім голасам паведаміла: — Сёння са старшыніхаю сустрэлася, ля гаці, на тым самым месцы, дзе яна была затрымала мяне і адабрала жменю таго няшчаснага зерня. Дык ведаеце? Спярша міма прайшла, быццам і не бачыла, а тады спынілася і паклікала. Я да яе падыходжу, ну, думаю, зноў абшукваць мяне пачне. Стаю перад ёю, пазіраю ў вочы, хоць бы маргнула. А яна маўчыць і прыжмурылася-прыжмурылася, як быццам я не побач стаю, а дзесьці далёка-далёка, і яна стараецца ўбачыць мяне. Потым памахала пальцам перад самым маім носам, як маленькаму таму дзіцяці, і сказала: «Каб гэта было ў апошні раз». І пайшла сваёю дарогаю. А я доўга яшчэ не магла з месца крануцца, ногі як дзеравянныя... Дык вось і хачу запытацца ў вас: што б гэта маглі значыць яе словы?

— Мабыць, тое, што берагчыся павінны, Вара, а пра тое, што было, старшыніха і не ўспамінае.

— І я гэтак думаю! — І халадок, які засціў Варчыны вочы, адразу

знік.— Дзякуй вам, Алена Лявонаўна. Ніколі не забудуся пра вашы добрыя словы.

— За што ж мне дзякаваць?

— Хіба ж вы забыліся? А хто хадзіў да старшыніхі, хто прасіў за мяне? Як бачыце, паслухала яна вас, інакш была б мне вялікая бяда, не пашкадавала б мяне старшыніха...

— Ды што ты, Вара,— замахала рукамі настаўніца.— Старшыніха свой мае розум і сэрца, ёй не трэба падказваць, што рабіць.

— Розум ды сэрца мае, гэта так... Але вашае ласкі я ніколі не забуду, як сабе хочаце.

«Варка быццам пагражае мне сваёй будучай падзякай»,— чамусьці падумалася Алене Лявонаўне, і яна ўсміхнулася.

Потым прыйшоў Сцяпан Кушта. Як заўсёды, павольна пераступіў парог, кашлянуў разоў колькі. Дробнымі крокамі падышоў да крэсла, пакратаў яго і ўжо тады асцярожна сеў. Не спяшаючыся, зняў з галавы шапку і, паклаўшы на калені, ухапіўся за яе абедзвюма рукамі. Левае яго здаровае вока свяцілася, крывавілася тонкімі жылкамі, калі Кушта кідаў позірк на бакі. На лбе сеяліся дробныя кропелькі поту (чыстыя празрыстыя зярняткі на чорнай раллі, бо такою раллёю зрабіўся ягоны лоб ад сонца і ветру).

— Што новага чуваць, Сцяпане? — спытаўся Нікан Іванавіч. Ён толькі сеў вячэраць. На нейкую хвілю адклаў лыжку, потым усё ж даеў юшку, праўда, сёрбаў ужо не спяшаючыся.

— Што новага? — Кушта зноў кашлянуў раз-другі, пакруціў па хаце сваім адзіным вокам.— Усё новае.— І ўслед за гэтым утаропіўся на Алену Лявонаўну, нібы спадзяваўся, што яна адна толькі і зразумее патайны сэнс, які ён уклаў у свой адказ.

— Так, так...— лёгка згадзіўся Нікан Іванавіч, быццам бы і не спадзеючыся пачуць ад Сцяпана якія-небудзь навіны.

— Мая Наста Васільеўна таксама хадзіла падпісваць на пазыку,— сказаў Кушта і ўсміхнуўся куткамі губ. Усмешка тая патрымцела з хвіліну і знікла.

Настаўнікі чамусьці не захацелі гаварыць пра гэта. Кушта ж — па ўсім відаць — рваўся выказаць свае меркаванні. На яго губах зноў паявілася ўсмешка — як запрашэнне пагаманіць, як запрашэнне да шчырага абмену думкамі.

— Ну і што? — неахвотна спытаўся Нікан Іванавіч.

— А што? Падпісала ўсіх. Яна ў мяне такая.

Дастаў папяросу, пакруціў між пальцаў, а потым, успомніўшы, што Нікан Іванавіч не курыць, што ў гэтай хаце не любяць тытунёвага дыму, паклаў назад у кішэню.

— А мяне бяруць на работу,— сказаў. Мабыць, таму і прыйшоў, каб паведаміць навіну.

— У калгас? — пацікавілася Алена Лявонаўна, тым самым даючы зразумець Кушту, што яна таксама слухае яго.

— Што мне ў калгасе рабіць з адным вокам? — паціснуў плячмі Сцяпан.— Там для мяне нічога прыстойнага няма.

— Куды ж тады? Можа, у вобласць накіраванне даюць? — пажартаваў Нікан Іванавіч.

— У вобласць я не паехаў бы, каб і пасылалі. Там і без мяне хапае...— і змоўк, не растлумачыўшы, каго ж там хапае.— Мяне рыбаком бяруць.

І пільна паглядзеў на абоіх — якое зрабіў на іх уражанне.

— Цябе — рыбаком? — шчыра здзівіўся Нікан Іванавіч.— Мне не верыцца, каб у рыбгасе забыліся пра твае грахі.



— Відаць, не забыліся,— згадзіўся Кушта.— Не забыліся, але і на работу ўзялі.

У яго быў такі выгляд, нібы ён толькі што прадэманстраваў ім складаны фокус. Увесь ажно ззяў ад задавальнення. Асаблівай радасцю свяцілася яго жывое вока, ды і мёртвае, прыкрытае павекам, таксама, здаецца, выпраменьвала радасць.

— Ну, цяпер ужо браканьерам бяда! — пакруціў галавою Нікан Іванавіч.

— Вядомая справа! — згадзіўся Кушта.— Я ж усе сцежкі-дарожкі каля става ведаю, усе падыходы, выхады. Ведаю, дзе бярэцца рыба, а дзе не, ведаю, дзе хто ставіць венцяры, дзе хто з трыгубіцаю шастае. Хто лепш за мяне пра ўсё гэта ведае?

— Не, не будзе цяпер браканьерам жыцця,— згадзілася з мужам Алена Лявонаўна.

Кушта гэтак дзіўна крутнуў сваёю кучматаю, непрычасанаю галавою, нібыта тым рухам хацеў сказаць, што, можа, яно будзе так, а можа, і не так...

— А што — не? — перахапіў той рух Нікан Іванавіч.

Сцяпан адказаў прымаўкаю, да якой часта звяртаўся, калі не хацеў гаварыць проста і шчыра:

— Казаў глухі — пачуем, казаў сляпы — пабачым,— і ў кутку ягоных губ зноў затрымцела ўсмешка...

Потым яны ляглі адпачываць. Нікан Іванавіч узяўся чытаць кнігу, Міхал таксама. А паколькі лямпа стаяла на печы, дзе ляжаў бацька, дык Міхал чытаў, стоячы на тапчане. Алена Лявонаўна ніколі не клалася разам з усімі — яна павінна была ўсё падрыхтаваць на заўтрашні дзень. А што — усё? Па-першае, намыць бульбы і лушпаек для свінні, каб раніцою адразу расклаці агонь і згатаваць. Апрача таго, наабіраць бульбы для сям'і — на сняданак і на абед, заліць вадою і паставіць у печ. Адным словам, клопату ёй хапала, таму і клалася спаць пазней за ўсіх.

Таіса вярнулася дахаты, калі бацька і Міхал спалі і лямпа была патушана. Толькі маці яшчэ нечага корпалася пры цьмяным святле каганца. Таіса зайшла амаль нячутна, хацела ўжо хуценька распрануцца і цішком шмыгнуць у пасцель, але маці спыталася, дзе яна гэтак позна гуляла.

— У Марыі Мельнік была...— зусім нявінным тонам адказала дачка.

Міхалка, дрэмлючы, пачуў гэтае імя, і яго раптам нібы варам хто абліў.

Скончыўшы са сваімі справамі, Алена Лявонаўна патушыла каганец і падалася да свае пасцелі. Зняла з сябе блузку ды так і застыла з ёю ў руках. Дзеці ўжо спалі — абое дыхалі глыбока, роўна. Нікан дыхаў цяжка, з прысвістам,— гэтак заўсёды, пакуль хоць крышку не адпачне... Ці то нейкая няпэўнасць авалодала ёю, ці то яшчэ нешта, толькі нечакана адчула Алена Лявонаўна, што і сцены хаты, і столь, і дах нібы ажылі і нагадалі шкуру нейкай дзіўнай істоты, што напнулася з усяе сілы і трымае ў сваім палоне. Гэтак жа і ноч, што пазірала ў вокны, здалася ёй жывою, адухоўленаю, а не сляпою і бяздушнаю цемраю.

Магчыма, гэтае адчуванне прымусіла, а можа якое іншае, толькі Алена Лявонаўна, усё яшчэ трымаючы ў руках блузку, падалася да дзвярэй, потым у цёмных сенцах прыпынілася на нейкі момант, прыслухалася да гукаў на панадворку і тады ўжо ўзялася за засаўку. За-

саўка, як заўсёды, жаласліва застагнала, потым аціхла, і дзверы з працяглым рыпам адчыніліся.

Здалося Алене Лявонаўне, а можа, і на самай справе штось зашастала там за хлевам, а потым зашархацела ў сланечніку ўздоўж мяжы. Шорхат часам то аціхаў, то зноў парушаў начную цішыню. Мусіць, нехта бег, штораз супыняючыся і прыслухоўваючыся, але ноч была цёмная, без месяца, не надта разгледзіш.

Алена Лявонаўна прытулілася да вушака, каб непрыкметнаю зрабіцца, а калі ў сланечніку зусім аціхла, усё яшчэ з блузкаю ў руках ступіла з ганку на панадворак. Хацела паглядзець — што там, за хлевам.

Зрабіла колькі крокаў і раптам спынілася як укапаная — штосьці чырванела на хаце, каля вільчыка. Спярша ніяк не магла ўцяміць, што там гэтак свеціцца, што б гэта магло так пунсавець, з кожнай хвіляй усё ярчэй і ярчэй. Нарэшце яна змагла адарваць ногі ад зямлі, праз сілу набрала даўкага паветра ў грудзі, бо перад гэтым не дыхала, і, нічога не бачачы перад сабою, стрымгалоў кінулася ў хату.

— Гарым! — нема закрычала яна і не пачула ўласнага голасу. Таму зноў закрычала: — Гарым, ратуйцеся, дзеці, Нікан!

Таіса ў сваім ложку заплакала адразу, нібы яна і не спала зусім. Нікан Іванавіч прачнуўся, штосьці спытаўся і, не чакаючы адказу, усё зразумеў — цяжкім мехам зваліўся на тапчан, на Міхала, які мармытаў нешта праз сон, балюча ўдарыў плячом Алену Лявонаўну, моцна выцяў нагу ў парозе, бо не разабраў дарогі, і цяпер босы бегаў па сядзібе.

Міхал нарэшце ачомаўся, саскочыў з тапчана і, схапіўшы пасцель сваю, закрычаў:

— Хапайце радно, будзем радном тушыць!

І як толькі Алена Лявонаўна пачула ад яго, што трэба тушыць, яна схапіла два поўныя вядры вады і, разліваючы іх, пабегла з хаты.

Таіса, усхліпваючы, сядзела на ложку і паглядала на вокны — яе чамусьці найбольш палохала тое, што вось яны гараць, гінуць, а вокны цёмныя і нідзе не відаць ніякага полымя, не чуваць людскога ляманту. Міхал, цягнучы на двор радно і коўдру, стукнуў яе кулаком па патыліцы, закрычаў:

— Чаго румзаеш, хату ратуй!

Пакуль дзеці выбеглі на вуліцу, з пажарам, здаецца, усё было скончана. Бацька, прыставіўшы да сцяны драбіны, старанна малаціў рыдлёўкаю па страсе. Потым штось зашархацела над дзіцячымі галовамі — гэта ён зрываў снапы і скідаў іх на зямлю. Алена Лявонаўна перадала яму ўжо два вядры вады, якія ён тут жа выліў; цяпер яна, задыхаючыся ад хвалявання і ўтомы, цягнула з калодзежа цэбрык, які гулка стукаўся аб цэментныя трубы. Непадалёку ад хлева нешта зырка гарэла. Таіса падбегла да таго агню, утаропілася ў яго непаразумелымі вачамі, а Міхал падняўся па драбінах і кінуў на страху, нават не ведаючы — туды ці не,— усю сваю пасцель, на якой спаў.

— Ты што робіш? — лютым голасам закрычаў Нікан Іванавіч.— Што гэта ты кінуў?

— Я тушу пажар,— калоцячыся ад узбуджэння, адказаў Міхал, хоць і не бачыў, каб на хаце што-небудзь гарэла. Толькі цягнула аднекуль дымам і прыпаленай саломай.

— Ану прэч адсюль! — крыкнуў бацька, потым схапіў усё тое, што прыцягнуў сын, і кінуў на зямлю.

Па драбінах зноў падымалася маці. Міхал, нічога не бачачы перад сабою, скочыў уніз. Над ягонай галавой прашархацеў снапок і плюхнуўся на зямлю — бацька і далей зрываў страху. Алена Лявонаўна выліла вядро вады і сабралася была бегчы па другое. У гэты момант пачуўся загад Нікана Іванавіча — ці то ёй, ці то дзецям:

— Патушыць агонь каля хлева! Гэта чыясьці фуфайка, потым даведаемся, чыя!

Міхал падбег да агню з такою рашучасцю, нібы хацеў схапіць яго рукамі — але дзе там падступішся! Тады хлопец змікіціў узяць у сенцах рыдлёўку і праз якую хвіліну ўжо збіваў зямлёю полымя. Спачатку яно не паддавалася, з сілаю выбівалася з-пад насыпанай зямлі, але Міхал усё сыпаў пясок. Неўзабаве на тым месцы ўзнімаўся толькі лёгкі шызы дымок.

— Тапчы нагамі! — загадаў ён Таісе, якая стаяла непадалёку разгубленая і, здаецца, нават не дыхала.

Дзяўчыну быццам ад сну адарвалі — яна пачала хуценька перабіраць нагамі па накіданай зямлі. Гэтак жа заўзята пачаў таптацца і Міхал, адчуваючы голымі пятамі цёплую зямлю і прытушаныя анучы.

Адразу зрабілася цёмна, толькі бацькава постаць яшчэ мяльцешыла на страсе, ды чуваць было, як рыпіць калаўрот — маці спяшалася набраць вады з калодзежа.

— Міхал, прынясі лямпу! — крыкнуў бацька.

Хлопец запаліў лямпу і, узабраўшыся па драбінах, хацеў быў падаць яе бацьку. Але той нечакана сказаў:

— Патушы, не трэба!

І Міхал паслухмяна патушыў, пры гэтым падумаў: а і сапраўды — навошта яна на страсе? А можа, агонь яшчэ не патушаны, а можа, ён дзе-небудзь яшчэ тлее ў саломе, стаіўшыся. Пры святле лямпы яго, бадай, і не заўважыш, а ў цемры адразу ўгледзіш.

— Памажыце маці несці ваду! — зноў прагучаў бацькаў загад.

Неўзабаве яны залілі ўсю страху — і тую, што гарэла, і тую, што магла загарэцца. На ўсякі выпадак падрыхтавалі яшчэ колькі вёдзер з вадою — стаялі ўнізе каля драбінаў, пад рукою. Бацька сядзеў на кукішках на хаце, учапіўшыся рукамі за голыя латы.

— Ідзіце кладзіцеся спаць, а я тут яшчэ крышку пасяджу,— сказаў бацька нейкім чужым голасам.

Ніхто яго не паслухаў, не пайшоў спаць. Таіса села ля калодзежа і са страхам пазірала навокал — яна не хацела і думаць пра тое, каб зайсці ў хату, ёй усё здавалася, што там нельга схавацца, што там — пастка. А Міхал, сціснуўшы кулакі, моўчкі хадзіў каля ганка, нібыта хацеў падпільнаваць невядомага ліхадзея.

Заснулі дзеці толькі на досвітку — седзячы пад хатаю. Маці ўкрыла іх коўдраю. А сама не сплюшчыла вачэй, гэтак жа, як і Нікан Іванавіч, які ўсё не злазіў са страхі.

Нікан Іванавіч адкапаў абгарэлую фуфайку, доўга і ўважліва разглядаў яе, але хіба што пазнаеш, калі яна амаль уся сатлела? Трэба было б адразу прытушыць, ды мусіў жа ратаваць хату... Калі ён збіваў са страхі полымя і скідаў салому, дык заўважыў, што нібыта фуфайка ўпала. Хтосьці ўзяў сваю старую фуфайку, зусім, вядома, непатрэбную, абліў яе газаю і, падкраўшыся к хаце, падпаліў і закінуў на страху. Якраз у той момант і выйшла на парог Алена Лявонаўна. Менавіта тады. Падпальшчык схаваўся за хлевам, а потым ужо кінуўся бегчы праз сланечнік. Нікан Іванавіч прайшоў па мяжы, хацеў угледзець які-небудзь след, але марна...

«Хто б гэта мог быць?
І за што?»

І таму, што не ведаў, гатовы быў падазраваць любога. Пазіраў на суседскія хаты, і яму здавалася, што ад кожнае патыхае варожасцю. Так, яны нядаўна прыехалі сюды, чужыя ў гэтым сяле. Але хіба праз гэта паляць хаты?.. Ды і хата гэтая не іх, даў ім яе сельсавет... Але калі далі ім, дык выходзіць, што цяпер ужо стала іхняю, і палілі не каго-небудзь, а іх...

Раніцою першая прыйшла Яўдошка. Зайшла на панадворак не з таго боку, дзе гарэла, таму нічога і не заўважыла. А прынесла яна гузікі для сваёй сукенкі — беленькія, на чатыры дзірачкі.

— Ужо даўно пара было прыйсці, але гэтулькі цяпер тае работы, што ніяк не выпала раней.— Гаварыла, а каля рота і пад вачамі збіраліся тонкія рысачкі і трымцелі павучынкамі. І без таго тонкія губы зусім выцягнуліся ў нітку,— пра такіх людзей у Мядзвенцы казалі, што яны скупенды.

— Я не паспела яшчэ нават скроіць,— сказала Алена Лявонаўна.— Столькі папахадзіла з таею пазыкаю, што было не да шыцця.

Яўдошку яны з Андрэем Кандратавічам таксама падпісалі, толькі не ў першы дзень, калі прыходзілі да Хрушчоў, а на другі, наведаўшы іх гаспадарку на світанні.

— І які толькі клопат не кладзецца на плечы гэтым настаўнікам,— паспачувала Яўдошка, але ў яе голасе гэтае спачуванне чамусьці не азвалася. Усё ж умела яна хітраваць, магла і схлусіць пры выпадку.

Алене Лявонаўне цяжка было адказваць — нібы тую аблітую газаю фуфайку кінулі ёй у душу, і цяпер там усё было прыпалена, смылела.

Яўдошка, пашчабятаўшы пра пятае і дзесятае, пакінула гузікі на чорнай далоні Алены Лявонаўны і пайшла з хаты, але тут жа вярнулася — на яе шчоках, падобных да пампушак, застыла шчырае здзіўленне.

— А чаго гэта ў вас паздзірана страха? — спыталася.

Настаўніца апусціла долу вочы і ціха адказала:

— Хтосьці хацеў гэтай ноччу падпаліць, ды перашкодзілі.

«Можа, і не варта было казаць,— падумала Алена Лявонаўна.— Не згарэлі ж... Але ўсё адно даznаюцца. Ды і навошта хавацца? Нібы я хачу некага пакрыць... І чаму б гэта? Ці не таму, што мне самой і цяпер яшчэ не верыцца, што гэта праўда? А хіба можна блага думаць пра ўсіх аднавяскоўцаў, вінаваты ж нехта адзін».

Яўдошку раптам нібы хто ледзяною вадою абліў — твар зрабіўся жорсткі, у вачах заблісkалі вострыя агеньчыкі.

— Ведаеце што...— выгукнула яна,— далёкі які чалавек паліць не прыйдзе.

Сказала — і быццам спалохалася слоў, якія сарваліся з языка. Гэта ж на сваіх вяскоўцаў набрахала і ў першую чаргу — на суседзяў. Алена ж Лявонаўна гэтак блага сябе адчувала, што ні аб чым не магла распытваць. І свае і чужыя словы цяжкім каменем ляглі на сэрца і балюча ранілі свядомасць.

Пачуўшы Яўдошчына абурэнне, да іх падышоў Нікан Іванавіч.

— Ну, ну,— падахвоціў ён госцю.— Само сабою зразумела, што чужы і далёкі чалавек не прыйдзе, а свой, блізкі сусед, якога штодня сустракаеш. На вас, Яўдошка, я не падумаю, хоць вы і побач жывяцё, і на вашых бацькоў не падумаю. І ўсё-такі хто б мог гэта зрабіць, га?



«Нікан!» — чамусь хацелася Алене Лявонаўне засцерагчы яго, але язык быццам адзервянеў.

— Хіба бачыла я? — адказала Яўдошка. А сама падумала: «Ды каб і бачыла, усё роўна не прызналася б, бо не такая я дурніца».

— Вядома, што не бачыла, ніхто не бачыў, але вось вы сказалі, што далёкі не прыйшоў бы, што гэта справа рук сваіх.

Яўдошка адвяла вочы ўбок, з хвіліну падумала і потым дадала:

— Я гэтага не казала!

Ад неспадзеўкі Нікан Іванавіч ажно рукі развёў, ажно прысеў. Аднак Яўдошка мужна вытрымала яго здзіўлены позірк.

— То, можа, пачуеце што..— сарвалася з языка ў Нікана Іванавіча.

— Цяпер багата гавораць...— Яўдошка гэтак зморшчыла лоб, што можна было прасачыць, як у яе спее новая неспадзяваная думка. І павярнулася да Алены Лявонаўны: — Дык, можа, цяпер вы і сукенкі мне не пашыеце?

Настаўніца не магла ўцяміць — куды тая верне?

— Ну, калі не зможаце,— цягнула далей Яўдошка,— дык я сваю крамніну забяру, каб не чыніць вам лішняга клопату.

— Нічога, хай паляжыць, вось крышку часу выпадзе болей, пашыю...

— Ой, ой, хіба вам, Алена Лявонаўна, цяпер да гэтага? Дзякуй, Алена Лявонаўна, і за тое, што прынялі ў мяне заказ, што не адмовілі...

Яўдошка настойвала, каб ёй вярнулі крамніну, і настаўніца схадзіла ў хату, вынесла пакунак. Госця пачала гэтак горача дзякаваць, быццам бы заказ і на самай справе быў выкананы. А потым, схаваўшы пакунак пад блузку, хуценька пакацілася з двара. Ну, цяпер ужо ўсё сяло праз якія паўгадзіны будзе ведаць пра падпал; адны прыйдуць адразу, каб асабіста пераканацца, другія — пазней, але ўсё роўна не абыдуць стараною месца, дзе стаіць хата Шкарубаў...

Нікан Іванавіч пазіраў самотнымі і разам з тым умольнымі вачамі на сваю жонку. Ён неяк адразу пашарэў, зблякнуў, нібы з галавы да ног пакрыўся тонкім слоем пылу. Пакусаныя губы здаваліся як нежывыя.

— За што? І хто б гэта? — нарэшце спытаўся ў яе пра тое, што яго мучыла ўвесь час і не адпускала. Спытаўся так, нібы настойліва вымагаў дакладнага адказу.— Відаць жа, не Яўдошка, бо так не паводзіла б сябе. А можа, і прыйшла б, у яе такая натура, каб падпаліла — прыйшла б падзівіцца, але гэта не Яўдошка... І Варка не магла, праўда? Ты ж ёй не раз памагала, не магла яна... Трэба зверам быць, каб пайсці на гэта. І не Кушта, не, не Кушта, хоць ён ужо мае навык, хоць ён і ведае, як трэба падпальваць.

— Нікан! — рэзка перапыніла Алена Лявонаўна мужа. Ёй зрабілася страшна, што вось гэтак можна падумаць пра кожнага чалавека ў Мядзвенцы — падумаць, адкінуўшы падазрэнне ці захаваўшы яго і надалей.

— А што? — не зразумеў ён яе.

— Хіба так угадаеш? — лагодным голасам папракнула яго.— Так не ўгадаеш.

Нікан Іванавіч змоўк — згадзіўся з Аленай Лявонаўнай, што так не ўгадаеш.

Прыйшоў час выганяць Зорку на пашу. Аднак Алене Лявонаўне страшэнна не хацелася гэтага рабіць сёння. На нейкі момант уявіла сабе, як ідзе яна па вуліцы да выгану, як на яе аднавяскоўцы скіроў-

ваюць свае цікаўныя вочы, пачынаюць распытваць, выказваць розныя здагадкі... Адчувала сябе так, быццам правінілася ў нечым перад людзьмі. Не яны перад ёю, не, а яна перад імі.

— Міхалка, гані карову на пашу,— гукнула яна сына.

— Вось так, нядоеную?

Падаіла, і Міхал пагнаў карову да чарады. Алена Лявонаўна паставіла малако ў сенцах на маленькі столік — тут заўсёды яго ставіла, перад тым як працадзіць. І раптам зірнула на столь — нібы тая столь вось-вось павінна была абваліцца на яе галаву. І ўвесь час адчувала ў душы страх, а таксама неадольнае жаданне выйсці на двор і пераканацца, што ўсё ў поўным парадку.

Потым яна такі агледзела напаўсатлелыя анучы, якія ляжалі непадалёку ад кветніка. Ад іх яшчэ патыхала газаю і дымам. Не згарэў да канца нейкі рубец, а вось гэта шматок з-пад пахі. Падышла да таго месца, дзе Міхал тушыў фуфайку, дзе чарнела насыпаная зямля. Апусціўшыся на кукішкі, пачала корпацца ў забруджаным рыззі і попеле. Раптам пальцы намацалі штось цвёрдае — узяла, здзьмухнула рэшткі зямлі, выцерла аб спадніцу.

У яе руках быў гузік. Металічны гузік ад салдацкага шыняля, з вушкам. Пасля вайны многія вяскоўцы прышывалі сабе такія гузікі, бо лепшых не было. Іншы раз нават замест гузіка прывязвалі невялічкую драўляную цурачку. Ці проста падпяразвалі фуфайку рэмнем або матузком.

Праўда, з часам гузікаў аставалася ўсё меней і меней, хіба што ў некаторых толькі збераглiся. Цяпер хапае фабрычных, можна купіць... У каго ж яна бачыла вось гэткі салдацкі гузік, менавіта на фуфайцы? А што бачыла — ні крапелькі не сумнявалася, бо заўжды прыглядалася да людзей, хто ў што апрануты, у каго што на галаве, на нагах. Ну, вядома, у некага бачыла і гэты гузік на фуфайцы, але не надала значэння, не запомніла, бо не было ніякае патрэбы забіваць галаву рознай непатрэбшчынай.

Так і не прыгадаўшы, Алена Лявонаўна заціснула той гузік у кулаку, патрымала колькі часу, потым паклала ў кішэньку свайго жакета...

На брычцы — недзе каля паўдня — да сядзібы пад'ехала Гарпіна Цітаўна, старшыніха. Паставіла брычку пад грушаю, дзе ўлетку звычайна даілі Зорку, і, ступаючы шырока, важка, паглядзела на хату. Нічога не ўбачыўшы з аднаго боку, перайшла на другі. Прыставіла там да сцяны драбіны, залезла на страху і, паглядзеўшы вакол сябе, адразу зрабілася злосная, змрочная. Губы моцна сцяты, рабы ад воспы твар — і без таго заўсёды пахмурны — на гэты раз нібы навальнічнаю хмараю зацягнула.

— Калі? — спыталася ў Шкарубаў. Мусіць, яна ўжо ўсё ведала, ёй расказалі, аднак хацела пачуць і ад іх.

Алена Лявонаўна з пятага цераз дзесятае пачала расказваць, як учора з вечара гаспадарыла ў хаце, як патушыла святло і сядзела нейкі час у цемры, напаўраздзетая, як потым штосьці нібы падказала ёй выйсці на двор, нібы жывасілам пацягнула туды.

— Падказала, пацягнула,— недаверліва паўтарыла старшыніха, і яе густыя непраполатыя бровы сышліся над пераноссем.

Гэтак жа не паверыла і яна, калі пачула, як раз у раз, заціхаючы, прашапацеў сланечнік уздоўж мяжы.



— Прашапацеў? Што ж гэта за нячыстая сіла?

Аднак падумала і быццам згадзілася:

— А і сапраўды, калі спрабаваў падпаліць, то ўжо і ёсць нячысцік... Каго маеце на падазрэнні?

Пытанне было пастаўлена рубам, і яно патрабавала адказу. Але што магла адказаць Алена Лявонаўна? Нічога. Тое ж самае і Нікан Шкаруба. Розуму не мог дабраць, ды і годзе.

— З кім былі ў дрэнных адносінах? — дапытвалася старшыніха. І ўбачыўшы, што Алена Лявонаўна сумелася, нават голас узняла на яе: — Ды вы што, не хочаце сказаць? Вас паляць, хочуць са свету зжыць, а вы тут яшчэ чырванееце, баіцёся назваць сваіх ворагаў! Хіба вам саміх сябе не шкада? А дзяцей сваіх?

— Няма ў нас ворагаў,— сказала настаўніца.

— Тады выходзіць, ваш сябра падпаліў, га? — Потым зірнула на Нікана Шкарубу: — Можа вы скажаце? Хто на падазрэнні?

Нікан Іванавіч неяк няўпэўнена ўсміхнуўся:

— Ды я пра кожнага магу падумаць... цяпер.

— Гэткія ўжо ўсе паганыя людзі? — нездаволена скрывілася старшыніха.

— Пабылі б у маёй шкуры — тое ж самае сказалі б. Мы з усімі жылі ў згодзе, ні з кім не варагавалі... Ну, нікога не лічылі за свайго ворага.

— А можа, хто-небудзь вас лічыў?

— Хто яго ведае...— Змоўк, потым дадаў: — Цяпер я гатовы кожнага баяцца. Нібы кожны стаў ворагам.

— Нікан! — ажно ўскрыкнула Алена Лявонаўна.— І як толькі ты можаш?

— А што? — буркнуў ён і паглядзеў на страху.

Алена Лявонаўна прасачыла за ягоным позіркам, і яе твар скрывіўся, нібы ад болю. Сказала:

— Нікан, я прашу цябе, чуеш, Нікан... Вазьмі хутчэй папраў страху, не трэба, каб латы свяціліся, як рэбры, няхай людзі не бачаць гэтай страшнай раны. А то мы нібы свае болькі выстаўляем напаказ, нібы спачування ў людзей просім, як тую міласціну! Чуеш, Нікан, давай удваіх паправім зараз.

І пакуль яна тое гаварыла, старшыніху ўсё болей і болей разбірала злосць. Нарэшце яна не вытрымала і сцебанула сябе пугаю па назе:

— Не, вы толькі паслухайце яе! Што яна кажа? Ды вы, бачу я, так перажываеце, быццам самі хочаце як найхутчэй схаваць сляды чужога злачынства? Так ці не? Вы баіцёся, што ўсе людзі ўбачаць? А чаго баіцёся?

— Мы не жабракі, спачування ні ў кога не просім,— адказала Алена Лявонаўна і сама ўзлавалася на старшыніху, што тая ўмешваецца ў іх жыццё, хоча наводзіць там свой парадак.

— Нешта я тут нічога не разумею,— і сапраўды старшыніха не ўсё да канца разумела. Насупіла бровы, памаўчала з якую хвіліну, потым зноў загаварыла: — А можа, і пачынаю разумець, дальбог... Вы, Алена Лявонаўна, баіцёся не столькі таго, што вас падпалілі, як таго, што ваш аўтарытэт нібыта ад гэтага пацерпіць... Праўду кажу, праўду... Бо як жа можа быць, думаеце вы, вас у сяле называюць святою праўдаю, якая кожнага абароніць, за кожнага закіне слова добрае, а тут на́ табе — бяруць і паляць!.. Вы, напэўна, хацелі б, каб ніхто пра гэта не чуў, каб ніхто не бачыў... Бо вы для ўсіх па-ранейшаму хочаце астацца добрым чалавекам і хочаце самі лічыць усіх добрымі... А яно, галубка, не так бывае ў жыцці, відаць, не ўсім трэба

дабро сваё падсоўваць, з некаторымі варта абыходзіцца і больш строга. Менавіта ў гэтым справядлівасць, а не ў тым, пра што вы думаеце!.. Мне здаецца, што каб вы нават і ведалі падпальшчыка, дык усё роўна не назвалі б ягонага імя. Праўду я кажу ці не?

— Нікога я не ведаю,— адказала Алена Лявонаўна. І міжвольна пры гэтых словах засунула руку ў кішэньку жакеткі, пальцы намацалі гузік. Дастала яго, з нейкім як бы здзіўленнем пачала разглядаць. Здалося, нават хацела была нешта сказаць, ды не сказала. І гузік схавала зноў у кішэньку — ніхто нават не заўважыў яго.

Старшыніха крыху ўтаймавала свой гнеў і гаварыла ўжо больш спакойна, без крыку:

— Вам, Алена Лявонаўна, хацелася б усё загладзіць, парваныя канцы пазвязваць, каб усё было роўненька ды гладзенька. Вам плюнулі ў вочы, а вы выцерліся — і ўсё тут, быццам і не бачылі нічога, быццам усяго гэтага і не было. Прамаўчаць хочаце злачынства, а потым кожнаму стрэчнаму гаварыць пра людскую дабрачыннасць... Я яшчэ раз пытаюся: хто на вас меў вока? Бо гэта помста. Вораг вам адплаціў за нешта.

— Нам няма за што помсціць,— настойвала на сваім Алена Лявонаўна.— А ворагаў у нас ніколі не было і, спадзяёмся, ніколі не будзе.

— Ворагаў можна і не нажываць, яны самі з'яўляюцца, і гэта ад нас часта не залежыць.



— Відаць, залежыць... На ўсё ёсць свае прычыны...

— Што? — зноў загарэлася старшыніха і яшчэ бліжэй падступіла да настаўніцы.— Ці не ў гэтым прычына, што мы проста жывём на свеце? У гэтым прычына?

— Не, я гэтага так не пакіну,— раптам падаў голас Нікан Іванавіч, і голас у яго задрыжэў.— Я цяпер пра кожнага падумаю, кожнага перабяру ў сваёй памяці па костачках, а ўсё роўна даведаюся, чыіх гэта рук справа! Ды я па вачах пазнаю нягодніка.

— Так, так,— насмешліва вымавіла старшыніха,— нягоднік сам прыйдзе, каб вы яму ў вочы паглядзелі... А то яшчэ і прыбяжыць, каб прызнацца, чакайце... Лепш паслухайце маю параду. Людзі цяпер вам рознае глупства гаварыць будуць, але вы ўсе іх нашэптванні не прапускайце міма вушэй. Нехта з іх павінен ведаць. Быць не можа, каб ніякіх слядоў не асталося... А то яшчэ і пад сакрэтам выдадуць... Сяло павінна ведаць, не можа не ведаць.

— Столькі перажылі — перажывём і гэта,— сказала Алена Лявонаўна.

— Што, што? — не дайшло да старшыніхі.— Вы што маеце на ўвазе?

— Кажу, што другі раз паліць не прыйдзе.

— У Мядзвенцы вы не адны,— рэзка кінула старшыніха.— Думаеце, калі ўсё дабром абышлося, дык і па ўсім? Не, мела месца злачынства — і яно будзе пакарана. Бо непакаранае злачынства будзе заахвочваць іншых нягоднікаў. Вы думаеце пра сябе, не хочаце псаваць адносін з сялом, а я павінна дбаць пра ўсіх, таму што адказваю за калгас.

— Перад кім? — амаль шэптам спыталася настаўніца.

— Перад кім? А перад усімі тымі, якія мяне выбралі! І перад сабою... Справядлівасць, паверце мне, Алена Лявонаўна, не ў тым, каб пашкадаваць падпальшчыка і забыць пра ўчыненае злачынства, а ў тым, каб выкрыць злачынства і пакараць падпальшчыка.

— Вы так гаворыце таму, бо ўсё гэта пакуль што абстракцыі, бо не ведаеце падпальшчыка,— адказала Алена Лявонаўна.— А каб злавілі яго, тады што? Так адразу і пакаралі б і нічога ў вашай душы не зварухнулася б?

Алена Лявонаўна ведала, добра ведала, што старшыніха не такая, што і ў яе ёсць сэрца, як і ў кожнага, а вось жа пацягнула за язык!

Старшыніха нічога не адказала, толькі свае мангольскія вочы, пранізлівыя і чэпкія, утаропіла ў настаўніцу — і тая не вытрымала, адвяла ўбок свой позірк.

Нікан Шкаруба на развітанне сказаў старшынісе:

— Цяпер будзем асцерагацца кожнага, навучаныя ўжо...

Не пакідалі яны хаты без догляду нават удзень. Абавязкова хтонебудзь аставаўся дома, нібы чакаў новай якой напасці. І хоць разумелі, што не трэба баяцца, а ўсё ж не маглі пазбыцца страху.

Час ішоў, і яны пакрысе супакойваліся, страх адступаў ад іх, хоць зрэдку і наведваўся непрыемным халадком у грудзях.

А каб залатаць страху, давялося прыкупіць троху саломы ў Фіёны, у іхняй суседкі праз два агароды. Праўда, спачатку яна наадрэз адмовілася ўзяць грошы (мабыць, усё яшчэ злавалася за Зорку, якая тады збэрсала ёй паўагарода), сказала, што ёй не шкада тае саломы, хоць і прыдбала для сябе,— трэба было перакрываць уласную хаціну, аднак Алена Лявонаўна гэтак настойвала, што Фіёна ўрэшце рэшт вымушана была здацца.



Цётка Лабадзіха калі ўжо маўчала, дык маўчала, нібы ёй хто зашываў рот. Аднак калі ў яе выспявала якая думка — выспявала грунтоўна і беспаваротна,— дык ужо лёгка скаралася перад тою думкаю, перад тым рашэннем і рабіла так, як падказвала ёй сэрца.

Міналі дні, міналі гады, а за імі сплывала і жыццё, і ёй усё часцей здавалася — у тым, што не выпала шчасця нябозе Гарпіне Свярбівус, вінаватая і яна, цётка Лабадзіха. Вядома, Гарпіне ужо не дваццаць і не трыццаць, сама галаву мае на плячах, сама магла б падумаць. Але, відаць, не хоча думаць, а жыццё бяжыць — хутка і бабскаму таму веку канец, а калі канец, дык нічога ўжо не зробіш. Не, трэба падказаць, памагчы хоць словам, бо не чужыя ж яны, а Лабадзіха таму-сяму навучылася на гэтым свеце.

Неяк зайшла да старшыніхі ў хату, як заўжды, уся ў цёмным, бледная, усім сваім выглядам паказваючы, што хворая і на гэты раз. Прыбрала ў святліцы, згатавала есці, не вельмі і спадзеючыся, што ўсё будзе з'едзена, але дадому не пайшла, асталася. На стале стосам ляжалі старыя газеты і часопісы, і Лабадзіха ўзялася чытаць іх. Непрывычныя да літараў вочы слязіліся, рэзалі, нібы хто пяску ў іх насыпаў, аднак Лабадзіха варушыла губамі, быццам паражоўвала словы і разам з тым здзіўлялася, як усё гэта чытае Гарпіна і навошта ёй столькі тае пісаніны.

Калі старшыніха пераступіла парог хаты, цётка запаліла лямпу, крышку прыкруціла кнот, каб не выгараў, села на ўслон і, склаўшы рукі на каленях, аб нечым глыбока задумалася. Высокая, худая, бледная, яна заўсёды абуджала ў Гарпінінай душы лёгкую непрыязнасць, якой ніяк не магла пазбыцца, хоць і старалася.

— А я цябе чакаю,— сказала цётка.— З паўдня сяджу, а цябе ўсё няма і няма.

— Клопату рознага багата,— адказала старшыніха. І таму, што ў хаце сядзеў староннi чалавек, не ведала, за што ёй узяцца, што рабіць.

— Работы ўсяе не пераробіш, галубка,— сказала цётка тое, што часта любіла паўтараць, і старшыніха пры гэтых словах скрывілася. Скрывіла твар, аднак змоўчала, бо не хацела сварыцца вось так, адразу.— Трэба думаць не толькі пра работу, а і пра сябе. А то ў галаве ў цябе толькі людзі ды іх клопат, а больш нічога.

Гаварыла гэтак лагодна, мякка, нібы і не дакарала. Старшыніха адказала таксама спакойным тонам:

— Тады і пра сябе думаю, калі іншыя з галавы не выходзяць. Не магу інача й, такая ўжо ўдалася.

— Удалася дык удалася, аставайся сабе такою, калі падабаецца,— як бы адступала цётка ад свае задумы, як бы пагаджалася з Гарпінаю. Памаўчала, потым нечакана спыталася: — А чаму, скажы ты мне, да гэтага часу не паставіла помніка сваёй маці?

— Маці? — не чакала такога пытання старшыніха.

— Так, так, маці. Ужо колькі гадоў мінула, як яна памерла, шаўковая траўка расце, аднак трэба было б і помнік паставіць.

— Які помнік? — нібы не разумела, пра што ідзе гаворка.

— А людзі які ставяць? Хто крыж, хто камень з надпісам. Была я неяк у Турбаве на цвінтары, дык там і карткі бачыла на помніках, вельмі прыгожа.

— Я крыжа ставіць не збіраюся!

— Крыжа, можа, і не трэба, ты ж парцейная, усякае могуць сказаць.

Гарпіна кінула на цётку ўмольны позірк:

— Ці я на магілу не хаджу? Ды і вы ходзіце, даглядаеце... Хіба ажыве матуля мая ад таго, што я пастаўлю ёй помнік?

Цётка ажно зачырванелася, з абурэннем кінула ёй у твар:

— Ай, ай! Ні перад людзьмі табе сораму няма, ні перад богам... Бога ты не прызнаеш, то хоць пабойся людскога вока... Ну, пастаў хаця б пірамідку з зоркаю, як некаторыя цяпер робяць... Нібы маці ў цябе салдатам была...— на вачах у цёткі бліснулі слёзы, і яна заплакала.

— Ну і пастаўлю зорку, калі ўжо так хочаце,— не стрымалася старшыніха.

— Пастаў, пастаў,— падхапілася старая.— Няхай пасмяюцца з цябе, няхай... Ведаю, што ты не прыходзіш да маці ні на вялікдзень, ні на радаўніцу, а толькі ў будзень... Можа б, ты пачала наведваць яе магілу па рэвалюцыйных святах?

— А я і наведваю па такіх святах,— горда, як бы адчуваючы сваю перавагу, адказала старшыніха.

— Ну дык і наведвай,— не стала спрачацца з ёю цётка,— пашану можна заўсёды аддаць, была б толькі пашана... Але помнік пастаў. Хай не для маці — ёй, можа, і сапраўды ён не патрэбны. I не для сябе, ты аб гэтым сваёй думкі трымаешся... Для людскіх вачэй трэба зрабіць, каб не гаварылі чаго.

— Значыць, для людзей і паставіць?

— А чаму б і не? Хіба ты не з імі жывеш? I жывеш не з адным ці двума, якія табе па душы, а з вялікаю грамадою. З усімі, нават з тымі, да каго сэрца тваё не ляжыць! У жыцці не выпадае выбіраць... Калі ж ты не хочаш, дык я сама пастаўлю помнік, і не які-небудзь, а такі, які мне захочацца. Не пірамідку, не...

У ціхай роспачы старшыніха адказала:

— Пастаўлю, толькі вось усё часу не хапае.

— Пра жывых нельга забываць, але нельга забывацца і на нябожчыкаў. Бо па тым, як дбаеш пра мёртвых, мяркуюць і аб тым, як думаеш пра жывых.

— Чаго гэта так?

— Чаго? Сёння тут, а заўтра там, і невядома, дзе чалавеку лепш, дзе яго вечнасць.

Старшыніха зноў скрывілася, нібы ад зубнога болю, і зноў стрымала сябе, не стала спрачацца з цёткаю. Хай сабе гаворыць.

— Ды не забывайся, галубка, што жывым пра жывых думаць,— суха заўважыла цётка, пазіраючы на сцяну перад сабою.— I не толькі пра іншых, а і пра сябе. Бо навошта тады пра кагосьці клапаціцца, калі забываешся пра сябе?.. Прабач ужо мне, але сказаць мушу — жывеш ты не так, як трэба было б...

— Чаму ж гэта не так?— сумна ўсміхнулася Гарпіна Цітаўна (яна яшчэ не выслухала да канца цётчынай споведзі, а ўжо наперад ведала, пра што тая будзе гаварыць).

— А таму! Ты не хто-небудзь, а старшыня калгаса, ты ў кожнага на відавоку, на цябе глядзіць і той, хто, можа, хацеў бы адвярнуцца і зусім не сустракацца з табою. Але паколькі ты стаіш наверсе, то мусіш жыць не так, як хочацца, а так, як трэба.

— А як трэба? Можа, параіш мне?— у пытанні загучэла насмешка, аднак старая не хацела зважаць на яе.

— Сама ведаеш, як трэба, але магу параіць, калі просіш. Даўно збіралася зрабіць гэта. Ведаю, што не паслухаеш мае рады, ды ўсё роўна скажу, бо я твая родная цётка і блізкіх сваякоў у цябе больш няма... Без сям'і, Гарпіна, жыць нельга, шукай сабе чалавека, заводзь сям'ю.

— А ці склею я яе з трох пальцаў — тую сям'ю і таго чалавека?— усхапілася Гарпіна.

— А навошта з трох пальцаў? Як людзі, гэтак і ты.

— А як людзі? Ну, добра, парайце мне,— яна прымусіла сябе супакоіцца і цяпер, здаецца, згодна была выслухаць усё без пярэчання.

— I параю. Жыццё ў цябе адно. I мы з табою не чужыя... Калі да гэтага часу ў цябе няма на прыкмеце добрага чалавека, то ты пастарайся зрабіць так, каб ён быў.

— Лёгка сказаць — пастарайся! А дзе яго адшукаць? Дзе яго цяпер возьмеш, таго добрага чалавека? Вайна ўсіх выбіла, асталіся адны дзяды ды калекі!

— Гэтак ужо і дзяды!— запярэчыла цётка Лабадзіха.— Мужчыны заўсёды былі і ёсць, трэба толькі знайсці іх.

— Які д'ябал шукаць іх будзе!

— Д'ябал шукаў і знаходзіў, ты гэта дарэмна гаворыш.

— Навошта яны мне? Хіба яны мае? У тых мужчын свае жонкі ёсць!

— Яно то гэтак, але і не зусім так. Сёння ў яго адна жонка, а заўтра, глядзі, ўжо другая.

— Не!— рашуча заявіла старшыніха.— Усё гэта не па мне. Я чужых слёз не хачу і чужога гора таксама.

— Ёсць удаўцы,— сказала цётка.

— Якія ўдаўцы, дзе яны?

— Калі не ў нас, дык у суседніх сёлах. Справа, вядома, не гарыць, можна і пачакаць, у людзей папытацца... Калі мужчына ўдавец і ў яго куча дзяцей, то не чакай, што ён сам да цябе прыйдзе...

— Так, так...— сказала старшыніха. Сказала ціха і гнеўна.— А яшчэ што вы мне параіце?

— Багата магу параіць,—цётка зусім не звярнула ўвагі на пагрозлівы тон пляменніцы.— Сапраўды, мужчын цяпер мала, кожная хоча прыдбаць сабе хоць што-небудзь. Дык і табе не варта гэтак нос задзіраць. Ты ж старшыня, улада...

— Выходзіць, што трэба загадаць таму, які мне да спадобы, каб кінуў сям'ю і перайшоў да мяне?

— Тут не загадаеш,— не хацела цётка разумець яе жарту.—А розум твой прынёс бы карысць, яшчэ і як, толькі ты не карыстаешся ім, зусім забылася пра яго.

— Ну, хопіць,— абарвала старшыніха.— Я і сама ведаю, што жанчыне трэба мець сям'ю. Але яе няма ў мяне! Гэтак выпала, што асталася адна. Хіба я супраць мець добрага мужа ў хаце? Але няма, нікому не кінулася ў вока. I колькі б мы пра гэта ні гаварылі — ён усё роўна не з'явіцца.

— Пасля адных размоў, вядома, не з'явіцца,— панура згадзілася цётка.

— Ну вось! Спрытам я не ўдалася, доляю сваёю таксама,— ужо зусім спакойна закончыла старшыніха.

«Гавары мне, гавары,— са скрухаю паківала галавою цётка.— Сумлення ў душы тваёй багата, ажно залішне, яно табе і замінае. А каб пра сумленне сваё не так часта ўспамінала, было б лепей. Ды

і людзі, пра якіх дбаеш, ад гэтага нічога не страцілі б». А ўголас дадала:

— Жыццё не матузок, яго не даточыш, калі яно абарвецца.

— Ат,— абыякава махнула рукою старшыніха,— разумных слоў можна колькі хочаш сказаць, а карысць якая?

— Вось і яно, вось і яно,— паўтарыла цётка і, мабыць, сама толкам не ведала, што гэтым хоча сказаць.— Пайду я, галубка, а ты хоць падумай пра тое, што я табе гаварыла...

Калі цётка Лабадзіха пакідала хату, Гарпіна Цітаўна ўжо зусім не крыўдавала на яе — яна ж дабра жадала ёй, жадала, як умела, чаго ж тут гневацца...

Гарпіна распранулася, лягла ў пасцель, але заснуць не магла. Да самага ранку варочалася з боку на бок, вачэй не сплюшчыла. Усё думала пра сваю долю, пра долю гэткіх жа, як і сама. І горка было ёй тою ноччу, нават расказаць немагчыма. Каб хоць яна ўсё жыццё прасядзела склаўшы рукі ці толькі дбала пра сябе, — дык, можа, і не было б так крыўдна. А то ж калацілася і паражывала столькі — хапіла б на дзесяцёх,— старалася ўсім памагчы, думала не пра сябе, пра іншых... Дык чаму ж тады яе дабро і сапраўды не вярнулася да яе ўдзячнасцю, людскім цяплом, якога ёй так не хапала і якога, здаецца, яна ніколі не мела?.. А ёй бы хапіла і крышку, багата ёй не трэба, не сквапная,— проста хацелася б, каб у хаце таўклося штосьці жывое, з кім можна было б словам перакінуцца, перад кім можна было б адкрыць сваю душу, а то і слязу праліць...

Ужо даўно яна не адчувала сябе так блага, як мінулай ноччу. І наперад ведала, што нічога ў яе жыцці не зменіцца, бо не такая ў яе натура, каб вось узяць і рашуча змяніць уласную долю, якая ёй выпала і ад якой яна не ў сілах была адмовіцца. І тым не менш хацелася хоць крышку пашкадаваць сябе, хацелася пагараваць на адзіноце, бо яно неяк і само па сабе гаравалася...

З сенам для каровы на зіму ўвесь час было нялёгка. Мядзвенецкія калгаснікі мелі свае сенакосы, корму скаціне хапала. Ды і тым, што жылі каля поля, лягчэй удавалася тое-сёе прыдбаць. А дзе было ўзяць Шкарубам, настаўнікам? Жылі яны ні каля става, ні каля поля, а так, пасярод сяла. Праўда, кожнае лета яны мелі троху аеру — Алена Лявонаўна брала з сабою дзяцей, і ўсе разам ішлі да става касіць яго. Касілі аер не толькі яны, прыходзілі многія іншыя, таму не так і багата прыносілі дадому.

А папакутаваць ля яго даводзілася нямала. Як бы яны старанна ні апраналіся, мядзвенецкія п'яўкі ўсё роўна ўпіваліся ў цела, гэтак жа і процьма вадзяных блох ды іншай брыдоты, якая пладзілася ў густым зарасніку нітчаткі і крапівы. Ды і сама крапіва агнём пякла... Выцягвалі аер на бераг, тут ён трошку вяў, потым яго шчыльна ўвязвалі матузкамі ці клалі на радно і адносілі дадому, рассцілалі на падворку сушыць. Тады ўжо складалі на гарышчы ў кутку.

Хадзілі не толькі па аер, а і па зелле ў поле. Хоць калгасныя буракі і праполваліся, але сярод іх усё роўна аставалася нямала бур'яну, якога штодня можна было посцілку-другую прынесці дадому. Малачай і павой, нарваныя ў бураках, гатавалі для Зоркі, а мяшэй сушылі і хавалі на гарышчы — на зіму.

Апрача таго, кожны год у аднавяскоўцаў прыкуплялі троху лугавога сена. У Мядзвенцы былі такія людзі, якія сваіх кароў не трымалі, але мелі багата свежай травы ля сядзібы, яны і прадавалі яе Шкарубам. А раз ці два Нікану Іванавічу ўдалося дамовіцца з лесніком з хамуцінецкага лесу, ён ім таксама прадаў.

Столькі ўвагі аддавалі карове таму, што дбалі пра дзяцей, для іх стараліся. Але як ні стараліся, малака ўсё роўна не хапала для ўсёй сям'і.

Многія раілі ім прадаць Зорку, а за тыя грошы, даклаўшы трохі, купіць другую, лепшую карову. Асабліва настойвала на гэтым іх суседка Варка. Нават бралася пайсці на рынак і памагчы прадаць.

— Каб што добрае прадаваць,— сказала ёй Алена Лявонаўна,— дык я хоць заўтра пайшла б на кірмаш.

— Прадаць добрае — справа няхітрая. А вы паспрабуйце за прыстойныя грошы прадаць такую ветрагонку, як ваша.

— Не, не пайду прадаваць.

— Чаму?— праспешвала Варка.— Навошта вам мець з ёю непатрэбны клопат? Ад Зоркі няма ніякае карысці, адны толькі страты.

— Не павяду я Зорку на кірмаш, нельга ашукваць пакупнікоў. Як глядзець буду я людзям у вочы? Я і гаварыць з імі не змагу. Яны ў мяне спытаюць, як Зорка доіцца, і я вымушана буду сказаць ім усю праўду, нават пра Зорчын нораў расказаць.

— Навошта прызнавацца?

— А як жа іначай?

Яны ніяк не маглі зразумець адна адну — Варка здзіўлялася з настаўніцы, а настаўніца з яе.

Неўзабаве іхняя Зорка зноў была прапала, адшукалі яе ажно ў чужым статку, у суседнім сяле. Пасля гэтага Нікан Іванавіч сказаў, што болей цярпець яе выбрыкі ён ужо не мае сілы, што яна і так скарацілa яму жыццё і калі Алена не хоча весці яе на базар, дык ён сам павядзе. Хай сабе за паўцаны, але прадасць, абы толькі пазбавіцца яе, абы толькі не бачыць.

І ён такі павёў яе ў першую ж нядзелю. Разам з Варкаю, якая стрымала слова. Заадно яна і сваё нешта мелася прадаць. Алене Лявонаўне адразу зрабілася не па сабе, калі карова пакінула сядзібу і падалася не ў статак, як заўжды, а на базар, каб ніколі больш не вярнуцца дадому. У гаспадыні было такое адчуванне, нібыта вынеслі з хаты нябожчыка.

Увесь дзень не знаходзіла сабе месца — за што б ні ўзялася, думала пра Зорку. І не дзіўна. За гэтыя гады прывыкла да яе, як да чалавека, як да роднай, нібы і Зорка дзяліла з імі ўсе іх радасці і нягоды. А тут, бачыце, узялі і пацягнулі з панадворка, захацелі лепшай. Алена Лявонаўна пачувала сябе так, быццам правінілася перад кімсьці.

Апоўдні вярнуўся Нікан Іванавіч з Варкаю. Весела, перапыняючы адно аднаго, пачалі расказваць, як вялі карову на базар, сярод якой худобы на торжышчы стаялі, хто і што гаварыў пра іхнюю Зорку. Казалі рознае, але ж нездарма там была Варка, яна адразу ўсіх загаварыла, кожнаму даводзіла, што Зорка — карова не абы-якая. І знайшоўся ж чалавек, які паверыў і купіў яе. Пакупнік гэты са Збаражу, працуе конюхам у калгасе. Нікан Іванавіч нават магарыч з ім выпіў, і Варка ім памагла.

Алена Лявонаўна ўсё дапытвалася, што гэта за чалавек. Але яны не вельмі і запомнілі — казалі толькі, што кульгавы, ходзіць з дручком, і ўсё. Ды яшчэ, здаецца, сівыя вусы ў яго...

Варка раіла ім купіць карову ў Радоўцы. Маўляў, там перад вайною быў племянны бугай, якога не толькі ў вобласці на выстаўку ва-

зілі, а і далей. Дык вось ад таго бугая да сённяшняга дня вядзецца дужа добрая парода. І на самай справе, усе ў Радоўцы высока цэняць свой тавар, кожны стараецца не прадзешавіць, прадаючы скаціну. Апрача таго, у Варкі там жывуць родзічы, яна пра ўсё дазнаецца ў іх, каб Шкарубаў часам не ашукалі. І Алена Лявонаўна, слухаючы размову, пакрысе і сама стала цешыць сябе добрымі надзеямі...

А к вечару таго ж самага дня заляцеў у хату Міхал і закрычаў на ўвесь голас:

— Зорка вярнулася!

Шкарубы здзіўлена пераглянуліся.

— Ды ты што вярзеш? — зляцела з бацькавага языка.

— Вярнулася, дальбог!— паўтарыў хлопец, і ўсмешка расцягнула яго губы як не да самых вушэй.

Карова сапраўды вярнулася дадому. Стаяла пад грушаю, лямзаючы галодным языком ужо завялыя рэшткі сланечнікавага лісця, што асталіся з раніцы, калі яе кармілі перад базарам. Зорка ўгледзела гаспадыню, пацягнулася да яе пысаю, і нейкі прыдушаны рык, падобны хутчэй да глыбокага і цяжкога ўздыху, парушыў вячэрнюю цішыню. Потым зноўку пачала жавaць прывялае за дзень лісце.

Усе стаялі і моўчкі пазіралі на яе. Нарэшце Нікан Іванавіч першы падаў голас:

— Ну і Зорка! Сапраўды д'ябал! Гэта ж трэба ўцячы ад пакупніка і прыбегчы дахаты. Што ты скажаш... Ідзі, Алена, даіць яе.

— Колькі тут выдаіш таго малака... Міхалка, нарві ёй якой-небудзь травы.— І ледзь не плачучы, вымавіла са скрухаю:

— Што ж гэта выходзіць? Карова ўжо не наша, а мы яе даіць будзем. І малако ад яе таксама не наша,— яна і сама нібы не верыла ў тое, што гаварыла.— Што ж рабіць?... І карова дома, і грошы ў кішэні.

І сапраўды атрымлівалася дзіўна. Як цяпер знайсці таго пакупніка, як яму вярнуць карову? Параіўшыся, вырашылі, што заўтра Нікан Іванавіч пойдзе ў Збараж — гэта не так ужо і далёка,— а там, магчыма, няцяжка будзе і знайсці таго кульгавага, з дручком. Там, мабыць, ужо ўсе ведаюць пра гэты выпадак з кароваю, якая ўцякла невядома куды.

Раніцою наступнага дня Зорка рвалася ў статак, рыкала, але яе не пусцілі. А Нікан Іванавіч, нібы ў яго не было больш важных спраў, збіраўся ў дарогу, у думках праклінаючы ўсё, што адбылося. І толькі ён быў сабраўся, як на панадворку паявіўся незнаёмы, невысокага росту мужчына. Алена Лявонаўна адразу здагадалася, хто гэта, бо чалавек і дручок трымаў у руцэ, і вусы ў яго былі сівыя.

Пазірала на незнаёмага збянтэжана, нібы ва ўсім была яна вінаватая. Чалавек нясмела падышоў да гаспадароў бліжэй і, пазнаўшы Нікана Іванавіча, адразу пасвятлеў з твару, але не настолькі, каб гэта рэзка кінулася ім у вочы.

— Пазнаяце?— спытаўся.

Нікан Іванавіч змоўчаў — і мужчына зноў спахмурнеў.

— Хіба вы мяне не пазнаяце?— спытаўся яшчэ раз.

Алена Лявонаўна хуценька спыталася:

— Вы са Збаража?

— Са Збаража, адкуль жа яшчэ!.. Купіў учора вашу карову, а яна ўцякла ад мяне. Дык прыйшоў спытаць, ці часам не вярнулася яна дадому, бо гэтак бывае.

— А я якраз да вас збіраўся,— сказаў Нікан Іванавіч.

— Да мяне?.. Мусіць, нешта пра карову ведаеце, калі да мяне, — выгукнуў чалавек гэткім тонам, нібы ў яго камень зваліўся з плячэй. Твар засвяціўся радаснай, шчаслівай усмешкай.



— Ёсць ваша карова, учора вечарам прыйшла... Чаго ж гэта вы яе не прывязалі?

— Хіба яе ўтрымаеш?— адказаў мужчына і хітра прыжмурыў адно вока.

— Трэба было моцна трымаць,— настойваў Нікан Іванавіч.

— Не ўдалося,— і той апусціў вочы.

— Можа, паглядзіце на яе? Мы яе накармілі, каб не схуднела,— сказаў пра Зорку, як пра чужую.

Чалавек не спяшаўся з адказам: ці хоча ён паглядзець на карову, якая цяпер належала яму. І, напэўна, таму Нікан Іванавіч сказаў больш рашуча:

— Дык забірайце яе і моцна трымайце ў руках матузок...

Пры гэтых словах гаспадара мужчына расшпіліў на сабе фуфайку, зняў матузок, якім быў падпяразаны, і працягнуў настаўніку:

— Вазьміце свой повад, з якім вы мне карову прадалі.

— Навошта ён мне?— адразу пазмрачнеў гаспадар.

— Бо калі я каровы не змог утрымаць, прыбегла да вас, дык мушу і повад вярнуць.

— Дык вы...— пачаў быў Нікан Іванавіч і не скончыў, бо зразумеў, куды верне яго ўчарашні пакупнік.— Можа, у хату зойдзеце, там і пагаворым?

— Што ў хаце, тое і на падворку — гаворка адна і тая ж. Бярыце свой повад, а мне аддавайце грошы.

Вось калі пашкадаваў Нікан Іванавіч, што побач, як тады на кірмашы, не было цяпер Варкі. Яна тады змагла прадаць Зорку, а цяпер змагла б і адкараскацца ад гэтага непрыемнага чалавечка, які прыйшоў забіраць назад грошы.

— Наш тавар, а вашы грошы,— вымавіў не зусім упэўненым голасам Нікан Іванавіч.— Хіба грошы назад забіраюць?

— А хіба тавар назад бегае?

— Проста не ўтрымалі каровы.

— Я не ўтрымаў, то ўтрымайце вы...— І зноўку гэты чалавечак надзьмуўся, як той індык.— Ці вы не хочаце мяне прызнаць?

— Я вас прызнаю, чаму ж, але...

У спрэчку ўступіла Алена Лявонаўна — яна не магла спакойна слухаць таго, што гаварыў мужчына.

— Грошай вашых мы не растрацілі і вернем вам,— і працягнула руку, каб забраць у таго матузок.

Нікан Іванавіч, страшэнна ўражаны, не ведаў, што і сказаць. Урэшце махнуў рукою, схадзіў у хату і вярнуўся з грашыма — пачак быў загорнуты ў газету і перавязаны блакітнаю ніткаю. Кульгавы, нават не пералічыўшы, хуценька запхнуў грошы ў кішэню і радасна выгукнуў:

— Ну, дзякуй табе божа, што ўсё скончылася з гэтаю пакупкаю! Дзякуй вам!

— А нам за што дзякуй?— нявесела пацікавілася Алена Лявонаўна.

— Як за што? — здзівіўся кульгавы.— Каб захацелі, то маглі б і не вярнуць грошай! Сказалі б: забірай свой тавар, а грошай мы табе не вернем.

Нікан Іванавіч з дакорам паглядзеў на жонку— маўляў, бачыш, як самі сябе ашукалі.

— Не, — сказала Алена Лявонаўна,— мы настаўнікі, мы не хочам нікога ашукваць.

— Я ведаю, што настаўнікі, мне ўжо сказалі ў Мядзвенцы. Ну, бывайце, можа калі і сустрэнемся.

Яму не адказалі — і, відаць, не таму, што не хацелі з ім больш сустракацца. Проста не знайшлося патрэбных слоў...

А чалавек, памахваючы дручком так, нібы ён служыў яму не для справы, а толькі для форсу, лёгка, як не з падскокам, падаўся з двара на вуліцу, і штось вясёлае заўважалася ў тым, як ён ішоў.

Варка ніколі не заходзіла да настаўнікаў у хату проста так. Яна ці драждзжэй прынясе Алене Лявонаўне, ці драбок сінькі. А калі ні таго, ні другога, дык якую-небудзь навіну...

Пасля таго няўдалага падпалу яна дала сабе слова прыслухоўвацца да ўсіх размоў у сяле пра гэтую аказію і, чаго б гэта ёй ні каштавала, выкрыць падпальшчыка. Алена Лявонаўна прасіла Варку не рабіць гэтага, бо падпальшчыка, уласна кажучы, ніякага не было і няма — хата ж іхняя не згарэла. Але Варка толькі дакорліва ківала галавою: маўляў, гаварыце, гаварыце, а сама і не думала адступацца ад свайго намеру — выкрыць падпальшчыка.

Гэта яна прынесла навіну, што Ярына Пекур, дзеда Панцялея дачка, ходзіць цяжарная, ужо трэцім. Добрыя ў яе дзеці, што праўда, то праўда, але бацька ў кожнага не адзін і той жа... А цяпер зноўку ходзіць з жыватом.

— І сораму ў яе ніякага!— абуралася Варка.— Гэта ж у яе бацюшка на кватэры жыве, няхай бы аб ім падумала, калі аб сабе не хоча думаць — людзі цяпер усякае будуць плявузгаць.

— А што плявузгаць? — запярэчыла настаўніца.— Ярына гарача любіць дзяцей, дваіх ёй мала, няхай яшчэ народзіць.

— Як гэта можна? — не згаджалася Варка.— Каб яна раджала ад свайго мужа, а то ж ад кожнага стрэчнага.

— Дзяцей яна любіць, зразумейце, Вара,— тлумачыла Алена Лявонаўна.

— Што з таго? Ёй, бачыце, хочацца мець дзяцей, але ж яна пра іх не думае. Не думае, як ім без роднага бацькі жыць давядзецца. Ужо лепей без маці, чым гэткая маці.

— Вам, Вара, лёгка так казаць, бо ў вас іх чацвёра.

— Мне лёгка казаць!— пляснула рукамі Варка.— Каму ўжо тады цяжэй, як не мне? —І змоўкла, хаваючы ў грудзях хто ведае якія ўспаміны — і пра сваё жыццё, і пра свайго мужа-паліцая, што памёр, як апошні шалудзівы сабака. Але дзеці ні ў чым не вінаваты... Памаўчала хвіліну-другую, потым зноў: — Не, пра дзяцей яна не хоча думаць, толькі ўвесь клопат аб сабе... Цяпер усе толькі і чакаюць, калі бацюшка пойдзе з яе хаты.

— А чаго яму ісці? Там яму, відаць, нядрэнна.

— Было добра, а будзе дрэнна... Рознае гавораць пра яго, бо не такі ён ужо і святы... Ды ён і сам збіраецца збегчы адтуль. Бо маладзіцы пачнуць скардзіцца, што ён там жыве.

— Няхай скардзяцца ці не скардзяцца, а лепшага яны не знойдуць. Цяпер з імі таксама цяжка. Ды ці захоча хто ехаць у Мядзвенец?..

— Гэта праўда,— згадзілася Варка,— бабам не дужа і выпадае скардзіцца, але ж...



Варка такі, а не хто іншы, прынесла ў іх дом і такую навіну — пра свайго Міколу, які нейкі час жыў прымаком у Лапкоўскай Надзі. Так, жыў, а цяпер дадому вярнуўся, бо пасварыліся. Ды як было не пасварыцца, калі Лапкоўская і рана будзіла яго, і позна слала яму, прымушала, каб усё рабіў. Ён, вядома, стараўся, колькі мог, а потым заўпарціўся, плюнуў на ўсё — і вось вярнуўся дадому, сказаў, што нагі ягонай болей не будзе ў Лапкоўскай. Што рана яму яшчэ звязваць свае маладыя рукі. І, маўляў, праўду некалі казала Алена Лявонаўна ёй, Варцы, ды яна не паслухала, не навучыла розуму свайго сына, бо як ёй здавалася, зычыла яму дабра. Зычыла дабра, а ўсё выйшла бокам...

— То ён цяпер хоча з'ехаць з сяла ў горад, а старшыніха не дае свае згоды. Хадзіў да яе, прасіў, каб дала дазвол, бо інакш не зможа атрымаць пашпарту, а яна ні ў якую — не ды не. Сказала, што ў калгасе людзі таксама патрэбны, што мне яна з майго Міколы і тут чалавека зробіць... Вы чуеце, Алена Лявонаўна?.. Каб ты, кажа, завербаваўся ў Данбас ці ў Сібір, то яна дала б згоду, а ў горад ехаць, каб там шлындаў па вуліцах у пошуках лёгкага хлеба — не!.. Я і сама пайшла б да старшыніхі, папрасіла яе, але пасля таго,— Варка прыгадала прыкры выпадак з зернем,— не пайду. Праўда, прайшоў ужо час, магчыма, яна і забылася, аднак і нагадаць можа, яна такая!

— Ёй дужа патрэбны людзі, зямлі няма каму апрацоўваць.

— Я ведаю, патрэбны. Але няхай бы трымала іншых, а ўжо Міколу майго магла б і адпусціць. Хіба ёй мала, што я сама ад ранку да вечара звяна не пакідаю?.. І як бы мне ўгаварыць старшыніху, розуму не дабяру.

Варка намякала на тое, каб Алена Лявонаўна зноў замовіла слова, на гэты раз — за яе сына. І хацела, каб настаўніца сама здагадалася пра гэта. Аднак Алена Лявонаўна чамусьці не здагадвалася, нібы гэта не ёй гаварылася...

Прынесла Варка і яшчэ адну навіну. І вельмі здзівілася, што Шкарубы да сённяшняга дня нічога не ведаюць, хоць Яўдошка жыве не за краем свету, а па суседстве. Ды тут неабавязкова і чуць, можна было ўбачыць на ўласныя вочы. Якая навіна? Ха-ха-ха... Яўдошка прывяла к сабе прымака. Праўда, чалавек ужо ў гадах, з суседняй Радоўкі. Кажуць, кінуў жонку, а ў жонкі ж дзеці, як звычайна. Прымак гэты з учарашняга дня жыве тут. Яўдошка ўжо зарэзала маладзенькую курку, якая спраўна неслася, а сёння і пеўня, адзінага. Лётае па хатах, самагонку пазычае — стараецца ўсё дагадзіць яму. Яўдошчын бацька, Сазон, увесь час ходзіць пад чаркаю, штаны на ім ледзьве трымаюцца, а твар ажноззяе ад радасці. Шчаслівы, што і яму тое-сёе перападае ля доччынага прымака. Яўдошка жанчына даволі скупая, не вельмі песціць старога, каб, барані божа, не раз'еўся,— усё дбае пра пасаг, бо лічыць, што за той пасаг і возьмуць. Урэшце такі дамаглася свайго, і вось цяпер нацешыцца не можа. Ды і Сазон з Марфаю радуюцца разам з ёю.

— Усё гэта так, ды толькі не ведае той радоўскі прымак, у чые рукі трапіў,— шматзначна ўсміхнулася Варка.— Агледзіцца, але будзе позна, бо свая жонка ўжо не захоча прыняць назад. Хітрая Яўдошка дзень-другі пакорміць-папоіць, пакуль да рук прыбярэ, а потым пакажа, дзе ракі зімуюць, выпусціць свае кіпцюрыкі...

Але, мабыць, Яўдошцы так і не ўдалося выпусціць сваіх вострых кіпцюрыкаў, бо ўжо на наступны дзень Варка прыйшла з чарговаю навіною, гэткай жа нечаканаю, як і першая. Быццам бы раніцою да Яўдошкі на падворак з'явіліся нечаканыя госці — маладзіца і два ду-

жыя хлопцы. Вы нічога не чулі? Яўдошчына ж хата амаль побач з вашаю. Увесь Мядзвенец чуў, людзі збегліся глядзець. Ну, калі не ўсё сяло, дык іх куток пэўна.

Дык вось яны і забралі таго прымака. Для Яўдошкі то быў, вядома, прымак, а для тае маладзіцы — муж, а тым двум хлопцам-асілкам — і наогул родны бацька. Усе ўтрох яны як след аддубасілі яго, за рукі паднялі з зямлі, потым паправілі на ім штаны, кашулю, падперазалі па-людску і павялі з сабою. І вы думаеце, ён упарціўся, супраціўляўся? Дзе там, пашкандыбаў, як міленькі, толькі галаву нізка апусціў, каб нікога не бачыць.

А Яўдошка, напэўна, і да гэтага часу баіцца паказацца на вуліцы, сядзіць у хаце.

— Ганьба, ганьба...— не пераставала паўтараць Варка.— Цяпер яна будзе ведаць, як зваблівацъ чужых мужоў. І хто б мог падумаць? Ну, праўда, дзяўчына ў гадах, але ж каб вось гэтак зрабіць?

— Не такая яна яшчэ і старая, яшчэ пашанцуе.

— А хіба я супраць? Я не супраць, няхай кожнаму шанцуе, ды і ёй. Але вось гэтак зваблівацъ... Ганьба, страшэнная ганьба!..

Жнівень выдаўся сухі, сонечны. Зямля ўдзервянела, у садах і на гародах таксама ўсё сохла ад спёкі. Калі праз сяло ішла машына, за ёй высока ўгору ўзнімалася густая хмара шэрага пылу, хмара звычайна доўга вісела ў паветры, бо не было ветру. Вялізны шар таго пылу праз нейкі час павольна апускаўся на зямлю, укрываў сабою прыдарожныя кусты і траву. Сады таксама былі прыпарушаны пылам, а сцены хат ажно пашарэлі.

У адзін з такіх дзён, калі нясцерпна смаліла сонца і над Мядзвенцам раз за разам узнімаліся пыльныя воблакі, настаўнікі сабраліся ля школы, каб збольшага падрамантаваць яе, бо надыходзіў новы навучальны год. Дырэктар школы, Віталь Рыгоравіч Бойка, звяртаўся ў калгас па дапамогу, аднак старшыніха сказала, што з ураджаем нявыкрутка, не хапае рабочых рук, каб сабраць і вывезці збожжа дзяржаве. Таму няхай яны ўжо як-небудзь самі спраўляюцца. Як самі? А вельмі проста — трэба сабрацца ўсім настаўнікам, вучням старэйшых класаў ды і адрамантаваць памяшканне. А хіба калгас нічым і не паможа? Як гэта нічым, яна, старшыніха, дасць каня, толькі людзей вось не зможа даць.

Каня сапраўды выдзелілі — гэта быў гняды ламавік, якога цяжка было зрушыць з месца і гэтак жа цяжка стрымаць. У некалькіх класах трэба было падрамантаваць атынкоўку, дык на гнядым падвозілі гліну. Добра, што хоць кар'еры былі непадалёку.

Вазіў гліну Андрэй Сак. Збіраючыся раніцаю на працу, ён нацягнуў на сябе такую старую адзежу, што ў ёй цяжка было пазнаць бравага, стройнага выкладчыка фізкультуры. Яму памагалі Таіса і Міхал — маці ўзяла іх з сабою, каб не лайдачылі. Апрача іх, прыйшло яшчэ некалькі вучняў. Сярод іх і Фіёнін малодшы, Васіль, круглатвары і непаваротлівы, падобны да сваёй маці хлопец, які ніякавата паблісківаў на ўсіх сваімі жаўтаватымі вачамі. Больш за ўсё дзіўна было бачыць на школьным панадворку Барыса Гарбаконя — ён два гады праседзеў у шостым класе і ў гэтым годзе збіраўся прыйсці ў шосты клас яшчэ раз. Па натуры ён быў вясёлы, кампанейскі, вельмі кемлівы і спрытны хлопец, ды вось толькі школьная навука яму ніяк не давалася. Праўда, Барыс часта прапускаў заняткі, бо яму даводзі-





лася памагаць дома хворай маці (сям'я іх была невялічкая — ён ды маці), ды і ў калгасе без яго не маглі абысціся — дужага і працавітага. Адным словам, з вучобаю ў яго справа была дрэнь. І вось сёння, пачуўшы пра рамонт, ён першы прыбег у школу, нібы сваім паяўленнем тут хацеў давесці настаўнікам, што і ў гэтым годзе ён збіраецца сесці за парту, каб працягваць вучобу.

Атынкавалі сцены, адрамантавалі падлогу, столь. Не ва ўсіх класах была драўляная падлога, у некаторых яшчэ аставалася гліняная, то і гліняную адрамантавалі. Алена Лявонаўна бяліла прасянаю шчоткаю ў калідоры, потым у настаўніцкай. Нікан Іванавіч стукаў малатком,— у адным з класаў разам з дырэктарам мяняў падгнілыя маснічыны.

Хапіла работы на цэлы дзень, асталося яшчэ і на заўтра, і на паслязаўтра. Дамовіўшыся сабрацца наступнай раніцай, вучні і настаўнікі пачалі разыходзіцца. Неўзабаве ў школе асталіся толькі Алена Лявонаўна, дырэктар ды Наста Васільеўна. Барыс Гарбаконь таксама затрымаўся, але круціўся паводдаль, блізка не падыходзіў, потым выйшаў на двор, знайшоў сабе нейкі занятак.

— А што я хачу спытаць у вас, Наста Васільеўна,— мяккім, нейкім хлапечым голасам азваўся дырэктар. Ягоны голас яўна не пасаваў да яго высокай постаці, да шырокага твару, спярэшчанага густою сеткаю тонкіх жылак, якія навечна пакінулі на абліччы след густой чырвані.

— Пытайцеся, Віталь Рыгоравіч,— сказала настаўніца малодшых класаў, якая на працягу ўсяго дня, здаецца, не вымавіла ніводнага слова.

— Мы ўжо гаварылі калісьці...— нібы вагаючыся, ці працягваць далей размову, сказаў дырэктар,— і вось зноў даводзіцца пра тое самае...

— Пра што, Віталь Рыгоравіч?— спыталася настаўніца, і ад таго, як раптам пацямнелі ў яе вочы, можна было здагадацца — яна ведае, пра што пойдзе гаворка і што гаворка гэта непрыемная для яе.

— Ды пра абразы, што вісяць у вашай хаце. Вы ж мне абяцалі пазнімаць іх, але не пазнімалі. Зноў мне людзі сказалі пра гэта. Што, маўляў, у настаўніцы абразы вісяць у хаце. Што вы на гэта скажаце?

— Дык жа гэта не мае абразы,— адказала Наста Васільеўна.— Гэта матчыны.

— Няхай сабе матчыны. Вы павінны аказаць уплыў на сваю маці.

— Я ўжо аказала,— памаўчаўшы крыху, сказала Наста Васільеўна. Відаць, сказала, каб спыніць непрыемную размову.

— Як жа вы аказалі,— не паверыў дырэктар,— калі мне сёння пра гэта зноў казалі?

— Хто казаў?— тут жа спыталася Наста Васільеўна.

— Хіба вам не ўсё роўна?

— Гэта хлусня,— сказала Наста Васільеўна.— Маці абяцала ўсе абразы зняць, я гаварыла з ёю.

— Ну, пабачым, пабачым,— шматзначна вымавіў дырэктар.— Калі знялі, то добра. Самі падумайце, што з гэтага можа атрымацца? Школа ў нас невялікая, настаўнікаў небагата, трэба людзей вучыць, прыклад ім паказваць сваім жыццём, а мы што? А мы, выходзіць, нібыта заадно з бацюшкам, памагаем яму рэлігійны дурман сеяць. Вы ж, Наста Васільеўна, працуеце ў школе, а не ў царкве. Каб вы ў царкве працавалі, дык я з вамі б і не гаварыў, няхай бы тады з вамі хто-небудзь іншы меў справу, а так пакуль што мне трэба...

Усе дружна выносілі смецце з класаў, падмяталі падлогу, каб на наступны дзень не пакідаць бруду ў памяшканнях. У гэты час у калідоры мільганула постаць Барыса Гарбаконя. Наста Васільеўна перахапіла яго ля выхаду, нешта сказала — і хлопец тут жа знік.

Яна з Аленай Лявонаўнай ужо збіралася ісці, мяркуючы, што дырэктар затрымаецца яшчэ ў школе. Аднак дырэктар, якому было і не па дарозе, пайшоў з імі. Можа, ён хацеў праводзіць іх да сельсавета? Не, бо і сельсавет прамінулі ўжо. Можа, да крамы? Але і крама асталася збоку. Настаўніцы крадком пераглянуліся паміж сабою...

— Дык што, Алена Лявонаўна,— падаў нарэшце голас дырэктар, парушыўшы маўчанне,— можа, завітаем да Насты Васільеўны, паглядзім, як яна жыве?— Хітрымі вачамі прабег па іх тварах:— А хіба вы, Наста Васільеўна, не збіраецеся запрасіць нас?

— Не збіралася,— шчыра прызналася Наста Васільеўна, не такая ўжо і шчодрая на словы.— Але як маеце вольную хвіліну, дык прашу.

А ўсім сваім выглядам нібы хацела сказаць:«Ідзіце, правярайце, Віталь Рыгоравіч, нават са сведкаю, каб на хлусні злавіць мяне. Ды толькі не зловіце!»

— Можа б вы без мяне?—паспрабавала ўхіліцца Алена Лявонаўна.

— Не, не, зойдзем усе разам,— настойваў дырэктар.

Алена Шкаруба вымушана была згадзіцца і раз за разам кідала на Насту Васільеўну нейкі разгублены позірк, быццам прасіла ў яе прабачэння.

У сенцах Наста Васільеўна прыпынілася, прапусціла наперад гасцей. Першы зайшоў дырэктар, за ім Алена Шкаруба, а тады ўжо сама Наста Васільеўна. Пераступіла парог, упэўненая, што абразоў на сцяне няма,— і раптам нібы прырасла да падлогі, бо ўзняла вочы і ўбачыла, што абразы вісяць на тым жа самым месцы. Дырэктар толькі крадком зірнуў на іх, нібыта прыйшоў зусім па іншай справе. Алена Лявонаўна густа пачырванела, як быццам гэта яе абвінавачвалі ў чымсьці непрыгожым і несумленным, як быццам яна была ва ўсім вінаватая.

Следам за імі ў хату шмыгнула маці — мабыць, яна была дзесьці ў агародзе, бо трымала ў руках некалькі зялёных цыбулін. У Насцінай маці быў доўгі твар, скура на ім белая і чыстая, нібы ніколі і не бачыла спякотнага падольскага сонца.

— Мама,— з болем у голасе вымавіла Наста Васільеўна,— калі гэта вы паспелі абразы павесіць на сцяну?

— Калі? А я іх і не знімала ніколі, дачушка,— лагодна адказала маці.— Хіба ты не ведаеш?

Наста гатова была скрозь зямлю праваліцца.

— Хіба ж я не казала вам пра гэта?

— Казала, казала,— згадзілася маці.— Толькі я цябе не слухалася і слухацца не збіраюся. Гэта ж ты і Барыса прысылала, Гарбаконя... Я і яго не паслухалася.

— Як жа гэта так?— спытаўся дырэктар школы.— Хіба ёсць якая патрэба, каб абразы віселі ў хаце, дзе жыве настаўніца? Яшчэ пачнуць гаварыць, што і яна моліцца.

— Яна не моліцца,— сказала маці.

— Мама...

— Ну і добра, а што далей?— Старая не сварылася, не крычала, яна гаварыла спакойна, разважліва, з годнасцю.

І гэты яе разважлівы спакой пачаў злаваць дырэктара:

— Ці вы сваёй дачцэ дабра не жадаеце?

— Як гэта не жадаю? Жадаю.
— Дык навошта абразы трымаеце ў хаце?
— А хіба яны замінаюць ёй? Яны ёй не замінаюць. І калі не хоча глядзець на іх, то няхай не глядзіць. Я павесіла іх для сябе, а не для дачкі.
— Але яна настаўніца, і жывяце вы пад адною страхою,— усё больш і больш распаляўся дырэктар.— І як толькі вы гэтага не хочаце зразумець?
— Я ўсё разумею, яшчэ розуму не страціла. А як жа нам жыць не пад адною страхою, калі яна мая дачка? Не прагоніць жа яна мяне з хаты, га?
— Не, вы толькі паслухайце яе,— павярнуўся дырэктар да Алены Лявонаўны.— Я не магу спрачацца, калі людзі не разумеюць ніводнага майго слова.
— Вы,— звярнулася да старой Алена Лявонаўна,— можа б, і сапраўды падумалі пра сваю дачку. Яна ж настаўнічае ў школе, і дзеці ведаюць, што ў яе хаце вісяць абразы...
— У Мядзвенцы абразы вісяць не толькі ў маёй хаце,— упарцілася гаспадыня.— Вучням гэта не ў навіну, яны прывыклі.
— Дык вы,— нібы і не чула старой Алена Лявонаўна,— знялі б сваіх багоў ды схавалі б у якую камору. Усё роўна яны былі б з вамі, захочаце калі-небудзь паглядзець на іх, глядзіце.
— А і сапраўды,— выгукнуў дырэктар,— з вамі яны і застануцца, хіба што не на вачах ва ўсіх.
Ні хвіліны не раздумваючы, маці адказала:
— Мне няма чаго іх саромецца, няма ніякае патрэбы хаваць ад сябе. Няхай хаваюць тыя, у каго сумленне нячыстае. А мне яны не замінаюць, што вісяць на сцяне.
Дырэктар узяўся за галаву, затуліў далонямі вушы.
— Дзе я апынуўся?— прашаптаў.— І тут жыве мая настаўніца?
— Ай-яй!— усклікнула старая.— І чаго гэта за галаву хапацца?
Каля варот дырэктар сказаў:
— Дзіўлюся я з вас, Наста Васільеўна... Адукацыя ў вас няскончаная, вам бы яшчэ вучыцца і вучыцца трэба. Працуеце вы ў школе таму, што кадраў не хапае... І вось — вы не можаце аказаць уплыву на сваю маці. А потым — гэта хлусня. Як можна? Вы, напэўна, і з дзецьмі паводзіце сябе гэтак?
— Віталь Рыгоравіч,— азвалася і змоўкла.
— Мы вам благога не хочам, ніхто не хоча. Аднак трэба дбаць пра свой аўтарытэт... Толькі ў вашай хаце вісяць абразы, больш ніхто з нашых настаўнікаў іх не трымае ў хаце... Падумайце аб гэтым.
Яна апусціла галаву і стаяла перад ім, як вучаніца. І Алене Лявонаўне ў гэтую хвіліну, як і раней, было шкада Насты Васільеўны, нібы роднага дзіцяці.
— Неўзабаве новы навучальны год,— працягваў дырэктар.— Неўзабаве раённая настаўніцкая канферэнцыя. Няўжо вы хочаце, каб пра гэта стала вядома ў раяно? Каб пра гэта гаварылі на канферэнцыі? Ды варта толькі адзін раз каму-небудзь сказаць, потым ужо не забудуцца, потым ужо штогод паўтараць будуць адно і тое ж... Хоць, можа, абразоў тых даўно ўжо не будзе, даўно ўжо знімеце іх са сцен.
— Зніму,— паабяцала Наста Васільеўна. Паабяцала з асцярогаю, бо падумала, што дырэктар не паверыць, палічыць за хлусню.
— Добра, пабачым,— напеўным голасам вымавіў той.— Вось толькі ці справіцеся са сваёю маткаю? Хутчэй яна з вамі справіцца... Добра, пабачым...— І пайшоў.



Алена Лявонаўна таксама заспяшалася — не магла тут больш аставацца. Ды вунь і старая выйшла з хаты, накіравалася да іх, каб, напэўна, сказаць штосьці вельмі пільнае. Не, спрачацца яна не хоча, няхай самі мірацца, няхай сама адна адной усё растлумачаць, чужы чалавек наўрад ці тут паможа, толькі можа нашкодзіць. Усё гэта дужа тонкая справа, часта незразумелая для староннягa, каб вось гэтак сунуць нос, каб вось гэтак лезці са сваімі парадамі. Няхай самі...

У Алены Лявонаўны выдаўся вольны дзень, і яна села за сваю швейную машыну. Бо і сабе некалі бралася штось зрабіць, але так і не скончыла, усё адкладала з дня на дзень, ды і людзі, ад якіх папрымала заказы, пыталіся, калі ўжо ім прыходзіць па гатовае. Колькі разоў казала сабе, што нікому не будзе шыць, апрача як сабе і дзецям сваім, але як толькі нехта прыходзіў з аднавяскоўцаў і пачынаў прасіць — не магла адмовіць. Пасылала да Шчарбіны — хіба ж ёй раўняцца з ім, ён кравец такі, што як пашые, дык пашые,— але яны чамусьці да Шчарбіны ісці не хацелі, прасілі яе.
Прагледзела розную крамніну — вось з гэтае блакітнае чалавек прасіў пашыць блузку і з гэтае таксама блузку, праўда, колер крышку сумны, ды затое шыць для старой бабы, а не для дзяўчыны. А вось з гэтых адрэзаў абяцала пашыць сукенкі — жанчыны прынеслі аднолькавы штапель, мабыць, купілі ў мясцовым сельмагу ў адзін і той жа час. А вось тканіна на спадніцу, тут марокі не так і багата, пашыць можна хутка. А што гэта? Ужо і забылася... Ага, абяцала пашыць штаны, Фіёна яшчэ напрадвесні прынесла. Алена Лявонаўна спачатку адмаўлялася брацца, бо ніколі для мужчын і хлопцаў не шыла, але Фіёна вельмі прасіла, казала, што мае часу пачакаць, што гэта для яе Васіля ў школу хадзіць, дык яна згодна і да восені пачакаць.
Але восень ужо надышла, хоць на вуліцы было яшчэ па-летняму цёпла. Фіёна так ні разу і не нагадала пра свой заказ, аднак ці трэба чакаць яе напамінку. І Алена Лявонаўна, адклаўшы ўсё іншае, узялася за штаны. Меркі з Васіля яна не знімала, ды ёй і не патрэбна была тая мерка — ведала, і якога росту ён, і які ў паясніцы, ды і фасон у мядзвенецкіх хлопцаў заўжды быў аднолькавы, за яе памяццю яшчэ не мяняўся.
З шыццём справілася хутка. Што ж, сёння можна і аднесці, аднясе сама — Фіёна павінна быць дома, нехта казаў, што занядужала яна... Алена Лявонаўна перад тым, як пайсці, залезла на гарышча і доўга корпалася там у розным шмоцці. Яна прыгадала, што Васіль заўсёды ходзіць у школу ў гэткіх падраных ботах, што з іх ажно пальцы і пяткі відаць. А тут, на гарышчы — цэлая куча абутку, праўда, ношанага, але сярод яго ёсць нямала і такога, які яшчэ можна насіць. Напрыклад, вось гэтыя Ніканавы чаравікі. Праўда, на адзін з іх трэба толькі пакласці латку, але гэта не бяда, яшчэ паслужаць.
Зняла чаравікі з гарышча, пачысціла іх, змазала шмальцам, і яны заблішчэлі, зрабіліся як новыя. Фіёна не нарадуецца, ад яе падзяк ажно вушы вянуць будуць.
Фіёна ляжала на шырокім драўляным ложку. Калі яна ўгледзела настаўніцу, якая пераступіла парог яе хаты, дык па яе абліччы прабег нейкі як бы разгублены выраз. Нацягнула да самага падбароддзя грубое радно, потым змахнула з твару пасму рудых валасоў, якія перашкаджалі ёй добра бачыць.

— А я штаны пашыла вашаму Васілю, прынесла вось,— сказала Алена Лявонаўна.— Добры дзень... І чаго гэта вы ў жніво занядужалі? Самая гарачая пара...

— Хвароба не пытаецца ў чалавека,— адказала Фіёна.— А за штаны дзякую, не ведаю толькі, як і разлічыцца з вамі.

— Не трэба разлічвацца, неяк абыдуся...

— Як гэта абыдзецеся? Вы патрацілі свой час, працавалі... Да вас кожны гэтак насіць будзе, каб на дурнічку... Вось грошай няма ў мяне, усё адсылаю свайму фэзэвушніку, старэйшаму...

— Можа, бульбу калі паможаце капаць... Або вясною прыйдзеце на агародзе тое-сёе ўпарадкаваць.

— Да вясны далёка, калі яна яшчэ будзе... Памагу з бульбаю.

Узяла штаны, але разглядаць не стала. Даволі абыякава адклала іх убок. І запытальна ўтаропілася на Алену Лявонаўну, нібы поглядам сваім прасіла, каб настаўніца пайшла ўжо, бо ёй хочацца астацца адной і паляжаць у цішыні і спакоі. Аднак Алена Лявонаўна нібыта не хацела заўважаць гэтага. Зашамацела газетаю, разгортваючы чаравікі, паказала іх Фіёне.

— Гэта вашаму Васілю, будзе ў чым у школу хадзіць. Толькі трэба адну латку пакласці, а так яны яшчэ моцныя, мала ношаныя.

Фіёна, здаецца, не чакала гэтага, бо ажно прыўзнялася на ложку, і светлыя вочы яе зрабіліся круглыя.

— Навошта ж вы аддаяце? Яшчэ зусім новыя, хто-небудзь насіў бы яшчэ.

— Аддаю, бо ваш Васіль басанож ходзіць у школу, яму якраз добра будзе.

— І чаго гэта мой Васіль вам у галаве? На ўсіх не наберыцёся.

— На ўсіх, вядома, не набяруся, гэта праўда, але няхай будзе яму што абуць.

— Ды хіба я сама не пастаралася б яму прыдбаць што-небудзь? — сказала Фіёна, нібы пакрыўджаная тым падарункам.

— Вядома, пастараліся б, але ж ён у вас не адзін, і кожнага трэба абуць,— далікатна апраўдвалася Алена Лявонаўна, каб і сапраўды не абразіць Фіёну хоць адным неасцярожным словам.

— А хіба ў вас сваіх дзяцей няма...

— І ў мяне ёсць дзеці,— мякка згаджалася настаўніца.— Але нам лягчэй, мы з Ніканам Іванавічам удваіх, а вы адна...

І змоўкла, бо заўважыла, што ясныя Фіёніны вочы раптоўна наліліся слязьмі. Не маючы сілы адарвацца ад тых вачэй і баючыся, што яны вось-вось пырснуць буйнымі гарошынамі, Алена Лявонаўна хуценька сказала.

— Ды ці ёсць тут пра што гаварыць? Вазьміце, няхай носіць сабе на здароўе.

Фіёна зноў адкінулася на падушку.

— Можа я абразіла вас чым-небудзь? — спыталася разгубленая настаўніца.

Фіёна, ледзьве стрымліваючы слёзы, нічога не адказала.

— Паверце, я не хацела... Не было і ў думках, я толькі хацела, каб усё было як найлепш,— апраўдвалася Алена Лявонаўна, хоць і сама не ведала, у чым ёй трэба апраўдвацца.

Фіёна ўсё кусала губы.

— Ну то я пайду, калі гэтак,— сказала настаўніца, не ведаючы — забіраць назад чаравікі ці не.

— Вы сапраўды добрая...— выціснула з глыбіні сваёй збалелай душы жанчына,— а я... а я...



Яна, відаць, хацела сказаць штосьці важнае, але...

— Супакойцеся,— папрасіла настаўніца. У гэтую хвіліну ёй хацелася і на самай справе зрабіць што-небудзь добрае для Фіёны, але не ведала як.

— Ой, я не магу... я не магу! — ускрыкнула Фіёна, быццам само гора схапіла яе за горла сваімі чэпкімі пальцамі і пачало душыць.

— Ой, людзі даражэнькія! Ой, людзечкі...

— Фіёна, чуеце, Фіёна...— не пераставала паўтараць разгубленая настаўніца.

Жанчына ў ложку змоўкла. Праз нейкую хвіліну расплюшчыла ацяжэлыя свае павекі, зірнула на Алену Лявонаўну так, быццам не магла пазнаць яе.

— Дзякую,— сказала.— Дзякую за ўсё... Век вам не забуду вашае дабрыні.— Губы ў яе скрывіліся, але Фіёна перасіліла сябе, не заплакала.— А цяпер ідзіце,— папрасіла,— ідзіце...

— Можа, вам трэба памагчы чым-небудзь?— спыталася Алена Лявонаўна, не кратаючыся з месца.

— Дзякуй вам і за тое, што вы наведалі мяне... Ідзіце, бо мне цяжка глядзець вам у вочы,— паўтарыла жанчына.

Настаўніца, сагнуўшыся, нібыта на сваіх плячах выносіла з гэтае хаты часціну гора, выйшла. І тады, калі пад вокнамі прамільгнула яе постаць, Фіёна ўстала з ложка, узяла з лаўкі прынесеныя чаравікі і ўскінула над галавою так, быццам хацела шпурнуць іх на падлогу. Ды рука павісла ў паветры, як быццам жанчына перадумала...

Кацярына Пекур, якую Алена Лявонаўна хадзіла падпісваць на пазыку, раптоўна памерла. Жанчына яна была хваравітая і выгляд у яе быў чалавека нядужага, аднак памерла яна зусім не праз свае хваробы. Скакала цераз канаву, падвярнула нагу і ўпала. Пачакала колькі часу, пакуль суняўся боль, і паспрабавала ісці. Але нага зноў забалела, і жанчына, паглядаючы на бакі, каб часам хто не ўбачыў, бо сорамна, на карачках папаўзла дадому. Так-сяк прапаўзла цераз агарод, потым цераз двор. Тут яе ўгледзеў хтосьці з дзяцей і пацікавіўся, чаго гэта яна паўзе. Маці, ніякавата ўсміхнуўшыся, растлумачыла, што падвярнула нагу і не можа ісці. Вось трохі паляжыць, боль аціхне, і яна зноў пойдзе... Гэтак жа на карачках пералезла цераз парог, з цяжкасцю забралася на ложак і, склаўшы рукі на грудзях, сказала дзецям, што ім трэба рабіць, каб навесці ў доме парадак. Дзеці спраўна выканалі ўсё, што яна загадала, потым бегалі па хаце, смяяліся, а тым часам маці заплюшчыла вочы і заснула.

Больш яна не прачнулася.

Смерць Кацярыны Пекур ускалыхнула ўвесь Мядзвенец. Першаю думкаю людзей, якія даведаліся аб гэтым, была думка пра васьмёра дзяцей, якія асталіся сіротамі, і пра Рыгора Пекура, удаўца, на руках у якога тыя сіроты пааставаліся.

— Не, гэта няпраўда! — пачуўшы страшную вестку, сказала Алена Лявонаўна.

— Чаму няпраўда? — спыталася Варка, якая прынесла гэтую вестку.

— Яна не магла памерці. Як магла памерці, калі ў яе столькі малых? Што яна сабе надумала, што ўзяла ды памерла?

Варцы здалося — настаўніца, заўсёды такая разважлівая, з яснаю галавою, цяпер не інакш як звар'яцела.

— Чалавек не можа выбіраць сабе жыццё ці смерць,— сказала Варка.— Тут ужо як выйдзе...

— Не магла яна памерці,— зноў паўтарыла Алена Лявонаўна, развяла рукамі ды так і застыла. Нібыта хацела зразумець сутнасць таго, што адбылося, але гэта было ёй не пад сілу.

У той вечар, напэўна, кожны наведаў Пекураў. Не было такога чалавека ў Мядзвенцы, які б не прыйшоў, каб хоць пастаяць на панадворку, калі ўжо не зайсці ў хату... Меншых дзяцей пазабіралі да сябе сваякі, старэйшых хацелі забраць, але яны не згадзіліся ісці да людзей, хацелі быць дома, каб бачыць матку, хай сабе і нежывую...

Рыгор Пекур быў ля малатарні, калі на кані прыляцеў з сяла яго старэйшы сын, Алекса, і сказаў, што памерла маці. Бацька спачатку не зразумеў нічога, стаяў, як ашаломлены, потым раптам абедзвюма рукамі сцягнуў сына з каня, сам ускочыў на яго і, ухапіўшыся за грыву, памчаўся праз поле да сяла... Алекса кінуўся следам за бацькам, бег, спатыкаючыся, колькі разоў падаў, да крыві падрапаў твар аб калючкі, штось крычаў наўздагон бацьку, быццам той мог пачуць, плакаў, душачыся горкімі слязьмі.

І цяпер на Пекуравай сядзібе не сціхала гаворка не столькі пра нябожчыцу, як пра Рыгора — што рабіць ён будзе з дзецьмі. Ну, каб у яго было іх адно ці двое, нават трое, ад сілы чацвёра, дык знайшлася б маладзіца, якая прыйшла б да яго жыць і памагчы, хоць нялёгка ёй было б, ой, нялёгка! Але дзе вы знойдзеце чалавека, які пайшоў бы на васьмёра дзяцей? Такога чалавека вы не знойдзеце нідзе. Бо калі і падумаць, што хоць Рыгор і добры гаспадар, але ніводная дзяўчына за яго не пойдзе ў яго становішчы, каб там і мёдам было намазана. Можа, і пойдзе за яго жанчына, у якой таксама ёсць адно-двое малых, але паспрабуй звесці ў адзін гурт столькі дзяцей, яны і галовы патаўкуць адно аднаму!

Калі Рыгор Пекур выходзіў на двор, сяляне змаўкалі, усе глядзелі на яго, і безліч самотных ад ягонага гора вачэй апякалі душу марозам, і ён стараўся не глядзець на людзей.

Гаварылі, што Рыгор можа раздаць дзяцей сваякам — сваім ды жончыным. Кожны ўзяў бы па адным, глядзеў бы. Шкада, вядома, разрываць сям'ю, ды яшчэ гэткую дружную, няхай бы і далей жылі ўсе разам, але трэба неяк ратавацца ад гора.

— А чаму толькі сваякам раздаць дзяцей? — сказала Алена Лявонаўна.— Хіба не знойдзецца і іншых, якія б захацелі ўзяць на выхаванне каго-небудзь з ягоных дзяцей? Я таксама магла б узяць, нават самага малога, бо ўжо, здаецца, забылася, як такога і на руках трымаць.

З настаўніцай усе пагадзіліся — сапраўды, павінны ж знайсціся і чужыя добрыя людзі, якія памогуць у цяжкай бядзе.

Кацярыну хаваў увесь Мядзвенец, шмат людзей прыйшло і з суседніх сёл. Дзень быў спякотны, пыльны. Дамавіну везлі на возе, засланым саломаю, каля дамавіны сядзелі дзеці. Старэйшыя плакалі, меншыя, нічога не разумеючы, цікаўна пазіралі на бакі. Менавіта іх няўцямны спакойны выгляд мацней за ўсё кроіў людскія сэрцы... На цвінтары Рыгор Пекур схапіўся за сэрца і ўпаў, страціўшы прытомнасць. І тут адбылося нешта незвычайнае — усе заварушыліся, гучна загаманілі: не трэба яму гэтак перажываць і пакутаваць, бо дзеці могуць зусім асірацець. Старэйшы сын Алекса збегаў у бліжэйшую хату і прынёс вядро вады, і бацьку адлілі. Бледнага, са страшнымі, амаль безразважнымі вачамі, паднялі яго з зямлі. Цяпер толькі тое



і рабілі, што ўпрошвалі яго гэтак не пакутаваць, бо жалем сваім не вернеш, не ажывіш жонкі, трэба пра дзяцей падумаць.

З цвінтара Алена Лявонаўна вярталася са старшынёхай. Старшыніха мела такі выгляд, нібы вялікае гора абрынула і на яе плечы. За час пахавання яна прыкметна змарнела, пастарэла.

— Я папрашу ў яго аднаго хлопчыка, самага меншага,— сказала настаўніца.— Мы з Ніканам ужо гаварылі пра гэта. Як родны будзе для нашых дзяцей, мы яго гатовы ўсынавіць.

— Як жа гэта пры жывым бацьку ўсынаўляць?— панура адказала старшыніха.— А вы хоць пыталіся ў самога Пекура? А можа, ён не захоча?

— Не захоча?

— А чаго яму хацець? Страціў жонку, а цяпер яшчэ і дзяцей страціць?

— Ну чаму ж...— спрабавала запярэчыць Алена Лявонаўна і змоўкла. І сапраўды, ці захоча Пекур разрываць па дзіцяці сваю сям'ю?

— Не павінен ён разбіваць сям'і,— рашуча сказала старшыніха. Дзеці павінны расці разам.

— Каб жа гэтак удалося...

— Не можа быць, каб не знайшлася жанчына, якая заменіць ім маці.

— Хто ж здольны на гэта?

— Знойдуцца,— цвёрда сказала старшыніха. У яе тоне адчувалася, што гаварыла яна не проста так, а нібы ўжо кагосьці і на прыкмеце мела, хто згадзіўся б прыйсці ў вялікую Пекураву сям'ю і стаць для чужых дзяцей маткаю.

Памінак ніякіх не было — дакладней кажучы, да іх рыхтаваліся, штосьці гатавалі, смажылі, але вяскоўцы, якія прыйшлі, амаль ні да чога не дакрануліся: не маглі, здаецца, нават глядзець на страву, а не тое, што есці. І старшыніха сядзела моўчкі, прыслухоўваючыся да вялікага болю ва ўласнай душы. Пазірала на старэйшых дзяцей, што асталіся дома, і ў яе вачах успыхвалі іскаркі яснай думкі, якая выспявала ўсё больш і больш пэўна...

З Пекуравай хаты яна пайшла позна ўвечары, а каб хто сказаў ёй затрымацца там, то і затрымалася б. Але ніхто не сказаў, а сама яна не адважылася. Вярнулася дадому з яснаю сваёю думкаю і з кожнаю хвілінаю адчувала ўсё мацней — павінна зрабіць так, як наважыла, і абавязкова зробіць. Ад гэтага рашэння быццам дыхаць лягчэй стала, быццам у вачах пасвятлела, і чужое гора ўжо не здавалася такое беспрасветнае...

Раніцаю наступнага дня яна вырашыла наведаць Рыгора Пекура і сказаць яму аб сваім рашэнні. Ды на паўдарозе спынілася — яе рашэнне, як ёй раптам здалося, выглядала не зусім салідна. Нібы яна прыніжае сябе нечым, нібы нешта просіць. Не, так не трэба рабіць, трэба па-іншаму, трэба, каб кожнае слова мела для Рыгора вагу і значэнне.

Прыйшла ў калгасную кантору, зайшла ў свой кабінет, у якім амаль ніколі не бывала. Уздоўж сцен стаялі старыя крэслы з апшарпанымі спінкамі, двухтумбавы стол з вялікай шкляной чарніліцай, у якой даўно ўжо высахла чарніла. Удыхнула ў сябе кіслы, цяжкі дух нежылога памяшкання і зморшчылася. Адчыніць бы акно, ці што... Ды дзе там, калі яно яшчэ з зімы забіта цвікамі. Налегла локцем, мацней, яшчэ мацней, цвікі з вуліцы паадгіналіся, і акно са

звонам расчынілася. Свежае ранішняе паветра ўварвалася ў непрыветны кабінет скупым цяплом.

Убачыла бухгалтара, які заўсёды першы прыходзіў у кантору, і паклікала яго пальцам. Бухгалтар, пра якога казалі, што ён лічыльнікі любіць больш за сваю жонку, угледзеўшы старшыніху, паскорыў крок і хутка ўжо стаяў ля акна.

— Сямён Сямёнавіч,— сказала старшыніха, старонячыся праніклівых вачэй бухгалтара,— запрасіце сюды Рыгора Пекура. Скажыце, што я хачу з ім пагаварыць, няхай прыйдзе сюды.

— Зараз будзе тут,— ахвотна згадзіўся Сямён Сямёнавіч выканаць просьбу старшыніхі і, шматзначна ўсміхнуўшыся, пайшоў.

«І чаго гэта ён так усміхнуўся? — з прыкрасцю падумала старшыніха.— Нічога ж не ведае, а ўсміхаецца... Хоць і добрая душа, а целяпень...»

Праз колькі хвілін бухгалтар вярнуўся, сказаў, што Пекур абяцаў зараз прыйсці, і прычыніў за сабою дзверы. Гарпіна Цітаўна зноў асталася адна і раптоўна адчула хваляванне — яно цёплаю хваляю сціснула ёй грудзі, падступіла да горла. «Ну, яшчэ чаго не хапала,— сказала сама сабе.— Няма чаго, няма...»

Пекура давялося чакаць даволі доўга, але яна разумела, што яму цяпер хапае клопату, няма часу хадзіць туды-сюды, нават у калгасную кантору. Ды, уласна кажучы, што яму там рабіць, у канторы той, няма чаго... Устала яму насустрач, зрабіла крок-другі, нібыта хацела за руку з ім павітацца, ды і спынілася пасярод кабінета, утаропіўшыся на яго сваімі пільнымі вачамі. Ад прыроды смуглявы, Пекур, здавалася, яшчэ больш учарнеў і неяк паменшаў, зрабіўся вузейшы ў плячах. Па шчоках, барадзе кучаравілася густое шчаціннне, прыкметна павыгаранае ўжо на сонцы.

— Так,— толькі і вымавіла старшыніха, бо ўсе загадзя падрыхтаваныя словы раптам вылецелі з галавы. Праз сілу адолеўшы душэўнае хваляванне, сказала далей: — Мы вам ва ўсім паможам. Усё, што трэба будзе, калгас дасць.

Пекур маўчаў, быццам сваім выглядам казаў, што нічога яму не трэба, што нічым ужо тут не паможаш.

— Вы жывяце сярод людзей,— сказала старшыніха і адчула, як суха гучаць яе словы.— Гора цяжкае, але яго трэба перажыць.

І зноў Пекур нічога не адказаў. Апусціўшы галаву, падышоў да крэсла, сеў і гэтак сядзеў моўчкі з апушчанаю галавою.

— Вы наш лепшы механізатар,— бубоніла Гарпіна Цітаўна.— Мы без вас абысціся не можам, мы без вас як без рук. Калгас возьме вашых дзяцей на выхаванне, будзем забяспечваць вас... Што вы вырашылі рабіць?..

— Не ведаю,— нарэшце адказаў Пекур.

— Жонку вам трэба шукаць!

— Трэба,— згадзіўся Пекур.

І тады яна адважылася сказаць тое, што вынасіла ў сабе, тое, дзеля чаго, уласна кажучы, і паклікала Рыгора ў свой кабінет.

— Я буду для іх маткаю.

Сказала і паглядзела на яго, спадзеючыся ўбачыць на ягоным твары хоць іскарку радасці. І, не ўбачыўшы, хутка пачала гаварыць:

— Не разбівайце сям'і, не раздавайце дзяцей па людзях. Трэба, каб дзеці раслі разам. Няма ў іх маці, то няхай каля бацькі гадуюцца. Паслухайце мяне, Рыгор, я вам дабра жадаю. Няхай вам будзе цяжка, але ж вы ваявалі, на вайне вам было цяжэй.

— На вайне было лягчэй,— ціха сказаў Пекур.



— Я вам памагу, я буду для іх як родная маці, чуеце, буду ўпраўляцца з усімі гаспадарскімі клопатамі, колькі б іх там ні было.

Пекур, здаецца, ацаніў пачутае. Але чаму ў яго вачах не відаць і кропелькі цяпла?

— Вы, Гарпіна Цітаўна, не ўправіцеся,— зноў гэткім жа ціхім голасам адказаў Рыгор.

— Не ўпраўлюся? — міжвольна паўтарыла старшыніха.

— Так, гэта не для вас. У вас ніколі не было дзяцей, і вы не ведаеце, як хадзіць каля іх.

— А я навучуся! — выгукнула яна.

Пекур зусім спакойна сказаў:

— Вы ж не гаспадыня.

— Не гаспадыня? — зноў міжвольна паўтарыла Гарпіна Цітаўна.

— Вядома, не,— і Рыгор правёў рукою, нібы паказваючы на той беспарадак, які панаваў у кабінеце.

Старшыніха прасачыла позіркам за тым рухам — і раптам запусценне, якое адчувалася ў гэтым пакоі, болем разанула па яе сэрцы.

— Ды і хаты вы ніколі не трымаецеся,— казаў далей абыякавым голасам Пекур.

— Бо такая ў мяне работа.

— А хіба я кажу, што не такая. Вядома, такая работа, да іншай вы не прывыклі, Гарпіна Цітаўна,— ён назваў яе па імю і па бацьку і гэтым зваротам нібы яшчэ раз моцна адгарадзіўся ад яе.— Вы ўжо не адвыкнеце, хоць бы і хацелі. Ды і навошта вам звязваць сабе рукі, падумайце лепш.

— Ды хіба я не жанчына, не баба? — высунула яна, як апошні свой самы неабвержны доказ.

— Безумоўна, баба,— велікадушна згадзіўся Пекур.— А толькі маткі вы маім дзецям не заменіце.

— Маткі не замяніла б, ніхто яе не заменіць, але ж быць замест яе...

Штосьці падобнае на ўсмешку прабегла па сініх Пекуравых губах.

— Не, не ўдасца вам, Гарпіна Цітаўна!.. Дзякую за ўсё, за добрыя вашы словы, але не выпадае. Хоць вы і хочаце, а не зможаце.

— А хто ж зможа? Хіба хто-небудзь іншы зможа?

— Чаму ж не, змогуць,— шчыра адказаў Рыгор.

— Хто? — спытала старшыніха.

— А сястра мая, што ў Збаражы жыве. Адзінокая яна, сказала, што пяройдзе жыць да мяне. Яна справіцца.

У Гарпіны Цітаўны адразу адлягло ад сэрца.

— Прыгожую маеце сястру, Рыгор.

— А чаго ж, прыгожую,— згадзіўся той.

— То няхай вам шчасціць... А пра мяне не забывайцеся, можа, спатрэблюся яшчэ.

— Дзякую на добрым слове,— Пекур падзякаваў і ўстаў з крэсла.— Дык мне ўжо можна ісці, Гарпіна Цітаўна?

— Ідзіце, ідзіце,— сказала старшыніха, хаваючы ад яго свае вочы.

У парозе ён затрымаўся:

— У гэтыя дні выйсці да малатарні я не змагу, то ўжо няхай там без мяне як абыдуцца.

— Добра, абыдуцца... Ідзіце ўжо...

Калі асталася адна, адразу ўздыхнула з палёгкаю... Хваля сораму

заліла яе ўсю, і яна адчула, што агнём гараць вушы. Замкнула дзверы на ключ, бо баялася, што нехта можа зайсці і ўбачыць яе такою разгубленаю... На Рыгора Пекура не злавалася — злавалася на сябе, ад крыўды ажно затуманіла ў вачах.

Колькі праседзела яна за сталом, сказаць цяжка, мабыць, доўга. Хтосьці стукаў да яе, хтосьці заглядваў у акно. Яна нікому не адказвала, потым нават забілася ў самы куток, каб ніхто не бачыў. Чула, як за сцяною ў бухгалтэрыі Сямён Сямёнавіч размаўляў з кімсьці, і ёй здавалася, што гаворка ішла пра яе: ад гэтай думкі рабілася яшчэ больш сорамна.

Пакінула яна кабінет нешта каля паўдня. Сямён Сямёнавіч, які ўвесь час чакаў яе, выбег з бухгалтэрыі ў цёмны калідорчык, абклеены плакатамі, і сказаў, што званілі з банка, меліся пагаварыць з ёю. Доўга ўглядаўся ў яе, як быццам хацеў прачытаць у вачах тое, што таілася ў яе душы.

— Яшчэ пазвоняць,— адказала яму халодным тонам і, шырока ступаючы, падалася на вуліцу. Бухгалтар, да якога заўсёды адчувала нейкую непрыязнь, у гэтую хвіліну быў ёй ненавісны...

Сёлета, як і летась, Алене Лявонаўне выпала перапісваць дзяцей у школу на сваім участку.

У Варкі Лузгар менш за ўсё было першакласнікаў. Толькі дзве дзяўчынкі ішлі ў трэці. Свайго старэйшага, Міколу, яна таксама збіралася адправіць у школу.

— Вы ж самі гаварылі, каб ён вучыўся,— сказала Алене Лявонаўне.— З прымамі ў яго не атрымалася — хай сабе. Не захацела старшыніха даць дазвол на пашпарт — хай сабе. Але і старшынісе Мікола не дастанецца, калі пайшло на гэта. Адпраўлю яго зноў у школу. Перарастак, кажаце? Нічога. Цяпер усе перарасткі. А калі не ўсе, дык мой будзе. Няхай у школу ходзіць, а ў калгас не пойдзе, хоць старшыніха і стараецца.

— Ды навошта мне тая школа? — бубніў з кутка Мікола, паблісквачы злоснымі вачамі на маці.— Пайду ў калгас, папрацую, а там будзе відаць...

— Ты мне маўчы, герой! — адказала Варка.— У калгас ты заўсёды паспееш, а вучыцца — не!

— Ды які цяпер з навукі толк,— не здаваўся Мікола.

— З яе заўсёды быў толк, толькі з цябе ніякага толку. Але я цябе сама давяду да розуму, калі яго ў цябе няма.

— Ага, давядзеце...— здзекліва адказаў сын.

Запісала настаўніца і Міколу — у шосты клас. Яна ўжо наперад ведала, як ён будзе наведваць заняткі — хадзіць праз дзень, хатнія заданні не выконваць або выконваць пятае праз дзесятае. На перапынках лясы тачыць з гэткімі ж, як і сам, дзяўчатамі-пераросткамі, на ўроках перагаворвацца з імі, перадаваць адно аднаму запіскі. Трохі паходзіць, а потым усё роўна адсеецца, абавязкова адсеецца і пойдзе працаваць у калгас, бо і маці, зрэшты, скажа, каб ён ішоў да коней, калі не хоча хадзіць у школу... Такіх выпадкаў было нямала, нямала будзе і потым, пакуль у класах будуць сядзець дзеці, якія не змаглі вучыцца ў гады вайны.

— Што ж, Мікола, трэба вучыцца,— сказала Алена Лявонаўна.— Маці жадае табе дабра, слухай яе.

— А-а-а,— махнуў рукою хлопец.



На выгляд ён быў вельмі дужы хлопец і, вядома, не нагадваў вучня шостага класа. З такімі плячамі, з такімі кулакамі, ад якіх нямала можа дастацца яго аднакласнікам, калі тыя распачнуць з ім бойку. Ды і ў вачах — туман нейкі, ніякае ахвоты да навукі. І тым не менш Алена Лявонаўна паўтарыла:

— Вучыся, Мікола, табе трэба вучыцца.

Калі настаўніца ішла па вуліцы, Яўдошка першая гукнула яе. Кінула сваю работу, хуценька падышла да варот і, сабраўшы ў кутках губ клубочкі тоненькіх маршчынак, спыталася:

— Што, Алена Лявонаўна, дзяцей у школу перапісваеце?

— Так, перапісваю,— адказала настаўніца.

— То запішыце і мяне,— пажартавала Яўдошка.

— Цябе, Яўдошка, мабыць, запішу на наступны год, бо да першага класа ты яшчэ не дарасла.

Адказала жартам — і сама пашкадавала. Бо Яўдошка такая, што можа і не зразумець, можа вытлумачыць гэты жарт па-свойму — зачапілі ж яе ўзрост,— але, як ні дзіўна, яна быццам нічога і не пачула.

— Не хочаце, Алена Лявонаўна, то і не трэба, няхай ужо без тае школьнае навукі, пражыву як-небудзь... Усіх дзяцей запісваеце, дык ужо запішыце і маіх.

— Тваіх? — здзіўлена спыталася настаўніца і пільна паглядзела на Яўдошку, нават асцярожна паветра ўдыхнула — ці не п'яная часам яе суседка? Але тая, здаецца, была зусім цвярозая. А можа, ёй проста пажартаваць захацелася?

— А чыіх жа яшчэ? Маіх! Ці вы думаеце, што я і дзяцей не магу мець?

— Чаму ж...— Алена Лявонаўна старалася падбіраць кожнае слова.

— Ці, можа, думаеце, што маім дзецям вучыцца не трэба?

Пра што яна гаварыла, пра каго? Алена Лявонаўна праз сваю асцярожнасць на гэты раз нічога не адказала, а Яўдошка дадала:

— Бачыце, Алена Лявонаўна, для маіх дзяцей у школе і месца няма, га?

Гаварыла так, нібы і на самай справе ў яе былі дзеці, якіх яна хацела паслаць у школу. І Алена Лявонаўна зусім разгубілася, не ведала, што і адказаць. Яе разгублены выгляд урэшце-такі рассмяшыў Яўдошку.

— Ну і напалохала я вас, праўда? — цешылася яна.— Ды вы, Алена Лявонаўна, ажно збялелі, вас нельга пазнаць!

— Дзе там...— усё яшчэ падбірала настаўніца асцярожныя словы.

— Няма ў мяне ніякіх дзяцей, не бойцеся, і ў школу нікога не трэба запісваць. Не перажывайце, Алена Лявонаўна. І ніколі дзяцей у мяне не будзе,— спахмурнела Яўдошка,— так што ніколі вам і запісваць не давядзецца.

— Ну, чаго ты так гаворыш? — нарэшце ачомалася настаўніца.— Ці ты, Яўдошка, не такая, як іншыя людзі? Такая, як усе, і дзеці ў цябе таксама будуць.

— Суцяшаеце мяне, Алена Лявонаўна, ох, як лёгка робіцца ад вашых слоў...

— Я не суцяшаю, а праўду кажу,— і сама чамусьці засаромелася таго, што сказала.

— Не веру я ў вашу праўду, ды і вы не верыце. Але нічога, гаварыце, добрае слова заўсёды прыемна слухаць.

— У вас, Яўдошка, усё наперадзе,— суцяшала яе настаўніца, а ў самое аж язык прысох.

— А як жа, наперадзе, бо ззаду нічога не было... Але вы не думайце, што я зусім здурнела, гэта мяне авадзень укусіў, і я нагаварыла вам абы-чаго. Бачыце, ён паляцеў! — паказала яна пальцам кудысьці ўгору і, зарагатаўшы, пайшла ў хату.

Фіёны Алена Лявонаўна дома не застала, але не сумнявалася, што свайго Васіля яна абавязкова пашле ў школу. Хлопец быў старанны, настойлівы ў вучобе, хоць і не ўсё яму лёгка давалася. Ён хацеў бы і пабегаць разам з іншымі, і пагаманіць у часе ўроку, але калі яму рабілі заўвагу, адразу супакойваўся,— відаць, прыгадваў маці, якая вострым словам, а то і штурхялём заахвочвала яго да навукі і ніколі не даравала яму дурасліваспі, як іншыя маткі сваім дзецям. Што ж, запіша яна Васіля ў пяты клас, а з Фіёнаю потым пагаворыць, перакінецца словам-другім.

Дзеда Панцялея таксама дома не аказалася, як і Ярыны. Ну, Ярына, вядомая справа, у калгасе, а куды мог падзецца стары?.. Пастаяўшы з якую хвіліну ў пустой хаце, выйшла на двор, накіравалася ўжо да форткі, як раптам яе супыніў чыйсьці голас. Павярнулася — каля паветкі стаяў бацюшка. Цёмная кашуля выпушчана паўзверх штаноў, у руках сякера. Відаць, сек дровы пад паветкаю.

— Нешта меліся сказаць нам? — спытаўся ён зычным сакавітым голасам, які лёгка і вольна нараджаўся дзесьці ў глыбокіх нетрах ягоных грудзей.

— Ды я, уласна, да Ярыны... Ці дзеда Панцялея хацела пабачыць,— адчула няёмкасць Алена Лявонаўна.

— Дык, можа, я чым памог бы вам?

— Не ведаю, ці паможаце... Хацела пагаварыць з маці...

— А ўсё ж? — і ў тоне прагучала настойлівасць.

— Я запісваю дзяцей у школу, дык хацела спытацца, ці будзе пасылаць Ярына сваіх і ў якія класы.

— Я вам адкажу за яе,— бацюшка паклаў сякеру каля паветкі, падышоў бліжэй да настаўніцы; яе чамусьці ўразіла — якая белая і чыстая была скура на ягоным твары і як яна румянілася, нібы злёгку парашком прысыпана.— Абедзве пойдуць у школу — і меншая, і большая.

— То я гэтак і думала, што абедзве пойдуць,— разгублена адказала настаўніца,— але, ведаеце, усё роўна трэба пагаварыць з маці, бо ў сям'і ўсё можа быць.

— Вядома,— згадзіўся бацюшка, быццам і не заўважыўшы яе разгубленасці. Сказаў так, нібы меў права гаварыць за дзяцей ад імя іх маці.

— Дзякую,— падзякавала настаўніца,— тады я не буду больш турбаваць Ярыну, гэтак і запішу. Да пабачэння.

— Усяго вам добрага,— адказаў бацюшка і, павярнуўшыся, павольнаю хадою падаўся да паветкі, падняў сякеру...

Алену Лявонаўну не пакідала разгубленасць, і яна не магла зразумець, чаму гэта. Было такое адчуванне, як быццам нечакана для самой сябе яна заглянула ў чужое жыццё, хоць і не хацела заглядаць, і ўгледзела тое, чаго зусім не хацела б бачыць. I сама сабе не магла толкам сказаць, што ж яна ўбачыла. Ды і памыліцца яна можа: ці мала што магло ей здацца не такім, якім яно ёсць на самай справе?

— А чаго гэта вы да бацюшкі ходзіце, калі Ярына ў полі?

Насустрач ёй ішоў Сцяпан Кушта і шматзначна ўсміхаўся. Ішоў басанож, у закасаных да калень штанах, у адной руцэ трымаў вясло. Мабыць, толькі ад чоўна, ішоў абедаць, бо гэтая вулачка вяла к яго хаце.

— Дзяцей запісваю ў школу,— сказала Алена Лявонаўна.— Не застала Ярыны, дык з бацюшкам гаварыла.

Кушта засвяціў здаровым левым вокам і нават хітра падміргнуў ім:

— А чаго, з бацюшкам можна раіцца аб чым хочаш, ён усё ведае, што ў доме робіцца. Ярына так узяла яго ў рукі, што ён і пікнуць у яе не можа. Не верыце? Да яго нядаўна пападдзя наведвалася, з ёю ён не жыве з тае пары, як у Мядзвенец перабраўся. Сама яна па нейкай прычыне пераязджаць сюды не хоча. То, мусіць, бацюшку перацягнуць хоча. I да яе ўжо дайшлі нядобрыя чуткі... I ведаеце, што ён сказаў ёй? Сказаў, што нікуды ехаць адсюль не збіраецца, хоча на ўсё жыццё астацца ў Мядзвенцы. Чаго, кажа, паеду да цябе, калі ты мне не нарадзіла ніводнай папоўны, ніводнага паповіча. А потым яшчэ Ярына наскочыла дадому, то яна тую пападдзю хуценька спрavaдзіла...

— Як гэта спраўдзіла?

— За што купіў, за тое і прадаю,— усміхнуўся Кушта, і цяжка было зразумець, дзе ён праўду сказаў, а дзе збрахаў.— Ці вы не ведаеце Ярыны? Яна каго хочаш акруціць! А бацюшка хіба не мужчына? Гэткі ж самы, як і ўсе. Не святы і не божы... Паглядзелі б вы на яго матушку! Казалі, што мядзвенецкія сабакі да гэтага часу брэшуць, супакоіцца не могуць!

Алена Лявонаўна пайшла, бо Кушту нельга было да канца дaслухаць. Толькі варта на хвіліну спыніцца ля яго, як ён завядзе пра адно і тое ж, нібы тая мякіна пачне сыпацца, канца таму не будзе... I хоць не дужа верыла Кушту, бо і намахляваць часам любіў, умеў хітра ўкласці свае думкі ў чужыя вусны, каб выглядала больш пераканаўча, тым не менш усё ж адчувала, што ў ягоных словах доля праўды ёсць, магчыма, не такая і малая доля... Апрача таго, у яе ў самой вочы ёсць — тое-сёе бачыла, тое-сёе чула ад іншых, не можа памыліцца. Ну што ж, няхай сабе, калі ім абаім радасць з гэтага, толькі што цяпер скажуць мядзвенецкія набожныя бабы?

У Пекураў Алена Лявонаўна застала таго, каго і спадзявалася ўбачыць,— Рыгораву сястру. У хаце, здаецца, нічога не змянілася з таго часу, як яна прыходзіла сюды па пазыцы. Хіба што трошкі менш дзяцей было, мабыць, гайсалі дзе па полі. Сястра была на дзіва падобная да свайго брата — і тая ж смуглявасць, і гэткі ж круглы, нібы сланечнік, твар, і вялікія чорныя вочы, і росту невысокага. Здавалася, узялі самога Рыгора, апранулі ва ўсё жаночае, каб выдаць яго за жанчыну, каб ашукаць некага. Яна і голасам Рыгоравым гаварыла, і пазірала на чалавека гэтак жа, нават хадзіла па падлозе, як брат. Алена Лявонаўна, уражаная гэтым, спачатку і гаварыць вольна не магла. Пацікавілася жыццём — і змоўкла.

— Ды якое там жыццё? — расказвала ёй Рыгорава сястра, якая цяпер была ў братавай хаце за гаспадыню і замяняла ягоным дзецям родную маці.— Хіба вы нашага жыцця не ведаеце? Трэба жыць, як набяжыць, іначай не выходзіць. Мне абы дзень да вечара. Пахаджу, пакручуся па хаце — і рада, што ўжо ноч, што можна легчы і заснуць. Для мяне дачакацца ночы — найвялікшае шчасце. А наш Рыгор, вы яго добра ведаеце, усё ў калгасе ды ў калгасе, нібы там без яго абысціся не могуць. Ён і кажа, што не могуць. Ну і дурань,

калі давёў да таго, што абысціся не могуць... А яно ўсё на маіх плячах.

— Цяжка вам,— паспачувала Алена Лявонаўна.

— Цяжка? А каму лёгка? Не было б тут цяжка, было б у іншым месцы цяжка. Дзяцей трэба даглядаць, бо самі не вырастуць... А я, ведаеце, такая ўжо дурніца, такая дурніца — дзіця сабе палец парэжа, з плачам прыбяжыць дадому, а ў мяне сэрца ад болю разрываецца. Быў бы той бог на небе, дык выпрасіла б у яго, каб усе дзіцячыя болькі на мяне пераходзілі, каб мне пакутаваць, а не ім. Падумайце самі — у чым яны вінаватыя, га? Хіба яны вінаватыя, што ў іх матку смерць забрала, што цяпер ім трэба гора горкае цярпець? Грахоў у іх ніякіх, і ў Кацярыны, зямля ёй пухам, таксама не было ніякіх, адны толькі пакуты цярпела са сваімі хваробамі. Ды і ў Рыгора за душою чыста, самі ведаеце... Ну, скажыце, за што ім выпала такая доля?

Яна пыталася ў Алены Лявонаўны, нібы тая магла адказаць на яе запытанне. Настаўніца, вядома, не магла адказаць і таму стаяла, быццам прыціснутая да зямлі нейкім цяжарам.

— Слаўныя ў Рыгора дзеці, нічога не скажаш. Старэйшыя памагаюць малодшым, яны ўжо ўсё добра разумеюць. А вось меншыя,— паказала на тых меншых, што бавіліся пад сталом,— і да гэтага часу пытаюцца ў мяне, калі іх маці вернецца дадому. Дык я кажу ім, што хутка вернецца, няхай пачакаюць, няхай пацерпяць...

Алене Лявонаўне павярнуцца б і пайсці — гэтак цяжка было ў яе на душы. Здавалася, нават сцены напіралі з бакоў і столь над галавою ціснула, прыгнятала.

— А я да дзяцей і прыйшла,— павярнула яна гаворку на іншае.— Запісваю ў школу. Хадзіць жа давядзецца.

— Ну, малыя не пойдуць,— сказала Рыгорава сястра,— куды ім яшчэ ў школу? Трох астаецца. Алекса, старэйшы, таксама не пойдзе. Здаецца, у сёмы яму? Не пойдзе, не хоча. Кажа, што той год давучыцца калі-небудзь пазней, а цяпер будзе памагаць бацьку ды мне. Нават слухаць не хоча пра вучобу. Ну, Алекса мае галаву, ён і без навукі не прападзе, гэта такі хлапец.

Што магла адказаць Алена Лявонаўна? Каб не затрымлівалі хлопца дома, каб абавязкова паслалі ў школу? Не магла яна гэтага сказаць, а таму маўчала.

— Волька пойдзе ў трэці клас, а Віктар і Ганя — у чацвёрты. А вось у які клас пойдзе Хрысця? Забылася, дальбог, забылася...

— У пяты,— падказала настаўніца.

— Здаецца, у пяты. Яна ў нас разумная, найлепшая мая памочніца. Зробіць усё, што скажу, потым дастане кніжку і чытае. Без кніжкі не жыве.

— Хрысця скончыла чацвёрты клас на адны пяцёркі, а каб былі і больш высокія адзнакі, дык і іх можна было б ставіць. Аб гэтым усе настаўнікі ў школе гавораць.

— Праўда, праўда. Яна ў нас такая,— згадзілася гаспадыня.— Рыгор ёю не нацешыцца, гэта ягоная ўлюбёнка... Таму больш за ўсіх і любіць, што Кацярыну яму нагадвае... З Хрысцяю мне добра. Каб не яна, то і не ведаю, што рабіла б... Ды яшчэ старшынісе дзякуй, прыходзіць, калі Рыгора няма дома. Сядзе на лаве, пасядзіць — і пойдзе. Хоць нічога і не скажа, але, ведаеце, неяк лягчэй робіцца на сэрцы, што чужы чалавек зайшоў у хату, праведаў. У старшыніхі, відаць, чулае сэрца, толькі мала хто ведае пра гэта. Кажуць, што строгая, што



нікому спуску не дае, а я вось як пагляджу на яе, калі яна сядзіць тут, на лаве, то і думаю сабе: божа, ды ў гэтае старшыніхі дзіцячая душа! Ведаеце, так і хочацца падысці і па галаве пагладзіць. Бо хоць і гора ў яе як быццам ніякага, як быццам і журыцца не трэба, а ўсё ж, здаецца, нейкі смутак носіць пад сэрцам. Я ведаю людзей, заўсёды прыглядаюся да іх, рознае бачыла і скажу вам, што нават шчаслівы чалавек часта ў нечым бывае нешчаслівы, часта не знаходзіць сабе спакою, хіба не праўда?

— Праўда,— мусіла згадзіцца настаўніца.

— А жывём мы хоць і цяжка, ды жывём. Бо скажыце, хіба ж мне было б не гэтак жа, каб я гэтых дзяцей нарадзіла, каб я такую сям'ю мела? Гэтак жа калацілася б... Толькі тае і розніцы, што Рыгор не муж, а родны брат... А ўсё астатняе тое ж самае... Ну, ідзіцё ўжо? Не забывайцеся пра нас, заходзьце, мы тут кожнаму рады.

Раённая настаўніцкая канферэнцыя ішла ўжо некалькі дзён, і каб Алена Лявонаўна выседжвала штодня да позняга вечара, чакала канца пасяджэнняў, то вярталася б дадому недзе гадзіне а дванаццатай ночы, не раней. Ды ўжо так павялося, што ўсе гэтыя штогоднія канферэнцыі ад пачатку і да канца выседжваў Нікан Іванавіч, а яна, пакруціўшыся там ды паказаўшыся на вочы таму, каму трэба, забягала яшчэ ў прадуктовую краму, купляла хлеб і падарожнаю машынаю старалася як мага хутчэй дабрацца дахаты.

Яна таксама хацела б папрысутнічаць на ўсіх пасяджэннях, бо выпадала пабыць сярод людзей не часта. У раёне ў яе ўжо былі знаёмыя настаўнікі, хацелася перакінуцца з імі словам-другім, пра сваё жыццё расказаць. Але мусіла спяшацца дадому, да дзяцей.

З першага дня сёлетняй канферэнцыі яна таксама збегла раней часу, нават не змагла папярэдзіць Нікана Іванавіча, і да свае хаты падышла якраз у той момант, калі Зорчын хвост мільгануў і знік на панадворку.

Міхал даў карове есці, абмыў ёй вымя і, узяўшы даёнку, пачаў даіць. Рабіў ён гэта не ўпершыню. Апрача таго, ён ведаў, што маці сёння стомленая, бо пайшла з дому яшчэ на дасвецці, а таму хацеў памагчы ёй.

Алена Лявонаўна зайшла ў хату, зняла з сябе чорны гарнітур — спадніцу з жакеткаю,— у якім сёння зусім была запарылася, бо выдаўся дужа спякотны дзень, потым, скрывіўшыся ад болю, зняла туфлі. Туфлі тыя і не мулялі б ног, каб яна надзявала іх часцей, а то ж ляжалі яны ў яе без ужытку ад адной канферэнцыі да другой...

Выйшла на двор, спыталася ў Міхала:

— А дзе Таіса?

Па тым, як здрыгануліся доўгія Міхалкавы вейкі, як змяніўся ён раптам з твару, Алена Лявонаўна здагадалася, што ён толькі і чакаў гэтага запытання.

— Не ведаю,— схлусіў ён і закрычаў на карову, каб стаяла ціха.

— Ну, што ж, можаш не гаварыць, калі ты з ёю ў змове супроць маці.

— Я? У змове? Чаго мне з ёю змаўляцца? Калі хочаце, то і скажу... З салдатам яна.

— З якім яшчэ салдатам?

— Ды з тым, што прыехаў да яе... Ён пісаў ёй калісьці, Лёня.— І Міхал са смяшлівай інтанацыяй паўтарыў той ліст, які чытаў не так

даўно:— «Золатка Таіса, пішa вам з далёкай Карэліі не знаёмы вам салдат Лёня...»

— Так, так...— толькі і сказала Алена Лявонаўна, да якой, нарэшце, пачало даходзіць пачутае.

— Так,— нібы перадражніў Міхал,— прыехаў.

Ён гэтак злосна даіў карову, што яна ледзь не абярнула даёнку.

— Ну, ты, шалёная! — крыкнуў Міхал.

— Дзе ж яны?.. Што ж гэта? — Алена Лявонаўна нават не ведала, як пра ўсё гэта пытацца.

— А што! — Міхал стрэльнуў у маці вострымі вачамі.— Бачылі б вы яе тады, як ён у дзверы пастукаў, як у хату зайшоў. Яна аж з твару змянілася. І, відаць, ужо чакала, бо і сукенку новую надзела, і нават бровы павыскубвала... Ведаеце, адкуль гэты Лёня? Я з ім пагаварыў трохі. Ён недалёка адсюль родам, з Курава. Гэта ж Толя Ляпешка, наш, мядзвенецкі, даў яму Таісін адрас, яны служылі разам. То гэты ўжо вярнуўся з арміі, а той яшчэ служыць.

— Што ж яны... рабілі дома?

— А што! Спачатку маўчалі, потым выходзілі на вуліцу, сядзелі вунь там,— паказаў на лавачку непадалёку ад крыніцы,— сядзяць і таксама маўчаць. Каб не я, дык яны, мабыць, і двух слоў не звязалі б.

— Дзе ж яны?..

— А дзе! У лявадах цэлы дзень прабылі. Я падыходзіў да іх, то яны і ў лявадах маўчаць.

— Давай, сынку, я сама Зорку падаю, а ты збегай у лявады і пакліч Таісу дадому.

— Яны ўжо не ў лявадах, яны ўжо ў кіно пайшлі,— удакладніў Міхал і хутка знік з панадворку.

Недзе ў глыбіні душы тачыўся ў яе гнеў і адначасна трывога. Думала палаяць дачку, калі тая прыйдзе дахаты. Проста палаяць і больш ні пра што з ёю не гаварыць. Аднак гнеў паступова знікаў, і Алена Лявонаўна адчувала толькі зморанасць, якая раптам зноў вярнулася да яе. І нават гнеў не разгарэўся ў ёй з новаю сілаю тады, калі ад клуба прыбег сын і сказаў, што Таіса прыйдзе дадому, як толькі скончыцца кіно, бо вельмі цікавае...

— Ну добра,— зmoраным голасам сказала Алена Лявонаўна.

І Міхал не паверыў сваім вушам: няўжо маці сказала «добра»? Няўжо ёй усё гэта абыякава? А дзе падзеўся той гнеў у вачах, якім маці збіралася спапяліць Таісу за тое, што да яе пачалі заходзіць кавалеры ды яшчэ і дэмабілізаваныя салдаты?

І ён раптам сам нібы абвяў. І тое, што зараз, у гэтую хвіліну, Таіса сядзіць у клубе і глядзіць кіно з салдатам Лёнем, які прыехаў да яе ажно з Курава, ужо не так хвалявала яго, а здалося звычайным і будзённым.

Таіса вярнулася ў адзінаццаць гадзін. У гэты час Нікана Іванавіча яшчэ не было з канферэнцыі. Дома не спалі — маці нешта шыла на швейнай машыне, а Міхал чытаў. Ён стрэльнуў вачамі на сястру, на маці і з прытворнай цікавасцю зноў пачаў чытаць кніжку.

— Міхалка, спі,— сказала Алена Лявонаўна. Ён паслухмяна адклаў кніжку, накрыўся з галавою радном і ляжаў з расплюшчанымі вачамі.

Таіса старалася не глядзець на маці. Дастала з печы чыгунок, наліла ў талерку ўжо халоднага баршчу і стала есці. Твар у яе пасвятлеў, на ім толькі ўсё яшчэ аставаліся гарачыя ружовыя плямы. Маці скоса зірнула на яе і нібы ўпершыню ўбачыла, што дачка яе зрабілася



стройная, налілася целам. «Ужо дарослая дзяўчына, падумала яна, нават не верыцца».

Так-сяк павячэраўшы, Таіса спадзявалася ўжо, што, можа, абыдзецца без гутаркі з маці. Ужо зняла сукенку, ужо хацела легчы ў пасцель — рабіла ўсё знарок павольна, каб хоць неяк паказаць сваю незалежнасць,— як раптам маці спыталася:

— Дзе ж гэта ты была?

Таіса павяла плячамі і, не хаваючы здзіўлення, паглядзела на маці: маўляў, самі добра ведаеце, ведаеце ад Міхала, дык навошта лішні раз распытваць?

Кароткім позіркам Алена Лявонаўна як бы адказала: «Калі ласка, можаш не адказваць, я не настойваю, мне і сапраўды ўсё вядома».

«Вось гэта справа іншая»,— быццам бы казаў дакорліва-журботны выгляд Таісінага твару.

— А дзе ж салдат Лёня?

Радно, пад якім прытаіўся Міхал, раптам заварушылася, і Таіса з асуджэннем і знявагаю кінула позірк на ложак.

— Я яму сказала, каб ішоў дадому,— пастаралася адказаць як мага цішэй.

— Куды, ажно ў Курава? — здзівілася маці.

— У Курава.

— Дваццаць кіламетраў па начы? Гэта ж ён толькі на досвітку прыйдзе дадому.

— Ну і што? — адказала Таіса.

— Чаму ты не запрасіла яго сюды?

«Пацяшаецца маці, ці што? Здаецца, сур'ёзная, здаецца, і не думае насміхацца з яе».

— Няма чаго яму тут рабіць,— сказала Таіса. Яна ўсё яшчэ стаяла каля свае пасцелі ў той паставе, у якой яе застала першае матчына запытанне.— Я яму сказала, каб у Мядзвенец ён больш ніколі не прыходзіў.

— Як гэта ты магла забараніць яму прыходзіць у Мядзвенец?

— Ну, не ў Мядзвенец,— удакладніла Таіса,— а да мяне. Няхай больш не прыходзіць, я не хачу.

— Чаго гэта, чаго? — голас матчын памякчэў, яна нават усміхнулася.

— А навошта ён мне? — проста спыталася Таіса.

— Але ж вы перапісваліся, хіба не так?

— Так, перапісваліся.

— І ён прыехаў да цябе?

— Чаму да мяне? К сабе дадому. Пабачыліся раз — і хопіць!

— Але ўсё ж чаго ты так? — дапытвалася маці, і Таіса ніяк не магла зразумець, якога адказу ад яе чакаюць.

— Няхай не ходзіць. А то ўсе смяяцца будуць.

— Чаму смяяцца?

— Ды так,— насупіла бровы Таіса, дзівячыся, што маці не можа зразумець яе.

— І ўсё? — і Алена Лявонаўна зноў усміхнулася.

— Ды навошта ён мне патрэбны? — нібы ўзлаваўшыся, адказала Таіса.— Мы ж разам з ім у школу не хадзілі. А каб і хадзілі, дык я ўсё роўна не дружыла б з ім... Нейкі ён такі... Не падабаецца ён мне, і ўсё тут... Ды і дзяўчаты смяяцца будуць.

— Чаго?

— Бо будуць смяяцца!

«Дзіця,— сумна падумала Алена Лявонаўна,— яна яшчэ зусім

дзіця». Але не распытвала далей. Разумела, што яе парады наўрад ці будуць слушныя, наўрад ці дачка зверне ўвагу на матчыны папярэджанні. Ды і ў чым папярэджваць? Як? Няхай будзе так, як ёсць, як само ідзе.

Нікан Іванавіч вярнуўся, калі дзеці ўжо спалі...

Раніцай першага верасня Міхал прачнуўся разам з маці. Лёг побач і пачаў перабіраць пальцамі яе доўгія чорныя косы. Ён любіў перабіраць іх яшчэ з маленства, калі рабіў гэта падсвядома, гуляючы, і матцы прыемны быў дотык яго мяккіх далонек. Цяпер ён лёг каля яе, прытуліўся да яе і ўдыхаў прыемны, уласцівы толькі матчыным косам пах.

— Расплящі мне косы,— папрасіла яна.

Міхал любіў расплятаць і заплятаць ёй косы заўжды, але яна чамусьці злавалася, калі ён гэта рабіў. Сёння ж сама папрасіла. Можа, таму, што першага верасня, што сёння зноў у школу, што ў яе добры настрой і яна хоча, каб і ў яго быў гэткі ж? Ён асцярожна, не спяшаючыся, пачаў расплятаць ёй косы, і яны, распушчаныя, чорнаю хваляю разліліся па падушцы, прыемна казыталі яму шчокі. Міхал прыпаў да яе ўсім тварам, заплюшчыўшы ад шчасця вочы.

— А цяпер заплесці? — спытаўся.

Маці звычайна ніколі не давала яму заплятаць, а сёння сказала:

— Запляці.

Міхал з найвялікшым стараннем пачаў заплятаць. Маці не пратэставала, хоць рабіў ён усё няўмела; хлопец здзіўляўся: ну чаго гэта яна такая лагодная сёння з ім?

Нарэшце лагодна вызваліла валасы з ягоных рук і, усміхнуўшыся, сказала:

— Ну, годзе ўжо, далей я сама.

Міхал зусім не пакрыўдзіўся на маці, калі яна ўзялася ўсё пераплятаць нанава.

Неўзабаве ўсе ўжо ўсталі, бо ў такі дзень не маглі доўга адлежвацца ў пасцелях. Міхал таксама ўстаў, надзеў акуратна адпрасаваныя штаны і кашулю, падрыхтаваныя маткаю яшчэ з вечара.

— Гэта ты да каровы так збіраешся? — са здзекам спыталася Таіса, якая і ўставала пазней і па гаспадарцы была занята меней.

— Ага, да каровы,— адказаў брат.

— Глядзі ж, Міхал, не запэцкайся,— папярэдзіла Алена Лявонаўна.— Выганіш Зорку да статку — і адразу назад.

— Ды хіба я не ведаю...

Сёння Зорку выганяў да статку раней звычайнага, бо, па-першае, цяпер статак збіралі не на выгане, зусім блізка ад іхняй хаты, а значна далей, у канцы сяла. Па-другое, у першы ж дзень ніяк не выпадала спазніцца ў школу.

Хоць і рана выгнаў Зорку, а статак быў ужо ўвесь сабраны. Маладзіцы, якія папрыганялі сваіх кароў, стаялі тут жа купкаю і аб нечым гаманілі, хлопцы трымаліся крыху збоку. Міхал пусціў Зорку, а сам падаўся да хлопцаў. Каб усе пастухі былі ў зборы, то можна было б ужо і гнаць статак на пашу, але не хапала аднаго пастуха, і ўсе астатнія вымушаны былі чакаць яго.

Васіль, Фіёнін сын, ужо, мабыць, вушы хлопцам пратрубіў сваім расказам аб тым, што, маўляў, на кар'еры каля Чарапашанца нядаўна ў ямах адкапалі шмат толу, набояў і бомбаў, якія асталіся яшчэ з вайны. І тут жа прапанаваў злётаць туды і набраць толу, каб потым рыбы наглушыць у іх мядзвенецкім ставе.

Адны згадзіліся адразу, другія раілі адкласці на заўтра ці паслязаўтра, бо сёння трэба ў школу. Фіёнін Васіль зусім быў загарэўся, сказаў, што калі адкласці гэтую справу на другі які дзень, дык іншыя, больш спрытныя за іх, усё парасцягваюць і ім нічога не астанецца.

З тых, хто найбольш налягаў, каб ісці неадкладна, быў Пётр Козыр — сын калгаснага аб'ездчыка. Стары Козыр быў цудоўны аб'ездчык, не такі, як у іншых сёлах. Па іншых сёлах аб'ездчыкі ці на конях ездзяць, ці на брычках, каб, едучы і аглядаючы калгасныя нівы, можна было і падрамаць на мяккім сене. А стары Козыр, набыўшы дзесьці сабе веласіпед — адзін з першых у Мядзвенцы,— ездзіў чамусьці па полі на веласіпедзе, хоць і не заўсёды гэта было яму зручна. З яго пакеплівалі, казалі, што ён на кані баіцца ездзіць, але Козыр — наогул добры і душэўны чалавек — адказваў, што ён не хоча мучыць каня, а так, маўляў, веласіпед яго самога мучыць.

— Да гэтага ніхто і не ведаў пра тол,— хуценька так гаварыў Пётр,— бо ніхто ў тыя кар'еры і не хадзіў, баяўся. А цяпер пачалі хадзіць — і вось напароліся. Думаеце, усё там доўга ляжаць будзе? Не, не спадзявайцеся. Калі дзядзькі даведаюцца, адразу парасцягваюць. Хто ведае, можа, там багата чаго прыхавалі?

— Што там можа быць? — пыталіся ў яго, нібы Пётр Козыр абавязкова павінен быў ведаць.

— Што можа быць! — адказваў ён.— Калі гэта стары вайсковы склад, то хіба не ведаеце, што там можа быць? Рознае дабро!

— А якое?

— Ды самае рознае! — пачынаў злавацца Пётр Козыр, што яго не разумеюць.

Хлопцы на імгненне ўявілі тое дабро, кожны па-свойму, і раптам усіх ахапіла нецярплівасць і непаразуменне: як гэта яны да гэтага часу таўкуцца тут, каля кароў, і яшчэ думаюць-гадаюць, ці бегчы на кар'еры?

— Так, так,— толькі і выдыхнуў Фіёнін Васіль, зачараваны ўсім тым, што паўстала ў ягоным уяўленні.— Гэта ж і сапраўды можа нічога не астацца...

— Ды астанецца,— спрабаваў нясмела запярэчыць хтось. Мабыць, гэта быў апошні разважлівы голас. На яго паглядзелі з непрыязнасцю — і той змоўк, каб больш ні разу ўжо і не азвацца.

— А ў школу паспеем,— угаворваў Васіль.— А калі і спознімся на першы ўрок, то не бяда.

Тут падаў голас Міхал, які стаяў збоку, прыслухоўваючыся да спрэчкі:

— Можна было б і пасля ўрокаў...

Усе здзіўлена паглядзелі на яго.

— А мы цябе і не возьмем з сабою,— сказаў Васіль.— Абыдземся без цябе, можаш не прасіць.

«Гэта таму,— падумаў Міхал, чырванеючы,— што я настаўніцкі сынок». І адказаў:

— А мне ўсё роўна, калі ісці. Я магу пайсці і зараз, а на ўрокі спознімся — дык і што?

Яго слова, слова настаўніцкага сына, спадабалася і Васілю, і тым, хто ўсё яшчэ вагаўся. Цяпер ужо, здаецца, ніхто не адмаўляўся. І Васіль сказаў:

— І цябе возьмем, добра.

Сабраліся ісці якраз у той час, калі з'явіўся і другі пастух. Сагналі ў статак скаціну. Спачатку ішлі разам, бо было па дарозе, а потым апярэдзілі гурт, каб як хутчэй дабрацца да кар'ераў. Хлопцы ўжо даволі далёка адышлі ад худобы, як раптам заўважылі, што следам за імі бяжыць чыясьці карова. Спыніліся і глядзяць — чыя ж гэта і чаго ляціць, як шалёная?

Адразу пазналі Зорку і з дакорам утаропіліся на Міхала.

— Бачыш, за табой бяжыць,— сказаў Васіль.— То вазьмі і пераймі яе, зноў далучы да гурту, бо пастухі не будуць лётаць за ёю.

Што было рабіць Міхалу? Прыкусіў у гневе ніжнюю губу і пабег, каб вярнуць Зорку да статку. Спыніўся, крыкнуў хлопцам:

— Толькі не ідзіце без мяне!

— А ты дагоніш! — адказалі хлопцы і падаліся далей.

Міхал як не плачучы падскочыў да Зоркі, хацеў быў ухапіць яе за рог, хацеў выцяць яе як след нагою, але карова, рэзка крутнуўшыся на месцы, пабегла сабе ў поле, далей ад статку. Слёзы засцілі вочы, у цёмнай пялёнцы патануў для яго ўвесь свет, і ён, усхліпваючы, пабег даганяць Зорку. На ходу падхапіў нейкі кіёк і зычна закрычаў, што пераламіць ёй усе рэбры, вось толькі дагоніць.

Карова, відаць, добра разумела Міхалавы пагрозы, бо інакшай не ўцякала б гэтак шпарка ад яго, высока задраўшы галаву. Але як толькі ён пачынаў даганяць яе, яна таксама паддавала ходу; ён запавольваў свой бег — і яна таксама... Міхал так лютаваў, што цяпер ужо бадай не было такой кары, якой бы ён не паабяцаў Зорцы.

Пашукаў вачамі хлопцаў — іх ужо не было відаць, схаваліся дзесьці ў лагчыне. Ну, што ж, хай сабе ідуць, ён і сам ведае дарогу да чарапашанецкіх кар'ераў, знойдзе іх там. Абавязкова знойдзе, бо потым яшчэ насміхацца будуць, скажуць, што збаяўся ісці. А ён зусім і не баіцца, самі ж яму сказалі, каб завярнуў Зорку да гурту.

Зрэшты, няхай тая Зорка сказіцца, няхай сабе лётае, дзе хоча, і наогул чаму ён павінен бегаць за ёю? Хопіць, палётаў ужо, як дурань які, а цяпер няхай ідзе, куды хоча.

Гэтак вырашыў і спыніўся. І толькі спыніўся, убачыў, што і Зорка спынілася і нібы з цікаўнасцю паглядае на яго здалёку.

— Зараз жа ў гурт ідзі! — разлютавана крыкнуў Міхал і, замахнуўшыся, шпурнуў у яе кійком.

Кіёк не даляцеў да каровы, але яна зрушыла з месца і пайшла.

Міхал нават вачам сваім не паверыў — проста да гурту, які ўжо разышоўся па ржэўніку.

Хлопец, усхліпнуўшы ў апошні раз, падаўся нарэшце да чарапашанецкіх кар'ераў...

Першы дзень у школе чамусьці хваляваў Алену Лявонаўну.

Папрыходзілі вучні старэйшых класаў, трымаліся яны незалежна, весела смяяліся,— вядома, улетку часта сустракаліся. Але ўсё ж тут, у школе, прыглядаліся адно да аднаго так, як быццам хацелі ўгледзець нешта незвычайнае, што з'явілася на знаёмых абліччах за летні перыяд.

Аднак Алена Лявонаўна, праходзячы калідорамі, больш прыглядалася да тых дзяцей, якія сёння ўпершыню пераступілі парог школы. Тыя трымаліся ціха, насцярожана, яны, здаецца, гатовы былі хоць адразу ўцячы дадому, толькі б не быць сярод гэтага тлуму і мітусні, якія іх бянтэжылі...

Чаму яна ўглядалася ў іх чыстыя, як ніколі, здаецца, да гэтага, старанна памытыя твары? Можа, хацела ўбачыць сярод іх сваё ўласнае маленства, свае цікаўныя вочы, якія калісьці таксама гэтак жа востра і насцярожана паблісквалі навокал? І рабілася ёй трошкі самотна, што не знаходзіла. Нават не верылася, што і сама калісьці магла вось гэтак прыйсці ў школу, разгублена стаяць у вучнёўскім гурце і дрыжаць ад страху, што хтосьці можа зачапіць, неспадзявана стукнуць ці яшчэ што...

Алена Лявонаўна сустрэла Варку Лузгар у калідоры. Выглядала тая цяжкой і непаваротлівай; сярод жвавай, порсткай дзятвы яна была падобная да замшэлага каменя пасярод шпаркай рачной плыні,— Варка моцна трымала за руку свайго самага маленькага хлопчыка.

— Вось прывяла яго ў першы клас, ды не ведаю, куды здаць? — узрадавалася жанчына, што нарэшце ўбачыла Алену Лявонаўну.

— А не трэба здаваць, адпусціце яго, няхай сабе ходзіць сярод аднагодкаў,— параіла настаўніца.

— Яго толькі адпусці, зараз жа дадому прыбяжыць.

У Варчынага сына і сапраўды быў такі выгляд, нібы ён вось-вось збіраўся шмыгнуць за дзверы на вуліцу.

— Я яго ўранку пачала збіраць у школу,— расказвала Варка,— спачатку ўсё было добра, паводзіў ён сябе ціха, мірна, а потым раптам заўпарціўся, перастаў слухацца, крычыць, плача, а ў школу — ні-ні. Я яму кажу, каб не баяўся, што мы ў школе сустрэнем вас, Алена Лявонаўна, што вы яго ў крыўду не дасцё. Толькі тады аціх, супакоіўся. Прыйшлі сюды, ходзім-ходзім, а вас штось не відаць...— Бачыш,— звярнулася яна да свайго малога,— вось і Алена Лявонаўна, а ты баяўся...

Варчын хлопчык, убачыўшы сваю суседку, адразу пасвятлеў з твару, усміхнуўся. А калі настаўніца ўзяла яго за руку, то і зусім добра яму стала.

— Ты толькі мне, глядзі, нідзе не згубіся, каб дадому прыйшоў,— наказвала Варка перад тым, як пайсці.

— Вядома, прыйдзе, ён цяпер дарослы,— сказала настаўніца, і хлопчык, ужо канчаткова асвойтаўшыся з новай абстаноўкай, згодна паківаў галавою.

Потым Віталь Рыгоравіч, дырэктар школы, звярнуўся з прывітальным словам да дзяцей. Ён штогод звяртаўся з гэтым прывітальным словам, стоячы пад старым каштанам, які рос пасярод школьнага двара. Дзеці звычайна стаялі вакол яго. Гаварыў ён, відаць, заўсёды адно і тое ж, нават руку гэтак жа трымаў — засоўваў за борт пінжака,— нібы гэта дадавала яму больш паважнасці і ўпэўненасці. Слухалі яго заўжды ўважліва — вучні старэйшых класаў таму, што ўжо ведалі свайго грознага дырэктара, а малодшыя, якія толькі прыйшлі вучыцца, таму, што багата чулі пра яго.

Празвінеў званок, запрашаючы на першы ўрок. Каля Алены Лявонаўны завіравалі дзеці, спяшаючыся хутчэй у класы, каб заняць для сябе лепшыя месцы, на якіх давядзецца сядзець на працягу цэлага года... Яна адвяла Варчынага хлопчыка ў першы клас і пасадзіла яго за першую парту, якраз каля настаўніцкага століка,— тут, па традыцыі, пабойваліся сядзець, а тых, якія займалі гэтае месца па сваёй волі, называлі чамусьці падлізамі.

— Сядзі тут,— сказала Алена Лявонаўна,— адсюль ты ўсё добра будзеш чуць і бачыць, тут табе ніхто не будзе перашкаджаць думаць пра вучобу.

Калі выходзіла, дык хлапчукі праводзілі яе сумнымі вачамі, нібыта іх пакідала родная маці.

Першы ўрок давала ў шостым, дзе была класным кіраўніком. Дзеці любілі яе і сустрэлі цёплымі ўсмешкамі. Не чакаючы яе прывітання, паздароўкаліся першыя, а яна ўжо адказала ім. Некаторыя і другі раз прывіталі. Гэта выклікала смяшок у класе, засмяяліся і іншыя — і Алена Лявонаўна адчула, што яна ўжо амаль увайшла ў атмасферу новага навучальнага года.

Толькі чаму гэта не відаць Міхала? Яна яшчэ раз уважліва акінула вокам клас, але яго не было. Падышла да Таісы — яны з братам вучыліся разам — і, нагнуўшыся да яе вуха, шэптам спыталася, дзе Міхал. Таіса вылупіла вочы, павяла плечуком: маўляў, адкуль я ведаю?..

Алена Лявонаўна зрабіла пераклічку — апрача яе сына, адсутнічала яшчэ колькі вучняў, і гэта здзівіла: звычайна дзеці ніколі не спазняюцца на першы ўрок новага навучальнага года. У гэты дзень найбольшы працэнт наведвання, як кажа іх дырэктар. Ну што ж, з'явіцца Міхал, дык яна адразу ж яго паставіць у кут — хоць і смяяцца будуць, але нічога, няхай пастаіць, бо вучыцца ён добра, магчыма, таму і паводзіць сябе гэтак, нібы яму ўсё дазволена. Няхай парагочуць, а яму навука будзе, каб запомніў.

У школе яна вяла хімію, біялогію, заалогію ды яшчэ чамусьці нямецкую мову. Чаму даручылі ёй весці нямецкую мову — і сама не ведала. Мабыць, таму, што не аказалася ахвотніка, а нехта ж павінен быў вучыць дзяцей замежнай мове, калі яна прадугледжана праграмаю. Алена Лявонаўна перад кожным урокам разгортвала падручнік, яшчэ і яшчэ раз прабягала вачамі тэкст, бо хутка ўсё забывалася...

Гутарыла з дзецьмі пра ўсё ўсякае — хто дзе быў, што бачыў. Ёй стараліся адказваць гуртам, перапыняючы адно аднаго. Кожны спяшаўся расказаць пра сябе. І ўсе весела і шчыра смяяліся. Мабыць, толькі адна Алена Лявонаўна адказвала ім вымучанай усмешкай, бо адчувала, што няясная трывога ўсё мацней сціскае ёй грудзі. Таіса ўлавіла матчын настрой і сядзела сцішаная, неяк нават варожа пазірала на аднакласнікаў. «Ну, чаго вы так крычыцё? — як бы пытала яна сваім позіркам.— Хіба не бачыце, што маці цяпер не да смеху, што яна толькі выгляд робіць чалавека ўважлівага і зацікаўленага, а на самай справе ў яе сэрца разрываецца ад трывожных думак?»

Відаць, найбольш упэўнена адчувала сябе ў класе Марыйка Мельнік. Добра ведаючы, што прыгожая, што хлопцы з яе вачэй не зводзяць, ды і дзяўчаты таксама паглядаюць, міжвольна захапляючыся яе красою, Марыйка — смуглявая, з вачамі-вішнямі, незвычайна вясёлым, жывым паглядам — сядзела незалежна, як быццам ніхто яе і не цікавіў. І Алена Лявонаўна, хоць і не хацела таго, пазірала на яе часцей, чым на іншых вучняў, нават часцей, чым на Таісу, пазірала тужліва, нібы хацела спытацца, дзе гэта зараз прападае Міхал, чаму яго няма на ўроку.

Нехта з вучняў перадаў Марыйцы запіску, яе кінулі ёй на парту, але Марыйка зрабіла выгляд, што не заўважыла, што яе цяпер цікавіць толькі ўрок. Тады з задняе парты працягнулася рука, забрала назад запіску — і зноў Марыйка не звярнула на гэта ўвагі.

Між тым, размаўляючы з класам, Алена Лявонаўна пазірала цяпер амаль увесь час на Марыйку Мельнік, і тая пад пільным позіркам настаўніцы ўсё ніжэй апускала галаву, заліваючыся чырванню...

Гэтак і скончыўся першы ўрок.

Алена Лявонаўна ўстала з-за стала і, выглянуўшы ў акно, убачыла Міхала. Ён бег па дарозе, не спускаючы вачэй са школьных вокан.



«Ну, ты ў мяне пабегаеш, ты зараз мне паплачаш, хлопча, будзеш ведаць, як слухацца маці, бо, відаць, багата я табе спускаю з рук, багата чаго дазваляю табе».

Шпаркім крокам выйшла з класа, каб сустрэць яго ля ўваходу ў школу, каб там выказаць яму ўсё, што накіпела на сэрцы, і зрабіць гэта да таго, як дзеці павыбягаюць на перапынак. Нават школьныя дзверы прычыніла, налягла на іх спіною, каб нікога не выпусціць, і чакала сына.

Міхал, угледзеўшы маці, запаволіў хаду. Штаны на ім былі спрэс заляпаны гразёю, мокрая кашуля вылезла з-пад паяска, валасы раскалмачаныя. На Алену Лявонаўну паглядалі нейкія незнаёмыя, вар'яцкія вочы.

— Ідзі хутчэй! — загадала яна.— Чаго спыніўся? Вось я табе зараз пакажу, як у школу хадзіць, я правяду з табою першы ўрок, уся школа на цябе дзівіцца будзе! Ты дзе гэта гойсаеш? Ану ідзі, ідзі...

— Мама!..— толькі і сказаў здаля, а больш нічога не вылецела з грудзей, нібы дыханне заняло.

— Ідзі, ідзі, няхай уся школа пабачыць, як я вучу свайго сына!

— Чуеце, мама,— і зноў перахапіла дых.

— Чую, чую, падыходзь бліжэй.

Міхал паслухмяна падышоў — і апусціліся ў яе рукі, калі убачыла, што сын як сам не свой. І нейкі страх варухнуўся ў яе душы, ударыў у галаву, у сэрца... Адышла ад дзвярэй, бо там ужо грукалі з калідора — і ў тую ж хвіліну, не ўбачыўшы настаўніцы, віхураю праляцеў вучнёўскі гурт, прамчаўся з крыкам і смехам... Алена Лявонаўна ўзяла Міхала за руку, адвяла крышку ўбок і, прадчуваючы нядобрае, засыпала яго пытаннямі:

— Што з табою? Дзе ты быў? Чаму не на занятках? Ну, расказвай жа, чаго маўчыш?

Ведаў, што маці абавязкова пакарае яго, а таму баяўся прызнавацца.

— Быў на чарапашанецкіх кар'ерах,— ціха вымавіў ён.

— На кар'ерах? На якіх кар'ерах? Што цябе туды пагнала? — яна ледзь не плакала, ёй хацелася як мага хутчэй пра ўсё дазнацца.

— Хадзілі па тол,— дрыготкім голасам прызнаўся сын.

— Па які яшчэ тол? З кім хадзілі? О божа, навошта ён табе спатрэбіўся?

— З хлопцамі хадзілі.

— Я цябе туды пасылала? Скажы, куды я цябе пасылала — на кар'еры ці ў школу?

Ён зусім змоўк, тады маці тарганула яго за плечы:

— Ну? Што вы там нарабілі, кажы зараз жа!

— Я быў не з імі,— заплакаў Міхал,— я прыйшоў туды пазней... Я пачуў, што выбухнула,— Алена Лявонаўна пры тых словах спалатнела,— а калі прыбег, то яны ўжо ўсе ляжалі...

Алена Лявонаўна адчула, як страшэнная млявасць разлілася па целе, як перад вачамі паплылі шэрыя кругі.

— А ты? А ты? — лепятала.— Што з табою? З табою нічога не здарылася? — Абмацвала яго рукамі, бо не верыла ўжо вачам сваім, што ён стаіць перад ёю жывы і цэлы.— Ты там нічога не круціў, не браў? О божачка, я звар'яцею ад усяго гэтага...

— Не браў,— буркнуў Міхал, якога, здаецца, цяпер найбольш бянтэжылі матчыны слёзы, а не тое, што на іх ужо зводдаль пачынаюць звяртаць увагу школьнікі.

— А чаго яны ляжаць? Што з імі? Разарвала? Кажы хутчэй, чаго ты маўчыш?

— Разарвала,— апусціў галаву Міхал.

— О-о-о! — прастагнала Алена Лявонаўна, хапаючыся рукою за сэрца.— Чаго вы хадзілі туды? Чаго ты хадзіў туды? Гэта ты іх падбіў пайсці, га?

— Я не падбіваў... Угаварыў Васіль.

— Які?

— Які... Фіёнін...

— О-о-о! — зноў вырвалася з яе грудзей.— Што ж гэта робіцца на белым свеце, што ж гэта робіцца!

— А Пятра Козыра пасекла ўсяго, нават з твару нельга пазнаць, але яшчэ, здаецца, жывы,— сказаў так, нібыта гэта магло ўзрадаваць маці.

— Не, гэта няпраўда! — выгукнула Алена Лявонаўна і пільна паглядзела на яго, быццам вымагала пацвярджэння, што ўсё гэта выдумка. Міхал стаяў з апушчаную галавою, і Алена Лявонаўна, выціраючы слёзы, пабегла ў настаўніцкую. Раптам спынілася, падскочыла да Міхала, схапіла яго за руку і пацягнула за сабою.

У парозе школы ім сустрэлася Марыйка Мельнік — яна адразу выбегла сюды і стала назіраць за Аленай Лявонаўнай і Міхалам. Выраз твару ў яе быў нейкі разгублены, як бы не свой, у вачах свяцілася спачуванне і цікаўнасць — што ж усё-такі здарылася, што? І Міхал у тую хвіліну неяк асабліва востра ўспрыняў яе ўсю, успрыняў, як штосьці надзвычай дарагое і роднае, і хваля невыказнага болю захапіла яго, на кароткае імгненне затуманіўшы свядомасць. Горкі клубок падкаціў да горла, і хлопец, кусаючы губы, ледзьве стрымліваў слёзы. Краем вока ён паспеў заўважыць, як пацямнеў яе твар, як балесна таргануліся яе бровы, і ад гэтага на душы зрабілася яшчэ цяжэй. Яму здалося, што ў тую хвіліну ён ва ўсёй сваёй страшнай існасці зразумеў, штó адбылося і якое гэта будзе мець значэнне для ўсяго яго далейшага жыцця...

Вучні гуртам беглі за імі па калідоры, заглядалі ў вочы, як быццам маглі прачытаць там усё, што іх цікавіла. Потым стоўпіліся ля настаўніцкай, насцярожана прыслухоўваючыся да кожнага слова, якое далятала з-за дзвярэй.

Ніякіх заняткаў у той дзень больш ужо не было.

Выкладчык фізкультуры Андрэй Сак выбег са школы на бальшак і спыніў фурманку, якая выехала была з калгаснага двара. Сказаў дзядзьку-ездавому колькі слоў, ды той, відаць, не зразумеў. Выкладчык паўтарыў, каб той даў яму фурманку, бо здарылася бяда, трэба неадкладна ехаць на чарапашанецкія кар'еры. Дзядзька выслухаў — і тузануў за лейцы, каб ехаць далей сваёю дарогаю. Тады Андрэй Сак як азвярэў, штосьці гаркнуў на дзядзьку, абедзвюма рукамі сцягнуў яго з фурманкі — той ледзь не бразнуўся спіною на бальшак,— сам ускочыў на калёсы, схапіў лейцы, дзіка крыкнуў, і коні ўзялі з месца ў галоп...

Частка вучняў пайшла дадому, частка асталася каля школы. Некаторыя не вытрымалі і падаліся следам за фурманкай, якая з грукатам вылецела з сяла.

Страшэнная навіна хутка распаўзлася па ўсім Мядзвенцы. У школу папрыбягалі маткі — спытацца, ці былі сёння на ўроках іх дзеці.



І ў кожнай у вачах блукаў страх, які адразу ж знікаў, як толькі яны даведваліся, што іх Максім, Анатоль, Іван ці Андрэй сядзелі сёння за партаю, а потым кудысьці пайшлі, як і ўсе іншыя.

Прыбегла ў школу і Варка — за сваіх дзяцей не турбавалася, усе яны ў час папрыходзілі дадому, проста хацела распытацца, што здарылася на кар'ерах.

Частка настаўнікаў асталася ў настаўніцкай. У кутку на крэсле сядзеў Міхал з нізка апушчанай галавой. На яго ўсе глядзелі, як на цуд, і не давалі веры сваім вачам. Алена Лявонаўна ўжо колькі разоў пачынала плакаць, але яе супакойвалі. Сціхала на нейкую хвіліну, потым жаль і страх зноў падступалі пад самае горла, выціскаючы слёзы з вачэй.

Жанчыны, якія заходзілі ў настаўніцкую, з надзеяй пазіралі на Міхала, бо ад таго, што ён ім скажа, залежала ўсё... Бацька Пятра Козыра прыляцеў у школу на веласіпедзе, даведаўся, што яго сына пасекла ўсяго, зноў сеў на веласіпед і ўжо хацеў быў ехаць, як раптам зламалася спіца; адным страшэнным рыўком выдраў яе з вобада, люта адкінуў убок — і памчаўся, нізка прыпаўшы да руля.

Дырэктар быў чорны, як хмара. Пазваніў у сельсавет, папрасіў злучыць яго з раёнам, доўга чакаў сувязі, але яго чамусьці не злучалі. Ён са злосцю шпурнуў трубку на рычаг і стаў нервова хадзіць па рыпучай падлозе настаўніцкай. Потым выйшаў на вуліцу і доўга стаяў на бальшаку, чакаючы, напэўна, спадарожнай машыны, каб даехаць да раёна. Нарэшце ля яго спыніўся старэнькі грузавік, дырэктар нязграбна залез у кузаў, сеў ля кабіны і стуліўся ўвесь, нібыта хаваўся ад усяго белага свету. Машына затарахцела, паехала.

У Алены Лявонаўны было такое адчуванне, быццам дырэктар уцёк, пакінуўшы іх усіх на волю лёсу.

Міхал сядзеў у кутку і не падымаў галавы, нават калі да яго звярталіся і ён вымушаны быў адказваць... З часам да яго ўжо ніхто не звяртаўся, нічога не пытаўся, і хлопец толькі нячутна дыхаў. «О, долечка! — думалася Алене Лявонаўне.— І за што толькі ты такая літасцівая, і як мне аддзячыць табе за тваю ласку?» І яшчэ ёй думалася пра тое, што Міхал таксама быў у лесе і бачыў усё, бачыў мёртвых сваіх таварышаў. Якімі ж вачамі ён цяпер глядзець будзе на жыццё?

Ціха сказала Нікану, каб забраў адсюль Міхала, каб адвёў яго дадому, бо адчувае ён сябе тут, быццам на эшафоце, няхай сядзіць дома, можа, і ёй стане лягчэй, і яму... Бацька ўзяў сына за руку, і яны не спяшаючыся выйшлі, ціха прайшлі міма вучнёўскага гурту, які ўсё не разыходзіўся, і з нізка апушчанымі галовамі падаліся дадому...

Нарэшце хтось на панадворку крыкнуў, што едзе падвода — вучні заварушыліся, як адзін кінуліся на дарогу, пабеглі насустрач. І тады настаўнікі, стараючыся не глядзець адно на аднаго, пачалі выходзіць на двор.

Андрэй Сак ішоў каля воза, у адной руцэ трымаючы лейцы, а ў другой дубец з зялёным лісцем,— гэты дубец, здаецца, ён выламаў у чарапашанецкім лесе. На возе нічога нельга было ўбачыць, бо ўсё было прыкрыта зялёным голлем. Побач і ззаду ішлі вучні, а таксама жанчыны, дзецюкі — усе плакалі.

У Андрэя Сака быў шэры твар — і калі ён паспеў гэтак асунуцца? Моцна сцятыя вусны ажно ўчарнелі. Ішоў ён каля воза так, нібы вяртаўся з поля, везучы снапы.

Завярнуў фурманку на школьны двор. Алена Лявонаўна, ледзьве стрымліваючы хваляванне, падышла бліжэй і ўбачыла, што сярод зялёнага галля, тварам уніз, ляжыць непрытомная Фіёна. Рукі, якімі яна нібыта абдымала штосьці, дробна ўздрыгвалі, як нежывая, час ад часу ўздрыгвала і галава.

— Прынясіце вады,— сказаў Андрэй Сак нейкім глухім, як не сваім голасам.— Адліце Фіёну, бо яна, здаецца, ледзьве жывая.

Усіх пахавалі ў адной магіле — брацкай.

А Пятра Козыра такі ўдалося вярнуць да жыцця.

Калі яго сябры адкручвалі там нешта і калі выбухнула, ён быў зводдаль, і гэта яго выратавала. Выбуховаю хваляю хлопца кінула на зямлю, моцна выцяла, і ён страціў прытомнасць. Калі ж апрытомнеў, дык спачатку нічога не мог зразумець. Абмацаў свой скрываўлены твар, абмацаў вочы і не мог уцяміць — чаго яны перасталі бачыць. Пётр закрычэў з перапуду, спадзеючыся, што хто-небудзь з яго сяброў адгукнецца, але ніхто не падаў голасу, і яму зноў зрабілася блага.

Пётр стаў на карачкі, потым падняўся на аслабленыя ногі і хацеў бегчы, уцякаць з гэтага жахлівага месца, з гэтых кар'ераў, дзе змоўклі, не адгукаюцца яго таварышы. Адною рукою ўсё яшчэ абмацваў свой твар, а другою вадзіў перад сабою, нібыта шукаў дарогі, і раптам, няпэўна гэтак ступаючы, наткнуўся на штосьці мяккае. Нагнуўся, памацаў далонню, адчуў, што гэта нехта з хлопцаў ляжыць. Хацеў быў паклікаць, ды пальцы патанулі ў чымсьці мяккім і цёплым. З жахам адхіснуўся назад, дзіка закрычэў і кінуўся ўцякаць. Але адразу ж паваліўся, спаткнуўшыся, нейкі час ляжаў нерухома, як быццам чакаў, што на яго зараз абрынецца і задушыць штось магутнае і страшнае, чакаў новага выбуху, грому... Ды ўсё было ціха, нішто не выбухнула, не грымнула. Ён зноў стаў на карачкі і папоўз, бо так, як яму здавалася, было больш бяспечна, а потым падаўся ярам угору і хутка апынуўся ў лесе.

Міхал, які ў той самы час спусціўся ў кар'ер з процілеглага боку, спачатку ўбачыў непадалёку свежую яму, груды рудой гліны і параскіданыя нерухомыя целы. Ён задрыжэў увесь — здагадаўся, што гэта за выбух даляцеў да ягоных вушэй. Угледзеўшы Козыра, які з процілеглага боку ўздзіраўся па схіле кар'ера, гукнуў яго, але Пётр чамусьці не пачуў. Тады Міхал, каб не бегчы нізам, хуценька вылез з кар'ера і берагам кінуўся даганяць таварыша. Крычаў яму, каб той спыніўся, але Пётр, прыклаўшы адну далонь да твару, другою як бы намацваючы сабе дарогу, ішоў далей, не звяртаючы аніякае ўвагі на воклічы Міхала. Нарэшце дагнаўшы хлопца, як не аслупянеў: тое, што здалёк нагадвала Пятра Козыра, зблізку нічога агульнага з ім не мела. Падраная вопратка, скрываўленыя калені, замест твару — нейкая суцэльная чырвоная маса і невідушчыя вочы.

— Пятро! — гукнуў Міхал, здагадваючыся, што той, напэўна, аслеп, таму і не бачыць перад сабою дарогі.

Нарэшце да аглушанага Козыра даляцеў голас сябра, ён спыніўся разгублена і не ведаў, адкуль да яго гавораць, у які бок трэба павярнуцца.

— Хто тут? — спытаўся.

— Гэта я, Міхал...

— Міхал? — нібы не паверыў той.— А цябе не разарвала?

— Не, я толькі-толькі прыбег.





— А-а-а,— вымавіў Пётр і змоўк.
— А дзе хлопцы? — спытаўся Міхал. Спытаўся, нібыта не бачыў на ўласныя вочы, нібыта нічога не чуў.
— Разарвала,— сказаў Козыр.
— А з табою што?
— Сляпы. І чую дрэнна — як праз ваду, нібы вада шуміць вакол. Вада не шуміць?
— Не,— адказаў Міхал і сам пачаў прыслухоўвацца — а можа, і сапраўды шуміць, толькі ён не чуе?
Пётр крыху ўжо ачомаўся — відаць, прысутнасць таварыша надала яму сілы.
— Я тут пасяджу трошкі,— сказаў ён, трымаючыся за ствол граба.— А ты бяжы ў сяло, можа, іх яшчэ можна ўратаваць... Чуеш, нехта голас падае?
Пасечаны твар хлопца страшэнна зморшчыўся — гэта ён, відаць, прыслухоўваўся.
— Не, табе здалося,— сказаў Міхал.
— Бяжы, толькі хутчэй,— і ён, трымаючыся адною рукою за дрэва, павольна апусціўся на дол. І глуха паўтарыў: — Бяжы і хутчэй...
Міхал, не чуючы пад сабою ног, сарваўся з месца.
Бацька тады гэтак і застаў сына пад грабам. Хлопец сядзеў, унурыўшыся і затуліўшы далонямі твар. Спачатку бацька пасадзіў яго на веласіпед, каб хутчэй дамчаць у раён, у бальніцу, але Пётр сослепу не мог трымаць раўнавагу, хіліўся то на адзін, то на другі бок, і бацька, кінуўшы веласіпед, павёў яго за руку.
У полі іх сустрэла старшыніха — спяшалася сюды ж, да закінутых кар'ераў, на калгаснай машыне. Пасадзіла хлопца ў кабіну, бацька сеў у кузаў, і яны паляцелі ў раён. Бацька ўвесь час глядзеў праз слюдзяное растрэсканае акенца, бачыў акрываўленую сынаву галаву — і не мог адарваць вачэй ад гэтага жахлівага відовішча.
Гарпіна Цітаўна ў сяло вярнулася падвечар, прыехала разам з дырэктарам. Абое былі ў бальніцы, абое прасілі дактароў, каб тыя зрабілі ўсё магчымае і немагчымае, абы толькі ўратавалі хлопцу жыццё і зрок.
— Казалі, што левае вока наўрад ці ўдасца захаваць, а вось правым ён будзе бачыць, працэнтаў на дваццаць. Нават у школу зможа хадзіць вучыцца.
Расказваючы пра гэта, дырэктар школы быў рады, па-сапраўднаму рады, нібы ў тым, што Пётр Козыр будзе бачыць правым вокам працэнтаў на дваццаць, была і яго, Віталя Рыгоравіча, заслуга.

Неяк адвячоркам Алена Лявонаўна сядзела за швейнай машынай і корпалася над шытвом — байкавую блузку канчала для цёткі Лабадзіхі. Яна нават не пачула, як рыпнулі дзверы ў сенцах, не ўбачыла, калі і ў хату адчыніліся, а толькі глядзіць — стаіць у парозе Фіёна і ўжо, напэўна, не адну хвіліну стаіць, пільна ўглядаючыся ў яе сваімі самотнымі вачамі. Аж но сэрца ёкнула ў Алены Лявонаўны, холад прайшоў па спіне.
— Заходзьце, заходзьце, Фіёна... напалохалі мяне...
А тая і далей пазірае самотна, не кратаецца з месца.
— У нагах праўды няма, сядайце,— запрашала так, нібы была ў чымсьці вінаватая перад суседкаю.
— А я вам чаравікі прынесла,— сказала Фіёна.
— Якія чаравікі?



— А тыя, што вы падарылі майму Васілю. Цяпер яны, царства яму нябеснае, не патрэбны, дык я назад вам прынесла... Абула яго ў тое, што было ў нас, у сваё, хоць і старое, а вашага не захацела абуваць, каб ён там у чужым хадзіў,— цяжка ўздыхнула, доўга набіраючы ў грудзі паветра.— Каб ён там у чужым хадзіў ды матку родную лаяў, што не змагла чаравікаў яму купіць.
Алена Лявонаўна маўчала — што яна магла адказаць?
— Я тут латку прышыла,— казала далей Фіёна,— сама прышыла, як умела, дык ужо не сярдуйце на мяне.
— Чаго ж мне сердаваць? — вінавата ўсміхнулася настаўніца і сама здзівілася, адкуль у яе гэтая вінаватасць.
— Розныя ёсць людзі, могуць і сердаваць.
— Толькі дарэмна вы аддаяце,— нарэшце адважылася сказаць Алена Лявонаўна.
— Чаго ж дарэмна? Далі вы іх Васілю, а яго ўжо няма...
— Ёсць старэйшы хлопец у вас...
— Яму не патрэбны чаравікі, яго там, у горадзе, забяспечваюць усім... А штаны тыя, што вы пашылі, я надзела Васілю, будзе там хадзіць у іх, дзякуй, якраз падышлі яму, добра пашылі, хоць і меркі з яго не знімалі. Ды, шчыра кажучы, навошта вам тая мерка, хіба вы яго ніколі не бачылі, ён жа быў ваш вучань...
Алене Лявонаўне здалося, што Фіёна вось-вось заплача, і настаўніца ўжо ўнутрана падрыхтавала сябе да гэтага. Фіёна ж, паклаўшы чаравікі на скрыню, што стаяла ля самых дзвярэй, згарнула анучку, у якой прынесла чаравікі, схавала яе ў кішэню паношанага пінжака і сказала:
— Дзякую, самі насіце.
— Дарэмна вы, Фіёна...
— А чаго дарэмна? Я ж прадаваць іх не пайду, мне гэта не трэба.
Яна зноў цяжка ўздыхнула, зноў доўга набірала паветра ў грудзі.— Можа, і я хутка памру, бо навошта жыць такому чалавеку, як я, калі маладыя паміраюць. Паміраюць, а яны ж ні ў чым не вінаватыя... І яшчэ, Алена Лявонаўна, хацела я вам сказаць...
— Ну і распачалі вы гаворку, Фіёна! — настаўніца хацела неяк падбадзёрыць яе.
— Гаворку як гаворку,— спакойна і разважліва запярэчыла Фіёна.— Пра што ж тады гаварыць, як не пра гэта? Пра ўсё трэба гаварыць, калі яно ёсць на свеце, калі яно суджана чалавеку... Дык вось, Алена Лявонаўна, прыйшла вас прасіць, каб даравалі мне.
— Што ж мне вам дараваць, Фіёна? Вы перада мною нічым не правініліся,— усміхнулася настаўніца, зусім не здагадваючыся, пра што зараз пойдзе гаворка.
— Правінілася.
— Якая ж ваша віна?
— Гэта ж я вас спаліць хацела...
Алена Лявонаўна ўсё яшчэ ўсміхалася, не верыла, аднак губы яе пачалі халадзець, рабіцца як бы драўляныя.
— Навошта вы берыцё грэх на душу, выдумляеце? — з дакорам у голасе спыталася настаўніца. Яна не магла паверыць у тое, што гаварыла суседка.
— Грэх я ўзяла на душу, калі надумала падпаліць, а сёння хачу прасіць, каб даравалі мне.
І раптам Алена Лявонаўна падумала: а, можа, і праўду кажа гэтая жанчына? Чаго б ёй тады, прыбітай горам, няшчаснай, прыходзіць сюды і нагаворваць на сябе? Але ўсе роўна не давала веры,

здзіўлена пазірала на яе, і халадок разліваўся па целе, і губы сціскаліся самі сабою, знікала з твару ўсмешка.

— Як жа гэта вы?.. Навошта?

— Злосная была на вас, Алена Лявонаўна. Усё вам даецца ў жыцці. І мужа маеце, не забіла на вайне, як майго. І дзеці пры вас, набіраюцца розуму, добра вучацца. І карову маеце. І хата дасталася вам лёгка, чужая. І людзі вас паважаюць, бо вы з усімі добрая, шчырая. Узлавалася я тады на вас, калі ваша карова ў шкоду ўлезла да мяне, агарод як не дашчэнту збэйсала... Ну і прыйшла, ну і падпаліла. Бо самі ногі мяне прынеслі, бо самі ўжо мае рукі падпалілі.

І раптам у галаве ў Алены Лявонаўны мільганула: а той салдацкі гузік з зоркаю і сапраўды бачыла яна на Фіёнінай фуфайцы! Відаць, не хлусіць, а спавядаецца, шчыра пра ўсё расказвае, як было.

— Вы тады,— расказвала далей Фіёна,— з хаты выйшлі сярод ночы, нешта ж пацягнула вас на вуліцу, мабыць, чула сэрца бяду. Ну, я і ўцякла па мяжы. А потым лягла сабе на агародзе, у каноплях, і гляджу: загарыцца страха ці не? Чула, што ўбачылі агонь, і ўжо ведала, што хата не згарыць — і локці сабе кусала, што і на гэты раз вам пашанцавала ў жыцці.

— Што, што вы, Фіёна, абдумайцеся,— прашаптала настаўніца.— Я не пазнаю вас...

— Не трэба мне нічога гаварыць,— ціха сказала Фіёна.— А як я вас ненавідзела, калі хворая качалася ў ложку, каля мяне тады нікога, апроч дзіцяці, ніхто нават парога не пераступіў, і тут раптам вы!.. Караць вам трэба было мяне за маё злачынства, праклінаць апошнімі словамі, а вы, бачыце, штаны майму Васілю пашылі, чаравікі яму прынеслі! І тут вы добрая, сардэчная, а я злосная, бо ненавідзела вас за ваша дабро! І ненавідзела, і разам з тым штосьці варушылася ў душы, расло, прымушала, здаецца, цалаваць вашы сляды. Хочаце верце, хочаце не верце, толькі праўду кажу я вам, што гэтак было са мною тады.

Алена Лявонаўна слухала суседку і не магла не верыць у яе шчырасць, аднак усё роўна неяк не верылася.

— І вось цяпер... Разам жа пайшлі нашы дзеці — мой Васіль і ваш Міхалка. Трэба ж было, каб Зорка заўпарцілася і хлопец пры ёй застаўся. Прыбег на кар'еры пазней — і жывы вось... Ну, скажыце, хіба бог вам не памагае, хоць вы ў яго і не верыце?.. Скажыце мне, чаму на маю галаву ўсё гора, якое толькі ёсць на белым свеце, а вас дзесятаю дарогаю абмінае?

Не, Алена Лявонаўна не сказала, што гора не абмінае яе хаты. Бо хіба яе гора ішло ў параўнанне з суседчыным?

— А памятаеце, як потым вы, Алена Лявонаўна, прыходзілі да мяне па снапы? Па снапы, каб залатаць страху, дзе я падпальвала?

— Памятаю,— адказала настаўніца.

— Хто ж гэта вам параіў прыйсці да мяне?

— Ніхто, сама прыйшла.

— Няўжо самі? — не верыла Фіёна.

— Праўду кажу. Я калісьці бачыла ў вас тыя снапы, вось і прыйшла спытаць.

— А я тады падумала: неяк жа даведаліся, што гэта я падпальвала, таму і прыйшлі, каб у вочы мае паглядзець, каб я сама прызналася...

— Не, Фіёна, не ведала я.

— Я тады гатова была тыя снапы задарма аддаць, толькі б не бачыць вас у сваёй хаце, толькі б не гаварыць з вамі.



Алена Лявонаўна сцяла вусны, і вочы яе наліліся горкім смуткам. Словы яе нібы замерзлі ў грудзях, як тыя кветкі на марозе.

— І ўвесь час пасля таго я думала, што вы пра ўсё ведаеце, што не можаце не ведаць,— казала далей Фіёна.— Але захацелася вам памучыць мяне як мага даўжэй. І я баялася сустракацца з вамі, абыходзіла стараною вас усюды, абы толькі не бачыць вас. І калі хто заводзіў гаворку пра вас — мне нібы камень клалі на сэрца.

— Фіёна...

— Ага, ага, Фіёна... Вось такая я — Фіёна. А калі вы прынеслі чаравікі — стала думаць пра вас зусім па-іншаму. Стала думаць, што не трэба мне баяцца вас, бо вы нічога не ведаеце. Каб ведалі — ніколі б не прынеслі чаравікаў. Бо вы хоць і не такая, як іншыя, а ўсё ж чалавек, не можаце быць не чалавекам. Вы добрая, лепшая за іншых.

— Не ведала я праўды, Фіёна, нават не здагадвалася. Не магла падумаць на вас.

— Не маглі?

— Не.

Фіёна змоўкла. Усё думала. Нарэшце сказала:

— Мне ўжо ўсё надакучыла, нічога не міла, вось і прынесла вам чаравікі вашы, бо не патрэбны мне, а заадно вырашыла і сказаць усю праўду. Можаце рабіць са мною ўсё, што хочаце. Ці на суд падавайце, ці маю хату спаліце, каб расквітацца са мною.

— Фіёна...

— А што? Гэткая гаркота на душы, што болей не магла трываць. Каб не гэтае няшчасце з Васілём, ніколі б не прызналася, а цяпер усё роўна. Цяпер вы ведаеце, якая я. Страшная, нават самой не верыцца. Ды толькі гэтакай быць не хацелася, не хочацца, гэта жыццё мяне скалечыла, хіба не бачыце, вось паглядзіце на мяне... Усім раскажыце, якая я, няхай людзі ведаюць, бо сама я не змагу расказаць. І на суд падайце.

Алена Лявонаўна адмоўна паківала галавою.

— Не, Фіёна, на суд я не падам...

— Чаму ж гэта?

— Хата наша не згарэла, цэлая стаіць.

— Але ж магла згарэць, дымам пайсці!

— Не, Фіёна, хата стаіць і стаяць будзе. А вы дадому ідзіце — цяжка мне глядзець на вас, прабачце за шчырае слова... Вам трэба жыць, у вас ёсць яшчэ адзін сын, трэба яму памагчы ў людзі выбіцца.

— Вось яно што! — выгукнула Фіёна.— І тут вы нада мною, цёмнаю ды сляпою, верх берыце, і тут вы шкадуеце мяне, пакрываеце. Я вам агіднасць зрабіла, чуеце, агіднасць!

— Найперш гэта вы сабе зрабілі, Фіёна. Спачатку жыццё прынесла вам гора, а цяпер і самі сабе.

— Сама сабе?

— Мусіць, так. А мне вы ніякага ліха не зрабілі.

Фіёна змоўкла, вочы яе пацямнелі, нібыта яна хацела зазірнуць ва ўласную душу.

— Што ж мне цяпер рабіць?

— Як што? Жыць. Жыццё — гэта таксама нялёгкі абавязак, асабліва тады, калі трэба яшчэ некага даглядаць.

З тымі словамі Алены Лявонаўны Фіёна і пайшла — гэтак жа, як і прыйшла.

Вярнуўся са школы Нікан Іванавіч. Відаць, меў сёння нейкія непрыемнасці — з дырэктарам ці з вучнямі, бо выгляд меў злосны. Але-

на Лявонаўна знайшла ў сабе сілы спытацца, ці не здарылася часам якой бяды. А як жа, адказаў, здарылася: пасля ўрокаў хлопцы праз нейкую дробязь пабіліся, і Міхал быў сярод іх. Колькі ні вымагаў, каб прызналіся, чаго ўсчалі бойку, ды так нічога і не дабіўся. Ну, і Міхал, вядома ж, маўчаў, хоць яму, здаецца, перапала найбольш. Хацеў сказаць, каб заўтра прыйшлі з бацькамі, ды хіба скажаш, калі і іх сын разам з усімі? Прыйшлося пакінуць пасля ўрокаў, каб на прышкольным участку сабралі кармавыя буракі, бо пара ўжо.

Слухала мужа і думала: сказаць ці не пра тое, што прыходзіла Фіёна? І вырашыла: не трэба.

— Прасіла мама і тата, і я прашу...

Люба Плішак стаіць у доўгай белай сукенцы, якую ёй пашыла Алена Лявонаўна. Разам з ёю зайшлі ў хату і яе сяброўкі, бо на вуліцы сёння даволі холадна, нават дождж пырскаў колькі разоў. Люба Плішак прыйшла ў доўгай белай сукенцы, рознакаляровыя стужкі звісаюць ёй за пояс. І шчокі ў яе чырвоныя — мабыць, не толькі таму, што на вуліцы холадна.

— ...і я прашу на хлеб, на соль, на вяселле...

На ёй туфлікі на высокіх абцасах, і Любіны ногі, якія больш прывыклі да грубых ботаў, раз за разам уздрыгваюць на тых высокіх абцасах, нібы пяткі хочуць выскачыць з цеснага і непаслухмянага абутку. Любе, відаць, трошкі ніякавата ў настаўніцкай хаце, як і ніякавата яе сяброўкам, але маладая і яе таварышкі хаваюцца за ўсмешкамі.

І Алена Лявонаўна ўсміхаецца разам з імі:

— Прыйду, прыйду, дзякуй.

Сярод Любіных сяброўак стаіць і іх Таіса, прыбраная, з чырвонаю і блакітнаю стужкамі ў косах, таксама ўсміхаецца. Таіса рада, што і яе запрасілі на вяселле, што яна вось гэтак ходзіць ад хаты да хаты, запрашаючы разам з маладою гасцей. Невымоўна рада яна, што зайшлі і ў іх хату, што запрашаюць яе бацькоў.

Сярод сяброўак маладой Алена Лявонаўна заўважае і Марыйку Мельнік — яна ў групе больш сталых дзяўчат не адчувае сябе няёмка, тут яна свая. І сэрца ў Алены Лявонаўны міжвольна сціскаецца, што бачыць тут Таісу і Марыйку,— балесна гэтак сціскаецца, а потым яго раптам саграе хваля тужлівай радасці, робіцца лягчэй.

— А за каго ж ты ідзеш, Люба? — пытаецца Нікан Іванавіч.

— Быццам вы не ведаеце,— адказвае Люба. Яна заўсёды была прыгажуняю, а сёння вабіць асаблівай красой; нават вачэй немагчыма адарваць ад яе, так і хочацца ўвесь час радавацца яе радасцю.

Таіса пераглядаецца з Марыйкаю па-змоўніцку, нібы тут, у гэтай кампаніі, яны яшчэ маюць і сваю таямніцу, якую нікому не збіраюцца раскрываць. А яшчэ Марыйка Мельнік пaглядае на дзверы суседняга пакоя, нібы чакае, што вось-вось адтуль выйдзе Міхал. Але ён чамусьці не выходзіць, хоць і чуе, што прыйшла маладая з сяброўкамі і запрашае ўсіх іх на вяселле.

— А я і не хаваю,— смяецца Люба.— За Андрэя Кандратавіча...

— За Андрэя Кандратавіча? — перапыталіся ў адзін голас Шкарубы.

— Ага,— не перастае ўсміхацца Люба.— За Андрэя Сака.

Яны абое і сапраўды здзіўлены пачутай навіной. Хоць бы слова



сказаў у школе іх выкладчык фізкультуры пра тое, што жэніцца! Не, не сказаў. А Люба вось — на вяселле запрашае.

— Прыйдзем,— паабяцалі Шкарубы.— А якога ж табе гасцінца прынесці?

— Хіба пра гасцінец пытаюцца? — ажно ўзлавалася Таіса, стоячы ў гурце сяброўак. Да гэтага яна трымалася ў сваёй хаце, як чужая, а тут не вытрымала, падала голас.

— Самі прыходзьце, гэта для мяне будзе найлепшы падарунак,— знайшла адказ Люба, і ўсім ён спадабаўся.

— Дзякую,— яшчэ раз кажа Алена Лявонаўна.— Прыйдзем, бо без нас і каша не згатуецца, і каравай не спячэцца,— жартуе яна.

— Вядома,— згаджаецца Люба, яна і сама ўмее пажартаваць.— Ды і электрычнасць не загарыцца, калі вы не прыйдзеце.

— Якая электрычнасць? — ускінуў свае бровы Нікан Іванавіч.

— Нібы вы не ведаеце? — зноў гэтак жа кажа іх Таіса з гурту Любіных сяброўак, як быццам усё яшчэ злуецца на сваіх бацькоў.

— А і сапраўды, якая? — цікавіцца ў сваю чаргу Алена Лявонаўна.

— Ды на млыне ўжо дынамамашыну паставілі,—весела тлумачыць Люба.

— Чуў, чуў,— кажа Нікан Іванавіч,— але, здаецца, зусім нядаўна паставілі.

— Нядаўна,— згаджаецца Люба.— Мы жывём ля самага млына, дык бацька і правёў...

Сяброўкі пазіраюць адна на адну і з вясёлымі іскаркамі ў вачах усміхаюцца.

— Дык прыходзьце да нас,— кажа далей Люба,— не толькі на хлеб, на соль, на вяселле, а і на святло.

— Прыйдзем, каб не гасла, каб заўжды свяціла...— адказвае Алена Лявонаўна,— яна шчаслівая, што бачыць перад сабою гэтулькі маладых і шчаслівых дзяўчат.

Дружна выходзяць, і Алена Лявонаўна прыпадае да акна, пазірае, як яны вясёлай чародкай ідуць па вуліцы. І зашчымела сэрца, што іх Таіса ходзіць з дзяўчатамі ўжо як дарослая. Куды ж гэта яны падаліся? Ага, да Варкі. І Варку будуць запрашаць, бо яна, здаецца, Любе даводзіцца хроснаю маткаю... Глядзіць ім услед Алена Лявонаўна да таго часу, пакуль яны не знікаюць за чужою хатай.

Насуплены Міхал сядзіць у цёмным кутку і чытае кніжку. Ён быццам і не чуў, што да іх у хату заходзіла маладая са сваімі сяброўкамі запрашаць на вяселле, быццам і не чуў, як яны прайшлі пад вокнамі. Алена Лявонаўна, адступіўшы ад акна, гукнула:

— Міхалка!..

Хлопец так паглыбіўся ў чытанне, што адарваў галаву ад кнігі толькі за другім воклічам. Глядзеў на маці пахмурна, спадылба.

— Міхалка, хіба ты не чуў, як маладая заходзіла да нас?

— Ну і што?

— Як гэта што? Маладая, кажу, прыходзіла, запрашала заўтра на вяселле.

— То ідзіце,— параіў Міхал.

— А ты... Гэта ж Люба прыходзіла, Плішак. А з ёю Марыйка Мельнік. Хіба табе ўсё гэта абыякава?

І таму, што было яму неабыякава, адказаў:

— Выходзіць, што жыццё збяднела яшчэ на аднаго разумніка.

— Гэта так у кніжцы напісана?

— У кніжцы хоць і па-іншаму, але падобна.

І сваім пахмурным выглядам нібы прасіў маці не гаварыць больш нічога, бо яму і так непрыемна, а чаму непрыемна — нікому тлумачыць не стаў. І Алена Лявонаўна, якая мала што зразумела ў яго настроі, моўчкі выйшла з пакоя...

«Так, так, вось і пачаліся вясковыя вяселлі»,— падумалася ёй. Колішнія яе вучні жэняцца, ідуць замуж — адны ўжо закончылі мядзвенецкую сямігодку, другія кідалі вучобу і заводзілі сям'ю. Але такіх было больш толькі ў першыя гады іхняга тут настаўніцтва, летась ужо гэтак не было ды і сёлета, відаць, не будзе. Люба Плішак скончыла сем класаў мінулым летам, хацела паступіць у які-небудзь тэхнікум, але не паступіла. Перажываць асабліва не было як — дома з ёю жыла немаладая ўжо маці, якой патрэбны быў догляд, ды малодшы брат... Пайшла на калгасную ферму, працуе там даяркаю. Праца, вядома, нялёгкая. За адзін які год Люба і целам агрубела, і з твару пасур'ёзнела... Гэта добра, што Андрэй Кандратавіч бярэ яе. Сам вось пачаў вучыцца ў вобласці на нейкіх курсах, ды і маладую жонку сваю, відаць, паверне да навукі, не захоча, каб яна стаяла збоку, сядзела дома склаўшы рукі.

Часта-часта запрашалі Алену Лявонаўну колішнія яе вучні ды вучаніцы на свае вяселлі, але яна ніколі не хадзіла. Звычайна абяцала прыйсці, дзякавала за запрашэнне, жадала маладым дабра і шчасця, а вось сама чамусьці не хадзіла. І ніхто не крыўдаваў на яе за гэта. Можа, ім і лепш было, што не прыходзіла,— хто ведае, бо ўсё ж настаўніца, бо і на сваіх вяселлях яны адчувалі б сябе перад ёю, як перад настаўніцай. Былі ж колішнія яе вучні ўжо не вучні...

А на гэты раз пайшла. І свайго Нікана ўгаварыла, хоць ён знаходзіў розныя прычыны, каб не пайсці. Сказала, што не могуць яны не пайсці да Андрэя Кандратавіча, ён жа настаўнік, яшчэ пакрыўдзіцца, характар у яго круты, рэзкі.

— І што мне рабіць на тым вяселлі? — бубніў па дарозе Нікан Іванавіч.— Ніколі ж я не хаджу...

— Людзі ходзяць, і ты павінен,— казала Алена Лявонаўна.

— А хіба я п'ю столькі, як людзі? — паскардзіўся ён на сваё не дужа моцнае здароўе.

— Піць, можа, і зусім не трэба...

— А што гэта за вяселле без пітва! — ці то пажартаваў, ці то ўсур'ёз сказаў.

Што больш за ўсё запомнілася Алене Лявонаўне на тым вяселлі? Тое, якая прыгожая і вясёлая была маладая. Яна сапраўды такі нагадвала ёй вясеннюю кветку, палявы васілёк — у ранішніх росах, у сонечных промнях. І перад вачамі ў Алены Лявонаўны на імгненне ўсплылі тыя вяселлі, пра якія ёй даводзілася чуць ці бачыць краёчкам вока — вяселлі без музыкі, а іншы раз і без гасцей, калі двое цішком сыходзіліся і цішком жылі. Вяселлі, дзе гора часта сыходзілася з горам, дзе бяда падавала ручнікі бядзе, нібы ў тым можна было знайсці ўцеху. І тым не менш знаходзілі, здаецца, уцеху. Прыгадаліся ёй тыя вяселлі, дзе пакалечаны мужчына браў удаву з двума ці з трыма малымі, а маладая дзяўчына ішла за чалавека, у якога яна была не першая і не другая... Прыгадалася, як людзі сыходзіліся ў часы ліхалецця, сыходзіліся на які месяц-два, на год, каб перачакаць калатнеча, каб пераседзець ваенную буру, хуценька сыходзіліся, каб потым гэтак жа хуценька разысціся, кінуўшы, а то і не кінуўшы на развітанне цёплае і шчырае слова. Багата яна наслухалася за апошнія гады, багата пабачыла. Усё гэта жывымі ўспамінамі, жывым болем цяпер усплыло перад Аленай Лявонаўнай, і яна, не хаваючыся, заплакала — ціха, сама таго не адчуваючы.



Варка, якая сядзела побач, захвалявалася:

— Што з вамі, чаго вы плачаце?

— Я плачу? — здзівілася настаўніца і правяла далонню па вачах.— А і сапраўды, плачу,— сказала яна і сарамяжліва ўсміхнулася.

— Радавацца трэба,— ціха шаптала Варка.— Зірніце на маладую, яна такая прыгожая, хоць ваду з твару пі.

— А хіба я не радуюся? — паглядзела на Варку Алена Лявонаўна.— Я так рада за яе, што і выказаць словамі не змагу.

Сцяпан Кушта са сваёю Настай Васільеўнай прыпазніліся на вяселле. Яны прывіталі маладых, пацалаваліся з імі. Шчаслівы Андрэй Кандратавіч доўга паціскаў ім абоім рукі, нібы дзякаваў і за сённяшнія іх добрыя словы, і за тыя, якія яны маглі яшчэ сказаць ім пазней.

— Я вось толькі ад става,— прысаджваючыся каля Шкарубаў, ціха пачаў расказваць Кушта.— Вымушаны быў спазніцца, бо з браканьерамі справу меў.

Яму налілі, і ён, узяўшы чарку, пайшоў чокацца з маладымі. Чокнуўшыся, выпіў і вярнуўся на сваё месца. Заядаючы халадцом, гаварыў далей:

— Яны, відаць, толькі і чакалі, калі я пайду на вяселле. Добра ведалі, што пайду. Ды я іх ашукаў. Схаваўся ў кукурузе, а як толькі яны пайшлі з сеткаю па вадзе, я і выскачыў.

— Хоць бы тут ужо не расказваў пра сваіх браканьераў,— кінула яму Наста Васільеўна.

— А чаго?

— У людзей радасць, а ты пра сваіх злодзеяў!

— Ну і што?

Сцяпан Кушта на якую хвіліну аціх. Наліў сам сабе, выпіў, падсунуў талерку са свежай смажанінай.

— А вы ведаеце,— павярнуўся ён да Алены Лявонаўны,— што наша старая пазнімала-такі абразы?

— Няўжо? — здзівіўся Нікан Іванавіч (ён таксама чуў пра тую гісторыю, як іх дырэктар школы хадзіў знімаць абразы).

— Пазнімала! — заўзята і весела крутнуў галавою Кушта.— Сама, ніхто не прымушаў яе.

— Каб чула не ад вас — не паверыла б! — сказала Алена Лявонаўна.

— Зняла, зняла,— пацвердзіла Наста Васільеўна і была рада, што на гэты раз такі праўду кажа, хоць і тады не хацела хлусіць.

— А ўсё пасля, як Кацярына Пекур памерла,— расказваў Кушта.— Прыйшла наша старая з пахавання, паўдня прасядзела сіднем на лаве, на святых сваіх пазіраючы, а потым прэч усіх пазнімала. Я ў яе пытаюся, навошта яна знімае іх. І ведаеце, што адказала? Адказала, што калі няма праўды на зямлі, дык і на небе яе няма. Адказала, што каб быў бог, то ён не дапусціў бы Кацярынінай смерці, не пакінуў бы яе дзяцей сіротамі.

— Глядзіце вы...— здзівілася Алена Лявонаўна.

— А вы думалі! Пазнімала іх усе, загарнула ў ручнікі і схавала ў скрыню. Цяпер у скрыні ляжаць.

— Яна і да дырэктара нашага хадзіла,— дадала Наста Васільеўна.— Сказала, што пазнімала абразы, і прасіла не злавацца на мяне,

бо, маўляў, яна вінаватая, бо яна старэйшая ў хаце, а не я, то і яе права распараджацца.

Калі парог хаты пераступіла старшыніха, то спачатку не ўсе і заўважылі яе. Але некага яна цягнула за руку, нехта ўпарціўся, не хацеў заходзіць. Усе павярнулі галовы, вытрашчылі вочы: што там, у парозе, робіцца?

І раптам усе ў хаце засмяяліся — старшыніха такі перацягнула за парог Пятра Козыра. Засмяяліся і адразу сціхлі, пазіраючы на хлопца. Яму тады выбухам моцна такі знявечыла твар, быў ён нібы абпалены, верхняя губа і адна ноздра — пашкамутаны, бровы выпалены. Павека левага вока сшыта гэтак, што таго вока амаль і відаць не было, паблісквала яно жывым пякучым болем. Правае вока, здаецца, бачыла крыху лепш.

— Заходзь, заходзь! — запрашала старшыніха. І пачала тлумачыць аднавяскоўцам: — Еду гэта я сюды, а ён гукае мяне з двара свайго, каб і яго падвезла на вяселле. Ну, я, вядома, пасадзіла хлопца на брычку. Даехаў са мною да самае хаты, а ў хату заходзіць баіцца, хоць і казаў мне, што дужа хоча пабачыць маладую. Чуеш, Люба,— звярнулася старшыніха да маладой,— на цябе хацеў паглядзець, якая ты.

Люба радасна засмяялася.

— Ну, то і глядзі,— нібы запрашала старшыніха Пятра Козыра.— Маладая і сапраўды прыгожая, ёсць на што глядзець. Бачыш?

Пётр Козыр ледзь прыкметна кіўнуў галавою.

— Дык бачыш ці не? — вымагала адказу старшыніха.

— Бачу, бачу,— ціха адказаў хлопец.

— А калі бачыш — значыць, усё добра! Каб ты добра бачыў і далей, каб ты і сваёй маладой дачакаўся, каб мы і на тваім вяселлі пагулялі. Чуеш мяне?

Пётр Козыр нічога не адказаў.

— Ты чуеш ці не? — паўтарыла пытанне старшыніха.

— Чую,— прабубніў хлопец.

— Ну, то і добра.

Усе зноў засмяяліся. Старшыніха адпусціла Петракову руку, і хлопец адразу ж шаснуў за дзверы.

«Усё добра, усё добра,— казала сама сабе Алена Лявонаўна.— Няхай бы заўжды гэтак добра было». Яна зірнула ў расчыненае насцеж акно — у чыстай сіняве неба залаціўся ражок маладзіка, крышку збляклы пад касымі праменнямі вячэрняга сонца. Апусціла ніжэй вочы і ўбачыла свайго Міхала. Хлопец стаяў ля варот — засяроджаны, бледны — і пільным збалелым позіркам шукаў кагосьці ў натоўпе, які пад музыку ходырам хадзіў на панадворку...





***іван лашутка***



ПАЭЗІЯ



## Зязюля

Зноў сёння ў зялёнай завеі
Зязюля нам шчасця жадае,
І погляд вачэй тваіх добрых
Дакорам стаіць паміж намі:
Чаму нашых дзён летуценні
І позвы высокіх імкненняў
Мы ёй палічыць давяраем —
Такой легкадумнай красуні...
Такой легкадумнай?
Паслухай,
Як часта спагадліва, шчыра
Мы суд свой няправы выносім
І каяцца потым гатовы.
Тут, можа, вялікая тайна
Пад стынню вякоў пахавана —
Трывожных надзей адзінота,
Цяплынь ад чужога агню...

## Саракі

Зіма на згоне. Яшчэ зранку
Прыціхлі сцята капяжы,
А ў звонкі поўдзень ледзяшы
Затрубяць сонцу прывітанне.

І сорак выраяў крылатых
З далін чужых, з няветлых гор
Спяшаюцца, дзе сіні бор,
Нясуць вясну да роднай хаты.

З усходам сонца мы заняты:
Шпурляем трэскі праз хлявы,
Каб у раздоллі палявым
Пачуць найпершы спеў крылатых.

З тае пары майго маленства
Лаўлю я сэрцам кожны гук.
Міг шчасця. Зноў трывожны стук,
І на парозе —
раўнадзенства.



**алесь нікалайчанка**





**паэзія**

■

Нервы, бы антэны,—
на вясну,
На ўзарваны лёд,
на першы гром...
Я не веру ў тое,
што засну
Некалі біблейскім вечным сном.
Што ні дзень мой,—
быццам навіна,
У невядомасць шлях —
мой кожны дзень!
Дай, жыццё, напіцца мне спаўна
Не,
не медавухі,
не віна —
Ветру ўсіх дарог
маіх надзей,
Дай спазнаць нянавісць і любоў,
Дрэва пасадзіць,
забіць змяю.
Дай, жыццё, мне права
заўтра зноў
Крок зрабіць
у раніцу тваю!

## Беларусі

Я па свеце усім
За удачай ганяўся няўлоўнай,
На аленях Ямал з краю ў край пераараў.
Толькі чым больш хадзіў
Па нязблізкіх шляхах — усё роўна,
Па начах ты упарта шаптала:
«Вяртайся, пара»...
То не памяць мая
У сон,
Бы качка, у Проню упала —
Увачавід ля млынка,
Дзе дрымучы канчаецца бор,
Не па струнах — па сэрцы
Б'юць цымбалы, пяюць цымбалы,
І ляцяць нашы песні
Аж да зораў і вышай зор.
І не верыцца мне,
Што іду не па тундры — па гаі,
Што з крыніцы ваду
Пад старой п'ю высокай вярбой,
Што, прагледзеўшы вочы,
Сына маці і бацька чакаюць.
У іх дыханне тваё.
Я ж — іх радасць, надзея і боль.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА



● Сямён АШАРОВІЧ ● Хведар ЗАЯЦ ● Сцяпан КУХАРАЎ ● Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ

● Эльмарт ПЕТЭРСАН ● Рыгор БЯРОЗКІН ● Міхаіл НІКІЩЕНКА, Лідзія ЦЯГАКА ● Эдуард КАРНІЛОВІЧ

● Ала ПЯТРАЕВА ● Леанід ЗДАНОВІЧ



Старшакласнікі Нясвіжскай школы № 3 Таня Мядзвецкая, Юра Беладсевіч і Валя Міхалюк.



# ДА ЛЕНІНА

**Сустрэчы пасланцоў працоўных Беларусі з правадыром рэвалюцыі—яркая і дарагая для нас старонка Лeнініяны.**

**З Леніным сустракаліся А. Ф. Мяснікоў, А. Р. Чарвякоў і многія іншыя прадстаўнікі Беларусі. З імі У. І. Ленін абмяркоўваў пытанні стварэння і развіцця Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, даваў парады, аказваў дапамогу.**

**Нагадаем некаторыя з гэтых сустрэч.**

У артыкуле «Мае сустрэчы з Леніным» А. Ф. Мяснікоў расказвае пра адну са сваіх сустрэч з Уладзімірам Ільічом Леніным у лістападзе 1918 года ў часе работы VI Усерасійскага надзвычайнага з'езда Саветаў. У. І. Ленін цікавіўся становішчам на Заходнім фронце (Мяснікоў прыехаў у Маскву са Смаленска), даваў яму падрабязныя парады, як быць з маёмасцю, якая апынецца пры наступленні ў нашых руках, як наладжваць кантакты з мясцовымі работнікамі.

Дэлегат VI Усерасійскага надзвычайнага з'езда Саветаў, настаўнік з Быхаўшчыны Сяргей Лаўрэнавіч Сарокін расказвае: «Ільіч заўсёды быў сярод дэлегатаў. Па-сяброўску, задушэўна гутарыў з намі і, што дзіўна—ён ведаў пра многія дробязі жыцця ў самых далёкіх кутках краіны.

У часе адной такой гутаркі Уладзімір Ільіч неяк нечакана звярнуўся да мяне: «Вы адкуль, таварыш?» Я адказаў. «З Быхава?—здзівіўся Ленін.—Горад жа акупіраваны немцамі». «Так, Уладзімір Ільіч», пацвердзіў я, і тут жа расказаў, што з левабярэжжа Дняпра мы ўжо выгналі захопнікаў. У вызваленай мясцовасці арганізавалі Савецкую ўладу. Праўда, Быхаў яшчэ быў у руках ворагаў, паветовы выканкам знаходзіўся ў мястэчку Прапойск. Арганізавалі мы і паветовы камітэт РКП(б). Памятаецца, Ільіч цёпла і задушэўна сказаў, што мы правільна зрабілі, аб'явіўшы права Савецкай улады на Быхаў і на ўвесь павет... І трэба сказаць, што наказ правадыра мы выканалі з гонарам: ужо ў другой дэкадзе лістапада 1918 года акупанты былі выгнаны з Быхава, увесь павет стаў поўнасцю свабодны...»

Праз некалькі дзён пасля перамогі Кастрычніка 1917 года ў Мінску і на Заходнім фронце да Леніна быў накіраваны дэпутат Мінскага Савета, член партыі бальшавікоў з 1906 года Л. П. Разаускі. Людвіг Пятровіч расказваў: «Сустрэў мяне Уладзімір Ільіч выключна сардэчна. Пасыпаліся адно за другім пытанні пра здароўе, настрой, пра думкі і надзеі актыўных работнікаў заходніх абласцей, Мінска і ўсяго Заходняга фронту. Далей пайшлі пытанні аб агульным становішчы ў нас, планах на бліжэйшае будучае, аб нашых патрэбах. Пасля адказаў на ўсе зададзеныя пытанні мне ўжо мала давялося дакладваць па даручаным заданні. Я пераканаўся, што сардэчнасць, увага і чуласць да людзей і ў першую чаргу да самаадданых змагароў за перамогу рэвалюцыі з'яўляецца адной з самых характэрных рыс нашага настаўніка і правадыра».

У тым жа, 1917 годзе з запіскай ад камандзіра Першага Мінскага чырвонагвардзейскага атрада Р. Н. Берзіна ў Петраград да У. І. Леніна быў накіраваны лётчык Аляксей Туманскі (мінчанін, адзін са старэйшых авіятараў нашай краіны, пазней—лётчык-выпрабавальнік, які за штурвалам самалёта налятаў больш двух мільёнаў кіламетраў). У Смольным Туманскі перадаў пакет начальніку варты і праз дзесяць мінут быў прыняты У. І. Леніным.

«Ну, раскажыце, як вы ваюеце?»—спытаўся Ленін. Уладзіміра Ільіча вельмі цікавілі падрабязнасці баявой дзейнасці авіяцыі. «Як вы лталі на германскім фронце, як лятаеце цяпер?.. На якіх машынах вам даводзілася лятаць і якая ваша думка аб самалётах замежнай вытворчасці?» Я адказаў, што самалётны парк, які застаўся ад царскай арміі, мае вельмі стракаты выгляд, што рускі «Вуазен» мне больш падабаецца, чым самалёт французскай вытворчасці. Ленін ажывіўся...

«Калі наш «Вуазен» лепш за французскі, значыць, мы можам будаваць сваю авіяцыю не горш за іх. Гэта вельмі добра!» І тут жа сказаў: «А якая ваша думка аб «Ільі Мурамцу»?

Позірк Уладзіміра Ільіча спыніўся на маіх грудзях, дзе з-пад расшпіленай бекешы быў відаць залаты «Георгій». «Вы, здаецца, афіцэр?»—спытаўся Ленін. І пачуўшы, што я прызначаны прапаршчыкам за баявыя заслугі, сказаў фразу, якая глыбока запала ў памяць і вызначыла ўвесь мой далейшы лёс: «Гэта вельмі добра, што вы адразу перайшлі на бок Савецкай улады. Нам патрэбны сумленныя спецыялісты, а хутка іх спатрэбіцца яшчэ больш».

У заключэнне Уладзімір Ільіч сказаў мне, што дасць указанне тав. Крыленку, чаго б гэта ні каштавала, забяспечыць авіяцыю атрада бомбамі. Ленін падаў мне руку і папрасіў перадаць прывітанне таварышу Берзіну і ўсім салдатам і камандзірам атрада. Атрымаўшы бомбы, мы адправіліся назад. Сустрэча з У. І. Леніным працягвалася не больш пятнаццаці мінут, але яна пакінула незабыўны след на ўсё жыццё».

У лютым 1918 года ў Цэнтральны Камітэт партыі быў выкліканы член партыі віцяблянін П. А. Сапёраў. Яго прыняў У. І. Ленін.

«У часе гутаркі,—успамінае Павел Аляксеевіч,—зайшоў хтосьці з работнікаў апарату. Уладзімір Ільіч звярнуўся да яго: «Вось прыбыў да нас чырвонагвардзеец. Радзіма яго—Віцебская губерня. Я думаю накіраваць яго на радзіму, каб ён арганізаваў там партячэйкі. Трэба даць яму ў дапамогу восем рабочых-пуцілаўцаў, падабраць пісьменных таварышаў. А пакуль уладкуйце таварыша ў інтэрнат, прымацуйце да сталовай». Я ніколі не думаў, што ў такі цяжкі час Уладзімір Ільіч стане клапаціцца аб маім уладкаванні на начлег і харчаванне...»

«У снежні 1919 года,—піша далей П. А. Сапёраў,—давялося мне ўдзельнічаць у рабоце з'езда земляробчых камун і сельскагаспадарчых кааператываў. На другі дзень прыбыцця наркам земляробства перадаў, што мяне запрашае да сябе Ленін. На прыём з'явілася некалькі чалавек. Так жа, як і раней, Уладзімір Ільіч пасадзіў усіх у крэслы, а сам стаяў і падрабязна распытваў: «Ну, расказвайце, як вы арганізавалі губернскі саюз работнікаў зямлі і лесу? Чым ён займаецца, гэты саюз? Хто ў ім састаіць? Як вы членскія ўзносы збіраеце?»

Падрабязна адказаўшы на ўсе пытанні, я ўпамянуў, што членскія ўзносы збіраем мукой і іншымі прадуктамі. «А куды гэтыя прадукты дзяваеце?» «Аддаем на патрэбы Чырвонай Арміі. І трыста нашых добраахвотнікаў паслалі на фронт супраць Калчака». Уладзімір Ільіч задаволена ўсклікнуў: «Вось гэта саюз! Такіх бы нам саюзаў пабольш». І тут жа звярнуўся да наркома і сказаў, што трэба будзе склікаць батракоў для арганізацыі Цэнтральнага Камітэта работнікаў зямлі і лесу. А мне даручыў коратка напісаць, як арганізоўвалі мы свой саюз, чым ён займаецца, і ўсё перадаць яму а дзесятай гадзіне раніцы наступнага дня.

Уладзімір Ільіч вельмі ўважліва адносіўся да работнікаў з месцаў. Ён гаварыў, напрыклад: «Мы многае не ведаем, што і як робіцца на месцах. Дык вы раскажыце нам, не саромецеся, ці напішыце. Калі напішаце дрэнна, мы ўсё роўна зразумеем». Я хацеў папрасіць наркома запісаць тое, што раскажу, але Уладзімір Ільіч запярэчыў: «Божа барані! Вы самі напішыце так, як ёсць у жыцці, усё падрабязна, не саромейцеся: мы зразуме-

ем». I на гэты раз Уладзімір Ільіч спытаўся ў мяне, як я ўладкаваўся, чым ён можа памагчы мне. Даручыў уладкаваць мяне на начлег, а таксама набыць білет да Віцебска. Калі мы выходзілі з кабінета, яшчэ раз напомніў: «Паведаміце нам, што будзе новага, як ідзе работа саюза».

Прыехаўшы на сваю радзіму, я з глыбокай любоўю расказваў сялянам пра Уладзіміра Ільіча. І яны, слухаючы гэтыя расказы, пачыналі будаваць жыццё па-новаму».

Віцебская гарадская канферэнцыя работніц паслала сваіх дэлегатаў (пяць чалавек) на першы Усерасійскі з'езд работніц, які адбыўся ў лістападзе 1918 года. Ім даручалася ўручыць Уладзіміру Ільічу букет кветак і перадаць самае шчырае прывітанне ад работніц Віцебшчыны.

«Калі Уладзімір Ільіч закончыў сваё выступленне і хутка накіраваўся да выхаду,—расказвала дэлегатка Лізавета Ісакаўна Коган-Пісманік,—мы паспяшаліся за ім. Ленін быў ужо ля выхаду на Вялікую Дзмітраўку (цяпер Пушкінскую), дзе яго чакала машына. Але, убачыўшы нас, Уладзімір Ільіч спыніўся. Ф. Швайнштэйн, вельмі хвалюючыся і чырванеючы, сказала маленькую прамову і працягнула Леніну букет белых астраў. Уладзімір Ільіч цудоўна зразумеў нашу збянтэжанасць. Вельмі проста, з мілай сваёй усмешкаю і вясёлымі іскрынкамі ў вачах ён паглядзеў на нас, маладых дзяўчат, узяў кветкі, падзякаваў, папрасіў перадаць прывітанне віцебскім работніцам і пажадаў ім поспеху і здароўя. Развітваючыся, Ленін моцна паціснуў нам рукі».

Старога чыгуначніка Мікалая Міканоравіча Корабава, інструктара Усерасійскага савета забеспячэння чыгунак (Продшлях), у 1919 годзе накіравалі ў Гомель. На Гомельскім вузле не ладзілася з забеспячэннем, затрымліваліся матэрыялы для рамонтных работ. Давялося яму тэрмінова ехаць у Маскву.

Пакуль у Продшляху вырашаліся пытанні, Корабаву пашчасціла пабыць на сесіі Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, дзе ён сустрэўся з У. І. Леніным. Вось як М. М. Корабаў расказвае пра гэта:

«Ленін не пайшоў у прэзідыум, куды яго запрасіў Міхаіл Іванавіч, а заняў бліжэйшае крэсла ў зале. Праз некалькі мінут ён устаў і сеў на некалькі радоў далей мяне... Але вось ён зноў падняўся і раптам сеў побач са мной. Цяжка перадаць словамі, што са мною рабілася. Мабыць, моцнае хваляванне, якое я адчуваў, адбілася на маім твары. Уладзімір Ільіч заўважыў гэта, злёгку ўсміхнуўся і спытаўся: «Вы адкуль, таварыш?» Хутка глытаючы словы, я адказаў. «Скажыце, таварыш Корабаў, які настрой у рабочых вузла?» «Настрой добры, бадзёры, баявы, Уладзімір Ільіч. Усе за Савецкую ўладу»,—адказаў я. «Ну, а як ідзе забеспячэнне чыгуначнікаў? Па якой норме апошні раз яны атрымоўвалі?» «Цяжка ў нас, Уладзімір Ільіч. Чыгуначнікі нядаўна атрымалі па адной васьмушцы цукру, па некалькі залатнікоў круп і селядца, а хлеба—па паўфунта на дзень».

«Так...—Ільіч крыху спахмурнеў.— Але нічога, вось разаб'ём ворагаў, і тады ўсё наладзіцца, абавязкова наладзіцца, таварыш Корабаў. Так і перадайце таварышам чыгуначнікам. А як ідзе аднаўленне вузла?»

— Хуткімі тэмпамі, Уладзімір Ільіч,—узрадаваўшыся, што змагу паведаміць добрую вестку, сказаў я.— Мост праз раку Сож, напрыклад, аднавілі за чатырнаццаць дзён.

Па твары Леніна прабегла радасная ўсмешка. «Выдатна!—усклікнуў ён, ляпнуўшы рукою па спінцы пярэдняга крэсла, але тут жа вінавата паглядзеў на прэзідыум сесіі.—Трэба цішэй, таварыш.— І сказаў шэптам:—Малайцы чыгуначнікі. Так і перадайце ад мяне—малайцы! Ну, а як з матэрыяламі для аднаўлення?»

— Шпалы нам патрэбны, брусы, стрэлачныя пераводы, ну, і хлеб, канечне,—ціха гаварыў я.—Вось з-за гэтага я і прыехаў у Маскву.

Уладзімір Ільіч скоса паглядзеў на прэзідыум, потым на мяне, хутка накідаў нейкую запіску, паслаў яе ў прэзідыум і спытаўся:—І доўга вы збіраецеся прабыць тут?

— Не ад мяне залежыць, Уладзімір Ільіч. Мне ўсё абяцалі зрабіць, ды не хутка. Думаю, два дні пройдзе, а, можа, і больш.

Ленін з сумам паківаў галавой: «Не, не, так нельга, таварыш Корабаў. Мы не можам дазволіць сабе такой траты часу. Скажыце ў Продшляху вашаму начальству ад майго імя, каб сёння ж вырашылі ўсе пытанні і адпусцілі вас у Гомель. Калі спатрэбіцца, званіце мне ў Крэмль. Вось мой тэлефон...»

Праз некалькі мінут быў аб'яўлены перапынак. Уладзімір Ільіч устаў, моцна паціснуў мне руку і пажадаў поспеху.

У той жа дзень усе мае справы былі ўладжаны. А ўвечары я паехаў са сталіцы, везучы з сабою самую цёплую памяць аб гэтай сустрэчы».

Сярод старэйшых членаў Кампартыі Беларусі быў Яфім Абрамавіч Чарнухін, які ўступіў у партыю ў 1898 годзе. За ўдзел у рэвалюцыйным руху ён арыштоўваўся царскімі жандарамі і сядзеў у Кіеўскай, Віленскай, Мінскай, Краснаярскай турмах, ссылаўся ў Туруханскі край, адкуль уцёк. Згодна рашэння Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП эмігрыраваў у 1907 годзе за мяжу. Знаходзіўся ў Англіі. У 1917 годзе ў складзе групы палітэмігрантаў накіраваўся ў Расію праз Нарвегію, але група надоўга была затрымана там, і толькі дзякуючы перамозе Вялікага Кастрычніка і тэлеграме У. І. Леніна Я. А. Чарнухін вярнуўся ў Петраград.

З вялікім хваляваннем Я. А. Чарнухін апісвае прыход бальшавікоў-эмігрантаў у Смольны на сустрэчу з У. І. Леніным.

«Сэрцы нашы часта забіліся, калі мы пераступілі парог Смольнага, дзе працаваў наш Ленін... Чалавек у скуранай куртцы з чырвонай павязкай на руцэ падвёў нас да рабочага пакоя Леніна. Ён сядзеў за сталом. Калі зайшла наша дэлегацыя з пятнаццаці чалавек, якая прадстаўляла вялікую эміграцкую групу, што вырвалася з Нарвегіі, Уладзімір Ільіч імкліва падняўся з-за стала. Што нам усім кінулася ў вочы—гэта шырокая, я б сказаў, на дзіва ветлівая ўсмешка Леніна. Адчувалася па няспынных тэлефонных званках, бясконцых наведваннях людзей, што Ільіч заняты, вельмі загружаны работай. Але ўсё ж ён знайшоў час, каб даведацца ад нас, як мы даехалі, у чым маем патрэбу, і ўсё гэта з ласкавай усмешкай, з іранічнымі заўвагамі па адрасу нарвежскіх улад, якія ніяк не хацелі з намі «расставацца». Ленінская ўсмешка, ленінскі іранічны жарт побач з кароткім наказам, што трэба нам рабіць, раз'ехаўшыся па месцах,—гэта ўсё запаміналася надоўга і не згладжвалася з памяці на схіле год. З кожным з нас Уладзімір Ільіч паспеў перакінуцца словам, даведацца, хто з якой губерні, моцна паціснуў нам рукі і пажадаў поспеху у будучай рабоце па ўмацаванні ўлады Саветаў...»

Яшчэ адна сустрэча з У. І. Леніным, якая адбылася амаль паўстагоддзя назад. Між дэлегатаў ад Беларусі на VIII Усерасійскім з'ездзе Саветаў быў старшыня сельвыканкома Ляскавіцкай воласці Бабруйскага павета Мітрафан Пятровіч Мінін.

У нарысе «Тэлеграма ў вёску», які быў апублікаваны ў друку ў дні работы з'езда, прыводзіцца расказ М. П. Мініна: «Пішы, пішы, быў у Калініна, з ім мы таварышы-прыяцелі, і таварыша Леніна бачыў. Сказаў яму пра наша жыццё. Прыветлівы таварыш—адрас мой запісаў у кніжку. Нашым у вёсцы скажы, каб цвёрда стаялі за Савецкую ўладу»...

Вярнуўшыся ў вёску, ён расказваў сяльчанам: «Сустрэў я таварыша Леніна неяк пасля пасяджэння. Я падышоў, назваў сябе, адкуль я. Ленін размаўляў у гэты час з іншым таварышам. Ён адразу ж павярнуўся да мяне і стаў уважліва слухаць. Я сказаў яму, як у нас усё разбурана пасля паноў».—«А мы вам паможам. Справа гэта наша агульная». Пытаў ён у мяне яшчэ пра многае. Прыветлівы такі, даступны, вясёлы. Відаць, што вельмі любіць рабочых, сялян...»

У тыя дні, калі М. П. Мінін быў на VIII з'ездзе Саветаў, у адрас кіраўніцтва беларускай дэлегацыі на з'ездзе Саветаў прыйшла тэлеграма з Мінска з просьбай паскорыць рашэнне пытання аб адкрыцці ў сталіцы Беларусі ўніверсітэта.

У ліку вучоных, якія прыехалі ў Мінск, быў Міхаіл Барысавіч Кроль (1879—1939)—ураджэнец Мінска, пад той жа час адзін з буйнейшых савецкіх вучоных-неўрапатолагаў.

У красавіку 1924 года адбыўся з'езд навуковых работнікаў БССР. Адно з пасяджэнняў было прысвечана памяці У. І. Леніна. У ліку іншых прамоўцаў выступаў дэкан медфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта М. Б. Кроль. Ён падзяліўся сваімі ўспамінамі пра У. І. Леніна.

— Усё, што адносіцца да Уладзіміра Ільіча,—сказаў ён,—мае глыбокі сэнс і вялікую цікавасць... Упершыню я быў запрошаны да Уладзіміра Ільіча ў маі 1923 года. На працягу чэрвеня-ліпеня-жніўня я амаль штодзённа бачыўся з Уладзімірам Ільічом. Нельга не расказаць пра ўражанні, якія хворы Уладзімір Ільіч рабіў на ўрачоў, што лячылі яго. Яго выключная далікатнасць, тактоўнасць, прыветлівасць, любоў да прастаты, высокі інтэлект зачароўвалі ўсіх, хто меў шчасце блізка знаходзіцца ля яго.

Нашы сучаснікі і нашчадкі будуць з хваляваннем чытаць радкі ўспамінаў людзей, якія мелі шчасце бачыць вялікага правадыра і настаўніка і чуць яго жывое слова.

Публікацыю падрыхтаваў
**Сямён АШАРОВІЧ.**



# НА ПАЛЕССЕ ПРЫХОДЗІЦЬ ВЯСНА...

## 1. КРЫЛЫ ПАЧЫНУ

Іосіф Шчурок, камсорг Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі на ўсесаюзнай ударнай камсамольскай будоўлі — меліярацыі Беларускага Палесся, — ківае на карту, што вісіць на сцяне яго кабінета ва ўпраўленні «Галоўпалессеводбуд», і кажа:

— Выбірайце любы маршрут!

Маршрут выбраць не проста. Разбягаюцца вочы. Ніжняя частка карты — уся Брэсцкая вобласць, амаль палова Мінскай і тры чвэрці Гомельскай — усеяна сцяжкамі. Кожны чырвоны сцяжок азначае, што тут працуе камсамольска-маладзёжны калектыў, які падтрымаў пачын меліяратараў другога Яроміцкага будаўніча-мантажнага ўпраўлення трэста «Брэстводбуд» і ўключыўся ў сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновы ўвод зямель пад ураджай 1973 года. У канцы мінулага года, калі пачын толькі-толькі набіраў размах, такіх калектываў на ўсесаюзнай ударнай было 335, у тым ліку 24 участкі, 4 цэхі, 96 будаўнічых брыгад і 211 экіпажаў. Сёлета ж у сацыялістычнае спаборніцтва ўключылася больш 450 камсамольска-маладзёжных калектываў будоўлі.

Разам з сакратаром камсамольскай арганізацыі Яроміцкага БМУ Георгіем Аруевым і камсамольцам Леанідам Парадам, начальнікам участка № 2, едзем на аб'ект, дзе працуе экіпаж шматкаўшовага экскаватара Мікалая Росала — ініцыятара пачыну. Едзем доўга, больш за гадзіну. Нарэшце з-за павароткі паказаліся блакітныя домікі палявога стану. Домікаў два: у адным — сталоўка, у другім — інтэрнат і пакой адпачынку. Побач — брыгадны экскаватар, новенькі ЭТЦ-202.

У пакоі адпачынку заспелі ўсю брыгаду — 6 чалавек. Машыніст экскаватара Мікалай Росал, памочнік машыніста Міхась Стральчук, рабочыя Валянціна Лапішык, Алена Росал (першая — жонка, другая — сястра машыніста) і Марыя Красоўская. Шосты — брыгадзір Іван Галашко. Калектыў дружны, як адна сям'я. Пэўна, гэтая моцная, сапраўды сямейная дружба і была прычынай таго, што менавіта тут нарадзіўся камсамольскі пачын.

Мікалай Росал расказвае:

— Усіх нас, меліяратараў, усхвалявала пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб далейшым узмацненні работ па меліярацыі і паляпшэнні выкарыстання арашаемых і асушаемых зямель». А неўзабаве партыя і ўрад звярнуліся да ўсіх працаўнікоў сельскай гаспадаркі з заклікам разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва за павелічэнне вытворчасці збожжа і іншых прадуктаў земляробства ў трэцім, рашаючым годзе пяцігодкі. Кожны з нас міжволі думаў: «А што можам зрабіць мы, меліяратары, чым дапамагчы земляробам? І дапамагчы не ўвогуле, не ў будучым, а от цяпер, неадкладна. Які можа быць наш уклад ва ўраджай трэцяга года пяцігодкі?» Іду я неяк на работу, думаю пра ўсё гэта, ажно даганяе мяне брыгадзір і кажа:





— Калі мы, Мікола, павінны здаць аб'ект?

Я ўсміхнуўся сам сабе — пытаецца, быццам не ведае, але спакойна так адказваю:

— Да мая семдзесят трэцяга. А што?

— А тое, — выцягвае Іван з кішэні газету з пастановай, — што мне адна думка не дае спакою. Май — месяц, вядома, харошы. Але ў маі сеяць ці не пазнавата? От я і падумаў: а калі б нам паднаціснуць ды здаць нашы 235 гектараў раней, каб іх, гэтыя гектары, можна было засеяць?

— Дык, братка ты мой, я ж таксама пра нешта такое думаў!

Камсамольцаў падтрымалі начальнік участка, партыйнае бюро БМУ. А потым брыгадзе стала вядома, што іхнюю ініцыятыву ўхваліла бюро ЦК ЛКСМ Беларусі. А яшчэ праз некаторы час Цэнтральны Камітэт ВЛКСМ звярнуўся да ўсіх камсамольцаў, да ўсёй моладзі ўсесаюзных ударных будоўляў Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі СССР з заклікам падтрымаць пачын беларускіх меліяратараў і разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновы ўвод зямель пад ураджай 73-га года.

У трэцім годзе пяцігодкі экіпаж Мікалая Росала павінен быў па плану здаць у эксплуатацыю 300 гектараў. Цяпер відочна, што план гэты перакрыты, бо яшчэ ў мінулым годзе, 20 снежня, брыгада здала першыя гектары ў лік 1973 года.

Тады ж, у снежні, экіпаж Росала пачаў асвойваць закладку дрэнажу ў зімовых умовах. Хлопцы і дзяўчаты разумелі: калі яны здадуць плошчу ў маі, як меркавалася, дык на ёй можна будзе пасеяць, бадай, толькі траву ці кармавыя культуры; а калі пачнуць здаваць гатовыя ўчасткі неадкладна, дык калгасы змогуць выкарыстаць іх пад збожжавыя. А збожжа — гэта хлеб.

Слова камсамольцаў не ў разладзе са справамі. Быў я ў Яромічах у сярэдзіне лютага, а на рахунку экіпажа Мікалая Росала было ўжо 235 гектараў асвоеных і здадзеных дзяржаве тарфянікаў. Чакалі здачы яшчэ 65 гектараў. Не сумняваюся, што зараз, у маі, усе гэтыя тарфянікі зазелянеюць маладой рунню.

Напярэдадні майго прыезду ў Яромічы на аб'екце, дзе працаваў экіпаж Мікалая Росала, пабывалі прадстаўнікі 6-га, таксама камсамольска-маладзёжнага ўчастка БМУ. Прыязджалі яны не ў госці — правяралі якасць работ. Доўга хадзілі прыдзірлівыя кантралёры ўздоўж толькі што прыкладзенай траншэі, у якую акуратна быў укладзены абкручаны белай ізаляцыяй азбеста-цэментавы калектар, але так і не знайшлі, да чаго ж можна было б «прыдрацца». Задаволена трубаўкладчыца Валя Лапішык, задаволена ўся брыгада.

— Узаемаправеркі, якія наладжваюць камсамольскія пражэктарысты двух участкаў, безумоўна, дапамогуць калектыву БМУ выканаць план гэтага года датэрмінова, да 25 снежня, — гаварыў мне сакратар партыйнай арганізацыі ўпраўлення Мікалай Васільевіч Данілюк. — А галоўная зарука поспеху — сацыялістычнае спаборніцтва, якое шырыцца паміж вытворчымі ўчасткамі, брыгадамі, экіпажамі і асобнымі механізатарамі.

## 2. ПОПЛЕЧ З ВЕТЭРАНАМ...

На Іванаўшчыне прыезджаму чалавеку любяць расказваць нешта накшталт легенды — пра золата, якое нібыта ляжыць у балоце. Кінуў яго туды, маўляў, пан Скірмунт — былы гаспадар тутэйшых мясцін, уцякаючы ад Савецкай Арміі.

Легенда — жывучая. Вясковыя бабулькі, праводзячы вачыма першых меліяратараў, якія паявіліся тут неўзабаве пасля вайны, гаварылі між сабою:

— Зноў, глядзі, пайшлі скірмунтаў скарб шукаць.

— Які табе скарб! Гэта ж меліяратары!

— Ат, не кажы! Што яны зробяць з балотам гэтым, калі яму ні канца ні краю? Няйначай, скірмунтаў скарб шукаюць...

Іван Андрэевіч Паліўка працуе ў Іванаўскім БМУ больш чым 20 га-

доў — з той самай пары, калі пачала пісацца новая старонка ў асваенні Палесся. У 1951 годзе прыйшоў ён, пасля дэмабілізацыі, на рэканструкцыю Дняпроўска-Бугскага канала. Было яму тады дваццаць тры гады. З тэхнікай хлопец быў знаёмы (у арміі навучыўся шафёрскай справе). Таму і накіравалі Івана на кароткатэрміновыя курсы экскаватаршчыкаў. Пасля курсаў даручылі яму адзін з двух экскаватараў, што прыбылі на будоўлю. А пасля, калі было створана Іванаўскае БМУ, Іван Паліўка пераехаў з Пінска сюды, у Іванава...

— Таксама золата шукаць?

Іван Андрэевіч смяецца:

— У нашых балотах шмат скарбаў прыхавана. І шмат што мы ўжо знайшлі. На асушаных тарфяніках жыта, пшаніца каласіцца. Гэта ж і ёсць сапраўднае наша золата. Хіба не так?

Высокія ўраджаі атрымлівае зараз на былой дрыгве калгас «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна — вядомая ў рэспубліцы гаспадарка. Гэта на яе зямлі — паблізу вёскі Моталь — праклаў свой першы канал Іван Андрэевіч Паліўка. Цяпер, бываючы ў тых мясцінах, не пазнае іх. Зараз там палі. І якія ўрадлівыя! Заможна жывуць калгаснікі. У кожнай хаце — тэлевізар, у многіх у двары — матацыклы і легкавушкі.

Залатая Зорка Героя Сацыялістычнай працы ўпрыгожвае грудзі Івана Андрэевіча. Ён — член ЦК КПБ, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Іван Андрэевіч носіць ганаровае званне заслужанага меліяратара рэспублікі. Яшчэ ў 1968 годзе стаў Паліўка мільянерам — гэта значыць, выкінуў нанаверх мільён кубаметраў грунту. Уявіце сабе рэчку шырынёй 10 метраў і глыбінёй 2 метры. Такую раку праклаў Іван Андрэевіч на палескіх балотах больш чым на 140 кіламетраў. Зараз ён заканчвае сваю асабістую пяцігодку.

І яшчэ. Іван Андрэевіч выхаваў больш чым дваццаць вучняў. Адны з іх асушаюць балота дзесьці далёка, іншыя — побач. У адной брыгадзе з Іванам Андрэевічам працуе Іван Мінзер, былы яго памочнік, а зараз машыніст аднакаўшовага экскватара Э-652. Самастойна працуе і Міхась Філіпаў.

Радуюць Івана Андрэевіча вучні. Як і ён у маладыя гады, яны першымі асвойваюць новую тэхніку, не скардзяцца на нягоды, якія сяды-тады надараюцца ў вандроўным жыцці меліяратараў. Скупаваты на слова, Іван Андрэевіч становіцца зусім іншым у часе работы: цярпліва тлумачыць, як трэба валодаць рычагамі, каб коўш і страла ішлі плаўна, без рыўкоў, паказвае, як трэба размяркоўваць свае рухі і ўвагу, каб коўш заўсёды напаўняўся з коптурам. Няма ў яго сакрэтаў ад моладзі. Часам, узяўшы рукі навічка ў свае і паклаўшы іх на адпаліраваныя рычагі, ён падоўгу і старанна, як добры настаўнік першакласніка, вучыць хлопца свайму рабочаму почырку. А почырк у Івана Андрэевіча адметны! І ён, гэты почырк, адчуваецца ў працы маладзейшых калег Паліўкі — Валянціны Крапчук, Уладзіміра Ціпуна і іншых членаў камсамольска-маладзёжнага экіпажа шматкаўшовага экскаватара, якім кіруе малады камуніст Іван Парфіявец. План мінулага года брыгада выканала на 176 працэнтаў. Яна першай на Палессі стала класці дрэнаж зімою. І, магчыма, па гэтай прычыне ў калектыве выпрацавалася выдатная суладнасць, вырасла адказнасць за сябе і за таварышаў, за агульную справу. Летась дружны экіпаж не выпадкова стаў пераможцам фінальных спаборніцтваў усесаюзнага конкурсу маладых меліяратараў. Экіпаж адным з першых падтрымаў ініцыятыву яроміцкіх меліяратараў. Усю зіму калектыў працаваў з апярэджаннем графіка.

Памятаю сустрэчу з экіпажам Івана Парфіяўца. Была яна недзе ў сакавіку, калі ўжо адчуваўся подых вясны. Валодзя Ціпун, хлопец вясёлы і бывалы, жартуе:

— Гляджу навакол і нібы лесатундру бачу. Цішыня стаіць такая ж, і балота, іржавая вада, чэзлы рэдкі хмызняк. Птушкі з выраю вяртаюцца. Напэўна, многія з іх не пазнаюць родных мясцін...

Мы сядзім каля вогнішча. Вецер калыша языкі полымя, шкуматае пасмы дыму. Валодзя пачынае ўголас прыкідваць: праклалі яны вось на гэтым участку — нумар тры — ужо каля трохсот кіламетраў дрэнажу, засталося зусім мала, каб здаць у эксплуатацыю 700 гектараў ворыва. Калі з кожнага сабраць хоць бы па 20 цэнтнераў жыта альбо пшаніцы — колькі будзе? 1 400 тон збожжа! Ладны каравай!

Гаворка пачынаецца аб адказнасці. Тэма для меліяратараў вострая. Трубаўкладчыца, якая працуе ў траншэі, павінна шчыльненька, адна да адной, укласці кароценькія трубкі і старанна заізалёўваць стыкі. Трубкі тыя тут жа засыпаюцца зямлёй. Паспрабуй пасля дакажы хто-небудзь, што ў той рабоце дапушчаны брак? Толькі час пакажа, ды яшчэ сумленне тваё неспакойнае будзе, калі дзе-небудзь зрабіў штосьці не так.

— Вось пра яе расказаць можаце, — Валодзя ківае галавой у бок Валянціны Крапчук. — Ніводная камісія ніколі ніжэй чым чацвёрку ёй не ставіла.

— Альбо пра Міколу Карповіча, — дадае хтосьці.

Пра Міколу — гаворка асобная. Увогуле ён — машыніст шматкаўшовага экскаватара ЭТЦ-202. Але калі летась у Іванаўскім БМУ пачалі асвойваць зімовую кладку дрэнажа, камсамолец перасеў на ротарны экскаватар ЭТР-141 — каб рыхтаваць у мерзлай зямлі трасу. Тое ж самае зрабіў і сёлета. За пятнаццаць дзён (замест месяца!) адрамантаваў свой ЭТЦ — і на ротарны. «Калі трэба, дык трэба», — кажа Мікола.

А Валянціна Крапчук дадала:

— Нядаўна да нашага Міколы прыязджалі павучыцца экскаватаршчыкі са Столінскага БМУ — туды таксама паступілі ротарныя экскаватары. Там хлопцы таксама бяруцца за новую справу — класці дрэнаж узімку.

## 3. ЧАС, НАПЕРАД!

Час — імклівы, ён супыну не ведае. Дык, значыць, трэба ісці ўпоравень з ім, а яшчэ лепш — пераганяць яго. Так разумеюць сваю задачу Мікалай Росал і Леанід Парада, Іван Парфіявец і Уладзімір Ціпун, Валянціна Крапчук і Мікола Карповіч, Грыша Цішун і многія іншыя камсамольцы палескай будоўлі. Іх дэвіз — сёння зрабіць больш, чым учора, і зрабіць лепш. Дзве гадавыя нормы выканаў летась экіпаж шматкаўшовага экскаватара старшага машыніста Максіма Маргаўчука. І сёння гэты калектыў штодзённа перавыконвае план: 215 — 220 працэнтаў — вось дзённыя выпрацоўкі меліяратараў! У ліку правафланговых спаборніцтва і камсамольска-маладзёжная брыгада Леаніда Лосіка са Старобінскага БМУ. Летась іх экіпажы выканалі па тры з паловай гадавыя нормы.

Меліярацыя — адно з галоўных звенняў шматгадовай праграмы партыі па карэнным павышэнні ўрадлівасці глебы і паскарэнні тэмпаў развіцця сельскай гаспадаркі. Вялікі аб'ём будаўнічых работ трэба выканаць калектыву ўсесаюзнай ударнай у гэтай пяцігодцы. Толькі ў 1973 годзе неабходна здаць у эксплуатацыю 59,5 тысячы гектараў асушаных зямель, з іх 35,15 тысячы асвоіць найбольш прагрэсіўным метадам — закрытым дрэнажом.

Шмат клопатаў у членаў штаба ўсесаюзнай ударнай будоўлі. Рэдка можна заспець на месцы Іосіфа Шчурко, камсорга ЦК ЛКСМБ на будоўлі, начальніка штаба. Іосіф добра ведае спецыфіку работы меліяратараў (у яго за плячыма — гідрамеліяратыўны факультэт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, праца ва ўпраўленні трэста «Брэстводбуд»), і яго парады і дапамога прыносяць будоўлі вялікую карысць.

Ідзе пасяджэнне штаба. На парадку дня — справаздача сакратара камсамольскай арганізацыі ПМК-5 «Пінскводбудмеханізацыя» Валерыя Кірыенкі па выніках выканання сацыялістычных абавязацельстваў. Гаворка ідзе дзелавая, тон яе сяброўскі, але Валеры ўсё ніжэй апускае галаву: занадта шмат упушчэнняў у рабоце камітэта камсамола. Сацыялістычнае спаборніцтва падчас праводзіцца фармальна. Перадавікоў заахвочваюць, а пра тых, што адстаюць, «сціпла» маўчаць. «Камсамольскі пражэктар» часам паблажлівы да п'яніцаў і гультаёў, да безгаспадарчасці і нядбайнасці, не сочыць за якасцю работы. А між тым шмат што даводзіцца перарабляць, многія аб'екты здаюцца з другога заходу, марна трацяцца грошы і

час, часта прастойвае новая тэхніка. Усе гэтыя недахопы трэба ліквідаваць у бліжэйшы час — выносіць рашэнне штаб будоўлі. Аднаму з членаў штаба тут жа даецца даручэнне: пракантраляваць выкананне пастановы.

Зачытваецца пісьмо камсамольскага сходу калектыву ПМК-7 трэста «Пінсксаўгасбуд», які будуе на новых землях саўгас імя Леніна. Камсамольцы пішуць аб тым, што будоўля кепска забяспечваецца матэрыяламі і механізмамі, аб тым, што праектна-каштарысная дакументацыя паступіла толькі ў снежні мінулага года, што ў вёскі Чучэвічы і Баравікі, дзе размешчана база ПМК, трэба завезці 15 тысяч кубаметраў грунту — мясцовасць вакол забалочаная. Штаб прымае рашэнне: патрабаваць ад заводаў-пастаўшчыкоў выканання плана-графіка паставак буддэталяў і матэрыялаў, тут жа складаецца тэкст пісьма ў адрас камсамольскіх арганізацый гэтых заводаў з просьбай узяць адгрузку матэрыялаў для ўсесаюзнай ударнай пад свой кантроль.

Штаб будоўлі сумесна з калегіяй «Галоўпалессеводбуда» распрацаваў умовы сацыялістычнага спаборніцтва камсамольска-маладзёжных калектываў у 1973 годзе. Асноўным момантам, які вызначыць пераможцу, будзе выкананне абавязацельстваў па датэрміновым уводзе зямель пад ураджай сёлетняга года. У маі будуць падведзены вынікі спаборніцтва: якую карысць будоўлі прынёс пачын маладых меліяратараў Яроміцкага БМУ.

Прыемна, што гэты пачын падтрыман усімі ўсесаюзнымі ўдарнымі камсамольскімі будоўлямі меліярацыі і воднай гаспадаркі СССР. Аб сваіх першых дасягненнях у спаборніцтве за датэрміновы ўвод зямель пад ураджай 1973-га рапартавалі ўжо беларускім меліяратарам — ініцыятарам пачыну — меліяратары Далёкага Усходу. Бюро ЦК ВЛКСМ аб'явіла эстафету па маршрутах ударных камсамольскіх будоўляў, дэвіз якой: вопыт перадавікоў — вопыт усіх!

Меліяратары Беларускага Палесся ўзялі шэфства над правядзеннем меліярацыйных работ у суседняй Бранскай вобласці. У Клінцоўскім раёне Браншчыны створана і паспяхова працуе ПМК-32 сістэмы «Галоўпалессеводбуд». З дапамогай беларускіх калег меліяратары Браншчыны толькі летась здалі ў эксплуатацыю больш чым тысячу гектараў ворыва.

Першы сакратар ЦК ВЛКСМ Яўген Міхайлавіч Цяжэльнікаў, які наведаў будоўлю ў студзені, даў высокую ацэнку рабоце меліяратараў па пераўтварэнні роднага краю.

...Зараз на Палессі ў поўным разгары вясна. На калгасных і саўгасных нівах сакавіта зелянее маладая рунь. Адшуміць ліўнямі, адгрыміць грымотамі лета, і з бункераў камбайнаў хлынуць тугія і важкія струмені залатога зерня. І будзе яно найлепшай і найдаражэйшай узнагародай за працу не толькі хлебаробам, але і меліяратарам, у тым ліку чатыром з паловаю тысячам камсамольцаў, што працуюць на ўдарнай камсамольскай будоўлі.

**Хведар ЗАЯЦ.**

■ ■ ■



● **Сцяпан КУХАРАЎ**

# ЯРОМІНСКАЯ ЭСТАФЕТА

Паабапал шашы, што між Гомелем і Касцюкоўкай, гарадскім пасёлкам шклавікоў, раскінулася вялікае сяло Яроміна. Яромінскія сады — іх плошча перавышае трыста шэсцьдзесят гектараў — вядомыя на ўсёй Гомельшчыне. Здаўна Яроміна дае рабочыя рукі і Гомелю, і многім гарадам. Яромінцаў можна сустрэць і ў казахстанскім саўгасе, і на Далёкім Усходзе, і ў шахтах Данбаса...

Іншыя вёскі ў пасляваенныя гады прыкметна зменшыліся, апусцелі, а Яроміна, наадварот, разраслося. Пабудавана шмат новых сучасных дамоў, узніклі цэлыя вуліцы. Горад наблізіўся да яромінскіх прысадаў. Сёння з цэнтра — ад гасцініцы «Сож» на тралейбусе, а там — шэсць кіламетраў аўтобусам — за якіх хвілін дваццаць-трыццаць будзеш ля яромінскага Дома культуры...

Хто не быў гадоў дзесяць у Яроміне, адразу зробіць адзнаку сабе: змянілася, памаладзела старое сяло. Там, дзе некалі ляпіліся блізка адна да адной хаціны, блішчаць ацынкаванымі дахамі вясёлыя домікі, красуюцца блакітнымі аканіцамі сучасныя катэджы-мураванкі.

Сярод сяла высока ўзняўся каланамі калгасны Дом культуры, дзе выступае славуты ансамбль «Колас»; як і ў горадзе, у Яроміне ёсць і кафэ, і магазіны, і бальніцы, і камбінат быту.

Не трэба заглядваць у дамы, каб упэўніцца, што яромінцы жывуць заможна. У кафэ і ў магазінах — людна; ля калгаснай канторы — матацыклы, легкавікі. Едучы ў Яроміна, мы пачулі, як кабеты ў аўтобусе перагаворваліся: «Жывём, дзякуй, як ніколі не жылі. Тэлевізары, серванты панастаўлялі ў кватэрах...»

Яшчэ ў даваенныя часы слава пра яромінскі калгас «Чырвоны хлебароб» грымела на ўсю вобласць. Яромінцы хутчэй за іншыя суседнія вёскі залячылі раны вайны і моцна сталі на шлях росквіту. Ім пашанцавала на кіраўніка — старшынёю праўлення калгаса ўжо дваццаць трэці год выбіраецца Мікалай Пятровіч Хаванскі, чулы і справядлівы чалавек, таленавіты арганізатар, сапраўдны камуніст, які аддае ўсяго сябе грамадскай справе, калектыву. За поспехі, якіх дасягнуў калгас імя XXII з'езда КПСС у восьмай пяцігодцы, М. П. Хаванскаму прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Памаладзела Яроміна не толькі дамамі і садамі. Выраслі яго людзі — сыны і дочкі тых першых чырвоных хлебаробаў, якія закладвалі на разваліне старой вёскі падмуркі новага жыцця на калектыўных пачатках. Многія з тых першапраходцаў-сейбітаў аддалі жыццё ў гады Вялікай Айчыннай вайны за родную зямлю, за Савецкую Радзіму, і іх імёны навечна ў калгаснай Кнізе славы, на граніце помніка...

Яроміна, здаецца, і моцнае тым, што яго жыхары глыбокімі каранямі трымаюцца першаасновы — зямлі, якая, як маці, корміць іх. Моцнымі зямнымі вузламі перапляліся ў яромінцаў інтарэсы рабочага і калгасніка. Амаль у кожным доме сустрэнеш і рабочую спяцоўку, і сялянскую апратку. З Яроміна ідуць, сустракаючыся і перакрыжоўваючыся, дзве плыні: адна — у горад, другая — з горада. Цяжка сказаць, якая мацнейшая. Тое, што ў Яроміне і добрыя заробкі, і ўмовы культурна-бытавога абслугоўвання не горшыя, чым у сучасным горадзе, мае немалаважнае значэнне пры рашэнні пытання, дзе працаваць — у родным сяле ці на прадпрыемстве. Во, адразу ж за садамі — Касцюкоўка, шклозавод, а з другога боку, за аселіцай — Гомсельмаш...

Цікава, што сустрэчная плынь не меншае—не спыняецца прыток сіл у вёску. З Гомеля едуць нядаўнія выпускнікі, што не прыжыліся на гарадской «глебе», ахвотна вяртаюцца ў бацькоўскае гняздо і хлопцы, адслужыўшы свой тэрмін у арміі,—ім ёсць занятак па душы і ў брыгадзе, і на фермах, і ў майстэрні. Для маладых хапае спецыяльнасцяў—калгасу патрэбны і механізатары, і слесары, і механікі, і электрыкі...

Мы прыехалі ў Яроміна ў звычайны зімовы дзень. Самая пара мяцеліц і марозаў, але на дварэ—светла ад бялюткага, свежага снягу і цёпла ад павеваў лёгкага, паўднёвага ветрыку, што кружыць у паветры сухія-сухія пушыстыя матылькі-сняжынкі.

Сышоўшы з аўтобуса, мы агледзеліся. На шырокай заснежанай вуліцы шматлікія сляды-сцежкі. Яны вялі да Дома культуры і крыжаваліся ля ўваходу. Якраз туды праставала жанчына ў паліто з каўняром-норкай і ў цёплай пуховай хустцы.

— Куды так спяшаецеся, цётка?—запыталіся мы, калі яна праходзіла міма нас.

— А не ведаеце хіба?—здзівілася яна.—Сход сёння. Адчытваецца Мікалай Пятровіч, старшыня наш. Я во трохі прыпазнілася...

Мы ўвайшлі ў прасторнае фае. З дынаміка чуўся ўзмоцнены мужчынскі голас. Двое ў паліто і вушанках, папыхкваючы папяросамі, уважліва слухалі, павярнуўшы галовы да дынаміка. Відаць, хлопцы таксама спазніліся.

Улучыўшы момант, мы ўвайшлі ў залу. Яна вельмі доўгая, прасторная, такая, як у сучасных РДК. Людзей—яблыку ўпасці няма дзе. У глыбіні залы за чырвоным сталом, за якім ярка асветлены скульптурны партрэт У. І. Леніна,—прэзідыум. Мужчыны, жанчыны розных узростаў. Урачыстыя твары. Святочная вопратка. На грудзях—ордэны і медалі.

Над сцэнай лозунг: «Хвала рукам, што пахнуць хлебам».

За трыбунай—дакладчык. Гэта ён, Мікалай Пятровіч Хаванскі. Адкрыты, просты твар. Над шырокім ілбом шапка белых-белых валасоў. Роўны, знешне спакойны голас. Старшыня чытае свой даклад. Але чытае выразна, быццам гаворыць не па пісаным, і кантакт з залай добры. Людзі слухаюць уважліва. Засяроджана. Відаць, тое, што гаворыць дакладчык, цікавіць людзей, хвалюе іх.

Дакладчык гаворыць пра цяжкасці і радасці года, называе лічбы ўраджайнасці па культурах, паведамляе, колькі было прададзена дзяржаве збожжа, бульбы, гародніны, садавіны, мяса, малака. Робіцца грунтоўны, канкрэтны аналіз работы брыгад, звенняў; называюцца імёны перадавікоў спаборніцтва—адным словам, малюецца яркі партрэт пражытага года. Ён, другі год пяцігодкі, быў для яромінцаў хаця і цяжкі, з-за неспрыяльных кліматычных умоў, але плённы. Калгаснікі, рыхтуючыся да вялікага свята—50-годдзя утварэння Саюза ССР, працавалі напружана і справіліся з вялікімі задачамі, што стаялі перад імі. Усе дзяржаўныя планы перавыкананы. Але найбольш Мікалай Пятровіч гаварыў пра жывёлагадоўлю—гэты важнейшы цэх грамадскай вытворчасці.

На сто гектараў сельгасугоддзяў калгас атрымаў 711,7 цэнтнера малака і 102,2 цэнтнера мяса. На кожную карову надоена 3318 кілаграмаў малака.

— Старанна, з высокай адказнасцю за даручаную справу папрацавалі нашы жывёлаводы,— сказаў Мікалай Пятровіч.—Можна назваць многіх. Але між іх хочацца адзначыць Любоў Мяфодзьеўну Галаўнёву, камуністку, члена райкома партыі, якая з году ў год павышае вытворчыя паказчыкі і ў 1972 годзе надаіла па 5375 кілаграмаў малака ад кожнай каровы. Гэта рэкорд года. Яе прыклад сведчыць, што новыя абавязацельствы, якія ўзяты жывёлаводамі на сёлетні год, рэальныя і будуць выкананы...

...І вось мы пачулі тое, што нас вельмі цікавіць. Мікалай Пятровіч сказаў далей: «Наша камсамольска-маладзёжнае звяно яромінскай малочна-таварнай фермы, якое ўзначальвае маладая энтузіястка Тамара Сусікава, выйшла на першае месца ў рэспубліканскім сацыялістычным спаборніцтве маладых жывёлаводаў. Даяркі звяна папрацавалі і ў леташнім годзе самааддана, як і належыць камсамоліі, ударнай сіле на вёсцы. У іх надой на кожную карову склаў 3800 кілаграмаў. Гэта амаль на трыста кілаграмаў больш, чым надоена ў сярэднім па яромінскай ферме. А даярка Люба Махаўцова надаіла па 4200 кілаграмаў, Тамара Сусікава—па 4036 кілаграмаў на карову. Рашэннем ЦК ЛКСМБ нашаму камсамольска-маладзёжнаму калектыву жывёлаводаў прысуджана прэмія імя Ленінскага камсамола. Думаю, што наша маладая змена апраўдае надзею бацькоў і не толькі ўтрымае здабытыя поспехі, але заваюе новыя высокія рубяжы!..»

Зала дружнымі воплескамі ўхваліла дакладчыка. Дзядзькі, што сядзелі побач з намі, заўзята пляскалі ў далоні, а затым сваё пачуцці выказалі словамі: «Малайцы нашы камсамольцы!»

Як толькі пачаліся спрэчкі, першай узяла слова Алена Грыбава, загадчыца Яромінскай фермы. Невысокага росту, бялявая, жвавая дзяўчына хутка падышла да трыбуны, смела акінула вачамі залу. З-за трыбуны відаць толькі яе прыгожая, у вянку пышных валасоў, галоўка. Алена гаварыла горача, задзірыста. Яна расказвала і пра цяжкасці, якія стварыліся з пераўкамплектаваннем ферм. На дварэ ж зіма, хаця і марозаў вялікіх не было. Нечакана нахопліваюцца вятры, галалёдзіца. А кароў гналі з Вішаньскага (два кіламетры) на Яромінскую ферму. Буракі часта падвозяць мерзлыя—не заўсёды ёсць час іх патрымаць у кармацэху, каб падагрэліся. Даглядчыкі часам забываюць, што сённяшняя ферма—той жа цэх, дзе ўсё спланавана і зададзены пэўны рытм, які патрабуе зладжанасці і дакладнай работы ўсяго калектыву.

Жывёлаводы, у тым ліку і камсамольска-маладзёжнае звяно, узялі новыя, высокія абавязацельствы на 1973 год. Перадавыя даяркі камуністка Люба Галаўнёва абавязалася надаіць па 6000 кілаграмаў, камсамолка Люба Махаўцова—па 5000 кілаграмаў на кожную карову. На ферме (пяцьсот пяцьдзесят дзевяць кароў) новы рубеж яромінцаў—3700 кілаграмаў малака.

— А выцягнеце?—пачулася з залы.

— Наша слова—цвёрдае!—адказала Алена Грыбава.

Сусед, што заўзята раней пляскаў у далоні, сказаў:

— Яна, гэтая Грыбава, настойлівая. Нядаўні наш камсамольскі сакратар. Калі што скажа—не адступіцца!..

...Аб'явілі перапынак, і мы пазнаёміліся са старшынёй калгаса, з Аленай Грыбавай. Мікалай Пятровіч, чалавек бывалы, прыветлівы, як кажуць, з ходу ўвёў нас у курс справы.

— Як жывуць нашы камсамольскія лаўрэаты? — перапытаў ён і сказаў:

— Ідэя звяна такога ўзнікла даўно, яшчэ ў 1965 годзе. Мы адчулі, што старыя даяркі адны не пацягнуць, і звярнуліся да моладзі. Каб падрыхтаваць своечасова замену ветэранам. Інакш кажучы, каб на прыкладзе энтузіястаў вучыліся і тыя, хто яшчэ ў школе, хто не сёння-заўтра задумаецца над пытаннем аб выбары сабе шляху ў жыцці. У звяно падабраліся такія, што з маленства, са школьнай парты прыахвоціліся да догляду жывёлы. Там, на Яромінскай ферме, працуе ўся сям'я Сусікавых. Марыя Пракопаўна—гаспадыня, з 1948 года, з таго году, як я прыняў гаспадарку, даяркай; гаспадар, Лука Рыгоравіч,—даглядчык, падвозчык кармоў, іх дочкі, Таня і Валя, пайшлі па дарозе маці. Як падраслі меншыя, Тамара і Ніна,—таксама сталі памагаць на ферме. Тамара Сусікава ўжо два гады як кіруе гэтым звяном, а Ніна—студэнтка зааветтэхнікума, калгасны стыпендыят. У нас іх, між іншым, нямала. Вось і Алена атрымала спецыяльнасць заатэхніка, калгас ёй дапамог. Яны ўсе, нават шафёры—адвозчыкі малака, што ў звяне, Міхаіл Зайцаў і Мікалай Ромаш, як кажуць, выбралі сабе дарогу старэйшых. У Міхаіла бацька шафёр, з семнаццаці гадоў за баранкам, і сын стаў шафёрам. Добры хлопец, нядаўна ў партыю ўступіў. Таксама камсамольскі лаўрэат...

Мікалай Пятровіч папрасіў прабачэння і звярнуўся да Грыбавай:

— Алена Аляксандраўна, вы былі першай звеннявой. Два гады ўжо, як кіруеце фермай. Калі ласка, раскажыце, як і што там у нас...

— То ўсё, як вы кажаце, праз дыплом сталася—Алена зрабіла выгляд, што пакрыўдзілася.— Я і адбівалася, і плакала, а мне Мікалай Пятровіч з усмешачкай: «А каго ж мы паставім на загадчыка? Хіба цётку Вольку? То ёй скора на пенсію можа захочацца...»

— Дык, кажаце, дыплом перашкодзіў?

— Ды не, я жартую,—лагодна ўсміхнулася Алена і нецярпліва паглядзела на наручны гадзіннік: аб'явілі, што сход прадаўжаецца.—Заўтра прыходзьце.

* * *

Гадзіннік паказаў палову дванаццатай, і даяркі ўжо зноў былі на сваіх рабочых месцах. У кароўніку (ён вельмі прасторны, светлы і цёплы) кіпела работа. Даглядчыкі на праходах развозілі кармы—пудовыя буракі і пахучы сянаж. Даяркі, хто ў халаце, а хто ў лёгкай летняй апратцы, завіхаліся ля сваіх кароў (хочацца сказаць, малочных фабрык). Адна корпаецца ля даільнага апарата, другая шаруе бітон, трэцяя ходзіць уздоўж кармушак, ладкуе нешта там у іх...

Алена, гаваркая і ўвішная, знаёміць нас з лаўрэатамі:

— Во тая Тамара, што ўсіх у Мінску зачаравала, калі выступала па тэлевізары. Звеннявая наша. І першае месца цяпер трымае па надоях. Вымпел «Лепшай даярцы» ўручылі за трэцюю дэкаду. Ідзе звыш мінулагодняга графіка на трыццаць кілаграмаў...

Тамара, танклявая, шустрая, капрызлівая, жмурыць калючыя вочкі, хмурыцца. Здаецца, хоча сказаць: «Ідзіце вы, людцы, не перашкаджайце. Бачыце, у мяне работа». І сапраўды, павітаўшыся, яна спяшаецца, бярэцца за граблі, каб пачысціць стойлы, хаця там зусім чыста, бо, відаць, толькі што ўсё было падгрэбена...

— Зараз пачнецца дойка,—кажа Тамара.—Мне ж трэба і кароў пада-

іць, і малако прыняць... Потым хіба пагаворым, калі вызвалюся.

Насупраць Тамары—яе сястра Таня Міpановіч. Паўнаватая, рослая, усмешлівыя шэрыя вочы. Ужо даярка з дзесяцігадовым стажам. Зусім дзяўчом прыйшла яна на кароўнік, стала памагаць маці. Два разы ездзіла на цаліну, у Казахстан, але вярнулася ў роднае Яроміна. У Тані трое дзяцей. Муж—рабочы на Гомсельмашы. «Як ні ўгаворвала яго,—гаварыла Таня,—ён жа добры механізатар, але не хоча, не паддаецца. Я адчуваю, што тут яму было б лепш».

— Наша Таня сёлета як ніколі ўзялася,—тлумачыць Алена Грыбава.—Яна ў нас ужо камуністка. Ідзе на чатыры тысячы, хаця каровы ў яе не надта, ёсць пярэдайкі...

— Вы лепш пагаварыце з Любай,—памаўчаўшы, уставіла Таня.—Люба Махаўцова ў нашым звяне самая-самая...

— Правільна,—падхапіла Алена.—Люба ўзяла самыя высокія абавязацельствы—пяць тысяч кілаграмаў. Хоча не адстаць ад свае старэйшай цёзкі—Галаўнёвай. А наша Мяфодзеўна—не з такіх, каб уступіць першае месца. З ёю спаборнічаць нялёгка будзе!

Збянтэжаная Люба чырванее, сарамліва ўсміхаецца. На традыцыйнае пытанне, як працуецца, адказвае: «Добра працуецца. Пакуль падоіш і ўбярэш усё, памыеш, глядзіш—зноў трэба да каровак. Але я ўжо звыклася. Трынаццаць гадоў. Мне тут добра. Я, здаецца, сваю работу не змяняла б ні на якую іншую, можа, і лягчэйшую...»

Люба бярэцца за даільны апарат і паказвае на кароў—усе, як адна, мажныя, чарна-белай масці, тлустыя, аж блішчаць...

— Гэта група Галі Глазковай,—гаворыць Люба. У голасе яе заклапочанасць:—У Галі хворае дзіця. Трэба памагчы ёй, падаіць яе каровак...

— У нас такое правіла,— дадае Алена.— Узаемадапамога і падтрымка. Управілася сама, памажы суседцы...

Цяпер усё звяно працуе ў новым чатырохрадным кароўніку, які ў пачатку года здадзены ў эксплуатацыю. Звяно—восем даярак: Тамара Сусікава, Марыя Аўчыннікава, Галя Глазкова, Валя Зубронава, Вера Зубарава, Люба Махаўцова, Таня Міpановіч, Тамара Чайкова—даглядаюць дзвесце кароў. За звяном замацаваны возчыкі малака—шафёры Міхаіл Зайцаў і Мікалай Ромаш, а таксама механік халадзільнай установкі Яўген Захраеў.

Дружны, згуртаваны калектыў—камуністы і камсамольцы.

Спачатку гэта было звяно па вырошчванні кукурузы для патрэб фермы. Яго ўзначальвала Алена Грыбава, якая ўжо тады праявіла сябе як арганізатар і энтузіястка. У звяне былі такія ж, як Алена, дзяўчынкі. На кукурузе яны вызначыліся, тады пажадалі стаць даяркамі. «Глядзіце, сакатухі, каб не прагадалі. Тут вам не каралева палёў—прапалоў ды на бок. Кароўкі не любяць санлівых»...

А дзяўчаткі аказаліся на пад'ём лёгкія, спрытныя да работы. І Алена, і Тамара, і Галя, хутка асвойтаўшыся, сталі працаваць самастойна—ім выдзелілі групы. Да іх далучыліся камсамолкі Люба Махаўцова і Таня Сусікава (цяпер Міpановіч)—ужо спрактыкаваныя на той час даяркі. Нарадзілася новае звяно на ферме—аснова цяперашняга камсамольска-маладзёжнага калектыву.

Ішоў час, беглі гады. Расла ферма. Набіраліся ведаў і майстэрства энтузіясткі, акрыленыя рамантыкай працы. Працавалі і вучыліся, прагна пераймалі вопыт майстроў і самі станавіліся майстрамі, узбагачаючыся вопытам, набываючы сталасць у працы. Прагна бралі новае з кніг, з практычных урокаў, якія ім давала тут жа, на рабочай пляцоўцы, заатэхнік Таццяна Андрэеўна Сцяпанава, іх «другая маці», як яе, камуністку і выхавацельку, называюць дзяўчаты.

Каго ні вазьмі з іх цяпер, усе выраслі, сталі ўпоравень з майстрамі, імі ганарыцца ўвесь калгас. Люба Махаўцова—славутая даярка, адзначана ордэнам «Знак пашаны». Алена Грыбава—заатэхнік, вылучана загадчыцай фермы, узнагароджана медалем «За працоўную доблесць», Таня Міpановіч—адна з перадавых даярак, мае шмат грамат і прэмій, уступіла нядаўна ў партыю.

За гэты час многія дзяўчаты выйшлі замуж, завялі свае сем'і, але не зменшылася іх цяга да сяброўства, не замкнуліся яны ў сваім сямейным побыце. У іх знаходзіцца, як і раней, час і на рэпетыцыі ў хоры, і на сяброўскія сустрэчы, вечарыны, і на прафесійную вучобу.

Нялёгкая праца жывёлавода. Кожны гэта ведае. Але ж яна і пачэсная, вельмі патрэбная ўсім людзям. У вёсцы—самая галоўная, можна сказаць. Жывёлаводы круглы год на пярэднім краі сельскага фронту.

Сённяшняя даярка—не тое, што было, скажам, дзесяць гадоў назад у тым жа Яроміне. Некалі кароў даілі ўручную, і даяркі адно ведалі прымаўку: «Малако ў каровы на языку». А пагаварыце сёння хаця б з той жа Марусяй Аўчыннікавай, адной з маладзейшых даярак, якая год назад прыйшла ў калектыў пасля дзесяцігодкі, і яна вам скажа: «Мы не толькі доім кароў. Мы вывучаем заатэхнію, племянную справу, складаем рацыён кармлення...»

Між іншым, і Маруся пасля школы пайшла хаця б на якую работу, абы ў горадзе, а не ў вёсцы. Маруся ўладкавалася была на крупзаводзе ў Гомелі, а кватэру знайшла ў Яроміне, ездзіла кожны дзень рэйсавым аўтобусам. Глядзела на яе гаспадыня—даярка Аляксандра Шутава, ды аднойчы і кажа: «Не мітусіся ты, дзеўка, а прыходзь да нас, на ферму». Маруся і паслухалася. Зусім акрыляла дзяўчына, за якія паўгода стала на ногі: накупляла абноваў, атрымала пакойчык ў доме для жывёлаводаў. «Праца мне спадабалася,—прызнаецца Маруся.—Праўда, уставаць трэба рана, але што ж, я прывыкла...»

Паспытала гарадскога жыцця і тая ж Тамара Сусікава, цяперашняя звеннявая. На ўласным вопыце яна пераканалася, што «ў нас, у Яроміне, лепш». Тамара—завочніца чацвёртага курса заветэрынарнага тэхнікума, амаль што заатэхнік ужо. Яна часам выконвае даручэнні заатэхніка Уладзіміра Рыгоравіча Круглікава і, відаць, прыкідвае, як і што да чаго. На пытанне, што яна маецца рабіць, як атрымае дыплом спецыяліста, яна, здзівіўшыся, адказала: «Як—што? Буду даяркай. Мне даяркай лепш падабаецца. Я і Сашу свайго (Тамара нядаўна выйшла замуж за хлопца-механіка) падбіваю: ідзі даяром. Ён быў ужо згадзіўся, але баіцца, што мужчыны засмяюць...»

— Не засмяюць!—хітра падмігвае Алена, якая тут жа, у чырвоным кутку, падбірала кніжкі для дзяўчат.—Знойдуцца добраахвотнікі і з хлопцаў. Дзе ж мы ўправімся адны, без механізатараў, як новы комплекс збудуем? За гэтую пяцігодку знясём усе старыя кароўнікі. Замест іх будзе адзін механізаваны комплекс—на 1200 кароў!

— Думаць, значыцца, трэба пра папаўненне,—сказала напаўжарт Тамара.—А мы, старыя, ужо на пенсію...

— Не на пенсію, а ў заатэхнікі,—у тон ёй дадала Алена.—Ведаеш жа прыказку: былі ў бацькі два сыны—разумныя, а дачка—заатэхнік...

Тамара, як бы не зразумеўшы жарту, надзьмулася, але хутка зноў была вясёлая, расказвала, што для маладых жывёлаводаў цяпер створаны лепшыя ўмовы. Звяну аддалі новы чатырохрадны кароўнік. Скамплектаваны групы, у кожнай даяркі—дваццаць пяць кароў. У звяно ўключаны дзве падменныя даяркі—нядаўнія выпускніцы Яромінскай школы Паліна Барысенка і Валя Міхалкіна, таксама добраахвотніцы, якіх прывяла сюды рамантыка юнацкіх дарог. Разумеецца, даяркі маюць і выхадныя дні, і аплочваемы адпачынак. Для тых, хто на працу прыйшоў са школьнай парты, на пачатку даюцца ільготы—нормы зніжаюцца на сорак працэнтаў.

* * *

На відным месцы ў новым Доме жывёлавода, у светлай зале, вывешаны абавязацельствы звяна на 1973 год. Яны, як ужо гаварылася, высокія, такія, як і трэба для лаўрэатаў. Першыя зімовыя месяцы паказалі, што ўсе звенні ідуць згодна з графікам. Надоі нават вышэйшыя, чым былі летась.

Яромінскія лаўрэаты на старце новага працоўнага подзвігу.

Калгас імя XXII з'езда КПСС Гомельскага раёна.



П. ЛЫСЕНКА. Маладыя жывёлаводы з калгаса імя XXII з'езда КПСС Гомельскага раёна: Люба Махаўцова, Марыя Аўчыннікава, Алена Грыбава, Міхаіл Зайцаў, Тамара Сусікава, Таня Міранові̇ч.



# НЯСВІЖ

...У 1223 годзе на рацэ Калцы ў бітве з татарамі загінуў князь Федзька Нясвіжскі. Гэтае першае ўпамінанне горада ў летапісе лічыцца датай яго заснавання. Значыць, сёлета Нясвіжу—750 гадоў.

Подых гісторыі чуецца тут на кожным кроку.

Старажытная гісторыя Нясвіжа цесна звязана з родам Радзівілаў. З другой паловы XVI стагоддзя яны займаюць у Вялікім Княстве Літоўскім самыя высокія пасады. Яны парадніліся з каралямі Польшчы, з каралеўскімі дынастыямі заходнееўрапейскіх краін. Пра іх казалі: «Кароль—у Варшаве, Радзівіл—у Нясвіжы».

Пры адным з Радзівілаў—Мікалаі Чорным—Даніла Лянчыцкі заснаваў у Нясвіжы друкарню, тую самую, у якой вялікі беларускі асветнік і гуманіст Сымон Будны выдаў свой «Катэхізіс» (1562 г.) Услед за Францішкам Скарынам Будны хацеў, каб «здавён слаўная беларуская мова» атрымала заслужанае месца ў літаратуры і грамадстве і не выціскалася «дзяржаўнай» польскай моваю. Як прыхільнік сацыніянства—самага левага кірунку кальвінізму—Будны жорстка крытыкаваў каталіцызм і праваслаўе, ксяндзоў і папоў, адвяргаў рэлігійныя догмы. Рэлігійная барацьба заўсёды мела пад сабой палітычны грунт. Пераходзячы ў пратэстанцтва, магнаты, шляхта і просты люд спадзяваліся такім чынам спыніць уплыў каталіцызму, які быў апорай польскай экспансіі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Пратэстанцтва несла з сабой перадавыя ідэі Захаду, і Сымон Будны, як патрыёт, усю сваю дзейнасць скіраваў на прапаганду кальвінізму. Але ён пайшоў значна далей за сваіх сучаснікаў і выказаў думку, што Хрыстос не быў богам і што ў яго нараджэнні няма нічога таямнічага. У 1582 годзе сабор пратэстантаў асудзіў Буднага за «ерась», яго кнігі спалілі на вогнішчах.

Калі Мікалай Радзівіл Чорны, ваявода віленскі, маршалак і канцлер Вялікага Княства Літоўскага, праціўнік Люблінскай уніі, павыганяў з Нясвіжа ксяндзоў і манахаў, дык яго сын Мікалай Радзівіл Сіротка зрабіў наадварот: прысягнуў польскай кароне, перайшоў у каталіцкую веру, пазваў у Нясвіж іезуітаў. Сіротка знішчыў каля 400 кальвіністаў і іх прапаведнікаў. У друкарні забараніў выдаваць кнігі на беларускай мове. Пры Сіротку, у 1586 годзе, Нясвіж атрымаў ад караля Стэфана Баторыя магдэбургскае права (самакіраванне) і з ім права праводзіць у год два кірмашы працягласцю па два тыдні. У гэты час у горадзе адкрываецца пачатковая школа граматыкі. Італьянскі архітэктар Ян Марыя Бернардоні будуе фарны касцёл, які і сёння здзіўляе прыгажосцю і свежасцю сваіх фрэсак. Былі пабудаваны ратуша, шпіталь.

Як сімвал магутнасці Радзівілаў, узвышаецца над Нясвіжам замак. Гару, на якой ён стаіць, насыпалі «хлопы». Яны пашырылі рэчышча Ушы, зрабілі на ёй пяць азёраў.

Замак—помнік рэнесанснай беларускай архітэктуры. Высока над дрэвамі ўзнімаюцца яго вежы з вострымі шпілямі. Вакол—глыбокі роў. Да замка-крэпасці быў падыход—праз разборную драўляную дамбу ад горада і праз пад'ёмны мост. У выпадку неабходнасці дамбу разбіралі—і замак, акружаны вадой, станавіўся непрыступным.

Палац трохпавярховы, мае форму замкнутага эліпса. У палацы звыш 300 пакояў. Галоўны фасад упрыгожаны лепкай. Некаторыя залы аздоблены чорным дрэвам.

У лепшыя для Радзівілаў часы ў замку былі незлічоныя багацці. Большая палова Літвы, значная частка Украіны, амаль усё Палессе прыносілі сюды даніну «за свой хлеб, за свае лясы, за рыб, што ў водах, за птушак і пчол, што ў паветры, і хто ведае, можа, за само паветра». (У. Сыракомля).

Радзівілам служылі вядомыя дойліды і мастакі. Хрыстафору Радзівілу аказваў паслугі Рэмбрант. У 1770 годзе ў замку было 984 творы жывапісу і графікі. Бібліятэка князёў налічвала 20 000 тамоў амаль на ўсіх еўрапейскіх мовах. У архіве захоўваліся каштоўныя дакументы, ад даўніх актаў да пісьмаў французскіх каралёў Людовіка XIV і Людовіка XV, Багдана Хмяльніцкага, Карла XII, Пятра I. 30 рыцарскіх даспехаў было развешана па сценах парадных залаў.

Куды ж усё гэта падзелася? У 1706 годзе частку каштоўнасцяў захапілі шведы. Потым іх адбілі рускія ў шведаў пад Палтавай. У часе вайны 1812 года з Нясвіжскага замка былі вывезены каштоўнасці, бібліятэка, калекцыі. Яны трапілі ў музеі розных гарадоў Расіі, у тым ліку ў Эрмітаж. Частка кніг і зараз захоўваецца ў бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе.

Пад эгідай Радзівілаў у Нясвіжы дзейнічалі друкарні і школы, парахавы завод, марское і кадэцкае вучылішчы.

З Нясвіжам звязаны лёс многіх выдатных людзей. Тут пасля Масквы выдаваў свае кнігі разам з Пятром Мсціслаўцам рускі першадрукар Іван Фёдараў. Нясвіж наведвалі Пётр I, герой Айчыннай вайны 1812 года Баграціён. Тут служыў у арміі будучы дзекабрыст паэт Рылееў. Па некаторых звестках, у Нясвіж прыязджаў да сяброў, якія тут служылі, Пушкін.

Яркую старонку ў гісторыі Нясвіжа адкрыў Людвік Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля). Дзіцячыя і юнацкія гады ён правёў у вёсцы Кудзінавічы недалёка ад Нясвіжа. Пасля вучобы ў Нясвіжы і Навагрудку працаваў у замку Радзівілаў упраўляючым. Літаратурную дзейнасць пачаў у дзевятнаццаць гадоў у 1842 г.

Пісаў Сыракомля на польскай мове. Аднак яго творчасць цесна звязана з жыццём беларусаў. Ён апрацоўваў беларускія народныя песні, паданні, легенды. Пісаў вершы і на беларускай мове, нават меркаваў выдаць іх асобнай кніжкай. Спадчына яго багатая—паэзія, проза, драматургія, пераклады, працы па гісторыі, артыкулы на літаратурныя тэмы. Большасць з іх маюць у аснове жыццё і побыт беларусаў.

Нясвіж доўгі час заставаўся буйным цэнтрам асветы і культуры Беларусі. Успомнім хаця б славутую Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Тут чатыры гады вучыўся народны пясняр Якуб Колас. Ён прагна ўбіраў у сябе ўсё, што бачыў: звычаі гараджан і сялян, іх гаворку, думы і надзеі, людскую радасць і бяду. Ён слухаў на рынку песні лірнікаў, назіраў за гандлярамі і рамеснікамі. Тут, у семінарыі, ён напісаў першыя вершы.

У Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі атрымалі адукацыю многія дзеячы беларускай культуры, навукі. Адзін з іх—Аляксандр Сянкевіч, зямляк і аднакласнік Якуба Коласа, быў



Людміла Люсілава, Ірына Бруй, Ніна Гурына, Зоя Ждановіч, Тамара Малашэвіч і Маргарыта Шапавал працуюць у раённым універмагу.

Камсамолка Тарэза Тур абараняла гонар Нясвіжа на абласным конкурсе афіцыянтаў.



У нясвіжскім аддзяленні «Сельгастэхнікі» працуюць разам бацька і сын Германы. Мікалай Мікалаевіч — Герой Сацыялістычнай Працы, а Валодзя — на самым пачатку рабочага шляху.



Уладзімір Іванавіч Маеўскі — найстарэйшы ў Нясвіжы друкар. А зняты ён на фоне дома, у якім знаходзілася друкарня Лянчыцкага. У 1562 годзе тут быў выдадзены «Катэхізіс» Сымона Буднага.





Нясвіжскі замак—помнік беларускага Рэнесансу.



На кожным кроку ў Нясвіжы—помнікі даўніны. Гэты так званы «дом на рынку» пабудаваны ў XVIII стагоддзі.



Галоўны фасад замка.



Паляўнічая зала ў замку. Столь і сцены—з дарагіх парод дрэва.



Жыве ў Нясвіжы самадзейны кампазітар Павел Мікалаевіч Касач, заслужаны дзеяч культуры БССР.

першым наркомам аховы здароўя БССР. У семінарыі набываў веды бацька Максіма Багдановіча. У ёй вучыліся Кузьма Чорны і Рыгор Мурашка. У горадзе жыў савецкі празаік Канстанцін Паустоўскі. У ім бывалі Янка Купала, які працаваў у Снове на бровары, Валянцін Таўлай. У Нясвіжы нарадзіўся старшыня Савета Міністраў Польскай Народнай Рэспублікі Пётр Ярашэвіч...

У гады рэвалюцыі Нясвіж зноў апынуўся ў гушчы падзей. У замку Радзівілаў размяшчаўся штаб другой арміі Заходняга фронту. Каля ўваходу ў палац сёння можна прачытаць на мемарыяльнай дошцы: «У гэтым замку 1 лістапада 1917 года адкрыўся армейскі з'езд бальшавікоў II-й арміі Заходняга фронту». На з'ездзе быў выбраны ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які прыняў дэкларацыю аб рэвалюцыйным правапарадку ў арміі. З'езд адыграў важную ролю ў перамозе рэвалюцыі ў Беларусі. У Нясвіжы дзейнічалі верныя партыі бальшавікі Рагазінскі, Ціхменеў, Берзін, Пралыгін і іншыя. У горад прыязджаў палымяны паплечнік У. І. Леніна М. В. Фрунзе.

Нясвіжскія бальшавікі паслалі ў







«Італьянскі калодзеж» у замку — цудоўны ўзор майстэрства старадаўніх кавалёў.

Мінск бранепоезд пад кіраўніцтвам Пралыгіна. Ён дапамог мінскім бальшавікам узяць уладу ў горадзе.

Пазней абставіны склаліся так, што Нясвіж апынуўся пад уладай панскай Польшчы. Толькі ў верасні 1939 года Заходняя Беларусь была ўз'яднана з БССР.

Адышлі ў нябыт часы Радзівілаў. Не катаюцца больш князі летам на санях, у якія запрэжаны мядзведзі, па высыпанай соллю дарозе, наводзячы жах на месцачкоўцаў. Не трацяць па мільёне злотых на прыём караля, наладжваючы на возеры імправізаваны марскі бой, узводзячы на ім макет Гібралтарскага праліва і дзеючы макет вулкана Везувій. Не зганяюць для іх мужыкі з Палесся дзікіх звяроў у Альбу, каб панове маглі паляваць там. Не стаяць халопы з факеламі ад Варшавы да Нясвіжа, асвятляючы князю дарогу... Сплыло гэта, як страшны прывід...

Сёння Нясвіж маладзее і прыгажэе. Помнікі архітэктуры — замак, фарны касцёл, Слуцкая брама, дом на рынку, былы жаночы манастыр, ратуша — умела спалучаюцца з сённяшняй забудовай. На цэнтральнай плошчы велічна ўзвышаецца ратуша, у якой зараз месціцца Дом піянераў. У гандлёвых радах — шыкоўныя магазіны «Кніжны свет» і культтавараў. Плошча акаймавана сучаснымі будынкамі — чатырохпавярховым Домам Саветаў, кінатэатрам на 450 месц, гасцініцай «Нясвіж», жылымі дамамі.

Гараджане маюць усе бытавыя зручнасці — водаправод, каналізацыю, прыродны газ. За апошнія дзесяць гадоў у Нясвіжы пабудаваны сярэдняя школа на 360 месц, аўтобусная станцыя, тры дзіцячыя сады, два клубы, некалькі магазінаў, тры сталовыя, каля 30 шматпавярховых дамоў, узводзяцца бальніца на 260 ложкаў, плавальны басейн і клуб. Выраслі цэлыя мікраараёны — ордэна Леніна раённага аддзялення «Сельгастэхнікі», Ганусаўскай доследнай станцыі, міжкалгасбуда. Пачынаецца забудова шматпавярховымі дамамі яшчэ двух мікраараёнаў. У горадзе ёсць музычная і спартыўная школы, каля дзесяці бібліятэк, Дом культуры...

Нясвіжу — 750 гадоў. Не адзін раз палілі і руйнавалі яго чужынцы. Але слаўны гарадок моцна стаіць на роднай зямлі. І яго жыхары, вольныя нашчадкі безыменных майстроў і ўмельцаў, дадаюць яму славы сваёй рупнай, натхнёнай працай.

Мікалай **ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

Фота **В. Ждановіча.**

# У БРОНЗЕ, ГРАНІЦЕ, ДРЭВЕ



Я люблю наведвацца ва ўтульную майстэрню да Сяргея Вакара. Не проста зайсці на некалькі хвілін і пайсці — мне падабаецца сядзець там падоўгу, гадзінамі. Падабаюцца высокія, пад самую столь, паліцы, з якіх «паглядаюць» гіпсавыя скульптуры, вялікая шафа ў нішы, дзе ў ідэальным парадку раскладзены і развешаны інструменты, вялікі акварыум, у якім плаваюць рыбкі. Мне імпануюць людзі, якія бываюць тут і якія часта становяцца героямі твораў мастака. Але больш за ўсё мне падабаецца тая радасць, з якою С. Вакар сустракае сваіх гасцей, яго добразычлівасць. Адразу відаць: ён любіць людзей, любіць проста і шчыра, і ці не з гэтай любові і нарадзілася яго прыхільнасць да аднаго з самых складаных і цяжкіх жанраў скульптуры, якім з'яўляецца партрэт.

Яшчэ нядаўна ад скульптараў можна было пачуць, што работа над партрэтам — гэта амаль што адпачынак паміж станковай кампазіцыяй і манументальнай скульптурай. Гэтую думку абверглі скульптары «другога пакалення», якія ўпэўнена і плённа працуюць у жанры партрэта. І сярод іх — Сяргей Вакар.

Спецыфіка партрэтнага жанру патрабуе ад мастака, акрамя агульных прафесійных навыкаў і прыёмаў, яшчэ і ведання псіхалогіі чалавека, умення пранікнуць у яго складаны духоўны свет. Гэтае веданне і ўменне даецца жыццёвым вопытам. Вось чаму Сяргей Вакар, былы рабочы Аршанскага дэпо, сын патомнага чыгуначніка, які прайшоў рабочую загартоўку, так добра ўмее прачытаць чалавечую душу і паказаць яе ў скульптурным партрэце.

Скульптар рэалізуе ў сваіх творах лепшыя дасягненні беларускай партрэтнай пластыкі. Кола вобразаў, да якіх ён звяртаецца, знаходзіць жывы водгук у гледача, прываблівае глыбокімі і дакладнымі характарыстыкамі, простымі і зразумелымі рашэннямі.

Першай работай у партрэтным жанры, якая належыць да лепшых твораў С. Вакара, я назваў бы «Партрэт Героя Савецкага Саюза падпольшчыка Мікалая Кедышкі». Скульптар старанна вывучыў дакументальна-фактычны матэрыял, звязаны з дзейнасцю героя. Яго цікавілі і заметкі ў старых газетах, і пісьмы да родных, і расказы відавочцаў. Яго прынцып: не брацца за работу над партрэтам да таго часу, пакуль не будзеш ведаць пра чалавека ўсё. Старанна вывучаны і глыбока прадуманы дакументальны матэрыял загадзя «мадэліруе» ва ўяўленні мастака будучы вобраз, і таму працэс непасрэднай работы над партрэтам укладваецца, як правіла, у мінімальна кароткі тэрмін. Так узнік суровы, поўны насцярожанасці вобраз Мікалая Кедышкі — аднаго з бясстрашных змагароў Мінскага падполля ў гады фашысцкай акупацыі.

Пра доўгі і складаны пошук вобраза героя сведчаць некалькі варыянтаў партрэта, якія захоўваюцца ў майстэрні скульптара. Нарэшце, у канчатковым варыянце, выкананым у граніце, скульптар дабіваецца найбольшай выразнасці. У буйных, гранічна абагульненых рысах твару перададзена ўнутраная сабранасць, пераканаўчасць, вялікая рашучасць героя. Гэта падкрэслена энергічна паднятым каўняром паліто, глыбока і шчыльна насунутай кепкай. Халодны бляск старанна апрацаванага твару партрэта разлічаны на кантраст з шэрай фактурна апрацаванай паверхняй усёй скульптуры. Гэта ўзмацняе выразнасць, павышае эмацыянальнае ўздзеянне вобраза.

Сяргей Вакар — самастойны ў сваіх пошуках. Ён не прымае звыклай традыцыйнасці ў трактоўцы добра вядомых вобразаў, над якімі ў розны час працавалі многія беларускія жывапісцы і скульптары. Найбольш выразна гэта праявілася ў «Партрэце Героя Савецкага Саюза М. Ф. Шмырова («Бацькі Міная»)». Створаны яшчэ ў гады вайны Заірам Азгурам драматычны вобраз Міная і па сённяшні дзень вар'іруецца рознымі мастакамі, захоўваючы «азгураўскі» стан героя. У прынцыпе гэта не выклікае сур'ёзных пярэчанняў — па глыбіні паказу псіхалагічнага стану героя і сіле ўздзеяння вобраза партрэт, створаны З. Азгурам, застаецца неаспрэчным у сваёй жыццёвай дакладнасці — мастак жа рабіў партрэт з натуры.

— Але нельга забываць, што З. Азгур стварыў свой партрэт у той час, калі Шмыроў перажываў глыбокую асабістую трагедыю — смерць сваіх чацвярых дзяцей, узятых заложнікамі і забітых фашыстамі. Перад З. Азгурам быў спакутаваны горам чалавек, і гэта адбілася на вобразе. Напружанне, замкнёнасць, выкліканыя моцнымі душэўнымі перажываннямі, былі, напэўна, часовыя. Шмырова мы ведаем як чалавека моцнага, надзеленага велізарным запасам жыццёвай энергіі, якая дапамагала яму ў самых складаных умовах партызанскай барацьбы захоўваць аптымізм,— падкрэслівае С. Вакар.— Вось гэтае аптымістычнае ўспрыняцце чалавекам жыцця, якім бы цяжкім і складаным яно ні было, і ёсць змест «майго» Шмырова. Ва ўсякім выпадку, я да гэтага імкнуўся...

Мы ўспомнілі пра партрэт М. Ф. Шмырова, створаны З. Азгурам, не для таго, каб «пабіць» ці «ўзняць» яго параўнаннем з работай Вакара. Азгуру ўдалося данесці жывыя рысы легендарнага героя — у гэтым вялікая перавага яго перад іншымі. Але «бар'ер часу», які аддзяляе мастакоў малодшага пакалення ад грозных ваенных гадоў, дазваляе ім па-свойму асэнсаваць той ці іншы вобраз у цеснай сувязі з сучаснымі ўяўленнямі аб падзеях мінулага. Сённяшнія партрэтысты шукаюць новыя выяўленчыя сродкі для перадачы эмацыянальнага «зместу» сваіх герояў. І тут выразна «праглядваецца» настроенасць мастакоў глянуць на вобраз праз прызму ўласных пачуццяў і перажыванняў, падкрэсліць у ім найбольш істотнае і блізкае сваёй душы і настрою.

Паслядоўнасць пошукаў С. Вакара ў жанры партрэта відаць і ў асваенні ім спецыфікі розных матэрыялаў. С. Вакар належыць да тых патрабавальных скульптараў, якія рэдка паказваюць свае творы ў гіпсе, справядліва лічачы, што твор павінен быць даведзены да завяршэння ў матэрыяле. Яснасць пластычнага мыслення, імкненне да гранічнай дакладнасці, выкарыстанне знешне простых форм — адметныя рысы С. Вакара як скульптара. Выразнасці сваіх работ ён шукае не ў складаных пластычных «спробах», а ў выяўленні і падкрэсліванні прыродных уласцівасцяў натуральнага матэрыялу, асабліва такога прыгожага і разнастайнага ў сваіх магчымасцях, як дрэва. Магчыма, менавіта таму ў С. Вакара няма двух аднолькавых партрэтаў — яны разнастайныя і па матэрыяле.

Нечаканае і, на мой погляд, вельмі цікавае рашэнне «Партрэта Г. Д. Гая». Герой грамадзянскай вайны, адзін з таленавітых военачальнікаў маладой савецкай рэспублікі, Гай (Г. Д. Бжышкянц) прыцягнуў увагу скульптара цвёрдасцю характару, унутранай цэласнасцю, якія спалучаліся ў ім з інтэлігентнасцю шырока адукаванага чалавека. Партрэт пабудаваны на падкрэслена геаметрычнай трактоўцы скульптурных форм, якая, як вядома, была характэрнай для савецкай скульптуры 20-х гадоў. Крыху ўзбуйненыя рысы твару, строгая, лаканічная абмалёўка каўняра ваеннага фрэнча, рэзка ўсечаная форма плячэй, якія нібы служаць асновай для галавы і магутнай шыі... Скульптар разлічвае на мастацкі вопыт гледача, на яго здольнасць да асацыятыўнага мыслення. Усё гэта дазволіла вельмі пераканаўча «сарыентаваць» вобраз Гая ў часе, надаць партрэту характэрныя рысы гераічнай эпохі. Скульптар выкарыстаў зусім новы для беларускага мастацтва прыём свінцовага пакрыцця гіпсу. Цяжкі шэры метал узмацніў важкасць вобраза, падкрэсліў яго пластычную выразнасць.

— Уяўная «складанасць» пластычнай мовы некаторых скульптараў, якую мы часта сустракаем на выстаўках,— гаворыць С. Вакар,— гэта, на маю думку, проста гульня мастака з гледачом, у якой глядач, як правіла, прайграе, загадзя пагаджаючыся з уласнай непадрыхтаванасцю. А за гэтай «недасягальнай» для гледача складанасцю часта нічога не тоіцца, проста ёю зручна прыкрываць пустату, беднасць зместу...

З такім меркаваннем цяжка не пагадзіцца, тым больш, што і самі мы часта трапляем у становішча «разгубленага» гледача перад якой-небудзь «зухавата зробленай» карцінай або скульптурай.

Праца над партрэтам — складаны творчы працэс, які ўзбагачае мастака



Уладзімір Караткевіч. (Дрэва).



Максім Багдановіч. (Гіпс).



Герой Савецкага Саюза Мікалай Кедышка. (Лабрадор).



Пімен Панчанка. (Дрэва).

ўсё новымі і новымі ведамі бясконца складанага «аб'екта» даследавання — чалавека. Выдатны савецкі мастак, вялікі майстар патрэта І. Грабар пісаў: «...Вышэйшае мастацтва ёсць мастацтва партрэта... Задача пейзажнага эцюда, якой бы яна ні была прывабнай,— дробная задача ў параўнанні са складаным комплексам чалавечага вобліку, яго думкамі, пачуццямі і перажываннямі, якія адлюстроўваюцца ў вачах, усмешцы, рухах галавы, жэстах рук». Гэты «складаны комплекс чалавечага вобліку» ператвараецца часта ў невымерна цяжкую задачу пры рабоце над партрэтам нашага сучасніка. Сучасны чалавек, складаны, глыбокі, патрабуе ад мастака-партрэтыста пастаяннага аналізу тых змен, якія адбываюцца ў яго духоўным жыцці.

С. Вакар даволі актыўна працуе над вобразам сучасніка. Пасля ўдалых работ гістарычнага плана ён стварае цэлую серыю партрэтаў прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, найбольш цікавымі з якіх мне здаюцца партрэты пісьменнікаў Пімена Панчанкі, Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча і славутага беларускага спартсмена Аляксандра Мядзведзя. Усе яны створаны амаль адначасова, і таму цікава прасачыць, як, якімі сродкамі падае С. Вакар вобраз кожнага з гэтых зусім розных, але вельмі цікавых людзей.

У трактоўцы вобраза Р. Барадуліна скульптар імкнецца выявіць эмацыянальны пачатак паэта. Яго складаны ўнутраны стан падкрэслены некалькі ўскладнёнай, трапяткой лепкай твару, выраз якога мяняецца ў залежнасці ад асвятлення. Невыпадкова выбраны тут і матэрыял — бронза. Скульптар загадзя ведаў і прадбачыў яе «актыўнасць», здольнасць ствараць «эфект руху» гульнёй светацені. Характэрна, што некаторыя з тых, хто бачыў партрэт, не заўсёды пазнавалі Р. Барадуліна. Сапраўды, гледзячы на партрэт, не скажаш: «як жывы». Але скульптар і не імкнуўся стварыць натуралістычнага двайніка Барадуліна. Ён бачыў сваю задачу ў іншым — перадаць душу паэта, момант паэтычнай усхваляванасці. Дасягнуўшы адпаведнага падабенства, якое неабходна ў партрэце канкрэтнага чалавека, скульптар нібы забываецца пра гэта — ён беражліва захоўвае галоўнае — душэўны стан яго. І кампазіцыя партрэта лаканічная — толькі галава на невялікай аснове з шэрага граніту.

Зусім інакш вырашаны партрэты Пімена Панчанкі і Уладзіміра Караткевіча. Абодва выразаны з дрэва — традыцыйнага для беларускай скульптуры матэрыялу. Яны нават кампазіцыйна «пераклікаюцца». Гэтая «агульнасць» рашэння пры ўважлівым разглядзе набывае больш глыбокі сэнс — сцвярджае агульную аснову, якая жывіць творчасць пісьменнікаў. Скульптар нетаропка, разлічваючы кожны рух разца, «адкідае» лішняе, клапоцячыся аб прыроднай прыгажосці дрэва, падкрэсліваючы яго мяккасць, падатлівасць. Свабодная, натуральная манера разьбы — шырокая, вялікімі плоскасцямі ў партрэце П. Панчанкі суседнічае з тонкай, як карункі, апрацоўкай паверхні дрэва ў партрэце У. Караткевіча. Гэта не толькі ўзмацняе дэкаратыўныя якасці партрэтаў, узвышае іх «скульптурную прыгажосць», але і падкрэслівае індывідуальную асаблівасць характараў гэтых людзей, асаблівасці іх пісьменніцкага майстэрства.

У «Партрэце заслужанага майстра спорту СССР А. Мядзведзя» С. Вакар паставіў перад сабой задачу — паказаць сілу і мужную волю аднаго з самых выдатных спартсменаў нашай краіны. Здаецца, няма нічога прасцей — вырашыць вобраз спартсмена праз знешнюю мускулатуру (так часцей за ўсё і робяць мастакі). Але С. Вакар свядома адмаўляецца ад «спакуслівых» знешніх характарыстык. У кампазіцыі ён пакідае толькі галаву спартсмена, свядома «адсякаючы» магутныя плечы і грудзі барца, падкрэсліваючы тым самым іх «негалоўную» ролю ў характарыстыцы спартсмена. Гэты прыём не пярэчыць і жыццёвай праўдзе: А. Мядзведзь як барэц не вызначаецца празмерна развітай, «гіпертрафічнай» мускулатурай. Валодаючы вялікай фізічнай сілай, ён вельмі гарманічна «складзены», лёгкі і спрытны. Адзіны «знешні» прыём, які прыменены тут скульптарам,— некалькі павялічаныя памеры партрэта.

— Аляксандр Мядзведзь, як я яго зразумеў, з'яўляецца прадстаўніком зусім новай катэгорыі савецкіх спартсменаў,— гаворыць С. Вакар.— Для такіх, як ён, спорт не становіцца самамэтай, не загароджвае ўвесь свет. Ён — звычайны, цікавы чалавек, вельмі шматгранны і інтэлектуальна багаты...

Як і ў кожнага мастака, у Сяргея Вакара ёсць запаветная мара — стварыць свой галоўны твор. І не так, каб толькі паказаць на выстаўцы і зачыніць у майстэрні, а каб ён жыў сярод людзей, каб да яго прыходзілі. Мара гэтая — помнік Максіму Багдановічу. Скульптар ужо многа зрабіў для яе ажыццяўлення. У яго майстэрні «жывуць» некалькі мадэляў помніка. Адна з іх — двух з палавінай метровая фігура паэта — блізкая да канчатковага завяршэння. У адной руцэ паэта — сціплы букецік васількоў, другой ён прытрымлівае падняты каўнер лёгкага сурдута. Свежы вецер раскідаў густыя валасы, расхінуў крыссе адзення. У цяжкім роздуме шырока адкрытыя, скіраваныя ў далечыню вочы...

Не будзем рабіць абагульненняў, традыцыйных вывадаў пра творчасць — Сяргей Вакар яшчэ ў дарозе. Многае чакае яго наперадзе: і ўдачы, і новыя пошукі. Але тое, што пройдзена — пройдзена не дарэмна.

**Эльмарт ПЕТЭРСАН.**



ІВАН ПТАШНІКАЎ

МСЦІЖЫ

**Іван ПТАШНІКАЎ. «МСЦІЖЫ».**
**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972.**

# АНДРЭЙ ВЯЛІЧКА З МСЦІЖАЎ...

Проза Івана Пташнікава не для лёгкага чытання. Пташнікаў з тых пісьменнікаў, якія і пальцам не паварушаць, каб заслужыць ласку ў чытача ці проста спадабацца яму. Яму давай чытача вынослівага і стойкага, такога, што ўмее дабіраць смаку і ў павольным, разгорнутым апісанні, у «пазасюжэтных» дробязях і дэталях, а не рвецца туды, дзе ажно трашчаць ад натугі чыста падзейныя, фабульныя вузлы і вузельчыкі.

Зрэшты, не думаю, каб у Пташнікава было нейкае прынцыповае, апрыёрнае, так сказаць, непрыняцце адкрыта і ярка выражанага драматызаванага сюжэта. Проста, як пісьменнік праўдзівы, ён лічыць, што гэта не ягоны шлях. І што той матэрыял і тыя чалавечыя лёсы, якія яго хвалююць найбольш, вымагаюць спакайнейшых, больш схаваных у побыце, у плыні штодзённага недынамічных спосабаў аналізу і пазнання...

«Мсціжы», як амаль усе творы Пташнікава, пачынаюцца падрабязным, тапаграфічна дакладным прыродным апісаннем:

«Мсціжы—вёска на беразе Жоглаўкі. Вёску абышлі з трох бакоў балоты на звіле ракі. На поўначы за Мсціжамі пачыналася доўгае пагор'е, якое падыходзіла аж пад самую Вілію і Курачовы Цяні,—шырокае, роўнае, парослае па жоўтым пяску, які летам здалёку відаць на сонцы, маладняком і старасвецкімі рэдкімі, пакінутымі на пасеках, абгарэлымі знізу соснамі, нацягнутымі смалой і ад таго цвёрдымі, як камень, не даткнуцца тапаром. Параслі яны, не зачэпленыя падсочкай за свой век, аж у самае неба, папрысядалі ў камлях ад цяжару, каб апірацца цвярдзей на старасці...»

Першая рэакцыя на падобныя апісанні: расцягнута, доўга і як быццам без строга і ясна акрэсленай мэты: «У самом-то дзеле», як гаворыць Падбярэцкі, адзін з персанажаў рамана,—пяць-шэсць і болей старонак: вецер, балота, ельнік, вароны, хмары, «рудая смычка» і «падапрэлы снег». Дзеля чаго?

І залішняя, як можа здацца спачатку, фіксацыя бытавых падрабязнасцяў. Там, дзе іншы аўтар сказаў бы коратка «ляжала карыта», Пташнікаў піша: «На беразе ракі ля броду, недалёка ад маста за аселіцамі, куды ганялі паіць кароў з фермы і коней з участка, вецер перакуліў карыта. Яно было відаць з вёскі, з гэтага канца,—ляжала, скінутае з асінавых плашак ля чорнай прорубкі, доўгае, абабітае ад лёду, як кавалак бярна».

Можа, гэта і праўда занадта дэталёва апісана, без патрэбы дэталёва. Не ведаю, не збіраюся пакуль што рабіць вывад. Але разам з тым адчуваю: не многія нашы празаікі пішуць **так.** Не многія ўмеюць так бачыць, слухаць і называць усё, што навокал.

Прыгадваю занатаваныя Максімам Лужаніным словы Коласа пра Гарэцкага: «Апісанні такія, што нібы навобмацак рэч бярэш». І далей пра сучасных празаікаў: «Пішуць пра жыццё партызанаў у лесе. Паспрабуй уявіць той лес! Герой дзве гадзіны ідзе пушчаю, а ў яго пад нагою нават сучок не хрусне».

У Пташнікава **хрусцяць,** фігуральна кажучы, усе дакладна апісаныя і названыя сучкі пад нагамі ўсіх герояў. Стэрэаскапічнасць зроку, надзвычай чуйнае вуха, рэдкая пластычнасць—самыя моцныя, бадай, якасці пісьменніка.

«У гняздзе былі маладыя ластаўкі. Старая прылятала да гнязда, і тады маладыя пішчалі, як усё адно канаючы. Перш, з тыдзень назад, старыя ластаўкі яшчэ лазілі самі ў гняздо—дзеці былі малыя. Цяпер старая ластаўка прылятала толькі пад страху, махала крыллем, як з перапуду, чаплялася шэрымі цененькімі ножкамі за чорную паласу ў гняздзе, перагіналася ўся, усунуўшы ў дзірку дзюбу і паказваючы белую спінку з-пад крылаў».

Такое трэба ўмець угледзець, запомніць і перадаць.

Альбо яшчэ вось гэта: «У Агульніцы за кузняй збіраўся туман; густы і сіні, як дым, ён поўз палосамі цераз дарогу да канюшні—у сырое месца, дзе ляжаў лёд».

Цытаваць можна яшчэ і яшчэ. Але і прыведзенага даволі, як мне здаецца, каб зразумець: Іван Пташнікаў—пісьменнік, не пабаюся сказаць, выдатнага пластычнага таленту, пісьменнік, які не вузка, не выбарачна (на гэтую старонку, на гэты твор), а грунтоўна, да самага кораня, ведае «поле» таго жыцця, у якім жывуць і дзейнічаюць яго героі.

Але, адзначыўшы іменна гэтую рысу Пташнікава, яго добрую ўважлівасць да жыццёвай «матэрыі», яго здатнасць даваць рэльефную карціну прыроды і побыту, мы яшчэ, па сутнасці, сказалі няшмат.

А якую, уласна кажучы, змястоўную функцыю нясе гэта пісьменніцкая **невыбарачнасць** пры перадачы «знешніх» падзей і з'яў, што за ёю і ў ёй, да якіх працэсаў «унутранага» чалавека і быцця чалавечага адсылае нас гэта схільнасць пісьменніка гаварыць пра ўсё непаспешліва, падрабязна, «без абрэзкаў» (слоўца аднаго персанажа «Мсціжаў») і як бы ўвесь час блытаючы іерархію цэнтральнага і другараднага, важнага і няважнага, першага і другога плана?

Думаю, што ў Пташнікава ёсць такая залежнасць і сувязь паміж выяўленымі ў «манеры», у стылі «вонкавымі» асаблівасцямі ягонага светаўспрымання і больш глыбокімі якасцямі яго погляду на жыццё, яго патрабаванняў да жыцця. І мне, майму чытацкаму ўспрыманню гэта залежнасць раскрываецца як матэрыялізаваная ў слове, у дэталі, у разгорнутым апісанні **наяўная** жыццёвая велічыня і «фактура».

Іменна стылем сваім, перш за ўсё стылем, спосабам маляваць і расказваць, імкненнем ахапіць і заўважыць усё стараецца пісьменнік давесці, што і самае малое і непрыкметнае—частка жывога цэлага. І што ён, пісьменнік, не хоча, не можа прыняць, а тым больш санкцыяніраваць сваім талентам найменшы пропуск, прагал, скарачэнне ў тым ланцугу жывога, які звязвае непаўторнага, са сваімі радасцямі і смуткам гэтага **чалавека** з вялікім светам такіх самых чалавечых асоб, з тым разнастайным прыродным светам, што яму, чалавеку, спадарожнічаў ад першых крокаў маленства па сённяшні, то светлы, а то замглёны дзень.

І яшчэ гаворыць Пташнікаў сваёй кнігай, у тым ліку і яе прынцыпова «антыабрэвіятурнай» стылістыкай: выканаць свае грамадскія абавязкі перад людзьмі **кожны** чалавек зможа тым лепш, чым лепш усе мы ўсвядомім права кожнага на ўсю паўнату свайго чалавечага існавання з усім і горкім і радасным, што на долю гэтага існавання выпадае.

...Ёсць у «Мсціжах» такая сцэна: начальнік участка леспрамгаса Унук выклікае да сябе рабочага Андрэя Вялічку. Вялічка—галоўны герой рамана. Паранены ў час нямецкай блакады, а пазней «пажваканы» мядзведзем у час палявання, Вялічка прычыняе Унуку адны толькі клопаты і турботы: сукі церабіць не паставіш—параненая рука, «а коней—то ўжо знаеш—у нас няма... Прыйшлі тралёвачнікі». (Заўважу, дарэчы, што леспрамгас для Пташнікава—усё роўна як Цімкавічы для Чорнага; тут, у межах аўтаномнага «мікрасвету», даследуюцца, хоць і без адкрытага выхаду ў вялікае, агульныя праблемы жыцця).

Дык вось, дыялог Унук—Вялічка. «Што маўчыш? Чым ты займаўся ўсё лета?—У калгас хадзіў. Стагі клаў. У мяне карова, а карове трэба сена. А сена не дадуць, калі не вырабіш працэнты... Сёлета з сенам цяжка. Усё выгарала...—Відзіш, як ты чапляеш адно за другое. Карова, сена, працэнты...»

Унук—не ўсебакова адмоўны, так сказаць, «начальнік», з тых, каго наша літаратура паказвала ўжо не раз. У яго свая праўда, і Вялічку ён хоча шчыра дапамагчы, хоць гэта і праўда нялёгка. Бяда людзей, падобных да Унука: не зразумеюць, што ў чалавеку, у жыцці наогул усё **чапляецца** «адно за другое», і таму ніяк не здолеюць прымірыць вельмі практычна, нават улітарна зразуметую справядлівасць **усіх** з «індывідуальнай» справядлівасцю кожнага. «Папрывыкалі, каб за іх у некага душа балела. За саміх хай у сябе перш душа баліць... Усім скарэй справядлівасць давай. Вот—даставай са стала з шуфляды і давай...»,—гарачыцца Унук, злуючыся, можа, не столькі на Вялічку, колькі на самога сябе, на ўласную нядатнасць «дастаць» справядлівасць...

Новая кніга Івана Пташнікава—пра тое, як складана, але арганічна, часам супярэчліва і капрызна «чапляецца» ў чалавеку «адно за другое» і як гэта счапленне дае ўрэшце лёс і характар.

Нейтральныя з выгляду, «ненацэленыя» пейзажы Пташнікава таксама—праз працу і побыт—счапляюцца з чалавекам і пра чалавека гавораць... Да перакуленага ветрам карыта некалі вялі сляды: Андрэевы з участка, Верчыны з фермы. Цяпер ужо Веркі няма. Памерла. І «Мсціжы» фактычна пачынаюцца з успаміну Вялічкі пра

## Папытай у кнігарні • Папытай у кнігарні • Папытай у кнігарні

**«БАЛЬШАВІКІ БЕЛАРУСІ І ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ЛЕНІНСКАГА ДЭКРЭТА АБ МІРЫ».** Аўтар гэтага даследавання — прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта У. Р. Івашын. Кніга выйшла ў выдавецтве БДУ імя У. І. Леніна пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта АН БССР І. М. Ігнаценкі. У. Івашын на аснове аналізу дакументаў і гістарычных фактаў гаворыць пра бурныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў 1917 годзе, пра велізарную растлумачальную работу, якую праводзілі сярод салдатаў і працоўных па ажыццяўленні першага дэкрэта Савецкай улады бальшавікі-беларусы, пра іх ролю ў ліквідацыі стаўкі галоўнакамандуючага ў Магілёве — гнязда контррэвалюцыі. Кніга будзе добрым памочнікам для прапагандыстаў, кіраўнікоў гурткоў партасветвучобы, для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй роднай краіны і Камуністычнай партыі.

Кніга выдадзена на рускай мове.

**«ПАРТЫЗАНЫ ПРЫМАЮЦЬ БОЙ».** Пад такой назвай у цэнтральным выдавецтве палітычнай літаратуры выйшла ў свет кніга ўспамінаў Героя Савецкага Саюза, вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, першага намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР Уладзіміра Елісеевіча Лабанка. Напярэдадні вайны У. Е. Лабанок працаваў першым сакратаром Лепельскага райкома партыі. У гады вайны ён узначаліў падпольную партыйную арганізацыю раёна, актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі партызанскага руху на Лепельшчыне, Полаччыне, Ушаччыне і наогул на Віцебшчыне, быў камісарам і камандзірам партызанскіх брыгад, прыняў непасрэдны ўдзел у шматлікіх баях народных мсціўцаў з фашысцкімі карнікамі і ў далёкіх рэйдах. Пра жыццё і барацьбу партызанаў Віцебшчыны і расказвае яго кніга ўспамінаў, адрасаваная самаму шырокаму колу чытачоў.

**«ДОЛЯ».**

Творчасць Д. Бічэль-Загнетавай, несумненна, знаёмая аматарам нашай паэзіі. Вершы паэтэсы кранаюць шчырасцю, непасрэднасцю пачуцця, змястоўнасцю і меладычнасцю. Многія яе творы блізкія да народнай песні. Гэтымі якасцямі вылучаюцца і вершы, сабраныя ў новай кніжцы. Яе назва «Доля» — невыпадковая: большасць твораў кніжкі прысвечана жанчыне, і гаворка ў іх ідзе пра жаночы лёс, пра яе клопаты і турботы.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972 г.**

нядаўняе і востра балючае: вецер «свістаў у платах і старых лазовых вітках... заварочваў паднятаю дыба асеверы на дварах ля студняў», а людзі «ішлі ў грамаду на вуліцу да Андрэя Вялічкі — з хаты яго выносілі везці хаваць Верку...»

Так, паўтараю, з «сярэдзіны», з крутога разлому ў лёсе героя пачынаецца новая кніга Пташнікава.

Па-мойму, Пташнікаў не надта дакладна назваў яе раманам. Гэта хутчэй аповесць. Розніца тут не чыста фармальная. Быў бы перад намі раман, мы, яго чытачы, мелі б, напэўна, права чакаць ад аўтара больш разгалінаванага і абавязкова ўзнятага нейкай агульнай **эпічнай** ідэяй высвятлення чалавечых адносін з **гісторыяй.**

У «Мсціжах» пераважае лакальнае, непасрэднае, дадзенае ў простым і амаль не скарэкціраваным аўтарскай думкай перажыванні і пачуцці героя. Але і гэта, быццам выхапленая з патоку чалавечая непасрэднасць — цэласнасць і структура, якая сваімі галоўнымі элементамі (жыццё і смерць, каханне і праца, роднасць з зямлёй і прыродай) паўтарае абрысы вялікага і ў далечыні гісторыі разамкнутага свету. І таму, безумоўна, памыліцца той, хто будзе ўпікаць пісьменніка за абмежаванасць і вузкасць. Жыццё, сапраўды перажытае **мастаком,** мала абыходзіць колькасныя паказчыкі, яно вымагае іншай меры і гэту меру сцвярджае.

Пташнікаў «збірае» свет вакол найбольш трывалых, надзейных яго арыенціраў: крывёю і працай гарантаваная адданасць роднай зямлі, вольныя ад ілюзій, відушчыя дабро, еднасць, каханне.

У «падзяўбаным і балючым, як зямля», Андрэю Вялічку ўсе гэтыя арыенціры выявіліся **натурай,** каб не сказаць інстынктам, і мы, не памыляючыся, можам яго паставіць побач з найбольш праўдзівымі **станоўчымі** характарамі нашай сучаснай прозы.

Самыя моцныя, псіхалагічна праніклівыя старонкі «Мсціжаў» — пра Верку, пра Андрэева каханне да яе і горкую памяць аб ёй. Тут што ні слова і штрых — то боль і пяшчота, смутак і азарэнне.

Праз Верку, праз Андрэеву любасць да яе высвятляецца — неназойліва, арганічна — і тое **грамадска** новае, што таксама зрабілася характарам і натурай Андрэя. Як у Купалавым «Лёне», толькі, вядома, без уласцівага ляўкоўскім вершам песенна-ідэальнага арэолу. Ужо не юнацкая закаханасць — сямейны побыт прасякнуты святлом сацыяльнае навіны.

«Прынёсшы Верцы ліхтар, ён сядзеў з ёй на ферме, бывала, усю ноч, пакуль не ацеліцца карова... У пасцілку яна завязвала цяля і паддавала яму, Андрэю, на плечы. Сама ішла наперад з ліхтаром — свяціла яму, а ён асцярожна ступаў па гурбах у сваім гародзе... Ішоў і бачыў, як змярзаюцца, лубянеючы, полы ў кажусе ў Веркі... Цяля не хацела ляжаць, брыкалася і білася аб падлогу, і яны сядзелі ля яго ўсю ноч, прыкруціўшы ліхтар: не клалася Верка, і ён не мог заснуць...»

Нават вайна, пакуль яшчэ тылавая, не паспытаная, але ўсё-такі грозная і поўная смяротных тайн, звязваецца ў сённяшняга Вялічкі з Верчынай пастаццю, з яе душэўнаю дабрынёй і святлом.

«Мужчыны ішлі ўсёй вёскай — па павестках у ваенкамат; кожнага праводзілі ўсёй сям'ёй... Верка несла ў руках яго белую торбачку... Так яна кожны раз выпраўляла яго, калі ён адлучаўся з дому: ці на цэлы дзень ішоў касіць у калгас у Курачовы Цяні, ці гнаў у поле скаціну... Прыставалі дзеці, і бабы, наплакаўшыся, садзіліся ля дарогі на пыльную траву — дамоў адразу ніхто не варочаўся; далей іх ішло ўсё менш і менш, нарэшце асталіся адны мужчыны і Верка — высокая, стройная. Яна гаварыла, што пайшла б з імі, з усімі, на край свету, каб толькі быць разам. Яна адна і правяла ўсіх мужчын аж сюды, на шашу пад Вострава. Кінулася яму на грудзі, а тады да яе падыходзілі ўсе мужчыны, па адным, і адвіталіся за руку». (Шмат цытую, бо цяжка, ды і не хочацца пераказваць прозу, якая сама нічога не пераказвае, а толькі паказвае і малюе).

Потым была вайна, і не армейская, паводле ваенкамацкай павесткі, — партызанская, у лясах паблізу і тут, у акопах ля Віліі пад Каменем. Забіўшы пад час семярых фашыстаў, Андрэй доўга «не верыў, што змог адзін адразу забіць гэтулькі многа людзей... Аж спужаўся і доўга баяўся вылазіць з акопа» — рыса, што раскрывае **ўсяго** Андрэя.

Напісанае Пташнікавым пра блакаду, пра манеўры карнікаў лучыцца да лепшага ў нашай прозе, да самых велічных і трагічных яе старонак.

Вайна, «партызанка» пакінулі на целе Андрэя цяжкія раны — ледзь «вылез з-пад міны». І яшчэ памяць аб часе, калі ён, Вялічка, быў з усімі і ўсіх яднала адно нераздробленае, адзінае пачуццё вышэйшай справядлівасці. Далёкі ад усякай рэфлексіі, не навучаны мысліць «тэарэтычна», чалавек **натуры і лёсу,** ён і цяпер, не-не ды звернецца да ўрокаў той справядлівасці, каб у варунках не надта лёгкіх і простых аперціся на яе душой.

...Старшыня праўлення прапануе адрэзаць ад Андрэевых шасцідзесяці сотак паўгектара, пакінуўшы яму гарод, бо Андрэй збіраецца ехаць з участкам пад Полацк. У старшыні ёсць сур'ёзныя падставы **так** вырашаць, ва ўсякім разе, закону ён не парушае. Але **так** вырашаючы, старшыня бязлітасна рве ў збалелай душы Андрэя («яшчэ не ачухаўся пасля Веркі») тыя карэньчыкі, якія ўсё-такі прывязваюць яго да зямлі, да вёскі, трымаюць яго на раздарожжы: ехаць — не ехаць? Магчыма, пачні старшыня сваю гаворку інакш, не гэтак жорстка фарсіруючы «закон», Андрэй адступіўся б ад свайго цвёрдага і беспаваротнага, здаваўся б, «еду». Бо «з хаты пайсці лягчэй, цяжэй пайсці з вёскі», дзе, «дыхнуўшы — згадаешся адразу, у каго якімі дрыўмі паліцца ў печы і што ў каго ляжыць у гаршку...»

І вось, калі старшыня ставіць на галасаванне сваю прапанову, паміж ім і Андрэем адбываецца незразумелы для ўсіх прысутных, ды і для іх, двух, дзіўны дыялог: «— На гародзе быў дзот. Партызанскі... — Андрэй сказаў неяк зусім глуха і закашляўся... — Ну дык што? Музей на тваім гародзе зробім? Нешта я ніяк не злаўлю, што ты гаворыш, Вялічка. Вернешся ці не? Андрэй маўчаў».

Старшыня, як і Унук, ніяк «не зловіць», што ў чалавеку ўсё «чапляецца адно за другое». І што тая ж самая балючая памяць аб Верцы і аб вайне, якая цяперашняга Андрэя гоніць упрочкі далёка пад Полацк, не дае яму сілы з'ехаць з вёскі, кінуць зямлю.

Па-мойму, у сцэне праўлення, як і наогул у Андрэевай калізіі ехаць — не ехаць, аўтарам не ўсё прадумана і ўзважана да канца. Герой тут не столькі складаны, колькі капрызна-няпэўны, размыты. І контрдовады тых, хто пярэчыць калгаснаму старшыні, не ідуць (не могуць ісці) далей даволі аморфна выказанага патрабавання чуласці, **тут** не здатнай пераадолець у спрэчцы справядлівага, скажам прама, законнага палажэння, якога старшыня не можа, не мае права парушыць.

Але тое, што Вялічка гаворыць пра дзот на гародзе, сама «выпадковая» нечаканасць гэтых слоў — бездакорная праўда. Псіхалагічная праўда чалавека, які стараецца праясніць становішча — сваё і чужое — спасылаючы на часы, калі справядлівасць была на відавоку ва ўсіх і нішто не скажала адкрытага яе аблічча.

Адзначу, дарэчы, што сапраўды рэалістычная проза, проза, якая імкнецца ўсебакова даследаваць чалавека, шырока карыстаецца вось такімі, народжанымі на мяжы свядомага і падсвядомага ненаўмыснымі рэплікамі і жэстамі. І вельмі шкада, што ў шмат якіх нашых кнігах пераважае аднолі-

Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні

**«ДЗЕ ВІРУЕ БЯРОЗА».** Такую паэтычную назву даў сваёй кнізе выбраных твораў празаік Мікола Ваданосаў. У яе ўвайшлі вядомыя ўжо маладым чытачам аповесці «Адзінай маці сыны», «Пад чужым паролем», «Надзеі і здзяйсненні», а таксама лепшыя апавяданні пісьменніка «Да заўтра», «Залаты пярсцёнак», «Ці вінаватыя?» і інш.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972 г.**

**«А ДЗЕ Ж ТАЯ КРЫНІЧАНЬКА».** З чарговай паэтычнай кнігай пад такой назвай выйшаў на суд чытача Ніл Гілевіч, паэт выразна грамадзянскага плану. Кніга складаецца з трох раздзелаў. У *першым раздзеле* — «Нам выпала песня» — вершы паэта, у якіх роздум над жыццём, над сённяшнім днём, над яго трапяткімі і нярэдка складанымі праблемамі і турботамі. «Элегіі неэлегічных дзён» — лірычна-філасофскія васьмірадкоўі — склалі другі раздзел кніжкі. У трэцім — дзве паэмы: антываенная «Недзяленя» і лірычная «А дзе ж тая крынічанька».

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972 г.**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАСТОЧЧЫНА».** У гэтым сціплым зборніку наш чытач упершыню сустрэнецца з творчасцю паэтаў і празаікаў, якія пішуць на беларускай мове ў Польшчы. У зборніку выступаюць Алесь Барскі, Васіль Баршчэўскі, Яша Бурш, Мікола Гайдук, Уладзімір Гайдук, Юрка Геніуш, Уладзіслаў Дваракоўскі, Віктар Рудчык, Алесь Свісёк, Ягор Хлябіч, Ян Чыквін, Дзмітры Шатыловіч, Віктар Швед і інш. Прадмову да кнігі напісаў літаратуразнаўца Уладзімір Казбярук. Зборнік уяўляе несумненную цікавасць для самага шырокага чытача.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1973 г.**

**«ВЕРШЫ»** Максіма Багдановіча. Сярод аматараў беларускай паэзіі нельга знайсці абыякавага да творчасці аўтара неўміручага «Вянка». Паэзія Максіма Багдановіча не мае патрэбы ў рэкамендацыях. Хочам толькі нагадаць чытачам, што нядаўна на паліцах кнігарань з'явіўся новы томік вершаў аднаго з пачынальнікаў новай нашай літаратуры. У кнігу ўвайшлі лепшыя творы паэта, а таксама яго пераклады з Шылера, Гейнэ, Верхарна, Пушкіна, Майкава і інш. Прадмову да зборніка напісаў Ніл Гілевіч.

**Выдавецтва «Народная асвета». Мінск, 1973 г.**

нейная, «лабавая» псіхалогія без нюансаў.

Так, напрыклад, у адной увогуле неблагой аповесці з часоў акупацыі маладая жанчына, у якой нядаўна немцы арыштавалі мужа, едзе на фурманцы з двума дзядзькамі. «Дзядзькі гаварылі пра нешта сваё, чужое ёй, а яна сядзела ціхенька», і ніводнае слова не кранула яе вуха. А ці не лепш было б, каб якое-небудзь чужое слова, хай і не зусім зразумелае і нескладнае, дайшло да гераіні, незнарок «зачапілася» б аб сваё і неяк па-новаму яго павярнула?.. Ідзі адгадай, чаму Вольга ў чэхаўскіх «Мужыках», слухаючы дачку: «И бежи во Египет... и буди тамо, дондеже реку ти...», плача пры слове «дондеже», і ўсе навокал плачуць з ёю...

Вялічкаў дзот на гародзе — менавіта адна з тых «непрадугледжаных» логікай і сюжэтам псіхалагічных «выпадковасцяў», якія і выдаюць душэўны працэс, незастылае перажыванне, яго павароты і зломы...

«Мсціжы» канчаюцца тым, што ўжо зусім было гатовы ехаць з участкам за Полацк Андрэй застаецца... «І пахла вільготная пасля дажджу зямля — хлебам, травою і расой. Пахла сырой сцяной, ля якой дома ў хаце спала Верка; пахла... лёнам і дурнап'янам... Пасля з-за свірна выйшаў Юбіцкі, падышоў да Гіры, і яны ўдвух сталі глядзець на яго, Андрэя, — чакалі».

Сурова і цяжка выпрабавана еднасць Андрэя з роднай зямлёй, з вёскай, з людзьмі, цэласнасць і адзінства яго натуры біруць верх над усім, што пагражала гэтаму адзінству, сеяла душэўную трывогу, спакушаючы адзінотай і забыццём.

Пісьменнік не стараецца нас упэўніць, быццам далейшае жыццё Андрэя будзе суцэльнай гармоніяй з самім сабой і з людзьмі. Недзе ўжо зусім блізка ад Андрэя вырастае надзвычай прывабная фігура Балюты. Ці сыдуцца яны? Аўтар гэтага не ведае. Не ведае і чытач.

Кніга пачыналася з «сярэдзіны». На «сярэдзіне», на новым вітку спіралі, на новым, нярэзкім павароце плыні яна і канчаецца...

Гэту кнігу трохі псуе, на маю думку, некаторая аднастайнасць тону, сціснутасць, неразгорнутасць плана. Можна было б сказаць: кніга залішне прыземлена, каб за антытэзу прыземленасці часам не выдавалася ў нас чыста выбарачная і павярхоўна белетрызаваная (дзеля «мастацкасці») проза «гатовых вывадаў». Лепш ужо так: спадыспаду, ад цвёрдага кораня, з самае гушчы.

І ўсё ж хацелася б бачыць у кнізе большай распрацаванасці ракурсаў, большага багацця дэталяў, згледжаных ужо не на ўзроўні саміх герояў, а недзе збоку ад іх, у пэўнай ад іх аддегласці. Як гэта было, напрыклад, у «Лонве», дзе героі (Юрка, Грасільда, Акцызнік) высвятляліся не толькі побытам, а і паэзіяй побыту, яго перспектывай і дзе паміж адным персанажам і другім адчувалася больш прасторы і «люфту» (гаворачы тэхнічнай мовай).

І глядзіце, як ажывае, якімі дадатковымі фарбамі пачынае пераліваецца і зязць эмацыянальная палітра рамана, варта ў ім паявіцца эпізоду з Балюціным сынам, салдатам-парашутыстам, які прысылае матцы вылепленага ім самім глінянага «чалавека» з надпісам: «Пушкин Мами от Саши». Нязначны, здавалася б, эпізод, а за ім — вялікі **свет**.

Вырываецца з абранага пісьменнікам кантэксту і тону (і слаўна, хораша вырываецца, на карысць раману, пашыраючы яго інтанацыйныя даляглядзы) звонкі хлопец у гарадскім аўтобусе з яго вясёлай бяссэнсіцай: «Крэмзафіл... Па-японску значыць — садзіся, бацька, на маё месца... А то, бацька, сам знаеш... Крэмзафіл... Парускy — старыкам вездзе ў нас пачот...» (Хлопца можна было б спыніць, яго «крэмзафіл» пачынае надакучваць. Наогул некаторыя персанажы залішне шмат гавораць).

Вось такіх і ўнутраных (у псіхалогіі галоўных герояў), і бакавых (ад падзеі ці ад мімалётнага персанажа) стылёвых і эмацыянальных падсветак, якія б разрэдзілі трохі душнаватую атмасферу рамана, хацелася б мець у кнізе больш...

«Мсціжы» — значная творчая ўдача Івана Пташнікава, удача ўсёй нашай прозы ў яе намаганнях даследаваць і адлюстраваць жыццё народа, стваэыць няспрошчаны, непрыгладжаны народны характар.

**Рыгор БЯРОЗКІН.**




**І. П. КОРЗУН. «ПЕРААДОЛЕННЕ АДРОЗНЕННЯЎ ПАМІЖ ГОРАДАМ І ВЁСКАЙ У ПОБЫЦЕ І КУЛЬТУРЫ».**
**(На рускай мове).**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1972.**

# ВЁСКА КРОЧЫЦЬ У БУДУЧЫНЮ

За апошнія гады беларускія этнографы дасягнулі пэўных поспехаў у вывучэнні побыту і культуры нашага народа. Жыццю рабочага класа Беларусі ў дарэвалюцыйны час і ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства прысвечаны, у прыватнасці, кнігі У. М. Іванова «Новы час — новае жыццё» і «Нарыс побыту прамысловых рабочых дарэвалюцыйнай Беларусі». Побыту і культуры сучаснай беларускай вёскі, даследаванню таго новага, што прынесціць вясковым жыхарам эканамічная палітыка партыі, прысвечана праца І. Корзуна. У кнізе робіцца спроба навуковага асвятлення важнай праблемы сучаснасці — сціранне адрозненняў паміж горадам і вёскай у вытворчасці, матэрыяльным, грамадскім жыцці, сямейным побыце і культуры.

Класікі марксізму-ленінізму навукова абгрунтавалі і даказалі, што супярэчнасці паміж горадам і вёскай былі ўласцівы ўсім без выключэння сацыяльна-эканамічным фармацыям з антаганістычнымі класамі. У. І. Ленін пісаў: «Перавага горада над вёскай (і ў эканамічных, і ў палітычных, і ў інтэлектуальных адносінах) складае агульную і непазбежную з'яву ўсіх краін з таварнай вытворчасцю і капіталізмам». І толькі сацыялістычны лад закліканы ліквідаваць спрадвечную няроўнасць, назаўсёды знішчыць эксплуатацыю вёскі капіталістычным горадам. Некаторыя ідэолагі капіталізму імкнуліся і імкнуцца даказаць, што супярэчнасці і істотныя адрозненні паміж індустрыяльным цэнтрам і сельскагаспадарчай правінцыяй, паміж прамысловай і сельскагаспадар-

чай вытворчасцямі застануцца назаўсёды, што непазбежнасць такіх супярэчнасцяў ва ўсе перыяды жыцця чалавецтва, пры ўсіх сацыяльна-эканамічных фармацыях—заканамерная і аб'ектыўная. Аднак гэта пераканаўча абвяргае гістарычны ход развіцця Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін. Ліквідацыяй прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці былі закладзены надзейныя асновы для пераадолення вострых супярэчнасцяў, а затым і адрозненняў паміж горадам і вёскай. Сацыялістычны горад, у адрозненне ад капіталістычнага, не эксплуатуе вёску. Іх агульныя намаганні скіраваны на ўмацаванне магутнасці сацыялістычнага ладу, на эканамічна-гаспадарчае і культурнае развіццё краіны.

Кніга І. Корзуна напісана на этнаграфічным і сацыялагічным матэрыяле, здабытым шляхам анкет і спецыяльных апытанняў, а таксама на матэрыяле розных даведнікаў і статыстычных зборнікаў. Складаецца яна з чатырох раздзелаў. Пра што ж канкрэтна ідзе ў ёй гаворка і якую цікавасць уяўляе яна для чытача, у прыватнасці для чытача маладога?

Першы раздзел даследавання прысвечаны зменам у жыцці беларускага сялянства за гады сацыялізму. Ён у многім носіць уступны, агульна-тэарэтычны характар. Аднак нягледзячы на гэта, раздзел атрымаўся даволі змястоўны, насычаны багатым, хоць пераважна і лічбавым, матэрыялам. Аўтар гаворыць тут аб першых кроках савецкай улады па пераадоленні карэнных адрозненняў паміж горадам і вёскай, па ліквідацыі яе спрадвечнай гаспадарчай і культурнай адсталасці, аб той вялікай дапамозе, якую аказваў і аказвае вёсцы горад. Найбольш падрабязна спыняецца даследчык на тых велізарных пераўтварэннях, што адбыліся ў вёсцы за апошняе дзесяцігоддзе. Лічбы, якія прыводзіць І. Корзун, вельмі красамоўныя, яны шмат гавораць аб сённяшняй тэхнічнай узброенасці нашай сельскай гаспадаркі, аб характары працы сённяшняга калгасніка і рабочага саўгаса, аб матэрыяльным дабрабыце савецкага сялянства. Вось толькі некалькі з іх. Калі ў 1940 годзе ў сельскай гаспадарцы рэспублікі было занята 13,4 тысячы трактароў (у пятнаццацісільным пераразліку), дык у 1970—139 тысяч, гэта значыць, у дзесяць разоў болей. Аўтамабіляў у калгасах і саўгасах Беларусі ў 1940 годзе было 6,1 тысячы штук, у 1970—52,6 тысячы; збожжаўборачных камбайнаў адпаведна—1,7 тысячы і 21,5 тысячы. Усё гэта карэнным чынам змяніла характар працы земляроба. У 1970 годзе ўборка збожжавых у калгасах і саўгасах рэспублікі была механізавана на 100 працэнтаў, пасадка бульбы—на 88 працэнтаў, апрацоўка цукровых буракоў—на 82 працэнты і г. д. Разам з ростам прадукцыйнасці працы калгаснікаў расце і іх матэрыяльны дабрабыт. За дзесяць гадоў (1958—1968) аплата працы сялян павялічылася амаль у чатыры разы.

Больш шырока пра матэрыяльны дастатак калгаснікаў, пра побыт сучаснай вёскі даследчык гаворыць у другім раздзеле. Тут ён аналізуе змены, якія адбыліся ў характары харчавання і адзення вяскоўца, вобліку вёсак і сялянскіх хат, на канкрэтных прыкладах паказваючы, як вёска няўхільна крочыць у будучыню, як яна ўсё шырэй карыстаецца дабротамі сучаснай цывілізацыі. Аблічча сучаснай калгаснай вёскі ўсё больш вызначаюць такія сельскія паселішчы, як цэнтры калгасаў «Рассвет» Кіраўскага раёна, «Гвардыя» Свіслацкага раёна, «Савецкая Беларусь» Камянецкага, імя Кірава Слуцкага, саўгасаў «Сялюта» Віцебскага, «Прагрэс» Гродзенскага, «Гвардыя» Берастовіцкага раёнаў і інш., дзе ў дамах хлебаробаў ёсць цэнтральнае ацяпленне, газ, водаправод, каналізацыя.

Шмат увагі аддае даследчык пытанням фармавання новых адносін да працы і вытворчасці ў сельскіх працаўнікоў, павышэння іх грамадскай актыўнасці, росту адукацыі і культурнага ўзроўню. Падмацоўваючы свае разважанні спасылкамі на канкрэтныя прыклады з жыцця калгасаў і саўгасаў рэспублікі, аўтар пераканаўча даводзіць, што па сваім адукацыйным узроўні і духоўных запатрабаваннях жыхар сённяшняй вёскі ў многім стаіць побач з жыхаром горада.

Апошні раздзел кнігі прысвечаны пытанням збліжэння вёскі і горада ў сямейным побыце. Істотныя змены адбыліся за гады калектыўнага гаспадарання ва ўнутрысямейных адносінах калгаснай вёскі. Раней вясковая сям'я звычайна складалася з трох ці нават чатырох пакаленняў. Найбольш распаўсюджанай сённяшняй калгаснай сям'ёй з'яўляецца сям'я з двух пакаленняў—бацькоў і нежанатых дзяцей, гэта значыць, з адной шлюбнай пары. Відавочныя змены і ў колькасным складзе сям'і. Сённяшняя вясковая сям'я складаецца з 4—5 чалавек. Па сваіх памерах сельская сям'я ўсё больш набліжаецца да гарадской. І бюджэт сялянскай сям'і таксама ўсё больш набліжаецца (па выдатках) да бюджэту гарадской сям'і. У вёсцы, як і ў гарадах, створана шырокая сетка дашкольных дзіцячых устаноў, і вясковая маці таксама мае магчымасць браць удзел у грамадска карыснай працы. Вясковыя і гарадскія дзеці сёння маюць аднолькавую магчымасць атрымаць сярэднюю і вышэйшую адукацыю, праявіць свае здольнасці ў разнастайных гуртках, секцыях, клубах і г. д.

Гаворачы аб святах, звычаях і абрадах сучаснай калгаснай вёскі, І. Корзун прасочвае іх трансфармацыю пад уплывам горада, разглядае тыя новыя святы і абрады, якія нарадзіліся ў вёсцы за гады савецкай улады, і сцвярджае, што і гэты працэс вядзе да няўхільнага збліжэння гарадскога і сельскага насельніцтва.

Такім чынам, у кнізе І. Корзуна даволі шмат інфармацыі аб інтэнсіўным росце сельскагаспадарчай вытворчасці, дабрабыце і культуры працоўных вёскі. І ў гэтым сэнсе яна, несумненна, будзе з увагаю сустрэта вучонымі—этнографамі, эканамістамі, сацыёлагамі, настаўнікамі—гісторыкамі, выкладчыкамі грамадазнаўства, увогуле чытачамі, якія цікавяцца сённяшнім днём беларускай вёскі. Шмат карыснага і павучальнага знойдуць у ёй і маладыя чытачы, у прыватнасці на тых яе старонках, дзе аўтар гаворыць аб міграцыі вясковай моладзі, аб яе «ўцёках» у горад.

Кажучы так, хочацца ўсё ж выказаць і некаторыя крытычныя заўвагі. Кніга І. Корзуна—першая навуковая праца, прысвечаная пытанням пераадолення адрозненняў паміж горадам і вёскай, і таму, натуральна, яна не пазбаўлена недахопаў.

Правільна накрэсленая ў пачатку лінія—ад разгляду сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у вёсцы да змен у матэрыяльным дабрабыце сялян, да змен у іх грамадскім жыцці і побыце—паступова губляецца, а, галоўнае, абмяжоўваецца канстатацыяй фактаў і апісальніцтвам. Аўтар, напрыклад, упускае з-пад увагі і нічога не гаворыць пра тое, што сабой уяўляе сам гістарычны працэс пераадолення адрозненняў паміж горадам і вёскай ва ўмовах сацыялістычнай дзяржавы. І. Корзун паўтарае тут памылку іншых даследчыкаў, якія лічаць галоўным у пераадоленні адрозненняў паміж горадам і вёскай усяго толькі набліжэнне вёскі да горада па ўзроўні побыту і культуры. Гэта, безумоўна, вузкі пункт гледжання. Наша партыя не зводзіць гэтай вялікай задачы толькі да таго, каб «ураўняць» жыхароў горада і вёскі па ўмовах побыту. Задача тут больш высокага парадку і заключаецца перш за ўсё ў велізарнай і працяглай рабоце па выхаванні жыхароў вёскі ў духу высокай камуністычнай свядомасці. Наогул, пераадоленне адрозненняў паміж горадам і вёскай—гэта не вырашэнне жыллёвых ці бытавых праблем (хоць гэтыя пытанні таксама ўваходзяць, як элементы, у агульны працэс), а перш за ўсё—выхаванне новага чалавека. Пры гэтым трэба адзначыць, што задача пераадолення адрозненняў зусім не ставіць на мэце поўную ліквідацыю адрозненняў паміж горадам і вёскай. У будучым усё ж захаваюцца паміж імі пэўныя адрозненні, хоць з кожным днём горад і вёска будуць мець больш рыс падабенства, чым адрознення.

Было б няблага, калі б аўтар хоць коратка прааналізаваў сутнасць праблемы пераадолення адрозненняў паміж горадам і вёскай ва ўмовах сацыялістычнага грамадства і ў капіталістычных дзяржавах. Відавочна, што гэты працэс адбываецца зараз і ў краінах капіталізму, але там ён праяўляецца перш за ўсё ў рэзкім класавым размежаванні сельскага насельніцтва: адны вырастаюць у буйных фермераў, а асноўная маса пралетарызуецца і ідзе ў горад, каб папоўніць армію гарадскіх рабочых і беспрацоўных.

Уласнага аўтарскага этнаграфічнага матэрыялу ў кнізе мала. З 18 табліц, змешчаных у даследаванні для абгрунтавання аўтарскіх вывадаў, толькі дзве з'яўляюцца вынікам уласных даследаванняў аўтара, астатнія ж узяты з розных статыстычных зборнікаў і даведнікаў. Яўна недастатковы этнаграфічны і сацыялагічны аналіз грамадска-эканамічных з'яў, што закранаюцца ў кнізе. У выніку даследаванне І. Корзуна носіць відочны інфармацыйны характар: многія сцвярджэнні і высновы толькі дэкларуюцца, а не абгрунтоўваюцца. Асабліва гэта кідаецца ў вочы там, дзе аўтар некаторыя свае абагульненні пацвярджае не фактамі і лічбамі, а цытатамі альбо спасылкамі на іншых даследчыкаў. Некаторыя ж высновы патрабуюць удакладнення: напрыклад, яго разуменне прычын дыспрапорцыі ў пасляваенным развіцці прамысловасці і сельскай гаспадаркі, суадносін форм уласнасці і прычын паходжання адрозненняў паміж горадам і вёскай і інш.

Усё гэта, вядома, зніжае вартасць цікавага даследавання.

**Міхаіл НІКІЦЕНКА,**
**Лідзія ЦЯГАКА.**

■ ■ ■



# ПІСЬМЕННІК, ГРАМАДЗЯНІН, БАРАЦЬБІТ

## ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПЛАТОНА ГАЛАВАЧА

Часам здаецца, што я бачу гэтага бялявага юнака з валявым тварам. Перада мной, нібы дакументальныя кадры, усплываюць малюнкі мінулага. І ў кожным ён — жывы, нястрымны, мэтанакіраваны.

Бачу, як, хвалюючыся, склікае бядняцкую моладзь на першы камсамольскі сход у Гарбацэвічах, як бяжыць з карабінам у руках да рэўкома, падпаленага бандытамі. Бачу, як размаўляе з удумлівай, не па ўзросце сур'ёзнай Верай Харужай, ківаючы ёй галавой, згаджаецца: так, трэба вучыцца, калі думаеш па-сапраўднаму змагацца за рэвалюцыю.

Я не ўяўляю яго без кнігі. Гэта тлумачыцца эпохай, якая раскула ланцугі на шляху ведаў, ці прагнай натурай чалавека, які больш за ўсё хацеў узбагаціцца мудрасцю жыцця? У Мінскай партшколе, дзе ён вучыўся, яго часта бачылі з кніжкай нават у сталоўцы.

Я бачу яго ў розных кутках Беларусі: у Лошніцы па-сяброўску размаўляе з адзіным камсамольцам, каб у хуткім часе стварыць ячэйку, у Межыне вядзе дыскусію аб задачах сельсаветаў, на Мсціслаўшчыне разблытвае вузел, завязаны кулакамі, у Пацічове дапамагае камуне «Камсамольская воля»...

Платона Галавача прывяла ў літаратуру баявая камсамольская і партыйная работа, імкненне зрабіць слова сродкам выхавання працоўнага чалавека. Ён быў актыўным удзельнікам сацыялістычнага будаўніцтва, сведкам найвялікшых гістарычных падзей. Адсюль глыбокае веданне жыцця, усхваляванасць, грамадзянскі тэмперамент і сумленнасць, якімі вызначаюцца яго публіцыстычныя і мастацкія творы. Нялітасцівы лёс адвёў яму нядоўгі век: ён пражыў 34 гады. А яго літаратурная, грамадская дзейнасць працягвалася ўсяго дванаццаць гадоў.

Яго раман і аповесці выдаваліся на рускай, украінскай, польскай, яўрэйскай мовах. Толькі ў 1967 годзе выдавецтвы «Художественная литература» і «Молодая гвардия» выпусцілі яго творы агульным тыражом у сто тысяч экземпляраў.

Крытыкі 30-х гадоў у адзін голас сцвярджалі, што ўжо першымі творамі П. Галавач заняў выдатнае месца ў беларускай літаратуры, называлі яго адным з пачынальнікаў беларускай сацыялістычнай культуры. З вялікай цеплынёй гаварылі аб яго таленце пісьменнікі Беларусі і братніх рэспублік. Якуб Колас назваў П. Галавача прадстаўніком новай плеяды літаратараў, якія ставяць злабадзённыя праблемы, уцягваюць у свой паток новыя творчыя сілы. Багацце моўна-стылявых сродкаў маладога пісьменніка адзначаў Цішка Гартны. У. Лідзін адносіў П. Галавача да тых, каго вызначае прага стварыць новую беларускую літаратуру, страсная вера ў лёс свайго народа. Грузінскі пісьменнік К. Лордкіпанідзе пісаў, што творы П. Галавача служаць справе інтэрнацыянальнага выхавання працоўных.

І ў той жа час у ацэнках яго творчасці дапушчана шмат блытаніны, суб'ектывізму, меркаванняў, не маючых нічога агульнага з метадам марксісцка-ленінскай крытыкі. У штыхі была сустрэта першая вострa публіцыстычная аповесць П. Галавача «Вінаваты», у якой аўтар паўстае супраць эгаізму, коснасці, бюракратызму.

Высока ацаніў гэтую аповесць лаўрэат Ленінскай прэміі Іван Мележ. У дакладзе на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, які адбыўся напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, ён гаварыў: «Ад кнігі да кнігі развіваліся і мужнелі маладыя літаратары. Праз якія два гады пасля першай кніжкі Платон Галавач даў глыбокую, спелую аповесць «Вінаваты».

Думкі аб неабходнасці яднання ўсіх народаў у змаганні за камунізм найбольш поўна выказаны ў яго аповесцях «Носьбіты нянавісці», «Яны не пройдуць», напісаных у апошнія гады жыцця.

У сярэдзіне 30-х гадоў П. Галавач звяртаецца да гісторыка-рэвалюцыйных тэм, узнімае важныя праблемы міжнароднага братэрства працоўных. Было гэта невыпадкова. Фашысты рыхтаваліся напасці на Савецкі Саюз, адчувалася набліжэнне крывапралітнай вайны. Сумленне пісьменніка-публіцыста не дазваляла маўчаць. З'яўляюцца аповесці «Носьбіты нянавісці» і «Яны не пройдуць», дзе гучыць заклік да пільнасці, класавай непрымірымасці, да аб'яднання ўсіх рэвалюцыйных сіл для барацьбы супраць імперыялізму.

Платона Галавача пастаянна хвалявалі праблемы дружбы народаў, сувязі беларускіх пісьменнікаў з літаратарамі іншых рэспублік і дзяржаў. Ён шмат ездзіць па краіне, бывае на многіх інтэрнацыянальных вечарах, на якіх абавязкова выступае. У шматлікіх дэлегацыях беларускіх пісьменнікаў амаль заўсёды нязменны П. Галавач, «які сваёй энергіяй і палымянасцю нагадвае Фадзеева». Гэтыя словы літаратуразнаўцы М. Смолкіна цалкам адпавядаюць сапраўднасці. Займаючы ключавыя пазіцыі ў грамадска-літаратурным жыцці рэспублікі, Галавач актыўна ўдзельнічаў ва ўмацаванні інтэрнацыянальных сувязяў беларускай літаратуры з рускай, украінскай, грузінскай, польскай і іншымі літаратурамі.

Платон Галавач неаднаразова выязджаў на Украіну. У складзе брыгады беларускіх пісьменнікаў разам з Я. Купалам, А. Александровічам, М. Лыньковым ён прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці Дняпроўскай ГЭС, наведаў Краматорскі машынабудаўнічы і Харкаўскі трактарны заводы. 19 жніўня 1933 года на параходзе «Анохін» разам з інтэрнацыянальнай групай пісьменнікаў Расіі, Украіны, Беларусі, Сярэдняй Азіі ён адправіўся аглядаць Беламорска-Балтыйскі канал, які тады толькі што ўвайшоў у строй. На параходзе ён сустрэўся з Леанідам Ляонавым, Валянцінам Катаевым, Львом Нікуліным, Міхаілам Зошчанкам, Аляксандрам Безыменскім. П. Галавач вёў дарожны дзённік, запісваў расказы будаўнікоў канала, свае назіранні.

Рускія пісьменнікі і крытыкі зрабілі вельмі многа, каб літаратурны талент П. Галавача хутчэй раскрыўся ва ўсёй шматграннасці. Яны перакладалі яго творы на рускую мову, пісалі грунтоўныя рэцэнзіі, дапамагалі заўвагамі ці проста чулым словам пры сустрэчы. Асабліва вялікі ўплыў на яго творчы шлях аказалі неаднаразовыя сустрэчы з Максімам Горкім, перапіска з Уладзімірам Лідзіным.

У. Лідзін адным з першых сярод рускіх пісьменнікаў падтрымаў П. Галавача, даў высокую ацэнку яго творчасці. У прамове на трэцім Пленуме праўлення ССП СССР, які праходзіў у лютым 1936 года ў Мінску, ён аднёс Платона Галавача да найбольш здольных беларускіх пісьменнікаў: «Пачуццё самазаспакоенасці ёсць адзнака застою. Гэтага пачуцця ў Галавача няма. Ён шукае сваю тэму, свой стыль, упарта працуе над сабою, і гэта прымушае паставіцца з увагай не толькі да таго, што пісьменнік ужо даў, але і да яго будучага». Паводле слоў прамоўцы, кніга «Праз гады» сведчыць пра мастацкую і палітычную спеласць П. Галавача...

Немалая заслуга належыць П. Галавачу і ў стварэнні і кіраўніцтве Саюза беларускіх пісьменнікаў, членам праўлення якога ён пастаянна з'яўляўся. Многа сіл аддаў ён рэдагаванню «Полымя рэвалюцыі». Тыя, каму даводзілася сустракацца з Платонам Галавачом як з рэдактарам, памятаюць яго як вельмі чулага і добразычлівага дарадчыка, які з вялікай увагай адносіўся да твораў маладых і старэйшых пісьменнікаў. Змітрок Бядуля на першым з'ездзе пісьменнікаў Беларусі сказаў пра Платона Галавача словы, поўныя глыбокай удзячнасці і павагі: «Я ведаю з уласнай практыкі такія моманты, калі пісьменнікі мне вельмі дапамаглі. Мне трэба было здаць у друк другі том рамана «Язэп Крушынскі». Рэдактарам гэтага тома быў П. Галавач. З якой чуласцю, з якім чалавечым падыходам ён дапамагаў мне ў шліхаванні рамана. Праўда, пасля гэтага я працаваў над ім яшчэ тры месяцы, але з такой удзячнасцю да тав. Галавача, як да нікога іншага, і калі ёсць некаторыя заслугі ў маім рамане «Язэп Крушынскі», дык гэта дзякуючы дапамозе Галавачу».

Не шмат паспеў зрабіць за сваё кароткае жыццё Платон Галавач — яго малады, светлы талент толькі набіраўся моцы. Але тое, што ён здолеў напісаць, што змог сказаць у сваіх кніжках, застаецца ў памяці і сэрцах людзей. Правільна сказаў аднойчы Уладзімір Лідзін:

«Тое, што стварыў Галавач, час не заглушыць і не ўнясе з сабой. Яго кнігі застануцца ў нашай літаратуры, як застанецца і вобраз гэтага дастойнага сына свайго народа, удумлівага пісьменніка, да якога адчуваеш удзячнасць за ўсё тое, што паспеў зрабіць ён за сваё кароткае жыццё».

Эдуард **КАРНІЛОВІЧ**.






## 1973

### МАЙ

**1**
**Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных.**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) А. І. Кроля, мастака-жывапісца.

25 гадоў з дня ўступлення ў строй (1948) у Магілёве аднаўленай фабрыкі штучнага шоўку.

**4—8**
50 гадоў назад (1923) адбыўся VI з'езд КСМБ.

**9**
**Свята Перамогі.**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) В. У. Івашына, беларускага літаратуразнаўцы, акадэміка Акадэміі педагагічных навук СССР, дырэктара Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР.

**10**
50 гадоў з дня нараджэння (1923) В. Ф. Трыхманенкі, пісьменніка.

**11**
90 гадоў з дня нараджэння Янкі Маўра (І. М. Фёдарава) (1883—1971 г.г.), вядомага беларускага дзіцячага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры БССР.

**15**
60 гадоў з дня нараджэння (1913) І. Б. Элентуха, мастацтвазнаўцы.

**20**
50 гадоў з дня нараджэння (1923) І. М. Сталярова, беларускага мастака-графіка.

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. П. Кузьмічова, пісьменніка.

**25**
40 гадоў з дня адкрыцця (1933) Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР.

**29**
60 гадоў з дня нараджэння (1913) І. С. Кавалёва, вучонага-фізіка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.


А. І. Кроль.


В. У. Івашын.


В. Ф. Трыхманенка.

І. С. Кавалёў.



А. П. Кузьмічоў.



Янка Маўр.





# НАШ ПРАКТЫКУМ

## ХІМІЯ

Падаём адзін з білетаў, якія прапаноўваліся на ўступным экзамене па хіміі для паступаючых на біяхімічнае і геабіялагічнае аддзяленні прыродазнаўчага факультэта Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага.

Білет №

1) Аміяк, атрыманне, фізічныя і хімічныя ўласцівасці. Гідравокіс амонію. Утварэнне іона амонію. Солі амонію.

2) Гранічныя вуглевадароды. Гамалагічны рад метану. Метан, будова, прырода хімічнай сувязі, хімічныя ўласцівасці.

3) Колькі грамаў ізабутылавага спірту трэба ўзяць, каб шляхам дэгідратацыі атрымаць 5,6 л ізабутылену?

**Адказ:**

1) У лабараторыі аміяк можна атрымаць апрацоўкай аманійных соляў асновамі:



$$NH_4Cl + NaOH = NH_3\uparrow + H_2O + NaCl.$$

У прамысловасці аміяк атрымліваюць па рэакцыі:



$$N_2+3H_2 \rightleftarrows 2NH_3,$$

якую праводзяць ў прысутнасці каталізатара, пры ціску і тэмпературы.

Аміяк — бясколерны газ, які кіпіць пры t=33,35° і замярзае пры t=−77,8°. Па фізічных уласцівасцях вадкі аміяк нагадвае ваду, асацыяцыя ўзнікае ў выніку палярнай прыроды яго малекул і моцнай вадароднай сувязі.

Найбольш важнымі рэакцыямі з'яўляюцца рэакцыі аміяку з кіслародам і вадой. Аміяк гарыць у чыстым кіслародзе, але толькі пры адпаведных умовах. Звычайнае згаранне на паветры адбываецца па ўраўненні рэакцыі:



$$4NH_3+3O_2=2N_2+6H_2O.$$

Аміяк можа акісляцца да вокісу азоту, калі працэс весці пры t=750—900° у прысутнасці каталізатара:



$$4NH_3+5O_2=4NO+6H_2O.$$

Апошняя рэакцыя ляжыць у аснове выкарыстання атмасфернага азоту ў наступнай паслядоўнасці:



$$N_2 \xrightarrow{+H_2} NH_3 \xrightarrow{+O_2} NO \xrightarrow{O_2+H_2O} HNO_3.$$

Растваральнасць аміяку ў вадзе выключна вялікая. Водны раствор аміяку ў вадзе з'яўляецца гідратам вокісу амонію.



$$NH_3 + H_2O \rightleftarrows NH_4^+ + O\bar{H}.$$

Катыён амонію ўтвараецца шляхам далучэння пратона вадароду да азоту за кошт непадзеленай пары электронаў азоту па донарна-акцэпторным механізме, дзе азот выступае ў ролі донара, а пратон — акцэптара.



$$H_3\underline{N} + H^+ \longrightarrow \left[\begin{matrix} & H & \\ & | & \\ H - & N & - H \\ & | & \\ & H & \end{matrix}\right]^+.$$

Утвараецца становча зараджаны катыён амонію (дзе азот з'яўляецца чатырохкавалентным), які сіламі электрастатычнага прыцягнення звязан з гідраксілам.

$NH_4OH$ можна лічыць моцнай асновай, паколькі ён цалкам дысацыраваны ў вадзе.

Існуе мноства ўстойлівых крышталічных соляў іона амонію; большасць з іх раствараецца ў вадзе, накшталт соляў шчолачных металаў.

$NH_4Cl$ — хлорысты амоній.

$NH_4NO_3$ — нітрат амонію.

$(NH_4)_2SO_4$ — сульфат амонію.

2) Вуглевадародамі называюць самыя простыя арганічныя злучэнні, якія складаюцца з вугляроду і вадароду. Гранічныя вуглевадароды ўтвараюць гамалагічны рад з агульнай формулай $C_nH_{2n+2}$. Першы прадстаўнік гэтага раду — метан, у якім атам вугляроду ўтварае чатыры кавалентныя сувязі за кошт аднаго S-электрона і трох P-электронаў, а атам вадароду — за кошт адзінага S-электрона. Таму з чатырох вуглярод-вадародных сувязяў тры павінны быць P — S і адна S — S сувязямі. Здавалася б, што тры сувязі вуглярод-вадародныя будуць аднолькавыя, а адна павінна адрозніваца ад іх. Аднак усе чатыры вуглярод-вадародныя сувязі ў метане эквівалентныя, што пацвярджаецца фізічнымі і хімічнымі дадзенымі. Гэтая супярэчнасць была ліквідавана Л. Полінгам увядзеннем паняцця гібрыдызацыі. S- і P-арбіталі маюць розную прасторавую канфігурацыю: S-арбіталі форму шара, P-арбіталі форму аб'ёмнай васьмёркі. Да ўтварэння сувязі ідзе працэс пераразмеркавання S- і P-арбіталяў (іх камбінаванне паміж сабой) з утварэннем чатырох роўных гібрыдных арбіталяў:




Гэты від гібрыдызацыі носіць назву $SP^3$-гібрыдызацыя.

$SP^3$-гібрыдныя арбіталі маюць форму няправільнай васьмёркі, яны ж і ўдзельнічаюць ва ўтварэнні кавалентных сувязяў за кошт вялікай сферы.

Максімальнае перакрыццё $SP^3$-гібрыдных арбіталяў з S-арбіталямі атамаў вадароду адбываецца пад вуглом 109° 28′, гэта абумоўлівае тэтраэдрычную канфігурацыю метану.




Утвараюцца чатыры трывалыя σ-сувязі. Паколькі ўтварыліся трывалыя сувязі, для метану характэрны тып рэакцыі замяшчэння:

**1). Рэакцыя галаідыравання.**




Рэакцыя галаідыравання можа працякаць паслядоўна да ўтварэння $CCl_4$-чатыроххлорыстага вугляроду.



**2). Рэакцыя нітравання.**

Умовы рэакцыі нітравання распрацаваў М. І. Канавалаў — нітраванне вядуць разбаўленай азотнай кіслатой пры тэмпературы і ціску.




**3). Рэакцыя сульфіравання.**




3). Пішам ураўненне рэакцыі дэгідратацыі:



Пры нармальных умовах І моль ізабутылену займае аб'ём 22,4 л. Для яго атрымання патрабуецца І моль ізабутылавага спірту, малекулярная вага якога роўна 74,12 у. а. Можна скласці прапорцыю:

22,4 л — 74,12 г

5,6 л — х

$$X = \frac{74,12 \cdot 5,5}{22,4} = 18,53 \text{ г.}$$

Жадаючыя могуць самастойна адказаць на наступны білет:

1) Электралітычная дысацыяцыя. Механізм растварэння ў вадзе рэчываў з рознымі характарамі сувязяў. Гідратацыя іонаў.

2) Гамалагічны рад гранічных аднаатамных спіртоў. Вадародная сувязь і яе ўплыў на фізічныя ўласцівасці спіртоў. Генітычная сувязь паміж вугляродамі і спіртамі. Хімічныя ўласцівасці.

3) Скласці схему пераходу электронаў і падабраць каэфіцыенты ва ўраўненні рэакцыі:




(разбаўленая)

**Ала ПЯТРАЕВА,**
**кандыдат хімічных навук.**



# ЯКІ ЁН БУДЗЕ, СЕЗОН БЕЗ «НІЧЫІХ»?

### НЕКАЛЬКІ КАРОТКІХ ІНТЭРВ'Ю З МІНСКІМІ ДЫНАМАЎЦАМІ

Мінулы, трыццаць чацвёрты чэмпіянат краіны па футболу прынёс аматарам гэтай гульні нямала радасці, а яшчэ болей засмучэнняў і расчараванняў. Няблага выступалі нашы клубныя каманды «Дынама» (Кіеў) і «Спартак» у розыгрышах Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў і Кубка кубкаў. Самаўпэўненасць падвяла армянскіх футбалістаў у розыгрышы Кубка УЕФА (Еўрапейская асацыяцыя футбола). Зборная краіны гуляла няроўна: цікавыя сустрэчы чаргаваліся з няўдалымі, невыразнымі, у якіх савецкія футбалісты гулялі відочна ніжэй сваіх магчымасцяў.

І яшчэ адна асаблівасць мінулагодняга сезона: упершыню «паў» трыумвірат гарадоў, дзе мелі прапіску футбольныя чэмпіёны. Да Масквы, Кіева і Тбілісі далучыўся Варашылаўград— мясцовая «Зара» ўзышла (для многіх, пэўна, нечакана) на футбольны алімп краіны.

За некалькі дзён да ад'езду мінскіх дынамаўцаў на поўдзень я пабываў у Стайках, у новым спартыўным манежы.

12 гадзін. Пачынае заняткі чарговая група футбалістаў. Пазнаю Анатоля Васільева, Уладзіміра Сахарава, Уладзіміра Курнева, Генадзя Вароніна, Барыса Белавуса. Пасля невялікай размінкі ўсе збіраюцца каля адзінаццаціметровай адзнакі. У варотах—Міхась Вяргеенка. Кожны з футбалістаў па некалькі разоў б'е па варотах.

— Ці не новым палажэннем выклікана гэтая трэніроўка?—пытаюся ў настаўніка дынамаўцаў Івана Іванавіча Мозера.

— Але ж! Новае палажэнне аб правядзенні чэмпіяната краіны прымушае нас звяртаць увагу на падрыхтоўку спецыялістаў забіваць пенальці. Летась мы гэта рабілі няўдала, хочацца спадзявацца, што сёлета хлопцы будуць біць па варотах больш трапна.

— Вызначаеце асноўную пяцёрку «бамбардзіраў»?

Іван Іванавіч усміхаецца:

— Не, пакуль што проста трэніруемся. Асноўную пяцёрку вызначым пасля. А ўвогуле дакладна біць па варотах павінны ўмець усе, бо калі першая серыя ўдараў будзе безвыніковай, усё пачнецца спачатку.

Старшы трэнер каманды просіць прабачэння—яму трэба зрабіць некаторыя заўвагі «стралкам» і варатару, а я тым часам гутару з урачом дынамаўцаў Георгіем Барткевічам.

— Як адчуваюць сябе футбалісты пасля афрыканскага турнэ?

— Паездка была, вядома, не з лёгкіх. Па-першае, каляндар гульняў быў жорсткі. Мяркуйце самі: сем сустрэч за трынаццаць дзён. А, па-другое, Афрыка ёсць Афрыка: высокая вільготнасць паветра, невыносная гарачыня. Усё гэта, канечне, адбілася на самаадчуванні хлопцаў. Праўда, умовы для адпачынку былі створаны неблагія.

— А зараз усе ў форме, як кажуць?

— Дыспансерызацыя, якая была праведзена ў студзені, паказала, што па сваіх функцыянальных магчымасцях усе гатовы да вялікіх нагрузак. У гэтым годзе прынята пастанова федэрацыі футбола аб павелічэнні аб'ёму і інтэнсіўнасці нагрузак для футбалістаў у часе перадсезоннай падрыхтоўкі. Таму і трэнерам каманды, і мне, урачу, даводзіцца быць больш уважлівымі, пэўным чынам дазіраваць трэніровачныя нагрузкі індывідуальна для кожнага іграка. Сёння ўсе члены каманды прыступілі да работы...

Скончыліся заняткі. Праз некаторы час дынамаўцы зноў вернуцца ў манеж, а ў старшага трэнера «Дынама» пакуль што ёсць некалькі хвілін вольнага часу. Спрабую пагутарыць з ім больш падрабязна.

— Калі каманда пачала рыхтавацца да новага сезона?

— Магу назваць нават канкрэтны дзень,—адказвае Іван Іванавіч.— З 20 лістапада мінулага года ўсе былі ў адпачынку, а 6 снежня, напярэдадні ад'езду ў Афрыку, мы пачалі рыхтавацца да міжнародных гульняў. Гэты дзень мы і лічым пачаткам падрыхтоўкі да сезона. У Кеніі і Угандзе правялі сем сустрэч, 31 снежня вярнуліся дадому. Тыдзень адпачывалі, а 8 студзеня зноў прыступілі да работы. Займаемся шэсць дзён на тыдзень. Пяць дзён—заняткі двухразовыя: да абеду і пасля абеду. Першыя тры тыдні—першы этап падрыхтоўкі—тут, у Мінску. Найбольш увагі аддаём агульнафізічнай падрыхтоўцы, што будзе добрай асновай для паспяховай работы на другім этапе. Тады на першы план стануць вынослівасць на хуткасць і тактыка. Другі этап мы пачалі таксама тут, у Стайках, а скончым у Гаграх, дзе правядзём кантрольныя гульні і будзем рыхтавацца непасрэдна да кубкавых баталій і да гульняў чэмпіяната.

— Сёлета вы выязджаеце на поўдзень крыху пазней, чым у мінулыя гады. Ці не «вінаваты» ў гэтым новы манеж?

— Канечне! Новы манеж дае нам магчымасць працаваць над тэхнікай, праводзіць заняткі па тактыцы, разыгрываць камбінацыі, тут мы можам удасканальваць сярэднія і нават доўгія перадачы...

— Якія, выбачайце, памеры залы?

— Пяцьдзесят чатыры на трыццаць шэсць метраў. У такой зале можна працаваць!

— Штогод, як звычайна, каманда абнаўляецца. Якія змены адбыліся ў «Дынама» сёлета?

— Увогуле невялікія. Пакінулі футбол—у сэнсе, поле—Эдуард Малафееў і Яўген Талейка, адлічаны з каманды Кірычэнка, Паўленка, Папковіч і Мацвяйчук. Сярод навічкоў— Цімафееў, Літвінаў і Томанаў. Хоць яны і маладыя, але ўжо выступалі за вопытныя каманды. Цімафееў гуляў у маскоўскім «Лакаматыве», Літвінаў— у «Гомсельмашы», Томанаў—у гродзенскім «Хіміку». Будуць выступаць у нас і юнакі з групы падрыхтоўкі. Летась у дубліруючым складзе гуляў Пракапенка з бабруйскага «Будаўніка». Ён пакідае неблагое ўражанне. Думаем, што з яго вырасце добры футбаліст.

— Многія аматары футбола з хваляваннем сустрэлі новае палажэнне аб розыгрышы чэмпіяната краіны. Чым, на вашу думку, выклікана такое рашучае адмаўленне ад «нічыіх»?

— Мяркую, што яно звязана з вялікай колькасцю «нічыіх», з тым, што ўвогуле клас гульні знізіўся, што не вельмі ўдала выступае на міжнародных турнірах зборная. Кіраўніцтва Спорткамітэта вырашыла прыняць рашучыя захады. Новае палажэнне, у прыватнасці адмаўленне ад «нічыіх»—эксперымент, які ўпершыню праводзіцца ў сусветнай практыцы. Гаварыць, што ён прынясе, якія будуць вынікі, не рашаюся. Чаму? Ды таму, што штучна паўплываць на якасць гульні цяжка. Як бы там ні было, а якасць, клас гульні залежыць ад майстэрства, майстэрства ж—ад вучэбна-трэніровачнага працэсу. Я не сумняваюся, што зараз усе каманды аддадуць асаблівую ўвагу адзінаццаціметровым. І ігракі будуць біць іх лепш, чым раней. Серыі адзінаццаціметровых будуць велізарнай нагрузкай, перш за ўсё, вядома, нервовай, для каманды і для тых, каму выпадзе біць пенальці. І цяпер цяжка сказаць, калі футбаліст затраціць больш нервовай энергіі: ці за дзевяноста хвілін матча, ці за тыя лічаныя секунды, калі ён будзе стаяць адзін перад варатаром.

— Балельшчыкі сцвярджаюць, што наша «Дынама»—адна з самых маладых каманд краіны. Ці праўда гэта?

— Па ўзросту ігракоў каманда наша сапраўды маладая. Сярэдні ўзрост «Дынама»—22,7 года, а асноўнага складу—23,7. З моладдзю цікава працаваць, але і цяжка, складана. У маладых няма вопыту, а вопыт у футболе проста неабходны. Праўда, у нас ёсць вопытныя ігракі, і мы спадзяёмся, што яны павядуць за сабой мала-

дых. Маю на ўвазе Васільева, Сахарава, Багавіка, Гірко і іншых.

— Каго б яшчэ вы вылучылі, з кім звязваеце асаблівыя надзеі?

— Вопытныя ў нас Кузняцоў, Словак... Увогуле ў камандзе няма навічкоў, якія б толькі пачыналі гуляць. Скажу нават, што каманда, на мой погляд, стабілізавалася і мае пэўны вопыт спартыўнай барацьбы.

— А калі ёсць вопыт, дык, значыць, перад камандай ставяцца і пэўныя задачы. Якія планы «Дынама» ў гэтым годзе?

— Мы ставім перад сабой задачу: быць у першай пяцёрцы. Само сабой зразумела, што задача гэта не простая і не лёгкая. За месца ў першай пяцёрцы будуць змагацца 10—12 каманд...

— Прыблізна аднолькавых па сваіх магчымасцях...

— Можа, і не зусім аднолькавых. Гэта будуць і каманды, якія летась былі ў першай пяцёрцы, і каманды, якія скончылі мінулы сезон нават горш, чым мы. Тры маскоўскія каманды—«Тарпеда», «Дынама» і «Спартак»— натуральна, будуць прэтэндаваць на высокія месцы ў табліцы розыгрышу. Пастараюцца ўтрымаць свае пазіцыі ці выступіць нават лепш і тыя, што былі вышэй за нас у турнірнай табліцы. Адным словам, прэтэндэнтаў на першую пяцёрку будзе багата. Аднак я думаю, што мы маем падставы спадзявацца ўвайсці ў яе...

Наступным маім субяседнікам быў Анатоль Васільеў, капітан каманды.

— Анатоль, чым зараз жывуць хлопцы? Як настрой? Якія планы?

— Настрой, калі можна так сказаць, адпаведны. Мы ўзмоцнена трэніруемся—рыхтуемся да новага сезона. Працуем вельмі старанна, шмат. Усе гараць жаданнем выступіць лепш, чым у мінулым годзе. Пастараемся трапіць у пяцёрку.

— Каго б вы хацелі бачыць побач з сабой на полі?

— Пакінуў нас Эдуард Малафееў, прыйшлі Цімафееў і Літвінаў. Напэўна, яны будуць гуляць уперадзе. Кажу—напэўна, бо пакуль што лінія нападзення ў камандзе самая малалікая.

— Атмасфера, узаемаадносіны ў камандзе...

— На мой погляд, добрыя. Сварак, недружалюбнасці няма. Усе старанна трэніруюцца. І гэта—самае галоўнае, бо сезон будзе, па ўсім відно, вельмі цяжкі. Новае палажэнне, несумненна, паспрые абвастрэнню барацьбы. Праўда, не ведаю толькі, ці на карысць справе.

— Вам гэтае палажэнне не да спадобы?

— Асабіста мне—не...

Да нас падыходзіць Валеры Сямёнаў, камсорг каманды. Звяртаюся да яго:

— Як вам, Валеры, жывецца з новымі клопатамі?

— Клопатаў, вядома, прыбавілася. І адказнасці. Як-ніяк у нас дваццаць два камсамольцы... Але, думаецца, балельшчыкам найперш цікава, як мы будзем гуляць. На гэта скажу пакуль што коратка: стараемся. Нас балельшчыкі звычайна бачаць на полі. І прыемна, што ў апошні час мы сустракаемся з імі ў зале: сталі традыцыйнымі вечары сустрэч дынамаўцаў з рабочымі, калгаснікамі, студэнтамі. Здараецца, што на іх нам здорава дастаецца. Але мы стараемся не крыўдаваць. Натуральна, каб не чуць у свой адрас крыўдных слоў і папрокаў, мы павінны лепш выступаць на полі.

Неўзабаве дынамаўцы зноў былі ў манежы—пачалася другая ў той дзень трэніроўка...

На гэтым можна было б і закончыць, але была і яшчэ адна сустрэча—з Эдуардам Малафеевым. Балельшчыкі, вядома ж, памятаюць той момант, калі пад час апошняга матча дынамаўцаў у мінулым сезоне Эдуард Малафееў перадаў сваю капітанскую майку Анатолю Васільеву, апошні раз ударыў па мячы і са слязьмі на вачах пакінуў поле. Не, не пакінуў. Яго неслі на руках сябры, тыя, хто быў поруч з ім на полі не адзін дзесятак матчаў. Балельшчыкі не бачылі, не маглі бачыць, што на вачах сяброў таксама былі слёзы...

Эдуард Малафееў пакінуў вялікі футбол. Цяпер ён—трэнер групы падрыхтоўкі пры камандзе майстроў.

— Эдуард, вы аддалі футболу чатырнаццаць гадоў. Гэта амаль палова вашага жыцця. Што вы скажаце аб футболе як аб спартыўнай гульні?

— Футбол—адзін з цікавейшых і масавых відаў спорту. Яму аддаюць свае сэрцы і хлапчукі, і людзі з сівелымі скронямі. У маім жыцці футбол не быў выпадковасцю. Любоў да яго—сямейная. Мой бацька і зараз працуе футбольным трэнерам у Каломне. Там, у Каломне, вывучаў футбольны «буквар» і я. Адтуль быў запрошаны ў «Спартак», а неўзабаве—у мінскае «Дынама». Дзесяць гадоў выступаў за гэтую каманду. Тут радаваўся і засмучаўся, адсюль «прызываўся» пад сцяг зборнай краіны. І чым часцей выходзіў я на футбольнае поле, тым больш акрэсліваўся, вызначаўся мой лёс. Пэўна, «дзякуючы» футболу застаўся няскончаным політэхнічны інстытут. Ці пашкадую аб гэтым? Хто ведае... Цяпер заканчваю інстытут фізічнай культуры. Футбол даў мне шмат. Ён дапамог сустрэць харошых сяброў—Ігара Роміна, Юрыя Пагальнікава, Івана Савосцікава, Міхаіла Мустыгіна, Эдуарда Зарэмбу... Калі я мог сяго-таго дасягнуць, дык толькі з іх дапамогай. Гэта не пахвальба, калі скажу, што і я, і тыя, каго я тут называў, любілі футбол смааддана, і гэтая любоў здружыла нас. Зрэшты, у гэтай самаадданасці і дружбе бачацца мне і прычыны поспеху мінскага «Дынама» ў шасцідзесятых гадах. Самаадданасць, працавітасць у футболе—ці не галоўнае!

— Эдуард, у чэмпіянатах краіны вы ўдзельнічалі ў 244 гульнях, правялі звыш сарака матчаў у складзе зборнай краіны. На вашым рахунку—106 забітых мячоў, у тым ліку 6—у матчах зборнай. Што найбольш запала ў душу?

— Цікавых сустрэч было шмат. Памятаю матч у Данецку, калі мы перамаглі з лікам 5 : 0. Добра памятаю паядынкі з маскоўскімі спартакаўцамі, дынамаўцамі і тарпедаўцамі, з кіеўскімі аднаклубнікамі. Гэта, несумненна, вядучыя клубы краіны, і з імі заўсёды даводзілася гуляць з поўнай аддачай, а, значыць, гуляць цікава. З гульняў у складзе зборнай запомніўся матч са зборнай ФРГ у Англіі на чэмпіянаце свету, дзе некалькі хвілін не хапіла нам, каб выйсці ў фінал. Памятаю гол, забіты ў Афінах у вароты зборнай Грэцыі. Гэты гол вывеў нас у чвэрцьфінал чэмпіяната Еўропы.

— Многія балельшчыкі лічаць, што пакінуць вялікі футбол вас прымусіла траўма. Ці так гэта?

— Доля праўды тут ёсць, але, прызнаюся, думаў я над такім крокам і раней. Магчыма, калі б не траўма, яшчэ адзін-два сезоны і пагуляў бы. Але некалі ўсё роўна трэба ставіць кропку. Я вырашыў: хай гэта будзе раней...

— Зараз модна лепшых футбалістаў пакідаць пры камандзе трэнерамі. Выбачайце, але...

— Не ведаю, магчыма, і модна. Ды мяне гэта наўрад ці тычыцца. Я буду працаваць пакуль што з дзецьмі. Калі што-небудзь цікавае атрымаецца з гэтага, буду рады. Увесь свой вопыт, веды пастараюся перадаць тым, хто па-сапраўднаму хоча прысвяціць сябе спорту.

— У чым вы бачыце будучыя поспехі «Дынама»?

— У першую чаргу—у аддачы гульні. На сучасным этапе развіцця футбола футбаліст павінен трэніравацца не дзве, а пяць-шэсць гадзін у дзень. У гэтым сэнсе—па самааддачы—я не баюся параўнаць футбол з мастацтвам. Я ведаю, як шмат даводзіцца працаваць, напрыклад, артыстам, каб на сцэне ў іх не было фальшу. Так павінен працаваць і футбаліст—маю на ўвазе працу над сабой... Хацелася б, каб такія нашы дынамаўцы, як Саша Ламакін, Валодзя Курнееў, Ігар Грыгор'еў і іншыя, раскрыліся ў новым сезоне перад балельшчыкамі ва ўсіх сваіх магчымасцях. А магчымасці ў іх ёсць, і немалыя. Веру я таксама і ў Анатоля Васільева, Уладзіміра Сахарава, Генадзя Вароніна. Менавіта яны павінны стаць запявaламі ў камандзе—майстэрства і вопыту ім не пазычаць. Спадзяюся, што надзейна будуць «стаяць» Валеры Словак, Віктар Гірко, Яўген Кузняцоў і Валеры Сямёнаў—каб менш было работы ў Мішы Вяргеенкі.

— Што б вы хацелі пажадаць чытачам «Маладосці»?

— Па-першае, хачу праз часопіс выказаць падзяку ўсім аматарам футбола за ўвагу, любоў і падтрымку, якія я адчуваў на працягу ўсіх дзесяці сваіх дынамаўскіх гадоў. А маладым прыхільнікам спорту хачу параіць адно: каб выйсці на спартыўную сцяжынку,—не цурайцеся і не бойцеся працы, бо толькі яна дапаможа дасягнуць спартыўных (у тым ліку і футбольных) вяршынь.

Інтэрв'ю ўзяў
**Леанід ЗДАНОВІЧ.**



**Напярэдадні новага, сёлетняга. На парадку дня—трапнасць «пенальцістаў» і надзейнасць варатара.**



# нашы аўтары

●

**МАКАЛЬ Пятрусь** нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Крушыняны на Беласточчыне. Скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут імя Я. Купалы і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Цяпер—загадчык літаратурнай часткі Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Аўтар зборнікаў вершаў «Першы след», «Вятрам насустрач», «Вечны агонь», «Круглы стол», «Акно», «Лірыка» і іншых.

●

**КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна** нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Завочна вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і настаўнічае на Лагойшчыне.

●

**ХОМЧАНКА Васіль** нарадзіўся ў 1919 годзе ў вёсцы Канічы Касцюковіцкага раёна. Скончыў Ваенна-юрыдычную акадэмію. Працаваў на Далёкім Усходзе на будаўніцтве чыгункі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.
Аўтар кніг «Наша вячэра», «Рукавіцы генерала Даватара», «Суседзі», «Аднойчы майскім днём», «Чырвоны мак», «Верны рыцар», «Чырвоныя хвалі» і інш.

●

**ЗУЁНАК Васіль** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў адказным сакратаром газеты «Піянер Беларусі», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць». Цяпер—галоўны рэдактар часопіса «Бярозка».
Аўтар зборнікаў «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Сяліба».

●

**ДУБОВІК Уладзімір** нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Більцавічы на Вілейшчыне. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты. Цяпер вучыцца ў Мінскай вышэйшай партыйнай школе.

●

**ЛАШУТКА Іван** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Баяры на Вілейшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічаў. Цяпер працуе інспектарам райана.

●

**НІКАЛАЙЧАНКА Алесь** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Доўгая Паляна ў Чувашыі. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у райгазетах і на радыё на Палессі і на Поўначы. Цяпер працуе ў рэдакцыі «Мінскай праўды».



У. ПАШЧАСЦЕЎ. Палескі пейзаж. Афорт.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 4**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 08580. Здадзена ў набор 28/II-73 г. Падпісана да друку 27/III-73 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 17123 экз. Зак. 138. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**